МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Установа адукацыі
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

# ФІЛАЛАГІЧНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА ГРОДЗЕНШЧЫНЫ
## (Матэрыялы і даследаванні)

*Зборнік навуковых артыкулаў*

*Выпуск 4*

Гродна
ЮрСаПрінт
2015

УДК 811:161.3’28(082)
ББК 80
Ф 51


**Рэцэнзенты:**
*В.І. Рагаўцоў, доктар філалагічных навук, прафесар;*
*А.І. Багдзевіч, кандыдат філалагічных навук, дацэнт*

*Рэкамендавана саветам філалагічнага факультэта*
*ГрДУ імя Я.Купалы*

Ф 51 **Філалагічнае** краязнаўства Гродзеншчыны (матэрыялы і даследаванні): зб. навук. арт. Вып. 4. / рэдкал. : М.А. Даніловіч (адк. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ЮрСаПрінт, 2015. – 230 с.

ISBN 978-985-90468-6-8.

Зборнік з’яўляецца чарговым выпускам выдання «Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны (матэрыялы і даследаванні)», заснаванага ў 2012 годзе. У зборніку змяшчаюцца артыкулы, прысвечаныя такім кірункам філалагічнага краязнаўства Гродзеншчыны, як лінгвістычнае, літаратурнае і фальклорнае. Прыводзяцца тэарэтычныя даследаванні і мікраслоўнікі лексічных адзінак, фразеалагізмаў, прыказак, айконімаў, мікратапонімаў, мянушак з асобных рэгіёнаў Гродзеншчыны, краязнаўчыя даследаванні пра пісьменнікаў Гродзеншчыны, падаюцца запісы малых форм фальклору.

Разлічана на мовазнаўцаў, літаратуразнаўцаў, фалькларыстаў, этнографаў, гісторыкаў, культуролагаў, студэнтаў, настаўнікаў, школьнікаў, усіх, хто цікавіцца родным словам, духоўнай культурай Гродзеншчыны.

**УДК 811:161.3’28(082)**
**ББК 80**

**ISBN 978-985-90468-6-8.**

# ЗМЕСТ

## ЛІТАРАТУРНАЕ І ФАЛЬКЛОРНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

## *Назвы раёнаў*

Астр. – Астравецкі
Ашм. – Ашмянскі
Бар. – баранавіцкі
Бераст. – Бераставіцкі
Валож. – Валожынскі
Ваўк. – Ваўкавыскі
Воран. – Воранаўскі
Гродз. – Гродзенскі
Дзятл. – Дзятлаўскі
Зэльв. – Зэльвенскі
Іўеў. – Іўеўскі
Карэл. – Карэліцкі
Лід. – Лідскі
Маст. – Мастоўскі
Навагр. – Навагрудскі
Паст. – Пастаўскі
Свісл. – Свіслацкі
Сл. – Слонімскі
Смарг. – Смаргонскі
Стаўб. – Стаўбцоўскі
Шчуч. – Шчучынскі

## *Іншыя скарачэнні*

аг. – аграгарадок
бел. – беларуская
в. – вёска
воз. – возера
вул. – вуліца
гл. – глядзі
г.п. – гарадскі пасёлак
ж. – жаночы род
лац. – лацінскае
літ. – літоўскае
м. – мужчынскі род
мн. – множны лік
н. – ніякі род
польск. – польскае
рус. – рускае
уст. – устарэлае
фальк. – фальклорнае
цюрк. – цюркскае

# ЛІНГВІСТЫЧНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА

*Дыялектнае маўленне, лексіка,*
*фразеалогія, парэміялогія*

**І.І. Бубновіч (Гродна)**

## Назвы грыбоў і лясных ягад у гаворцы вёскі Шынкаўцы Шчучынскага раёна

По шашы ад в. Астрына да г. Шчучын знаходзіцца вёска Шынкаўцы. Зараз яна адносіцца да Дзембраўскага сельсавета Шчучынскага раёна. У савецкія гады гэта досыць мнагалюдная вёска, у якой былі сямігадовая школа, сельсавет, пошта, магазін, жывёлагадоўчыя фермы. Аднак, як і ў большасці «неперспектыўных» вёсак, адбыліся змены, што прывялі да паступовага вымірання населенага пункта. Зараз у в. Шынкаўцы няма ўжо ніводнай культурнай установы, нават магазін не працуе. Жывуць тут пераважна жыхары пенсійнага ўзросту, моладзь на працягу другой паловы XX ст. выязджала ў г. Шчучын, г. Гродна, г. Ліду, вербавалася на «цаліну», у Карэлію на лесараспрацоўкі; на радзіму людзі вярталіся рэдка. Цяпер тут засталося толькі тры сям'і працаздольнага ўзросту, але яны не мясцовыя, а пераехалі сюды гадоў пятнаццаць назад. Астатнія – пенсіянеры. Мясцовай гаворкай карыстаецца абмежаваная колькасць людзей, таму яе фанетычныя, марфалагічныя і лексічныя асаблівасці паступовa страчваюцца. Многія мікратапанімічныя назвы і антрапанімічныя найменні, што выкарыстоўваліся мясцовым насельніцтвам на працягу дзесяцігоддзяў, забываюцца і могуць увогуле адысці ў нябыт. Таму важна занатаваць гэтыя адзінкі.

На развіццё гаворкі вёскі Шынкаўцы, асабліва яе лексічнага складу, значны ўплыў аказаў той факт, што некалі многія жыхары атрымалі зямлю і пасяліліся на хутарах. Шынкаўцы з усіх бакоў на рознай адлегласці акружаныя лясамі, таму шмат мікратапонімаў, звязаных з лесам, лексемаў, што адлюстроўваюць адносіны мясцовага насельніцтва да лесу, які ў галодныя ваенныя і савецкія гады дапамагаў выжыць, даваў паліва і ежу. Грыбы і лясныя ягады былі добрай падтрымкай, іх збіралі, сушылі не толькі для сябе, але і на продаж, вазілі ў г. Шчучын, г. Гродна, каб зарабіць рубель,

калі ў калгасе за працадні далічвалі толькі «палачкі». Многія назвы грыбоў і ягад супадаюць з беларускімі літаратурнымі найменнямі, ёсць сярод іх і фанетычныя (*апенка*), граматычныя (*маліна, ажына, маслёнак*), лексічныя (*проўдзівік, шчыры, казяк, чырвонагаловік, кабылка, кацярынка, пазёмкі, чырвоныя ягады, чорныя ягады*) варыянты літаратурных назваў. Прапануем у выглядзе невялікага слоўнічка занатаваныя ў в. Шынкаўцы назвы грыбоў і лясных ягад, у які ўключылі і літаратурныя найменні, каб адлюстраваць дадзеную лексіка-семантычную групу ў гаворцы вёскі больш поўна. Да таго ж, мяркуем, пэўную цікавасць уяўляе сабой і ілюстрацыйны матэрыял.

*Грыбы*

АПЕ'НКА, ж. Апенька. *Апенкі бываюць летнія і асеньнія. Як убачыш, што высыплюць, то й мяшок набярэш. А як замарудзіш, то пастарэюць, пачарнеюць. Зусім нігонныя.*

БАРАВІ'К, м. *Баравік падомны на проўдзівіка, алі ён больш цёмны, карычневы, а ношка ў яго танчэйшая.*

БЕ'ЛЫ ГРУЗД, м. *Белы груст, як і чорны, вымочваць трэбо. Белы груст толькі ні такі горкі.*

ВАЛНУ'ШКА, ж. Ядомы грыб ружаватага колеру. *Валнушкі лупіць трэбо, вымочваць. Іх толькі саліць.*

ВО'ЎЧЫ ГРЫБ, м. Любы ядавіты ці невядомы грыб. *Гэта воўчы грып. Ні бяры яго, яшчэ атравісса.*

ГРУЗД МАЛОЧНЫ (ГРУЗД ПАДМАННЫ), м. *На малочным груздзе, як зрэжаш, выступае белы горкі сок. У рот ні ўзяць. Так і на шляпцы, калі пробуяш аблупіць.*

ЗЯЛЁ'НКА, ж. Ядомы восеньскі грыб зеленаватага колеру *Зялёнкі пасьля першага марозу растуць. Больш іх там, дзе вышай, дзе пясок.*

КАБЫ'ЛКА, ж. Ядомы грыб цёмна-карычневага колеру з пласцінкавай шапкай. *Німа грыбоў у лесі ад засухі. Толькі кабылак назьбірала.*

КАЗЯ'К, м. Падбярозавік. *Казякоў много ў Бярэзьніку за шашой.*

КАЦЯРЫ'НКА, ж. Ядомы грыб светла-жоўтага колеру з пласцінкавай шапкай і «паяском». *Кацярынкі падомныя на паганку, толькі кропак на шляпцы німа і самі таўшчэйшыя. Кацярынак шмат у Старом лесі, алі чарвівыя.*

ЛІСІЧКА, ж. *Як раней, то ніхто на лісічкі глядзець ні хацеў. Хапала ў нас і добрых грыбоў. Каля Юрковай дорошкі, пат Кутпалем – проўдзівікі, пад Горбавам – чырвонагаловікі, дзе ніжэйшае месца – казяке. А на Баўшоўскім беразі, як станеш шпільнік грапсьці, то рас пацягнеш – а там малых лісічак, суравежак. Ніхто і ні браў. А ціпер і лісічкам рады.*

ЛІСІЧКА БЕЛАЯ, ж. *Лісічкі ў нас расьлі двух сартоў: жоўтыя і белыя. Белыя лісічкі былі на тоўсьценькай ношцы, шляпкі ў іх светлыя.*

МАСЛЁ'НАК (МАСЛЯК), м. Масляк. *Масьлякоў малых ні бяры, бо чысьціць надаесьць. Кажуць, каб лепш лупіліса, то ў вадзе патсоленай замочваюць. Тады і рукі ад іх ні такія чорныя.*

МУХАМО'Р, м. *Ідзеш па грыбы, а табе анны мухаморы трапляюцца, як на сьмех, хоць каб адзін добры грып.*

ПАГА'НКА, ж. Ядавіты грыб светлага колеру з белымі плямамі на шапцы. *Паганак па ўсім лесі: і на Баўшоўскум беразі, і каля Школкі, і ў Старом лесі. Раней добрыя грыбы ўсюды былі, а сёньняшнім часам толькі паганкі з мухаморамі лес запаланілі. Нават на суп грыбоў ні набярэш.*

ПАДГНО'ЙНІК, м. Шампіньён. *Падгнойнікаў шмат было там, дзе каровы пасьвілі. Мама выйдзя карову гнаць – цэлы хвартух набярэ падгнойнікаў. Пакуль мы ўстанем і паджарыць пасьпея.*

ПАДГРЫ'БІЧ, м. Ядомы грыб з цёмна-карычневай шапкай і карычняватай ножкай. *Падгрыбіч, як малады, то добры. А як стары, то чарвівы.*

ПО'ДЗЯЛЕНКА, ж. Ядомы восеньскі грыб шэрага колеру. *Подзяленкі растуць на пяску. У нас іх мала.*

ПО'ЛЬСКІ БАРАВІ'К (ПО'ЛЬСКІ), м. Ядомы грыб, падобны на баравік, толькі з карычняватай танчэйшай ножкай. *Польскіх шмат у Азёрскім лесе, пат Шчанцом.*

ПРОЎДЗІ'ВІК (ПРАЎДЗІ'ВІК), м. Белы грыб. *Раней у нас проўдзівікаў хапало, іншых грыбоў і браць ні хацелі. Проўдзівік – гэто ні баравік. Проўдзівік на тоўстай ношцы, шляпка ў яго сьветлая. Каля Горбаўскай дарогі было много месц, дзе расьлі проўдзівікі. Яшчэ расьлі пат Кутпалем. Там лес быў высокі, пасьля сьпілавалі. Шмат было проўдзівікоў на Лісіных норах.*

РАШО'ТНІК, м. Ядомы грыб з светла-карычневай шапкай і карычняватай ножкай. *У Хвойніку рашотнікаў набраў. Насушу, на Куцю будуць, бо баравікоў німа.*

РЫ'ЖЫК, м. *Рыжыкі ціпер у нас прапалі. Калі і знойдзяш дзе, то чарвівы.*

СВІНУ'ШКА, ж. Ядомы грыб з жаўтавата-карычневай пласцінкавай шапкай і ножкай такога ж колеру. *Раней пра такія грыбы сьвінушкі ніхто і ні ведаў, а ціпер бяруць.*

СІНЯ'К, м. Неядомы грыб, падобны на баравік. *Сінякоў шмат бачыў. Думаеш здалёк, што баравік, а націсьнеш, то пат пальцам сінея.*

СМАРЧО'К, м. *Смарчкі і страчкі – самыя раньнія грыбы. Зь вясны растуць. У нас іх на Бары зьбіралі.*

СТРАЧО'К, м. *Я сама ні смарчкоў, ні страчкоў ні зьбірала, а людзі іх бралі. У нас любілі зьбіраць проўдзівікі, чырвонагаловікі.*

СУРАВЕ'ШКА (СУРАЕЖКА), ж. Сыраежка. *За суравешкамі далёко хадзіць ні трэбо было. Мама булён паставіць варыць, а сама ў лес. Каля Андрэевых назьбірае розных: і жоўтых, і зялёных. Толькі чырвоных браць ні бралі, бо яны гаркаватыя, вымочваць трэбо.*

ЧО'РНЫ ГРУЗД, м. *Чорныя грузды толькі позьняй восеньню растуць. Яны годныя толькі на саленьне. Паляжаць ў расолі дзень-другі, тады можно есьці. Тады яны хрумсткія. А так гаркаватыя. Ні ў булён іх кінуць, ні паджарыць. І калі чысьціш, то лупіць іх трэбо.*

ЧЫРВОНАГАЛО'ВІК, м. Падасінавік. *Паміж Горбавам і Хвойнікам, бліжэй да Горбава набраў чырвонагаловікаў.*

ШЧЫ'РЫ, м. Баравік. *Проўдзівіка яшчэ шчырым называюць, бо ён сапраўдны грып.*

### *Лясныя ягады*

АЖЫ'НА, ж. Ажыны. *Ажына на трыбі расьце, бачылі, як за малінай хадзілі, алі ажына яшчэ зялёная.*

АРАБІНА, ж. Рабіна. *Восень ужэ: арабіна ў Школьнум садзі зачырванеласа.*

БРУШНІ'ЦЫ, мн. *Брушніц шмат было за Горбавам пат Кузьмамі. З брушніц варэня смашнае варылі.*

ВАРОНЯ ВОКА, н. *Вароня вока – гэта чорная вялікая ягада. Расьце адна, на лісьцях трымаецца, як прылепляная. Дзеці блытаюць яе з чорнымі ягадамі, а яна ядавітая.*

ВО'ЎЧЫЯ Я'ГАДЫ, мн. Любыя неядомыя ці ядавітыя ягады. *Воўчыя ягады есьці нельга. Атравіцца можна.*

КАСЦЯНІ'ЦЫ, мн. *Касьцяніцы ў нас ні зьбіралі. Толькі як ішлі па ягады ці па грыбы, то рвалі паесьці.*

МАЛІ'НА (МАЛІ'НЫ), ж. і мн. Маліны. *Некалькі гадоў пад Горбаво па маліны хадзілі. Там дзялянка была, а потым зарасла. А як лінію цягнулі, у Старом лесі трыбу прасеклі. То там маліньнік вырас. За адзін дзень два разы за малінай зьбегаць можно было.*

ПАЗЁ'МКІ, мн. Суніцы. *Па пазёмкі мы на Школку хадзілі, там было шмат ягат. Можна было і па лесі назьбіраць, як дзе на добрую палянку натрапіш.*

ДУРНІ'ЦЫ, мн. Буякі. *Дурніцы зьбіралі ў Багне над Намейкамі. Як пазьбіраяш, дык галава баліць. Як дурны чалавек, таму і дурніцамі назвалі.*

СУНІ'ЦЫ, мн. Буякі. *Я ні люблю суніцы зьбіраць. Ад іх галава баліць.*

ЧО'РНЫЯ Я'ГАДЫ (ЧОРНЫЯ), мн. Чарніцы. *За чорнымі ягадамі пат Шчанец езьдзілі ці пат Кірпічоўшчыну.*

ЧЫРВО'НЫЯ Я'ГАДЫ (ЧЫРВО'НЫЯ), мн. Суніцы. *Чорных у гэтум годзі шмат, алі такія дромныя. Ледзь тры літры разам з чырвонымі ягадамі набрала.*

ШЫПШЫ'НА, ж. *Шыпшыны нарвала. Добра ў кампот ці чай дабаўляць. Кажуць, у ёй вітамінаў шмат.*

**М.А. Даніловіч (Гродна)**

## Спроба фразеалагічнага слоўніка Гродзеншчыны

*Даецца распрацоўка зводнага фразеалагічнага слоўніка гаворак Гродзеншчыны на літару Б. Прынцып будовы слоўнікавага артыкула такі самы, як і ў фрагменце слоўніка на літару А, змешчанага ў папярэднім зборніку «Філалагічнае краязнаўства Гродзеншчыны. Вып. 3». У гэтую публікацыю не ўключаны фразеалагізмы з кампанентам Бог, яны падаюцца асобнай падборкай у іншым выданні.*

БАБ. **Як сем баб адхадзіла** *каго.* Значна палепшала, стала намнога лягчэй. Пра стан здароўя, самаадчуванне. *Папіла гэтага зельля, і мяне як сем бап атхадзіла, як і ні балела.* Шчорсы Навагр. ***Вар.*** як сто (сем) баб адхадзіла.

**Як сто баб адхадзіла** *каго.* 1. Значна палепшала, стала намнога лягчэй. Пра стан здароўя, самаадчування. *Зране так галава балела, а выпіў таблетку – як сто бап атхадзіло.* Гнесічы Навагр. 2. Адышла злосць, непрыязнасць. *Сьвекруха ўсё дулася, дулася на мене, а як занесла дзьве шкілёнды ёй, то як сто бап атхадзіло. Цеперачы і ў хату заходзіць, і часінку з малым пабудзе.* Гнесічы Навагр. ***Вар***. як сто (сем) баб адхадзіла.

БАБА. **Баба надвое варажыла.** Невядома, ці ажыццявіцца. Гібулічы Гродз. (СНМ, 178).

**Баба рэпу пасеяла** *на чым.* 1. У каго-н. парэпаныя (ногі). *На нагах баба рэпу пасеяла.* Кіралі Шчуч. (СПЗБ-4, 332). 2. У каго-н. вельмі брудныя (рукі, ногі, твар, вушы). *Ванячка, пабяжы ручкі памый, а то, палянь, баба рэпу ўжо пасеяла на іх.* Бярозаўка Лід. *Рукі памыў бы, а то баба ўжо рэпу пасеяла.* Сцеркава Лід. *Якія твае рукі?! Баба рэпу пасеяла. Ідзі мый, а то дзеўкі засьмяюць.* Вензавец Дзятл.

**Баба чараватая.** *Неадабр.* Неспакойны мужчына, якому цяжка дагадзіць. *Ні мужчына, а баба чараватая – усё яму ні так, усё яму ні гэдак.* Чамяры Сл. (ЖС, 161). ● *Чараватая* – цяжарная.

**Як баба адварожыць (адваражыла)** <*што*>. Што-н. знікне, прападзе, пройдзе. Пра хваробу, пачуцці, перажыванні. *У нас каторыя дак ат паносу так лечацца: сыроя сало ядуць с хлебам, а халоднай вадой запіваюць, і ўсю хваробу як баба адварожыць.* Ляхавічы Навагр. (ЗНФ, 83). *Хадзіла да нас, с хаты ні вылазіла, а вясною як пасварыліся, дык як баба адваражыла.* Дакудава Лід. (ЗНФ, 83). *Любіліся, хацелі пажаніцца, а тады нешто зь ім сталасё, і ўсё як баба адваражыла.* Цырын Карэл. (ЗНФ, 83).

**Як баба з яешняю.** *Неадабр.* Надакучліва. *Адыдзі ты, ні паеду я з табою, але ж прыкінуўся, яг баба з яешняю.* Рыбніца Гродз. (СГВ, 613).

**Як баба качаргой**. *Неадабр.* Неакуратна (рабіць што-н.). *Ты кладзеш цэглу як баба качаргой.* Сухінічы Маст.

БАБАМ. **Як двум бабам на кухні** *цесна.* Вельмі. *Тут мы с табой ні разьвернямся, тут так цесна, як двум бабам на кухні.* Кямелішкі Астр.

БАБАХ. **На бабах.** 1. *застацца*. Ні з чым. Перабіраў, перабіраў і застаўся на бабах. Вялута Лунін. *Так я павучылася, і ўжэ трэбо*

*ісьці ў калхос. Так я асталася на бабах. У калхозе, у канцэ года, ужэ давалі сколька рублёў і збожам троха давалі.* Клюкоўцы Бераст. (ДМГ, 31). 2. Нетрывалае, ненадзейнае што-н. *Усё тут на бабах, яно і прападзе тут.* Шчорсы Навагр.

**Трах на бабах.** Абы-як (зрабіць што-н.). *Зрабіў загараду трах на бабах, ды далей пайшоў.* Забалоцце Карэл. (СГВ, 609).

БАБЕ. **Як на забітай бабе** *дзе, на чым.* Вельмі многа, у беспарадку ўсяго (настаўлена, накідана і пад.). *На стале як на забітай бабі, няма дзе паставіць міску.* Пасінічы Сл. *Як на забітай бабе.* Алекшыцы Бераст. *Што ў цябе на стале робіцца, накідана ўсяго як на забітай бабе.* Шылавічы Сл.

**Як старой бабе сесці** *чаго.* Вельмі мала. Звычайна пра зямлю. *А дзе ж я ўсё гэта панавязваю, калі ў мяне зямлі як старой бабе сесьці.* Гарадзечна Навагр. *У Соні бульбы пасаджана як старой бабе сесьці.* Лапенкі Гродз.

БАБКА. **Што сем бабка то сем.** *Неадабр.* Паўтарацца ў размове, некалькі разоў гаварыць адно і тое. *Ну ў цібе й гутарка. Надаела слухаць пра гэто – што сем бапко то сем.* Міхалкі Свісл. *Перастань ты балтаць пра свайго Пецьку, а то ўсё што сем бапка то сем.* Пагранічны Бераст. ● ***Вар.*** як (што) сем бабка так сем <бабка>.

**Як сем бабка так сем бабка**. *Неадабр.* Паўтарацца ў размове, некалькі разоў гаварыць адно і тое. *Ну што зноў заладзіла – як сем бапка так сем бапка.* Студзенікі Свісл. ***Вар.*** як (што) сем бабка так сем <бабка>.

БАБКІ. **Як бабкі адхадзілі** *каго.* Хто-н. паправіўся, змяніўся да лепшапга. *Як пачаў Вася дружыць с Таняю, дык хлопца як бапкі атхадзілі – ні п'е, ні курыць, ні б'еца, вось дзіва.* Зэльва Зэльв.

БАБУ. **Іграць (пайграць) бабу**. *Неадабр.* Плакаць, хныкаць. Пра асобу мужчынскага полу (пераважна дзіця). *Не ўсьпеў упасьці, а ўжо бабу іграеш.* Задвор'е Навагр. *Хопіць ужо, пайграў бабу, ты ш мушчына.* Харосіца Навагр.

**Тапіць бабу.** Частаваць у час абраду хрэсьбін, радзін. *Даўней як спраўляюць радзіны, запрагаюць каня, саджаюць нарачоную бабу, сустрэчных па вуліцы, тады ўсе гаворачь: во Бекішавы павезлі тапіць бабу.* Угрынь Зэльв. (СГВ, 609). *Сёньня ў нас сьвята было, тапілі бабу.* Гродзі Ашм.

**Як на забітую бабу**. Вельмі шмат і ў беспарадку (накідаць, наваліць чаго-н.). *Навалілі адзіялаў як на забітую бабу, ні павярнуцца.* Сялявічы Сл. *Усю тахту заняла адзеньням, навваліла тут як на забітую бабу.* Збочна Сл. (ЗНФ, 90). *Што гэта вы накідалі ў кут як на забітую бабу?* Ласосна Гродз. (ЗНФ, 90).

БАБЫ. **Бабы-гэ́ршкі**. На плечы, на шыю (браць, узяць, садзіць і інш.). Звычайна дзіця. *Паднясі мяне-бабы гэршкі.* Дубна Маст. *Ляхчэй несьці бабы-гэршкі, чым перат сабой.* Закальное Любан. *Мо ты хочаш, Валік, бабы гэршкі?* Грабава Зэльв. (СНМЗ, 38). ***Вар.*** на <бабы> гэ́ршкі (го́ршкі); на го́ршкі-бабкі; бабы-гэ́ршкі.

**На бабы-го́ршкі**. На плечы, на шыю (браць, узяць, садзіць і інш.). Звычайна дзіця. *Ён адно ў хату, а дзеці з двух бакоў ужэ стаяць: пакатай! Ну, ён бярэ іх на бабы-горшкі і носіць па хаці.* Стокі Свісл. ***Вар.*** на <бабы> гэ́ршкі (го́ршкі); на го́ршкі-бабкі; бабы-гэ́ршкі.

**На бабы-гэ́ршках**. На плячах. *Як была я малая, дык вельмі любіла, калі мяне бацька на бабы-гэршках насіў. Здэцца, увесь дзень на яго плячах сядзела й ні злазіла.* Зэльва Зэльв.

**На бабы-гэ́ршкі**. На плечы, на шыю (браць, узяць, садзіць і інш.). Звычайна дзіця. *Тато, вазьмеця міне на бабы-гэршкі, ногі баляць.* Гудзевічы Маст. *Ты вазьмі малого на бабы-гэршкі, мокро тут аж да самай клаткі.* Паўлаўшчына Ваўк. *Ідзем на поля ўсёй сям'ёю, дзіцей на бабы-гэршкі бярэш, гэдык і йдзеш.* Старына Маст. *Я цябе на бабы-гэршкі зарас вазьму.* Талькаўцы Ваўк. ***Вар.*** на <бабы> гэ́ршкі (го́ршкі); на го́ршкі-бабкі; бабы-гэ́ршкі.

**Ні ў ба́бы гарошку** *ў каго, дзе.* 1. Нічога няма. *Скора вясна, сеіць трэба, а ў мяне ні ў бабы гарошку: ні жыта, ні канюшыны, ні грэчкі, ні лубіну.* Падольцы Астр. 2. Нічога не падрыхтавана, не зроблена. *Во скора ўжо госьці прыедуць, а тут ні ў бабы гарошку: бульба ні чышчана, мяса ні кручана, хату трэба перацерці.* Косцевічы Астр.

**Ціха бабы ўсе паедзем.** *Выкл.* Выказванне заспакойвання, уціхамірвання каго-н. *Чаго раскрычаліся? Ціха бабы ўсе паедзем, а то разьвялі тут базар.* Зенявічы Навагр. – *Дайце і нам па кіля каўбасы. – Ціха бабы усе паедзям, усім хопіць.* Пагранічны Бераст.

БАГАТАГА. **Як багатага (багатаму) па смерць** *пасылаць. Неадабр.* Без надзеі на хуткае вяртанне (пасылаць каго-н. куды-н.). *Цібе ў магазін пасылаць як багатага па сьмерць.* Лапенкі Гродз. *Цібе пасылаць за нечым як багатага па сьмерць. І дзе ты лазіў столькі часу?* Чаплі Лід. *Па воду цібе пасылаць як багатага па сьмерць, хоць калодзеш два метры ат хаты.* Грубянцы Воран.

БАГАТАМУ. **Толькі багатаму па смерць пасылаць** *каго. Неадабр.* Цяжка дачакацца каго-н., каму даручылі што-н. зрабіць. *Ну, брат, урэшці прышоў! Чакалі, чакалі, та й чаканкі паелі. Цібе толькі багатаму па сьмерць пасылаць.* Зубрава Шчуч. (ЗНФ, 69). *Яго толькі багатаму па сьмерць пасылаць. Недзі загуляўся, чакай яго ціпер.* Нача Вор. (ЗНФ, 69).

**Як багатаму па смерць** *пайсці. Неадабр.* Надоўга, што аж цяжка дачакацца каго-н. *Пайшоў як багатаму па сьмерць, ужо тры гадзіны чакаем.* Бастуны Воран. *Паслала ў кантору за грашмі, ды пайшоў як багатаму па сьмерць.* Старыя Паддубы Шчуч. *Прасіла быстрэй прынясьці, а ты як пайшоў, то як багатаму па сьмерць.* Купіск Навагр. *Пайшоў як багатаму па сьмерць.* Галунавічы Іўеў. *Ну і пашла па ваду як багатаму па сьмерць, аш надаела чакаць.* Пеляса Воран. *Пайшоў як багатаму па смерць.* Залескія Воран. (ППФВ, 49). *Але ж і доўга німа бацькі, пайшоў як багатаму на смерць.* Курылавічы Маст. (СГВ, 613).

БАГАТЫЯ. **Багатыя ноч разабралі**. Развіднела, надышоў ранак. *Калі ты ўжэ спаць ляжаш? Багатыя ўжэ ноч разабралі, відно на дварэ!* Стокі Свісл.

**Багатыя ноч разбяруць**. *Жарт.* Не хопіць часу паспаць. Пра позні вечар ці пачатак ночы. *Пайду, а то багатыя ноч разьбяруць, засядзелася ў вас, пэўня ўжо ёсць дванасьця.* Косцевічы Астр. *Пойдам лажыцца спаць, бо то глядзі, багатыя ноч разьбяруць.* Закальное Любан. *Бедныя робяць, а багатыя спаць кладуцца, ноч разьбіраюць.* Ваўкавічы Навагр.

БАДАЙ. **Бадай цябе бадай.** *Выкл.* Выказванне асуджэння, незадаволенасці, абурэння і пад. *У шаснаццаць гот дзіця нарадзіла... Бадай цябе бадай, так рана!* Ваўкавыск Ваўк.

БАДЗЯКІ. **На бадзякі´** *пайсці.* Да суседзяў з мэтай прабавіць вольны час у размове. *Бабуля пайшла на бадзякі, можа, новасьць якую прынясе.* Крэва Смарг. *Не ведалі, чым заняцца, і пайшлі на бадзякі ў вёску.* Кальчуны Ашм.

БАЙКІ. **Байкі баяць.** Займацца пустымі размовамі. *Чым мела хадзіць с хаты ў хату байкі баіць, то лепяй лягла п і паляжала.* Навасяды Ашм. *Бабулькі добра байкі баюць.* Руда Яварская Дзятл.

БАКІ. **Абіваць бакі´.** *Неадабр.* Нічога не рабіць, гультайнічаць. *Вот абівае адно баке, а ні робіць.* Валковічы Навагр.

**Бакі абабраць.** Сурова расправіцца з кім-н., збіць, адлупцаваць каго-н. *Вот кап табе там хто бакі абабраў добро, то ні швэндаўся п, а сядзеў бы ў хаці.* Ёцавічы Дзятл. (ЗНФ, 20) . ***Вар.*** бокі (бакі) абабраць.

**Бакі´ аціраць** *дзе. Асудж.* Знаходзіцца дзе-н. без сур'ёзнага занятку. *А ён толька каля бара бакі аціраяя.* Варняны Астр. *Ужо каторы тыдзянь бакі тут аціраеш!.. І не стыдна табе?!* Варняны Астр.

**Бакі´ падарваць** *з каго.* Моцна пасмяяцца з каго-н. *Дзісь Гэлька на рабоця расказвала, як яна зьезьдзіла, то мы мала зь яе бакі ні падарвалі.* Навасяды Ашм.

**Вываліцца праз бакі´** *каму што.* Не пройдзе бясследна, кепска скончыцца што-н. для каго-н. *Даўней Гайдзісіха, як была маладая, дык ей усё было мала і зямлі, і грошай, яна кап прымела бы, дык яшчэ і люцкая пазабірала п, а потым і ці ні вываліцца ей багацтва праз бакі пат старасьць.* Навасяды Ашм.

**Выкласці бакі´.** Есці што-н. апетытнае, смачнае. *Трэба спачатку выклaсьці бакі, а тады ўжэ і за работу брацца.* Васілевічы Навагр. (ЗНФ, 23). ***Вар.*** выкласці бокі (бакі).

**За бакі´ брацца.** Моцна смяяцца, рагатаць. *Ён як пачне гаварыць, та мы за баке браліса, гэта ні чалавек, а цэлае прыстаўлене.* Баранава Гродз. (СНМ, 115).

**Змяць бакі** *каму.* Моцна збіць каго-н. *Бакі яму за гэто трэба зьмяць, кап ні пятушыўсё.* Цяравічы Карэл. (ЗНФ, 36). *Кап зьмяў яму баке, то ведаў бы, як крычаць і выскаляцца.* Мілявічы Маст. (ЗНФ, 36). ***Вар.*** змяць бакі (бокі).

**На ўсе бакі** *вылежацца, выспацца.* Уволю, колькі хацелася. *Дзісь пры сьвяця такой ната работы ні рабіла, затоя на ўсе бакі выляжалася, выспалася, хоць пазнала, што сьвята.* Навасяды Ашм.

БАКЛУШЫ. **Біць баклушы**. Гультаяваць, траціць дарэмна час. *Учора цэлы дзень біў баклушы, сёньня аш шкада таго часу,*

*так многа мог бы зрабіць.* Каменка Бераст. *Андрэй цэлы дзень біў баклушы.* Сакольнікі Свісл. *Ён толькі й ведае, што біць баклушы.* Верцялішкі Гродз. *Ты толькі тое і робіш, што б'еш баклушы.* Бакшты Іўеў.

БАКУ. **Ляжаць на баку**. *Неадабр.* Нічога не рабіць. Пагародна Воран.

БАЛЕРЫНА. **Як з мяне балерына**. *Іран.* Кепскі, не адпавядае патрабаванням. *З яе настаўніца як зь міне балярына, сама яшчэ дзіця, самой вучыцца трэба.* Прудзяны Шчуч. *Зь яго дзяпутат як зь міне балярына. От, німа на вёсцы маладзейшаго, та яго паставілі.* Глушнева Гродз.

БАЛІЦЬ. **Ані баліць ані свярбіць** *каму што.* Абсалютна не хвалюе, не кранае што-н. каго-н. *Прападзі яна пропадам гэта бульба, хай мокня, мне гэта ані баліць ані сьвярбіць.* Акмянеі Ашм.

БАЛКОНЫ. **За балконы трымацца.** *Іран.* Жыць у горадзе. *Цяпер маладыя не хочуць у вёсцы жыць, усё ў гарадах за балконы трымаюцца.* Баруны Ашм. (ДМГ, 121).

БАЛОТА. **Аднаго балота чэрці**. Такія самыя, аднолькавыя. *Суседнія хлопцы і нашыя аднаго балота чэрці.* Навумаўцы Шчуч.

**Балота касіць**. *Іран.* Гаварыць абы-што, несці несусвецiцу. *Ды кінь ты балота касіць, раскажы што путнае.* Дубна Маст.

**Паліць балота**. Гаварыць няпраўду. *Зноў паліць балота гэты Мішка.* Бярозаўка Лід.

**Утаптаць у балота** *каго.* Зняважыць, прынізіць каго-н. *Ён міне ўтаптаў ў балота перад усімі людзьмі.* Багатырэвічы Маст.

**Як балота гразкае** *дурны. Груб.* Вельмі (неразумны). *Але ш і дурны як балото граско.* Дарагляны Маст.

БАЛОТАМ. **Змяшаць з балотам** *каго. Неадабр.* Усяляк прынізіць, груба аблаяць, несправядліва абвінаваціць. *С Канцавою сварыцца лепяй ні пачынаць, любого зьмяшая з балотам.* Хамуты Гродз. (ЗНФ, 47). *Вот гаткі чалавек! Пры людзях на астаноўцы нашу Таню з балотам зьмяшала.* Плецянічы Зэльв. (ЗНФ, 47). *Як вам не брытка, змяшалі чалавека з балотам.* Шастакоўцы Шчуч.

**Як балотам па зубах** *каму што.* Вельмі сорамна, непрыемна каму-н. *Ну, ты яму і сказануў, та яму гэта як балотам па зубах, аш пачырванеў.* Старыя Паддубы Шчуч.

БАЛЬШЫНІ. **З бальшыні.** Не поўнасцю, часткова. *Уляцела ў гароччык на мінутку, хоць з бальшыні паабрывала траву, а то ні відалася і варыва.* Заборцы Астр.

БАЛЯСКІ. **Выставіць баляскі.** *Неадабр.* Засмяяцца. *Каб што памог – так няма! Адно як што скажаш – выскаліць баляскі – і ўсё смяецца.* Зэльва Зэльв. (Стэц.-1, 183).

БАЛЯСЫ. **Балясы тачыць.** Гаварыць. Новы Двор Свісл.

БАЛЯЧКІ. **Балячкі шукаць.** Напрошвацца на непрыемнасці. *Такі знайда, захоча каб голаў пабіў, то лезя, балячкі шукая.* Калядзічы Ваўк. (ГВР, 90).

БАЛЯЧКУ. **Дзьмухаць як на балячку** *на каго. Неадабр.* Вельмі хваляваацца за каго-н. дагаджаючы яму ва ўсім. *Ужо як сьвякроўцы годзіць, дзьмухая на яе як на балячку.* Слесары Іўеў. (ЗНФ, 28). *А што, і вы дзьмухалі на свайго [сына] цэла жыця як на балячку, от і адзьдзячыў ціпер.* Ігнаткаўцы Лід. (ЗНФ, 28). – *Саўросавы так трасуцца нат сваім малым, дзьмухаюць як на балячку. – Ты нат сваім першым тожа траслася.* Місявічы Воран. (ЗНФ, 28).

БАНАЛЮКІ. **Плесці баналю́кі**. *Неадабр.* Гаварыць абы-што. *Прыйшла, заваліла хату й пляла цэлы вечар баналюкі.* Ліпкунцы Воран. ● Запазычанне з польскай мовы: *pleść banialuki* ‘малоць лухту, гаварыць абы-што’.

БАНАН. **З’есці банан.** *Іран.* Не дабіцца таго, чаго хацелася, на што хто-н. спадзяваўся. *Ну што, ізеў банан? Я ш казоў табе, што грыбы яшчэ ні растуць, а ты сяроўна папёрса ў лес, толькі час змарнавоў.* Бабіна Гродз. (ЗНФ, 35). *І ён прыпёрся, думаў, што і яму некі гасьціняц дадуць. Ажно банан зьеў.* Дзеткі Воран. (ЗНФ, 35).

БАНКІ. **З-пад (з) банкі** *малако.* Адстоенае, аддзеленае ад смятаны. *Я зарас пайду падаю сьвежага малака, с-пад банкі мо нядобра дзіцяці.* Косцевічы Астр. *Ніхто сьвежаго малака ні п’е, усе халоднаго, с-пад банкі просяць.* Старына Маст. *Я малако п’ю халодно, с-пад банкі, як ужэ добро атстаіцца.* Стокі Свісл. *Гэта з банкі малако, на, лепяй сьвежаго папі.* Гудзевічы Маст.

БАНКУ. **Як у фінскім (хінскім) банку**. *Гумар.* Надзейна (хаваць, захоўваць што-н.). – *Каб толькі дзеці ні дабраліся. – Ні пера-*

*жывай, у мяне, што ні схаваю, будзіць ляжаць як у фінскім банку.* Косцевічы Астр. *Бядуя, што мужык усю вотку выпівая, дзе ні схавая – усюды знойдзя. Та я кажу: «Нясі да міне, я схаваю добра. Як у хінскум банку – ні прападзе й ні зышчаш».* Жалудок Шчуч.

БАНЦІК. **Абы што і з боку банцік.** *Іран.* Нешта кепска зробленае, недарэчнае**.** – *Ці ладная гэтая сукенка? Ці добра на мне ляжыць? – Абы што і з боку банцік.* Пеляса Воран.

БАРАБАНУ. **Па барабану** *каму.* Што-н. усё роўна каму-н., не заслугоўвае ніякай увагі. *Мне ўжо па барабану, што ты будзеш рабіць і якім чынам.* Масаляны Бераст.

БАРАДА. **Дзіравая барада** *ў каго. Іран.* У каго-н. пры неакуратнай ядзе з рота праліваецца частка стравы. *Дзірава барада ў цібе – як сядзяш есьці, то ўвесь пазаліваясься.* Мацвееўцы Ваўк.

**Казіная (казліная) барада**. Сівец. *Казіная барада – благая трава.* Міратычы Карэл. (СПЗБ-2, 361). *Казліная барада – сівая трава.* Быстрыца Астр. (СПЗБ-2, 361).

БАРАДУ. **Бараду задраць**1. *Іран.* Памерці. *Учора яшчэ капусту палола, а сёння ўжо бараду задрала.* Руда Яварская Дзятл.

**Бараду задраць**2. *Асудж.* Стаць ганарлівым, задавацца. *Ну бараду задрала ўжо, як замуш вышла, ні с кім і ні здароваяцца.* Зенявічы Навагр.

**Па бараду** *яды.* Вельмі многа. *У хаці яды па бараду, а ён прыйшоў да чужых людзей есьці.* Гнесічы Навагр.

**Цягнуць за бараду** *каго.* Прымушаць каго-н. рабіць што-н. *Ніхто яго ні будзя цягнуць за бараду, калі сам ні захоча.* Гарны Гродз.

БАРАДЫ. **Да барады** *гадаваць* і пад. Да сталага ўзросту. *Ідзі на свой хлеб, я ж ні буду цібе гадаваць да барады.* Навасёлкі Гродз.

БАРАН. **Як баран.** *Абразл.* 1. *дурны.* Вельмі (дурны). Варняны Астр. 2. *уперціся.* Непахісна, бескампрамісна тупа. *Упёрся як баран.* Кульбакі Лід.

**Як баран да вазніцы** *прычапіцца.* Вельмі моцна, неадступна, назойліва. *Чаго ты прычапіўся да мяне, як баран да вазніцы.* Дзеравянчыцы Сл.

**Як баран да Дзядоў** *жыць.* Часова, з няпэўным чаканнем смерці. *Ось жыву як баран да Дзядоў, сёння жыву, а заўтра – німа.* Лаўрыновічы Зэльв.

**Як баран да зарэзу** *жыць, пажываць*. Няпэўна, з няведаннем таго, што чакае ў далейшым. *– Як пажываяця, Ніна Паўлаўна? – От, жыву, як баран да зарэзу.* Вярэйкі Ваўк. (ЗНФ, 84). *– Ну, што вам сказалі ў паліклініцы? – Ай, што яны скажуць... Жывеш як баран да зарэзу.* Гродна Гродз. (ЗНФ, 84).

**Як баран да рэзі** *жыць*. Нядбала, без старання, без перспектывы. *Жыве як баран да рэзі.* Хамякі Гродз. (СНМ, 182).

**Як баран на месяц** *глядзець*. Нічога не разумеючы, тупа, разгублена. *Глядзіць як баран на месяц*. Салішкі Воран. (ППФВ,16).

**Як баран на новыя вароты (весніцы)** *глядзець* і пад. *Груб.* Разгублена, тупа, нічога не разумеючы. *Чаго ты глядзіш як баран на новыя варота.* Кузмічы Ваўк. *Што ты на мяне глядзіш як баран на новыя вароты.* Дубна Маст. *Уставілся як баран на новыя варота.* Гезгалы. Дзятл. *Што ўставіўся як баран на новыя варота!* Ганчары Свісл. *Што ты вылупіўся як баран на новыя вароты, першы рас відзіш!?* Геранёны Іўеў. *Ну што ты глядзіш як баран на новыя вароты!?* Вайкунцы Воран. *Гладзіць як баран на новыя вароты*. Залескія Воран. (ППФВ,16). *Што ты глядзіш на мяне як баран на новыя весьніцы! Дзе цягаўся?* Страла Дзятл.

**Як баран на трыбух** *рабіць*. Карозічы Гродз. (СНМ, 191).

**Як баран у ваду**1 *глядзець* і пад. *Іран.* Нічога не разумеючы, разгублена, збянтэжана. *Што табе ісьці ў тоя кіно? Ты ш першай серыі ні бачыў, будзяш глядзець як баран у воду.* Дзеткі Воран. (ЗНФ, 84). *Мы як пачулі, та ўсе ў сьмех, а ён, можа, і нідачуў, уталопіўса на нас як баран у воду.* Пілаўня Шчуч. (ЗНФ, 84).

**Як баран у воду**2 *боўтнуць. Неадабр.* Абы-што, недарэчы, неўпапад (сказаць). *Боўтнуў як баран у воду.* Балічы Гродз. (СНМ, 178).

БАРАНА. **На бара́на** *браць, узяць, садзіць* і пад. На плечы, на шыю. Звычайна пра дзяцей. *Сяць мне на барана, перанясу прас клатку.* Бабіна Гродз. *Такого велькаго кавалера і на барана ўзёў. Ні стыдно?* Маркішы Гродз.

**Сыт барана** *браць, узяць, несці* і пад. На плечы, на плячах. *Садзіся, унучак, панясу сыт барана.* Цырын Карэл. (ЗНФ, 67). *Давай вазьму цібе сыт барана і пабяжым, бо дошч пачыная.* Забалоцце Карэл. (ЗНФ, 67). *Сыт барана – ну, гэта на плячах, значыць; як нясе хто малога, то часам пытаюцца жартам: ці сыты баран? Або: дай пагляджу, ці сыты баран.* Турэц Карэл. (ЗНФ,

67). *Вось садзіся сыт барана, паднясу дахаты.* Забалоцце Карэл. (СГВ, 609).

**У барана**. Спосаб касьбы, калі пракосы кладуцца адзін да аднаго. *Я прайшоў шэсьць пракосаў, першыя два пракосы касіў у барана, два пракосы насупраць радам называяцца баран.* Альхоўка Наваг. (МСГВ, 388).

**Як барана** *ісці.* Няроўна, хістаючыся. Часцей пра п'янага. *Ці табе ні стыдна прас усю вёску ісьці як барана.* Яцыны Астр.

БАРАНАХ. **На бара́нах** *сядзець, насіць.* На плячах, на шыі, спусціўшы уніз ногі. *Добро табе ў бацькі на баранах сядзець.* Бабіна Гродз. *Панасіў малую на баранах, та й плакаць пераста-ла.* Новая Руда Гродз.

БАРАНЕ. **Як на баране праехаць** *пражыць. Неадабр.* Вельмі дрэнна, няўдала. *А зажыла, дзеткі, усяго: голат, вайна, век пражыла як на баране праехала.* Адэльск Гродз. (ДМГ, 41).

БАРАНОЮ. **Што з бараною ў лесе** *гаварыць. Неадабр.* Без толку, безвынікова. *От, с табой гаварыць што з бараною ў лесе.* Вікшняны Іўеў. *А с маім Янкам гаварыць што з бараною ў лесе.* Морына Іўеў.

БАРКО. **На барко.** На плячо. *Закінь мяшок на барко, то ляхчэй будзя несьці.* Дзеркачы Зэльв. (СГВ, 54).

БАРСУК. **Паказаць як барсук дзяцей гладзіць**. *Іран.* Правесці, моцна прыціскаючы, сагнутым пальцам па галаве супраць напрамку валасоў ад лобнай часткі да патыліцы і наадварот. Спосаб жартаўліва-здзеклівага пакарання дзяцей. *Мо яшчэ паказаць як барсук дзяцей гладзіць? Ні хочаш больш. Ну як сабе хочаш.* Талькаўцы Ваўк. *Хадзі пакажу як барсук дзіцей гладзіць. А, ты ўжэ знаяш... Граматны...* Бабіна Гродз.

**Як барсук дзяцей гладзіць** *рабіць.* Насуперак. *Я табе кажу адно, а ты мне робіш другое, як барсук дзяцей гладзіць.* Каменка Шчуч. *Як барсук дзяцей гладзіць, так і ты ўсё робіш наадварот.* Каменка Шчуч.

БАРСУКА. **Загнуць барсука**. Правесці, моцна прыціскаючы, сагнутым пальцам па галаве супраць напрамку валасоў, пачынаючы ад лобнай часткі. Спосаб жартаўліва-здзеклівага пакарання дзяцей. *Загнуць барсука – соваць насупраць валасоў. Бывало, казалі, давайця мы яго зловім ды барсука загнём. Як пройдуць*

*колькі разоў па галаве, то дзіця енчыць, бо баліць натто.* Балотца Навагр.

БАРУХІ. **Бару́хі адпраўляць**. *Жарт.* Спаць, драмаць. *Прышоў с працы, як лёх, дык яшчэ барухі атпраўляе.* Дакудава Лід. ● Фразеалагізм – вынік семантычнага развіцця устарэлага выразу *борухі адпраўляць* 'маліцца Богу (пра яўрэяў)'. Молячыся, яўрэі хістаюцца, нахіляюцца ў розныя бакі, прамаўляючы словы малітвы *«борух-ата-аданаі»* – слава табе Божа. І.І.Насовіч у СБМ, 31 падае слова *борохъ* са значэннямі 1) 'жидъ'; 2) 'слово брянное на человека неопрятного, не любящаго чистоты'. У сучасных гродзенскіх гаворках слова *борух* мае значэнне 'нязграбны мужчына' (СРЛГ, 17). Параўн. у СБНФ, 30: *борухі вадзіць* 'драмаць седзячы'.

БАСІНЫ. **Басі́ны спраўляць**. *Гумар.* Хадзіць босым. *Што гэта ты басіны спраўляіш? Абуйся, нараніцы падлога халодная.* Косцевічы Астр. – *Што, басіны спраўляіш? – Ну, кажуць, добра басяком па расе хадзіць, ногі хварэць ні будуць.* Страча Астр. ● *Басіны* – яўрэйскае свята ачышчэння, калі яўрэі ходзяць босыя.

БАСНЮ. **Басню баяць.** Мyркаць. Пра ката. *Кошка басню бая, кап не баяла, яна б чалавека зьела – такая сярдзітая.* Кіралі Шчуч. (СПЗБ-2, 511).

БАТВА. **Батва праз вушы лезя** *ў каго. Іран.* Хто-н. кепска сябе адчувае пасля выпітай бурачанкі – гарэлкі з цукровых буракоў. *Ад яе гарэлкі батва праз вушы лезя, аж мοташно становіцца.* Монькавічы Маст.

БАТОНАМІ. **Варушыць батонамі.** *Фам.* Ісці хутчэй. *Варушы батонамі, а то наступлю на пяты!* Лелюкі Іўеў.

БАЦЬКА. **Каціны бацька**. Той, хто вельмі любіць жывёл, пераважна катоў, дагледае іх. Звычайна пра дзяцей. *А гэты каціны бацько ўсё катоў падбірая, мо зь дзесяць на вышках сядзіць.* Старына Маст. *Зноў каціны бацька сваю гаспадарку аглядае.* Пячоўшчына Валож. ***Вар***. каціны (кашачы) бацька (татка).

**Пасажны бацька.** Сват. *Пасажны бацька быў вясёлы чалавек*. Клёны Навагр. (СГВ, 341).

БАЦЬКАМ. **Хоць за бацькам пускай** *<што>. Неадабр.* 1. Вельмі тупы, ненавостраны. Пераважна пра нож. *Папробуй нарэзаць гэтым нажом, яго хоць за бацькам пускай.* Монькавічы Маст. *Ну й нош! Хоць за бацькам пускай.* Сядзеневічы Маст. 2. Вельмі

цвёрды, чэрствы. Пра хлеб. *Ну й хлеп – хоць за бацькам пускай, на мае зубы мусіш размочваць.* Мілявічы Маст. Ну й хлеп у вас, ляпняк некі, хоць за бацькам пускай. Бершты Шчуч. (ЗНФ, 75). ***Вар.*** хоць за <родным> бацькам пускай (стрымляй).

**Хоць за родным бацькам пускай** <*што*>. *Неадабр.* Зусім тупы, ненавостраны. Пра нож, тапор, касу і пад. Ідзі ты пагастры мне трохі нош, а то яго ўжэ хоць за родным бацькам пускай. Ізабелін Ваўк. (ЗНФ, 75). ***Вар.*** хоць за <родным> бацькам пускай (стрымляй).

**Хоць за родным бацькам стрымляй**. Вельмі тупы, ненавостраны. Пераважна пра нож. *Нош хоць за родным бацькам стрымляй, мо з год ніточаны.* Мацюкі Шчуч. ***Вар.*** хоць за <родным> бацькам пускай (стрымляй).

БАЦЬКІ. **Лезці першы бацькі ў пекла.** *Неадабр.* Паспешліва і недарэчна ўмешвацца ў чые-н. справы, апярэджваючы каго-, што-н. *Першы бацькі ў пекла не лезь.* Монцавічы Лід. (ППФВ, 51; МСГВ, 605). ***Вар.*** лезці раней (першы, упярод) бацькі ў пекла.

**Лезці раней бацькі ў пекла.** *Неадабр.* Паспешліва і недарэчна ўмешвацца ў чые-н. справы, апярэджваючы каго-, што-н. *Казала я табе, не лесь раней бацькі ў пекла.* Стары Дворац Бераст. *Колькі табе разоў гаварыць, каб ты ні лес раней бацька ў пекло.* Старое Сяло Зэльв. *Ні лезь раней бацькі ў пекла.* Рудня Стаўб. ***Вар.*** лезці раней (першы, упярод) бацькі ў пекла.

**Лезці ўпярод бацькі ў пекла.** *Неадабр.* Паспешліва і недарэчна ўмешвацца ў чые-н. справы, апярэджваючы каго-, што-н. *Чаго ты лезеш упярот бацькі ў пекла?* Кямелішкі Астр. ***Вар.*** лезці раней (першы, упярод) бацькі ў пекла.

**Схадзіць да бацькі па розум**. *Іран.* Адумацца, зразумець няправільнасць сваіх паводзін, намераў і пад., змяніць іх. *Схадзі ты да бацькі па розум, можа, хоць крыху паразумнееш.* Рамашкі Шчуч. *Схадзі лепяй да бацькі па розум, а потым жаніся.* Стары Дворац Бераст. *Ціпер ты хітры, як схадзіў да бацькі па розум.* Падбалоцце Зэльв. – *Я больш так ні буду. – А, схадзіў да бацькі па розум, ціпер просіся.* Падбалоцце Зэльв.

**Як для (да) роднага бацькі** *нож.* Вельмі тупы, ненавостраны. *Нош прынесла як для роднага бацькі, ім нічога ні ўрэжаш.* Гальшаны Ашм. *Нож як да роннага бацькі. Здэцца ш мушчын поўная хата, а патачыць няма каму.* Купіск Навагр.

БАЦЬКУ. **Браць бацьку на павер.** *Зневаж.* Не давяраць, лічыць сябе больш вопытным. *Ну і дзет у мяне быў, заўсёды браў бацьку на павер.* Нацкава Маст.

**За бацьку і за се** *трасе. Часта жарт.* Вельмі моцна і невыносна (трасе каго-н. пры ўжыванні кіслай, горкай ці рэзкай ежы або моцнага пітва). *Аля ш гарэлка ў цібе! Трасе за бацьку і за се!* Бершты Шчуч. (ЗНФ, 30). Ой, трасе за бацьку і за се! Ні хачу я гэтай капусты. Ліпнікі Шчуч. (ЗНФ, 30). ● У некаторых гаворках Гродзеншчыны займеннікі *ты, сябе* ў родным і вінавальным склонах могуць ужывацца як у форме *цібе, сібе,* так і з пропускам сярэдніх гукаў – *це, се.*

**Хоць бацьку роднага рэж** *нож.* Зусім тупы, ненавостраны. *Трэбо нош другі ўзяць, бо гэты хоць бацьку роднаго рэж. Мусі, дзеці вытупілі.* Нацавічы Маст.

БАЧ. **Як бач.** Вельмі хутка (зрабіць што-н.). *Як бач мы прыйшлі.* Ісаевічы Сл. ***Вар.*** як бач (бачыш).

БАЧЫЛА. **Дзе ты бачыла.** *Выкл.* Выказванне адмаўлення, немагчымасці чаго-н. *Выкінь ты яго з галавы. Няўжэ ты думаяш, што будзяш за ім шчасьліва. Дзе ты бачыла! Такі самы пяніца, як бацько.* Бабіна Гродз. ***Вар.*** дзе ты бачыў (дзе ты бачыла, дзе <вы> бачылі).

БАЧЫЛІ. **Дзе <вы> бачылі.** *Выкл.* Выказванне адмаўлення, немагчымасці чаго-н.*Зробіць ён вам… Дзе вы бачылі!.. Толькі абяшчаць умея. Ведаю я яго, ні першы рас.* Бабіна Гродз. – *Ён – дзе бачылі! – не пойдзе ўночы.* Валеўка Навагр. (БФ,129). ***Вар.*** дзе ты бачыў (дзе ты бачыла, дзе <вы> бачылі).

**Толькі і бачылі** *каго.* Хто-н. хутка знік, прапаў. *З пераляку як шугануў праз двухмятровы плот, тут яго толькі і бачылі.* Чамяры Сл. (ЖНСл, 184). *Ён яг дрыпануў, толькі яго і бачылі.* Пушчыні Свісл. (МСГВ, 153). *Як паглядзеў, што б'юцца, та ён, доўго ні чакаючы, хамуль-хамуль дый с хаты, тулькі яго й бачылі.* Рагачы Гродз. (СНМ,155). *Ён, доўго ні чакаючы, як пальня немцу ў морду, а сам у ногі, тулькі яго і бачылі.* Струбка Гродз. (СНМ, 103). ***Вар.*** толькі і бачылі (і бачыў).

БАЧЫЎ. **Дзе ты бачыў.** *Выкл.* Выказванне адмаўлення, немагчымасці чаго-н. *Гэта ў горадзі свіней пацьсцілаюць пілавінамі, а на вёсцы, дзе ты бачыў, кап хто пацсцілаў.* Навасёлкі

Гродз. (СНМ, 109). ***Вар.*** дзе ты бачыў (дзе ты бачыла, дзе <вы> бачылі).

**Толькі і бачыў** *каго.* Хто-н. хутка знік, прапаў. *Дзьмухнуў табакаю ў вочы, дык воўк пайшоў, толькі яго і бачыў.* Абруб Шчуч. ***Вар.*** толькі і бачылі (і бачыў).

БАЧЫЦЬ. **Бачыць навылет** *каго***.** Вельмі добра ведаць, разумець чые-н. намеры, задумы. *У мяне не сьпішаш, я такіх вучняў бачу навы́лет.* Слонім Сл. *Маці яго ведала навы́лят.* Рудаўляны Бераст.

БАЧЫШ. **Як бачыш.** Вельмі хутка (зрабіць што-н.). *Дажджы прайшлі добрыя, ядрань такая ў лесе і ў полі, што скаціна наядаяцца як бачыш.* Каробчыцы Гродз. (СГВ, 572). *Запар сабе стагадуна з мёдам, дык як бачыш паляхчая.* Касцянёва Шчуч. (СГВ, 455). ***Вар.*** як бач (бачыш).

БАШЛЫК. **Як сымонаў башлык** *прапасці. Неадабр.* 1. Бясследна, невядома дзе. *Як паехаў на Расею, то й прапаў як сымонаў башлык, нічога нівядома пра яго.* Дарагляны Маст. 2. Зусім (апусціцца, дайсці да непрыстойнага, нізкага). *Што пра яго гаварыць... Прапаў як сымонаў башлык, расьпіўсё, сям'і ні трымаяцца.* Мілявічы Маст.

БЕГІ. **На бегі.** На плечы. *Вазьмі ты малога на бегі, хай ні раве.* Навасады Вор.

БЕДНАГА. **Як у беднага сарочка** *адзін.* Зусім (адзін). *Раней дзіцей многа мелі, а ціпер у кожнаго – адно як у беднаго сарочка, як вока ў лбе.* Кашалёва Навагр.

БЕДУ. **Маеш бе́ду.** Не хвалюйся, не перажывай, няма падстаў для хвалявання, перажывання. *От, маяш беду з гэтым парэсям. Падумаяш, парася здохло. Ні бяры да галавы, нажывеш яшчэ ні адно.* Бабіна Гродз. ***Вар.*** маеш бяду (бе́ду).

БЕДЫ. **Такое бе́ды.** Няважна, не мае значэння, нічога страшнага. *Я гаварыўшака, чаго прыехаў сюды, а гэты дзет усё слухаў, па кабінеце пачаў хадзіць туды-сюды, а потамака сказаў мне: «Едзь дахаты. Такое беды. Усё ў цябе добра будзя».* Забагонне Зэльв. ***Вар.*** такой (такое, гэдакай, кой, такеля) бяды (беды).

**Такой бе́ды.** Няважна, не мае значэння, нічога страшнага. *Такой беды, я сама тут прыбяру.* Капцёўка Гродз. *Такой беды, дзеткі. Было п чаго тут плакаць. Пайду заўтра і куплю вам тых жвачак.* Лунна Маст. *Шкада, што салёнкі падгарэлі, але такой*

*беды, зьямо.* Пескі Маст. ***Вар.*** такой (такое, гэдакай, кой, такеля) бяды (беды).

БЕЗІКІ. **Уставіць свае бе́зікі**. *Іран.* Доўга глядзець, не зводзячы позірк. *Куды ты ўставіў свае безікі*? Кухары Маст. (СГВ, 56).

БЕЛА. **Ні бела ні чорна** *сказаць.* Няпэўна, неканкрэтна. *Я да яе церас плот кажу: «Ці будзеце браць муку ў магазіне, прывезьлі на пай?» А яна мне ні бело ні чорно.* Гнесічы Навагр. ***Вар.*** ні чорна ні бела (ні бела ні чорна).

БЕЛКА. **Як белка** *круціцца.* У пастаянных занятках, клопаце. *Ну й працаўніца! Цэлы дзень як белка круціцца, і ўсё спрытно ў яе палучаяцца.* Дзешкаўцы Свісл. ● *Белка* – параўн. руск. *белка* ‘вавёрка’.

БЕЛКУ. **Як белку** *ababраць.* Поўнасцю, начыста. *Ababраў Дзёмку як белку. Ні дурны, ведаў, дзе шукаць.* Навасёлкі Маст. ● *Белка* – параўн. руск. *белка* ‘вавёрка’.

БЕЛЬМАКІ. **Бельмакі на лоб вылезлі** *ў каго. Груб.* Хто-н. вельмі моцна здзівіўся. *Такоя ўбачыў, што аш бяльмакі на лоп вылязьлі.* Поразава Свісл.

БЕЛЬМАЧЫ. **Бельмачы́ калом паставіць.** *Груб.* Злосна, выяўляючы варожасць, глядзець на каго-н. *Бяльмачэ калом паставіць і енчыць.* Старое Сяло Зэльв. (СНМЗ, 18).

**Выкаціць бельмачы.** *Груб.* Шырока адкрытым позіркам выяўляць сваё здзіўленне, цікавасць, неразуменне, страх, злосць і пад. *Як сказаў я яму, што прыду сёньня да яго, дык ён як выкаціў свае бельмачы, быццам бы ні абяцаў мне.* Пагранічны Бераст. ***Вар.*** вывярнуць (вылупіць, выкаціць, вытрашчыць) <свае> бельмы (бельмачы).

БЕЛЬМЫ. **Бельмы на лоб палезлі** *<у каго>. Груб.* Хто-н. вельмі здзіўлены, выяўляе пачуццё спалоху, страху. *Як убачыў ён таго зьвера – бельмы на лоп палезьлі.* Ражкі Свісл.

**Вывярнуць свае бельмы**. *Груб.* Шырока адкрытым позіркам выказваць сваё здзіўленне, цікавасць, неразуменне, страх, злосць і пад. *Чаго вывярнуў свае бельмы, даўно хіба ня відзяў?!* Пеляса Воран. *Што ты вывярнуў свае бельма, каб яны ў цябе павылазілі.* Альхоўка Наваг. (МСГВ, 50). ***Вар.*** вывярнуць (вылупіць, выкаціць, вытрашчыць) <свае> бельмы (бельмачы).

**Выкаціць бельмы**. *Груб.* Шырока адкрытым позіркам выяўляць сваё здзіўленне, цікавасць, неразуменне, страх, злосць і пад. *Як выкаціць бельмы, дык аж страшно становіцца.* Монькавічы Маст.

**Вылупіць бельмы**. *Груб.* Шырока адкрытым позіркам выяўляць сваё здзіўленне, цікавасць, неразуменне, страх, злосць і пад. *Ты толькі паглянь, як бельмы вылупіў.* Калечыцы. Шчуч. *Вылупіць бельмы як талеркі і ні маргнуўшы будзя лгаць.* Дзешкаўцы Свісл. ***Вар.*** вывярнуць (вылупіць, выкаціць, вытрашчыць) <свае> бельмы (бельмачы).

**Вытрашчыць бельмы** *на каго. Груб.* Углзедзецца, уставіцца, утаропіцца на каго-н. *Чаго ты на міне бельма вытрашчыла, я табе што, павінен?* Празнікі Свісл. *Адышоў, бельма на міне вытрашчыў і стаіць, як вупар.* Горніца Гродз. (СНМ, 19). ***Вар.*** вывярнуць (вылупіць, выкаціць, вытрашчыць) <свае> бельмы (бельмачы).

**Заліць бельмы**. *Груб.* Выпіць залішне спіртнога, быць п'яным. *Зноў заліў бельмы... Калі ўжэ гэтаму канец будзя...* Мацвееўцы Ваўк. ***Вар***. заліць вочы (бельмы, зе́гры, зеграчы́, зры́нкі, зры́ны, зрэ́нкі, слепакі́).

БЕЛЯНЫ. **Беляны аб'еўся.** *Неадабр.* Зусім здурнеў, пачаў неадэкватна сябе паводзіць. *Хіба ён беляны аб'еўся, гаворыць неўпапад?* Свілы Воран. *Што гэта с табою? Беляны аб'еўся, ці што?* Галынка Воран. *Ты беляны аб'еўся ці зусім здурэў, што так дзіця напужаў.* Мыслава Сл. (СГВ, 578). *Хлопец так гаварыў, як беляны аб'еўся.* Капці Дзятл.

БЕРАГОЎ. **Выходзіць (выйсці) з берагоў.** *Неадабр.* Пераступаць межы дазволенага. *Бацько быў разумнейшы, ніколі ні выходзіў зь берагоў.* Збочна Сл. (ЗНФ, 23). *Дзеці як выйдуць зь бярагоў, тады ты зь імі нічога ні зробіш.* Гожа Гродз. (ЗНФ, 23). *Васіль ніколі не выходзіў з берагоў.* Парэчча Гродз.

БЕРВЯНО. **Ні бервяно ні палена.** *Неадабр.* Нікуды не варты чалавек. *Цягаецца, як біч, па вёсцы, што пра яго скажаш – ні бярвяно ні палена.* Дварчаны Воран.

БЕРДЗЕ. **Не ўсё ў бердзе** *ў каго.* 1. *дзе.* У каго-н. якія-н. непаладкі, не ладзіцца, не клеіцца што-н. *Ай, кінь ты, мне ні да гэтаго, у міне сёня ў канторы не ўсё ў бердзі.* Конна Зэльв. (ЗНФ, 52). *Ходзіць нейкі пануры, у яго ў хаці не ўсё ў бердзі. Кажуць, дзіця*

*натто захварэло.* Нізяны Ваўк. (ЗНФ, 52). *Ні чапай ты яго, у яго дома ні ўсё ў бердзі.* Моцевічы Лід. (ЗНФ, 52). 2. *Неадабр.* Хто-н. прыдуркаваты, ненармальны. *У Васіля, мусі, не ўсё ў бердзі: зноў на ферми цуды вырабляў.* Барадзічы Зэльв. (ЗНФ, 52). *С табой мне ўсё ясна: у цібе не ўсё ў бердзі.* Панямонцы Лід. (ЗНФ, 52). *Дак у цібе ш ні ўсё ў бердзі, калі ты так танна прадала парасят.* Альхоўка Навагр. (ЗНФ, 52). *Ты ці думаяш што ты гаворыш? У цябе, мусіць, не ўсё ў бердзі.* Сцеркава Лід.

БЗДЗІКА. **Пароць бздзі́ка**. *Неадабр.* Гаварыць абы-што, пустое, недарэчнае. *Здаецца ўжо вялікая дзяўчына, а ўсё яшчэ порыш бзьдзіка.* Стадольнікі Ашм. ***Вар***. пароць здыкі (бздыкі, бздзіка).

БЗДЫКІ. **Пароць бзды́кі**. *Неадабр.* Гаварыць абы-што, пустое, недарэчнае. *Ні пары бздыкаў, я і слухаць цябе ні хачу.* Суботнікі Іўеў. Стадольнікі Ашм. ***Вар***. пароць зды́кі (бзды́кі, бздзі́ка).

БІБІКІ. **Бі́бікі абіваць**. *Неадабр.* Гультаяваць, бяздзейнічаць, займацца пустымі справамі. *Цэлы дзень бібікі абіваў!.. Хоць бы куранят накарміў, гультаіско чортаў!* Нізяны Ваўк. *Чым бібікі абіваць, лепяй ішла п памагла.* Янавічы Навагр. *Тады ні было калі бібікі абіваць: кросна ткалі, кудзелю пралі, а нікаторыя і за няняк сядзелі.* Старына Маст. *Што ты цэлы дзень бібікі абіваяш?* Саковічы Сл. *І як чалавек жыве? Цэлы дзень бібікі абівая.* Новае Сяло. (СГВ, 579). ***Вар***. бібікі (бі́мбікі, бі́бы) біць (абіваць, акалачваць, лупіць, страляць).

**Бібікі акалачваць.** *Неадабр.* Гультаяваць, бяздзейнічаць, займацца пустымі справамі. *Усе на полі робяць, а той Валера тут бібікі акалачваіць.* Міхнічы Смарг. (СГВ, 579). *Цалюткі дзень ты сёньня бібікі акалачваяш.* Дубна Маст. ***Вар***. бібікі (бі́мбікі, бі́бы) біць (абіваць, акалачваць, лупіць, страляць).

**Бібікі біць**. *Неадабр.* Гультаяваць, бяздзейнічаць, займацца пустымі справамі. *Чаго прыйшлі сюды? Бібікі біць?* Пацавічы. Дзятл. *Тры гады хлопяц бібікі біў.* Кавалі Бераст. *Хадзі памажы, а не бібікі б'еш.* Малахавічы Гродз. *Мой стары нічого ні робіць, толькі бібікі б'е.* Скрагі Шчуч. *Б'е цэлы дзень бібікі, а картопля ніпакапаная.* Зенявічы Навагр. *Прывык бібікі біць з ранку да вечара.* Воля-Крупіцы Маст. ***Вар***. бібікі (бі́мбікі, бі́бы) біць (абіваць, акалачваць, лупіць, страляць).

**Бібікі лупіць.** *Неадабр.* Гультаяваць, бяздзейнічаць, займацца пустымі справамі. *Нават ні замарылася, відаць бібікі лупіла.* Карпейчыкі Шчуч. ***Вар.*** бібікі (бі́мбікі, бі́бы) біць (абіваць, акалачваць, лупіць, страляць).

**Бібікі страляць**. *Неадабр.* Гультаяваць, бяздзейнічаць, займацца пустымі справамі. *Чаго бібікі страляеш?! Што, работы няма?!* Масцяны Астр. ***Вар.*** бібікі (бі́мбікі, бі́бы) біць (абіваць, акалачваць, лупіць, страляць).

БІБЫ. **Бі́бы абіваць**. *Неадабр.* Гультаяваць, бяздзейнічаць, займацца пустымі справамі. *Ні зарабіўса – цэлы месяц бібы абіваў.* Старына Маст. ***Вар.*** бібікі (бі́мбікі, бі́бы) біць (абіваць, акалачваць, лупіць, страляць).

БІЗУН. **Голы як бізун.** Вельмі бедны, нічога не мае. *Як хадзіў няжанаты, так быў голы як бізун, а як ажаніўся, так жонка хоць адзела.* Вольна Бар. *Голы як бізун.* Міхалкі Свісл. (ППФВ, 17). *Што гэта за мужык мне будзе – голы як бізун! Каб хоць малавеля што было за душою.* Старое Сяло Зэльв. (Стэц.-1, 184). *Глядзі, будзяш кідацца грашыма, то голы як бізун застанеся.* Дамейкі Лід.

**Як бізун.** *Неадабр.* 1. *распусціцца.* Вельмі, празмерна (распусціцца). *Распусьціўса мой хлопяц за лето як бізун.* Новая Руда Гродз. (ЗНФ, 84). *Ні давайця яму паталі, бо зноў распусьціцца як бізун.* Шчорсы Навагр. (ЗНФ, 84). 2. *худы.* Вельмі (худы). *Поп такі худы як бізун, а матушка грубая.* Галавачы Гродз. (МСГВ, 284).

БІЗЮКІ. **Вылупіць бізюкі**. *Груб.* Шырока адкрытым позіркам выяўляць сваё здзіўленне, цікавасць, неразуменне, страх, злосць і пад. *Я ш давала толькі адбой, сама вінавата, ты ш ні дала ні слова ўставіць, наляцела як шалёна, вылупіла бізюкі, страх паглянуць было. А тэрас я і вінавата?! О не, даражэнька!* Амбілеўцы Шчуч.

БІМБІКІ. **Бі́мбікі абіваць**. *Неадабр.* Гультаяваць, бяздзейнічаць, займацца пустымі справамі. *Усе людзі ў поце працуюць, а ён бімбікі абівае.* Копаніха Смарг. ***Вар.*** бібікі (бі́мбікі, бі́бы) біць (абіваць, акалачваць, лупіць, страляць).

**Бімбікі біць.** *Неадабр.* Гультаяваць, бяздзейнічаць, займацца пустымі справамі. *У нідзелю цэлы дзень бімьбікі біў.* Раневічы

Свісл. ***Вар***. бібікі (бі́мбікі, бі́бы) біць (абіваць, акалачваць, лупіць, страляць).

**Не бімбікі з румбікамі** *каму.* Справаа нялёгкая, сур’ёзная. *Вучыцца ў інстытуце гэта табе ні бімбікі з румбікамі.* Юрацішкі Іўеў.

БІНДЫКІ. **Біндыкі маяць.** *Неадабр.* Гультаяваць, бяздзейнічаць, займацца пустымі справамі. *А Міця тылько біндыкі мая, нічога ні хоча рабіць.* Эймінаўцы Бераст.

БІНОКАЛЬ. **У бінокаль глядзець.** *Жарт.* Пільна сачыць за кім-н. *Паспрабуй высьці куды, цешча ў бінокаль глядзіць.* Руда-Яварская Дзятл.

БІЧ. **Голы як біч <а>вострыя як меч**. Нікчэмны, які любіць выстаўляцца. *Голы як біч вострыя як меч.* Барташы Шчуч. (СГВ, 584). *Голы як біч, а гостры як меч.* Канюхі Ваўк.

**Голы як біч.** Вельмі бедны. *Голы як біч*. Алешкаўцы Шчуч. (ППФВ, 17). *Голы як біч.* Ішчална Шчуч**.**

**Як жыдоўскі біч** *распусціцца. Неадабр.* Вельмі, празмерна. *Ну й шкоднік, распусьціўся як жыдоўскі біч, усюды ўлезе і гадасьці наробіць.* Енчы Воран. *Распусціўся як жыдоўскі біч, бабу зусім ні слухая.* Правыя Масты Маст. ***Вар***. як жыдоўская пуга (як жыдоўскі біч).

БІЧАМ. **Як бічам па вадзе**. *Неадабр.* 1. *каму.* Нічога не дзейнічае на каго-н. *А ці ты гавары, ці ты не гавары, усё роўна яму як бічам па вадзе. Мне ўжо язык на мазалі пашоў, а ён усё роўна дурня клеіць.* Бастуны Воран. 2. *памагчы.* Зусім не (памагчы). *Як бічам па вадзе, так ты мне памох.* Малі Астр. (СПЗБ-3, 374).

БІЧЫ. **Бічы ганяць.** *Асудж.* Хадзіць без справы, лайдачыць. *А што помачы з гэтага шалапута, цэлы дзень бічы ганяе.* Зэльва Зэльв.

**Як бічы** *каласы.* Вялікія. *Пашла к пану зьбіраць каласкі на полі, да вечара назьбірала каласоў чатэры пуды, хоць якой поляўкі, зацеркі наварылі, каласы яг бічэ былі. Пасеялі пяць пудоў.* Галавачы Гродз. (МСГВ, 187).

БЛАГ. **Яко благ яко наг**. Бедна, у нястачы. *Яны жывуць яко блах, яко нах.* Кіралі Шчуч. (СПЗБ-2, 171).

БЛАТУ. **Па блату.** Незаконна. *Эта тэрас выгода, што хочаш, можна купіць. А тады – не. Мой па блату пакідаў, хаваў*

*так на складзе ту ватовачку, ту боты, ту гаці.* Янаполь Воран. (ДМГ, 151).

БЛЁКАТУ. **<Як> блёкату аб'еўся (аб'еўшыся, наеўся)**. *Неадабр.* Здурнеў, перастаў разумець, кеміць. *Хіба ты блёкату аб'еўся?* Морына Іўеў. (МСГВ, 53). *Чаго ты так раскрычаўся, блёкату аб'еўся ці што.* Забалоцце Карэл. (СГВ, 579). *Гаварыш абы што, як блёкату аб'еўшыся.* Пагародна Воран. *Усе сьмяюцца, гавораць, а ён як блёкату аб'еўшыся.* Апіта Іўеў. *Што ты, блёкату наеўшыся?* Жылі Іўеў. (СПЗБ-1, 193).

БЛІЗКА. **Блізка таго**. Амаль што. *Учорака езьдзілі ў Куркулі да цёткі парэчкі абіраць. Два вядры набралі, адно, праўды, ніпоўнае, алі бліска таго.* Косцевічы Астр. *Яму было гадоў дваццаць і ёй бліска таго.* Правыя Масты Маст.

БЛІНАМІ. **Як блінамі аб'еўшыся** *сядзець. Жарт.* Ціха, нерухома. *Чаго сядзіш як блінамі аб'еўшыся?* Малі Астр.

БЛОХ. **І трох блох не пералічыць**. *Неадабр.* Няўдалы, няздатны, няўмелы хто-н. *Чакай, гэты табе паможыць... Ён табе, як гэны казаў, і трох блох ні пералічыць, у любом дзелі – пешка.* Косцевічы Астр.

**Лічыць блох**. *Іран.* Мерзнуць, дрыжаць ад холаду. *Адзявай куртку, бо ў гэтым пінжачку лічыць блох будзіш.* Косцевічы Астр.

БЛОХІ. **Блохі кашляюць**. *Іран.* Хто-н. гаворыць не да месца, не да толку, абы-што. *Натто ты разумны, памаўчаў бы! Ні магу, як блохі кашляюць.* Лозкі Дзятл.

БЛУД. **У блуд пусціць** *каго.* Падмануць. *Яны яго ў блут пусьцілі.* Граўжышкі Ашм. (СПЗБ-1, 196).

БЛЫХА. **Як блыха на лысіне** *змерзнуць. Жарт.* Вельмі моцна. *Зьмёрс я ўчора як блыха на лысіне.* Жупраны Ашм.

БЛЫХУ. **На бягу блыху падкуе.** *Адабр. і неадабр.* Вельмі знаходлівы, спрытны, лоўкі ў сваіх учынках, якой-н. справе. *Манін зяць удатны [удалы], на бягу блыху паткуе, у яго так ўсё ў руках і гарыць.* Вараны Бераст. (ЗНФ, 50). ***Вар.*** на хаду (на бягу) блыху падкуе.

**На хаду блыху падкуе.** *Адабр. і неадабр.* Вельмі знаходлівы, спрытны, лоўкі ў сваіх учынках, якой-н. справе. *Іван добры мужык, на хаду блыху паткуе, але ш, халера, любіць заглянуць у бутэльку.* Вялікая Бераставіца Бераст. *Ні знаяця вы нашага Зай-*

*ца! Гэта ш такі камбінатар... Ён на хаду блыху паткуе.* Ражанка Шчуч. (ЗНФ, 50). ***Вар.*** на хаду (на бягу) блыху падкуе.

БЛЮМА. **Чортава блюма.** *Неадабр.* Кепскі чалавек. *Гэта чортава блюма зноў п'яны прышоў.* Камяніца Ваўк. (СРЛГ, 16).

БЛЯХА. **Бляха-муха.** *Выкл. Груб.* Выказванне незадавальнення, злосці, абурэння. *Бляха-муха! Ужэ ціпер думаў паеду, та – не!* Агрызкі Маст. *Ну, бляха-муха, здэцца ўсё правяльно паставіў, а яна сяроўно ні едзя!* Старына Маст.

БЛЯХАН. **Закрый свой бляхан і не ляпай крышкай.** *Неадабр.* Замоўкні. *Занатта ты ўжо разгаварыўся, лепш ты закрый свой бляхан і не ляпай крышкай.* Трабы Іўеў.

БЛЯХІ. **З-пад бляхі** *малако.* Адстоенае, аддзеленае ад смятаны. *Малако з-пад бляхі як вып'яш, то можа зашкодзіць з ніпрывычкі.* Каменка Шчуч.

БОБ. **Змяшаць боб з гарохам.** Крэйванцы Ашм.

**Зялёны боб трэсці**. *Неадабр.* Моцна сварыцца, гневацца, лаяць, клясці каго-н. *Узлавала Гэльку, та што яна ўжо толькі ні гаварыла, зялёны боп трасла.* Мастаўляны Лід. ***Вар.*** <зялёны (сыры)> мак (боб) трэсці.

БОБАМ. **Як бобам сыпаць**. Хутка і шмат гаварыць. *Кап і ні знаў, дык пазнаіш, чые дзеці такія гаваркія. Ба матка такая ш. Спаткаіся, то як бобам сыпля.* Лысая Гара Ашм.

БОБІК. **Лысы бобік**. *Іран.* Вельмі коратка пастрыжаны чалавек. *Хто цябе так абкарнаў? Лысы бобік.* Зэльва Зэльв.

**Як Бобік падлы наеўшыся** *ляжаць* і пад. *Неадабр.* Без руху, без справы. *Як жывецца? От, валяюся як Бобік падлы наеўшыся. Рабіць не магу дый не хачу.* Куклі Воран.

БОБРЫК. **Як Бобрык Ку́лясу** *памагчы. Неадабр.* Зусім не (дапамагчы). *Ага, паможа ён табе як Бобрык Кулясу.* Кавалі Бераст.

БОБРЫКА. **Бобрыка смажыць.** Імкнуцца раззлаваць, вывесці з раўнавагі каго-н. *Ты мне тут бобрыка ні смаш, усё раўно ў цібе нічого ні выдзя, ні на таго напала.* Баяры Шчуч.

БОБУ. **Жалезнага бобу пад'есці (з'есці, наесціся)** *трэба. Неадабр.* Набрацца вялікага цярпення, мець незвычайную вытрымку. *С такім упартым пагаварыць, то трэба жалезнага бобу пад'есці.* Панара Смарг. (СГВ, 589). *Гэта такі чалавек: з ім дагаварыцца, то трэба бобу жалежнага з'есьці.* Косцевічы Астр. *З*

*ім гаварыць, то трэба ўперад жалезнага бобу наесца.* Чамяры Сл. *З ім жыць – трэба жалезнага бобу пад'есьці.* Лылойці Смарг. *Перш чымсь гаварыць, трэба жалезнага бобу наесьціся.* Слабены Смарг.

**З бобу не гнаны** *гультай. Асудж.* Страшэнны (гультай). *Яе сын – гультай з бобу ні гнаны, ні да чога ў хаці ні дакранецца, ні паможа*. Пераганцы Шчуч.

**Як бобу.** Вельмі многа. *Дзяцей было як бобу, а хлеба ні дробу.* Гліняны Гродз. (ППФВ, 27; МСГВ, 588). *Вот у яе дзяцей, як бобу.* Кіралі Шчуч. (СПЗБ-2, 57).

БОК. **Бок з бокам сходзіцца** *ў каго.* Хто-н. схуднеў, худы ці галодны. Звычайна пра жывёлу. *Ідзі папасі каня, у яго бок з бокам сходзіцца*. Машталеры Маст. (ЗНФ, 19). *Хто ш купіць у цябе такую цялушку, калі ў яе бок з бокам сходзіцца?* Карабы Ашм. (ЗНФ, 19). *Цэлы дзень пасьвіў карову, а яна і ні наелася, бок з бокам сходзіцца*. Вердамічы Свісл. (ЗНФ, 19).

**Бок з бокам сцягнула** *ў каго.* Хто-н. схуднеў, худы. Звычайна пра жывёлу. *Гэдыка карова худая, аш бок з бокам сьцягнула*. Ладзенікі Навагр.

**Бок з бокам**. Разам, сумесна. *Яны вечна ходзяць бок з бокам.* Няцеча Лід.

**Вылазіць праз бок** *каму што.* Кепска канчацца, не праходзіць бясследна што-н. каму-н. *Засьлініцца, рот разявіць і прэцца біцца. Але забралі-такі ў міліцу. Там яму ўсё вылязя праз бок.* Кайшоўка Карэл. (СБНФ, 45). *Твая гарэлка табе праз бок вылязя.* Руда Яварская Дзятл.

**Мазгі ў другі бок завярнуліся** *ў каго. Неадабр.* Хто-н. паводзіць сябе неразумна, безразважна. *У яго сёньня мазгі у другі бок завярнуліся, вытварая абы-што.* Бердаўка Лід.

**У той бок не глядзіць**. Зусім не слухае, не зважае, не звяртае ўвагі на што-н., не прыслухоўваецца да чыёй-н. думкі, просьбы, парады. *Сто рас гаварыла люхты ў печы пачысьціць, а ён і ў той бок ні глядзіць.* Зенявічы Навагр. *Гэта ш Тадзюк так ужо лётае за Стасюковай Таняй, а тая ш і ў той бок не глядзіць.* Заборцы Астр. *Я кажу яму, каб урокі рабіў, а ён нават у той бок ні глядзіць.* Пагранічны Бераст. *Пазычыла суседу грошы, а ён і хвастом накрыўся, у той бок не глядзіць.* Малі Астр. (СПЗБ-3, 334).

**Што на бок што на ногі**. *Іран.* Невысокі і тоўсты хто-н. *І сам малы, і жонка ў яго таксама што на бок што на ногі.* Ананічы Дзятл.

БОКАМ. **Бокам выйсці (вылезці)** *каму што.* Кепска скончыцца, не прайсці бясследна для каго-н. *Твая здрада табе яшчэ бокам выйдзя.* Індура Гродз. *Усё гэта вам бокам выйдзе.* Парэчча Дзятл. *Я вам пакажу, як лазіць у мой сад, гэта вам бокам выйдзя.* Голі Сл. (СГВ, 579). *Будзіце лесьці у мой сат, гэта вам бокам выйдзя.* Дойлідкі Астр. *Гэта работа табе бокам вылязе, як не кінеш яе.* Пасінічы Сл. *Ні мяшайся да іх, а то гэта табе бокам вылязе.* Руда Яварская Дзятл. *Будзяш бачыць, крадзяныя грушкі табе бокам вылязуць.* Дарагляны Маст. *Гэныя зьдзекі над сіратой ім некалі бокам вылезуць.* Заборцы Астр.

**Бокам-скокам.** Няроўна, не па адной лініі. *Куды твае грады зроблены, бокам-скокам.* Міхалконі Ашм. (СГВ, 579).

**Пад бокам**. Блізка, побач. *Пад бокам арэхі.* Ністанішкі Смарг. (СПЗБ-1, 201).

**Хоць бокам каціся.** Роўны, гладкі. Пра дарогу, мясцовасць. *За Рудавіцамі была такая трансава, што ні прайсьці, ні праехаць, а ціпер хоць бокам каціса – сухо.* Свіслач Гродз. (СНМ,144).

БОКІ. **Адлажыць бокі** *каму.* Вельмі моцна пабіць, адлупцаваць каго-н. *Яму так адлажылі бокі, што доўго ні мох паварушыцца.* Куляшы Шчуч.

**Бокі абабраць** *каму.* Сурова расправіцца з кім-н., збіць, адлупцаваць каго-н. *Пярастань дурэць, а то я табе бокі зара абяру.* Бершты Шчуч. (ЗНФ, 20). *За дзеўку бокі handle абабралі адзін аднаму.* Бершты Шчуч. (ЗНФ, 20). *Чаго цібе чорт носіць у чужую вёску? Там табе ўчора бокаў ні абабралі?* Дзеткі Воран. (ЗНФ, 20) . ***Вар.*** бокі (бакі) абабраць.

**Бокі акладаць**. Есці. *Ужэ каторa пара, як пайшоў ваш Сяргей. Мусі, у хаці бокі акладая.* Лозкі Шчуч. (ЗНФ, 19). *Паглядзі, дзе сонца, пара ўжэ і бокі акладаць. Ці ты думаяш сёня без абеду рабіць?* Забалаць Воран. (ЗНФ, 20).

**Бокі выкладваць**. Выконваць цяжкую працу, высільвацца. *Я тут бокі выкладваю, а яна тут ходзіць і камандуя.* Капцёўка Гродз.

**Выкласці бокі**. Уволю наесціся. *Смашну кашу зварыла! Аж дыхаць цяшко, так бокі выклаў.* Бабіна Гродз. *Ну, учора я то*

*добра бокі выклаў на вясельлі.* Праважа Воран. *Ездзіла да брата стрычнага, то выклала бокі ў гасьцях.* Берашты Шчуч. *Напяку і я вам ўжо пірагоў – выкладзеце бокі.* Савічы Зэльв. (Стэц.-2 ???). *Ідзі, ідзі, там ты выкладзяш бокі, усё ў іх такоя смашно.* Берашты Шчуч. (ЗНФ, 23). *Бокі выклаў, а ціпер бы задрамаць так мінут шассот.* Грамавічы Шчуч. (ЗНФ, 23). ***Вар***. выкласці (вылажыць) бокі (бакі).

**Вылажыць бокі**. Уволю наесціся. *Цяпер у сталоўцы ня вылажыш бокі на ўсе сто. Цэны кусаюцца, а яды з гулькін нос.* Сурынка Сл. *Гэтак бокі вылажыў, што з-за стала ні паньняцца.* Ваўкавічы Навагр. *Сёньня каровы вылажаць бокі на канюшыні.* Кронькі Шчуч. *Куды табе лезе, ты ўжо вылажыла бокі блінамі.* Бакшты Шчуч. ***Вар***. выкласці (вылажыць, накласці) бокі (бакі).

**Змяць бокі** *каму.* Моцна збіць каго-н. *Помню, чаму ш ні помню. Гэто ш тады Банэдык усё пачоў. Аля й зьмялі яму бокі тады!* Берашты Шчуч. (ЗНФ, 36). ***Вар.*** змяць бакі (бокі).

**На чтэры бокі.** Поўнасцю, цалкам. *Пераштарцуюць [абняславяць] цябе, пераштарцовал на чтэры бокі.* Граўжышкі Ашм. (СПЗБ-3, 505).

**Накласці бокі**. *Часцей неадабр.* Празмерна наесціся, нажэрціся. *Ну вось, накладзеш бокі дый ляжыш цалюсенькі дзень, ніякай помачы ад цябе німа.* Залясяны Гродз. *Во, бокі наклоў, ціпер і рабіць ні хочаш.* Берашты Шчуч. (ЗНФ, 20). *Яму быля [абы] бокі накласьці, а там хоць трава ні расьці.* Пілаўня Шчуч. (ЗНФ, 20). ***Вар***. выкласці (вылажыць, накласці) бокі (бакі).

**Праз бокі лезе** *каму.* Празмерна многа чаго-н. у каго-н. *Табе ўжэ, Віцянька, праз бокі лезя, сам ні знаяш, што ты хочаш.* Індура Гродз.

**У бокі калоць** *каму.* Непакоіць, рупіць. *У грыбы схадзіла і нічога ні набрала. От, хоць у бокі калоць ні будзя. А так бы думала, што растуць.* Купіск Навагр. *От табе ў бокі коле збегаць туды... Абыдуцца й бесь цібе.* Гнесічы Навагр.

БОКУ. **Да круглага боку** *наесціся.* Добра, сытна. *Дзякуй табе, Агата, наелася да круглага боку, дай Бог табе здароўя.* Жорнаўка Ваўк.

**З боку** *каго, чыйго.* Ад каго-н. – асобы ці групы асоб, ад якіх зыходзіць прадстаўніцтва. *Цыганэ з боку маладога, а прыданыя – з яе боку.* Вялікія Баяры Шчуч. (СПЗБ-5, 369).

**Малога боку**. Які мала есць. Пра жывёлу. – *Во, глядзіця, конь сколька пахадзіў па канюшыня і ўжо наеўся, стаіць. – Дзеткі, гэты конь малога боку: троха зьесь – і ўсё.* Косцевічы Астр.

**Пры боку.** Вельмі блізка, побач. *Чатырнаццаць кіламетраў, дый пры боку аўтобусы ходзяць.* Ніз Сл. (ХБД, 460).

БОЛЕСЯ. **Запісацца да Болеся ў сшытак**. *Іран.* Страціць усякую ахвоту жаніцца, быць закаранелым халасцяком. *Ён ш запісаўся да Болеся ў шшытак, цяпер яго сам чорт ні ажэніць.* Вішнеўка Зэльв.

БОМБА. **Бомба яго (яе, іх) ведае (знае)**. *Неадабр.* Невядома. *А бомба яго зная, што яму ўжэ трэба, здэся [здаецца], усё ест, а яму ўсё мала гэтага багаства.* Купры Шчуч. *А дзе гэта кнішка дзелася, бомба яе ведае.* Студзенікі Свісл. *Бомба іх зная, дзе гэтыя каровы праваліліса, недзі лазяць другія суткі й дахаты ні йдуць.* Бабіна Гродз.

БОМБЫ. **Хай яго бомбы.** *Выкл.* Выказванне папярэджання, засцярогі ад чаго-н. непажаданага. *Мушчыны сеялі лён, хіба баба так пасея? У сенажаць клалі, на атаўцы, сохнуць. Потым падбіралі, трапалі. Хай яго бомбы! Цячэ пот па лэбі. Выскачыш, бывала, падыхаяш ды зноў.* Красулі Шчуч. *Прыйшоў да нас немец, хай яго бомбы.* Вярбілкі Шчуч.

БОМКАЛО. **Як бомкало** *бурчаць* і пад. *Асудж.* Незадаволена. *Ну ўжэ ты, бацько, і надаеў. Што ні робіш, усё табе кепско. Ходзіш тыко і бумкаціш па хаці як бомкало.* Лунна Маст.

БОНКАЙ. **Бонкай у вочы лезці** *каму.* Назаляць, дакучаць каму-н. *Чаго ты, чалавеку, бонкай у вочы лезяш?* Новы Двор Шчуч. ● *Бонка* – сляпень, авадзень; параўн. польск. *bęk* ‘тс’.

БОРАДУ. **Бораду павесіць** *каму. Іран.* Адмовіць таму, хто заляцаецца, сватаецца да дзяўчыны. *Наша Галя вашаму Мілінкевічу бораду павесіла. Во так!* Бершты Шчуч. (ЗНФ, 19). *Хадзіў ён, хадзіў зь ёю, а яна яму бораду павесіла.* Пескі Маст. (ЗНФ, 19).

**Па бораду**. 1. *наесціся.* Уволю, як толькі можна. *Ні буду вячэраць, ні хачу. У абет наеўся па бораду, аж дыхаць цяшка было.* Горшавічы Астр. 2. *чаго.* Вельмі многа, звыш меры. *У хаці яды па бораду, а ён прыйшоў да чужых людзей есьці.* Гнесічы Навагр. *І рэзаў сечку, і малаціў, работы па бораду было.* Жылі Іўеў.

БОСАГА. **Сперці як босага на лёд** *каго. Неадабр.* Ставіць каго-н. у бязвыходнае становішча, прымушаючы зрабіць што-н.

*Яны ш міне сьперлі як босага на лёт: «Дзе хочаш шукай, а назат з голымі рукамі ні прыхоць!»* Ліпнікі Шчуч. (ЗНФ, 66). *Іх двоя, а я адзін. Ну й сьперлі як босага на лёт, і мусіў аддаць ім што ў кішэні было.* Зубрава Шчуч. (ЗНФ, 66).

БОСЫ. **І босы і голы.** Ні з чым, без якой-н. матэрыяльнай маёмасці. *Немец атступаў, спаліў міне ўсё як стоя асталася: і боса і гола, і вайна тут, і дзеці, двое малых дзяцей было.* Паляжын Зэльв.

БОТ. **Як левы бот** *дурны. Неадабр.* Зусім (дурны). *Ці ты дурны як левы бот, ці ты ні панімаіш, што я табе кажу, ні кідай покуль што гэтай работы, бо цяпер лепшай і ні знойдзіш.* Навасяды Ашм.

**Бот боту пара**. *Асудж.* Абсалютна аднолькавыя, адзін не лепшы за другога. *Але ж падабраліся адзін да аднаго – бот боту пара.* Задвор'е Зэльв. *Яны як адно – бот боту пара.* Правыя Масты Маст. *А маладый з маладой дык бот боту пара, абодва што змеі.* Варняны Астр.

**Як бот без халявы** *дурны. Неадабр.* Вельмі, надзвычай (дурны). Дурная ты як бот біс халявы. Куды ш ты лезяш? Засецце Дзятл.

**Як бот боту да пары** *пасаваць.* Вельмі (падыходзіць). *Як бот боту да пары, так і маладыя пасуюць адзін другому.* Талькаўцы Ваўк.

**Як бот Вайцюлёвы** *ў чым.* Зусім няздольны, не разбіраецца ў чым-н. *А мой жа ш хлапец у гэнай арыхметыцы як бот Вайцюлёвы.* Заборцы Астр.

**Як бот дзюравы** *дурны. Неадабр.* Вельмі, надзвычай. *Ты такі дурны як бот дзюравы.* Кямелішкі Астр. *Дурны як бот дзюравы.* Крэйванцы Ашм.

**Як бот** *дурны, тупы. Неадабр.* Вельмі, надзвычай. *Хоць стары, а дурны як бот.* Дакудава Лід. *Гэты чалавек дурны як бот.* Правыя Масты Маст. *Як бот дурны.* Бярозаўка Лід. *Як бот дурны.* Варняны Астр. *Электрык, а як бот тупы.* Талькаўцы Ваўк.

**Як бот з левай нагі** *дурны. Неадабр.* Вельмі, надзвычай. *Ужэ гэты Янак Гэлін то дурны як бот зь левай нагі.* Геранёны Іўеў. *Што у яго ў галаве, ні ведаю. Яму гаворыш адно, а ён усё роўна сваё чаўпе. Ну проста дурны як бот з левай нагі.* Лаздуны Іўеў.

**Як левы бот** *дурны. Груб.-іран.* Вельмі, надзвычай. *Ці ты дурны як левы бот, ці ты ні панімаіш, што я табе кажу?! Ні кідай покуль што гэтай работы, бо цяпер лепшай ні знойдзіш.* Мардасы Ашм. *Аля ты і дурны як левы бот, што не пашоў у грыбы, іх так было шмат, мы цэлыя кошыкі назьбіралі.* Пеляса Воран.

**Як левы бот з дзюркай на пяце** *дурны. Груб.-іран.* Вельмі, надзвычай. *Тлумачыў, тлумачыў яму, віджу, ні панімаіць, зусём дурны як левы бот з дзюркай на пяце.* Косцевічы Астр.

**Як парваны бот** *дурны. Неадабр.* Вельмі, надзвычай. *Але ж ужэ дурны як парваны бот.* Дубна Маст.

**Як Пятроў бот з левай нагі** *дурны. Абразл.* Вельмі, надзвычай. *Злуй ні злуй, а я вот табе прамо скажу: дурны ты як Пятроў бот зь левай нагі.* Бабіна Гродз.

**Як у бот ступіць**. Прыйсці жыць на ўсё гатовае. *Харошы хлопец! Жаніцца толькі трэба. Хто пойдзіць за яго, то як у бот ступіць, усё ёсьць: і хата, і гаспадарка.* Косцевічы Астр.

БОТАХ. **Памру ў ботах**. *Гумар.* Абавязкова, нягледзячы ні на што. *Каб я, шафёр, на аўтобусі егдзіў у вёску... Ні будзя гэтаго. Памру ў ботах, а «Масквіча» куплю!* Струбніца Маст.

БОТЫ. **Абуць у боты** *каго.* Ашукаць, падмануць. *Некалі ён і цябе абуя ў боты.* Сенна Навагр.

**Даць у боты**. *Гумар.* 1. Уволю, да ўпаду патанцаваць, натанцавацца. *Праз месяц у іх вясельле, ну ўжо й дамо ў боты.* Любча Навагр. 2. Многа выпіць спіртнога, напіцца. *А мой то добра даў у боты, ледзьве прыцягнуўся.* Капці Дзятл.

**Два боты пара.** *Неадабр.* Абсалютна аднолькавыя, адзін не лепшы за другога. *Зьбіраяцца Ганна замуш за Колю, а ён жа гэдак п'е, але і яна ні лепша – два боты пара.* Вольна Бар.

**У боты біць.** Не жадаць жаніцца. *А Дзіма мой і дзеўку мая, а ў боты ўсё роўна б'е.* Гарадзечна Навагр. *Сыну ўжо пат трыццаць, а ён усё ў боты б'е.* Капці Дзятл.

БОЦЕ. **Як у парваным боце** *знайсці толк.* Зусім не. *Знойдзеш тут толк як у парваным боце*. Гудэлі Воран. (ППФВ, 31).

БОЧАК. **Сем бочак арыштантаў** *нагаварыць* і пад. *Жарт.-іран.* Вельмі многа і абы-чаго. *Набрындоліла сем бочак арыштантаў.* Мсцібава Ваўк. (СПЗБ-3, 120).

**Сорак бочак арыштантаў** *нагаварыць. Жарт.-іран.* Вельмі многа і абы-чаго. *Толькі слухай гэтаго кашаплёта – ён табе нагаворыць сорак бочак арыштантаў.* Беражна Карэл. (ЗНС, 90).

БОЧАЧКУ. **Бочачку арыштантаў** *нагаварыць. Жарт.-іран.* Вельмі многа і абы-чаго. *Дзядзька нагаворыць бочачку арыштантаў, а ты потым і разбярыся.* Місявічы Воран.

БОЧКА. **Бочка арыштантаў**. Падазроная кампанія. *Па вёсцы блэнтаецца бочка арыштантаў.* Самуйлавічы Маст.

**Як бочка** *напіцца.* Вельмі многа. *П'яўкі кроў сысалі, яна нап'ецца, як бочка.* Кіралі Шчуч. (СПЗБ-5, 56).

БОЧКІ. **Ад кожнай бочкі заˊтычка.** *Неадабр.* 1. Той, хто ўмешваецца не ў сваю справу. *Гэта Маруся ат кожнай бочкі затычка, усюды яе дзела.* Зенявічы Навагр. 2. Той, хто выконвае работу за іншых. *Ты што, ад кожнай бочкі затычка? Чаго ты за яго рабіць будзеш? Хай сам ідзе, такі разумны.* Варняны Астр. 3. Вельмі актыўны чалавек, які ўсюды паспявае, без якога не абыходзіцца ніводная справа. *Гэта ў нас у сяле баба была, Дзедуха яе называлі па-вулічнаму. Ну та ля, гэдык і казалі: ад кожнай бочкі затычка, бо ўсюды лезла, ніадныя хрысьціны, ніадныя мярліны безь яе ні абыходзіліса.* Старына Маст.

**Да кожнай бочкі затычка.** Вельмі актыўны чалавек, які ўсюды паспявае, без якога не абыходзіцца ніводная справа. *Наш Дзіма да кожнай бочкі затычка, нічога без яго не абыходзіцца.* Макараўцы Бераст.

**Каціць бочкі** *на каго. Неадабр.* Папракаць, абвінавачваць, прыдзірацца да каго-н. *Нашто ты на мяне коціш бочкі, што я табе зрабіла?* Мыслава Сл. (СГВ, 594). *Чаго ты на мяне бочкі коціш?* Улезлы Ваўк.

**Кожнай бочкі заˊтычка.** *Неадабр.* Той, хто ўмешваецца не ў сваю справу. *Усюды ты свой нос усунеш, кожнай бочкі затычка.* Пагарэлка Карэл. *Наш Іван усюды свой язык усуня, кожнай бочкі затычка.* Турэц Карэл. (СГВ, 595).

БОЧКУ**. Бочку арыштантаў** *нагаварыць* і пад. *Жарт.-іран.* Вельмі многа і абы-чаго. *Табе вер, зноў нагаворыш бочку арыштантаў.* Хутар Праважа Воран. *А табе толькі слухай, ён табе нагаворыць бочку арыштантаў.* Валэйшы Воран. *Нагаворыць табе бочку арыштантаў, а ты сядзіш і слухаеш.* Багушоўка Гродз. *Ён табе бочку арыштантаў можа нагаварыць.* Жупраны

Ашм. *Калі ты пярастаняш языком малоць, гуна [пустаслоў]? Бочку арыштантаў нагаварыў і так.* Грабава Зэльв. (СНМЗ, 37). *Лабайда гэтая прыходзіла, нагаварыла бочку арыштантаў і пайшла рагочучы.* Чамяры Сл. (ЖНСл, 181). *У Стася ўжо натура такая, чалавека не прапусьціць, каб не нагаварыць яму бочку арыштантаў.* Відугараўшчына Лід. *Ні слухайця гэтаго пляскача, ён вам нагаворыць бочку арыштантаў.* Малахавічы Гродз. (СНМ, 111). *О ля, які хітрун! Прыдзя, нагаворыць бочку арыштантаў ды пайдзе пасміхаючыся дадому.* Чамяры Сл. (ЖС, 157). *Нагаварылі мне бочку арыштантаў, ні знаю, ці спраўлюся.* Мейры Лід. *Прыехаў быў зяць у госьці, нагаварыў мне бочку арыштантаў, па гэту пору толькі яго і бачыла.* Корнаць Свісл. (СГВ, 580). *А ты чакаяш няведама чаго, нагавырыў бочку арыштантаў і ўцёк.* Старынцы Бераст. *Але і наплёў ты бочку арыштантаў.* Парэчча Гродз. *Косьця нагаворыць бочку арыштантаў, ды толку яго слухаць.* Малыя Эйсманты Бераст. *Нагаварыў бочку арыштантаў, а сам змыўся.* Васілевічы Гродз. *Ой і не люблю я цябе, бо як прыйдзеш, як нагаварыш мне бочку арыштантаў, дык потым галава баліць.* Індура Гродз. *Ты яго толькі слухай, ён табе нагаварыць бочку арыштантаў.* Сухінічы Маст. *Нагаварыў ён мне бочку рыштантаў, я так нічога й не зразумеў.* Гуршчызна Іўеў. *От нагаварыла я табе бочку рыштантаў.* Сухары. Гродз. *Ну й амманшчык, нагаварыў бочку арыштантаў і нават вокам ні змаргнуў.* Саленікі Карэл. (СГВ, 599).

**Бочку з гакам** *нагаварыць. Жарт.* Вельмі многа і, як правіла, абы-чаго. *Што ты яго слухаяш. Ён табе як нагаворыць бочку з гакам, ту ні будзяш ведаць, што і рабіць. Лепш паслухай разумнага чалавека.* Асіпаўцы Воран.

**Бочку з квасам** *нагаварыць. Жарт.* Вельмі многа і, як правіла, абы-чаго. *Ну, ужэ нагаварыў бочку с квасам, сяць і памаўчы лепяй.* Купры Шчуч.

**Бочку і бочачку** *нагаварыць* і пад. *Неадабр.* Вельмі многа і абы-чаго. *Паймеш тут цібе, наплёў бочку й бочачку, і папробуй разьбярыся што да чаго.* Шылавічы Сл.

**Бочку селядцоў** *нагаварыць* і пад. *Жарт.* Вельмі многа і, як правіла, абы-чаго. *Нашаго дзеда натто любілі дзеці, той як нагаворыць ім бочку селятцоў, дык два дні потым успамінаюць*

*і сьміюцца.* Малыя Краглі Дзятл. *Нічого добраго ні сказаў, налапатаў бочку селяццоў і пайшоў.* Зачэпічы Дзятл.

**Ліць як у бочку**. Празмерна піць, напівацца спіртнога. *Хоць ён і лье як у бочку, а нічога зь ім ні робіцца.* Варняны Астр.

**Поўную бочку <гультаёў>** *нагаварыць. Жарт.-іран.* Вельмі многа і, як правіла, абы-чаго. *Нагаварыў ён вам тут поўну бочку гультаёў, а вы яму й паверылі.* Закальное Любан. *Ну нагаварыла поўну бочку, сам чорт цябе разбярэ, калі ўжэ навучыся.* Зенявічы Навагр.

**Цэлую бочку арыштантаў** *нагаварыць. Жарт.-іран.* Вельмі многа і абы-чаго. *Слухай ты яго, ён табе цэлу бочку арыштантаў нагаворыць.* Багушы Шчуч. *Нагаварыў цэлу бочку арыштантаў. Нічого я, старая, ні паняла.* Лунна Маст. *Нагаворыць цэлую бочку арыштантаў.* Цвіклічы Гродз. (СНМ, 187).

**Як у бочку** *кашляць, бухаць, бухікаць* і пад. Вельмі моцна і часта. *Мой стары прастыў, кашляе ноччу як у бочку.* Уселюб Навагр. *Бацька бухая як у бочку, трэба, каб да дохтара схадзіў, мо якія сухоты.* Купры Шчуч. *Цалютку ноч дзіця як у бочку бухатала, тылько наранку заснула.* Дубна Маст. (СРЛГ, 19). ***Вар***. як у бочку (у кадушку, у цэбар).

**Як у бочку ліць** *піць. Неадабр.* Вельмі многа. *Во бач ты яго, дапаў да дармовага соку, п'еш як у бочку льеш.* Талмінава Ашм. (ЗНФ, 95). *Мазуры былі першыя багачы ў вёсцы, а ціпер зьбяднелі, бацька пачаў гуляць, біцца ды яшчэ піў як бочку ліў.* Хамуты Гродз. (ЗНФ, 95). *Валік што ні возьмя, усё зробіць, але ш п'е як у бочку лье.* Ліжэйкі Дзятл. (ЗНФ, 95). *Але ш ён п’е як у бочку лье.* Волькавічы Ашм. *П’е як у бочку лье і ні п’янея, во дзе здаровы!* Задвор’е Зэльв.

**Як у пустую бочку.** *Асудж.* Безвынікова. *Я ёй даю і даю свае грошы, і ўсё як у пустую бочку, ніяк не ўталюю.* Лозкі Дзятл. (СГВ, 514).

БОЧЦЫ. **У кожнай бочцы заты́чка**. *Асудж.* Чалавек, які не да месца, без патрэбы ўсюды ўлезе, які ўмешваецца не ў свае справы. *Што ты ніяк ні асядзеш. У кожнай бочцы затычка. Абыдземся бесь цябе.* Геранёны Іўеў.

БРАЖНІКА**. Як з бражніка** *нясе*. Вельмі моцна (чуваць пах перагару ад каго-н.). *Нашто ты піў гэту гарэлку, ціпер нясе як з бражніка. Як зь людзьмі сустракацца?* Дарагляны Маст.

БРАМЕ. **У пякельнай браме стаяць.** Знаходзіцца ў перадсмяротным стане. *Чалавек мусі ўжэ ў пякельнуй брамі стаіць, бо нат есьці ні бярэ.* Поразава Свісл.

БРАТ. **Брат ты мой.** *Выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *О, брат ты мой, жызьня пашла, хай яе халера с такой жызьняй!* Аляксандраўшчына Зэльв. ***Вар.*** брат (братку, браце) ты мой.

БРАТКУ. **Братку ты мой.** *Выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *Усе думалі, што ён цямця-лямця, а тут, братку ты мой, усім раты пазатыкаў.* Бабіна Гродз. ***Вар.*** брат (братку, браце) ты мой.

БРАЦЕ. **Браце ты мой.** *Выкл.* Выказванне розных пачуццяў. *Я, браця ты мой, рабіў на фермі, выхадных нам мала пападала.* Пудзіна Навагр. *Знаяш што, браця ты мой, ні мох я выхаваць каровы й коніка.* Янцавічы Лід. (ДМГ, 94). ***Вар.*** брат (братку, браце) ты мой.

БРОВАР. **Як бровар падпаліўшы** *бегаць.* Неспакойна, мітусліва. *Нарабіла дзялоў, то ціпер бегая як бровар патпаліўшы.* Новы Двор Свісл.

БРОВАРА. **Як з бровара шылавіцкага** *нясе. Насмеш.* Вельмі моцна (чуваць пах перагару ад каго-н.). *Ну баба, нацюкалася, нясе як з бровара шылавіцкага.* Дзеравянчыцы Сл. ● *Шылавіцкі* – прыметнік ад назвы вёскі Шылавічы Слонімскага раёна.

БРУТ. **Брут тутэйшы**. *Неадабр.* Кепскі чалавек. *Брут ты тутэйшы, кап цібе завярнуло, кап цібе!* Замасцяны Шчуч. ● *Брут* – гнус, заедзь.

БРУХ. **Брух мармоча** *ў каго.* Каму-н. вельмі хочацца есці. *У міне ўжо брух мармоча, бо з раня нічогі ні еў.* Пеляса Воран.

БРЫНДА. **Як брында** *хадзіць* і пад. Кепска, неахайна апранутым. *Ой, дзяўчаткі, пайду перадзенуся, бо лажу як брында.* Яблынька Дзятл.

БРЫНДЫ. **Брынды біць**. Гультаяваць, займацца пустымі справамі. *Што ты брынды б'еш, калі ўсе працуюць?!* Шлавенцы Воран. *Што ты брынды б'еш?* Новы Двор Шчуч. ● *Брынды* – ад *брындаць* 'хадзіць без справы'; параўн. літ. *brindotis* 'брадзіць апырсканым'. Узнік па мадэлі фразеалагізмаў тыпу *лынды біць*.

БРЫНЖЫКІ. **Брынжыкі строіць**. Гультаяваць, займацца пустымі справамі. *Цяперашні маладзёш больш брынжыкі строіць, чым робіць.* Буцілы Лід.

БРЫСІ. **Надуць бры́сі**. *Неадабр.* Надзьмуцца, насупіцца, пакрыўдзіцца. *Чаго ўжэ надула брысі? Можаш ісьці да сваіх дзяўчат, толькі ні буць доўго.* Дарагляны Маст.

БРЭГУ. **Брэ́гу няма** *каму. Неадабр.* Каму-н. не сядзіцца на месцы, хто-н. паводзіць сябе неспакойна: дурэе, сваволіць і пад. *Брэгу табе німа!.. Сеў бы трохі, а то лятаяш як чорт.* Красляны Шчуч. *Цэлы дзень табе брэгу німа, апсеў бы трохі!* Дзембрава Шчуч. ● *Брэг* – польск. *brzeg* 'бераг'.

БРЭХ. **Хортаў брэх**. Падман, няпраўда. *Ох і хват гэты Кузьма аб'ягорыць каго-нібуць, што ні скажа, ту ўсё хортаў брэх.* Асіпаўцы Воран.

БУБАН. **Бубан разбіць**. *Асудж.* Празмерна наесціся. *Бубан разьбілі, ужо й сьмятану есьці ні хочуць... Ні грашэця Богу!* Сурынка Сл. ● *Бубан* – бубен.

БУБЕН. **Біць у бубен.** Жыва размаўляць, паведамляць аб чым-н. *Па ўсёй вёсцы білі ў бубен аб вяселлі Лёдзі.* Новы Двор Свісл. (СГВ, 579).

**У адзін бубен біць**. Гаварыць, дзейнічаць заадно. *Зарас іх ні разгоніш, бу так зьліліся, як салаўі ў бары, ды ўсё ў адзін бубен б'юць. Хто іх брахню ціпер стрымая?* Асіпаўцы Воран.

**Як бубен** *голы.* Вельмі (бедны). *Жаніўся бедно. Нічого ні было, быў голы як бубен.* Агрызкі Маст.

**Як у бубен біць.** Моцна і часта кашляць. *Прастудзіўся недзя, то цэлу ноч бухікаў, як у бубян біў.* Чамяры Сл. (ЖС, 153).

**Як у бубен бубнець**. Голасна расказваць, настойліва перадаваць ад аднаго да другога (якія-н. весткі, чуткі і пад.). *Ужэ ўсе як у бубян бубняць, што Гандзіна дачка разышлася с сваім.* Кабузі Свісл. (ЗНФ, 95). *Во нарабілі сораму! Уся вёска як у бубен бубніць.* Вараны Бераст. (ЗНФ, 95). *Аб ім усюды, як у бубен бубняць.* Скідзель Гродз. (СНМ, 23).

БУГАЙ. **Як бугай** *бегаць.* Хутка. *Васіль Адосішын як бугай гойсая па аселіцы.* Баброўня Гродз. (СГВ, 613).

БУГАІ. **Зняцца на бугаі**. Знаходзіцца ў стане палавой актыўнасці. Пра кароў. *Карова знялася на бугаі.* Солы Смарг. (СПЗБ -2, 323).

БУДЗЕ. **Будзе нямала** *каму.* Каму-н. дастанецца, хто-н. атрымае пакаранне. *І пачаў нас лавіці, ды злавіў, якрас міне злавіў*

*за варатнік. Кажа: »Я зара паляну, чыя ты. А, брыгадзірава. Усё далажу бацьку, будзя табе німало».* Дружная Ваўк.

**Ніц не будзе.** Не выйдзе, не атрымаецца. *Ніц ні будзя, мой галубок, с свае хаты нікуды ні пайду.* Кузьмічы Гродз. (СНМ, 96).

**Нічога не будзе.** Не выйдзе, не атрымаецца. *Учора на перагляды егдзілі, мусі, нічога ні будзя, ні пойдзя, кажуць, зусім ён бедны.* Пышкі Гродз. (СНМ, 118). *Ты зняш, мусі нічого ні будзя с тваёй прозьбай. Хадзіў я да яго, прасіў, а ён – не, кажа.* Бабіна Гродз.

**Што будзе то і будзе.** *Выкл.* Выказванне гатоўнасці да ўсяго. *– Не, дзеткі, мы нідзе не падзем. Што будзе то і будзе*. Шылавічы Шчуч. (ХБД, 462).

БУДЗЕШ. **Будзеш бедны.** *Паграж.* Атрымаеш пакаранне. *Бацько як дазнаяцца, што ты акно разьбіў, ой будзяш бедны.* Бабіна Гродз. *Я ўсё бачу! Але як паймаю другі раз – будзеш бедны, не пагляджу, што сваяк*. Бібікі Маст. (Стэц.-1, 183).

**Што ты будзеш рабіць.** *Выкл.* Выказванне безвыходнасці. *І здаваласо памагла п, аля ні магу, старая ўжэ. Ну што ты будзяш рабіць.* Бабіна Гродз. *Ну та што ты будзяш рабіць, як трэба было хадзіць на заработкі.* Уселюб Навагр.

БУДЗЬ. **Будзь-будзь**. *Адабр.* 1. Вельмі добры, выдатны. *Адгрукалі хлёў буць-буць, хоць сам бяры засяляйса.* Бабіна Гродз. *О-о, ён у нас хлопяц будзь-будзь*. Задвор'е Зэльв. 2. Вельмі добра, выдатна. *Салюня Маляўкава пяець буць-буць, ніхто ў вёсцы зь ёй ні параўняіцца.* Косцевічы Астр. *Хоць малалетак яшчэ, аля гарэ буць-буць.* Дубінка Гродз. 3. *чаго.* Вельмі многа. *Летась гуркоў у мяне было буць-буць.* Русакова Сл.

**Буць здароў.** 1. Вельмі добры, выдатны. *А там жняя была буць здароў, баба такая нічога і жаць умела.* Буйнічы Шчуч. (ХБД, 473). 2. Вельмі вялікі. *Навалілі вос саломы буць здароў, конь ні мох цянуць, папіхалі ў ручкі.* Бабіна Гродз.

**Будзь спок**. Не турбуйся, не хвалюйся, не перажывай. *Буць спок, я і сам сібе атстаяць дам рады.* Бабіна Гродз. *Буць спок, усё будзя, як ты думаяш.* Варняны Астр. *Буць спок, бесь цібе там абыдуцца.* Агрызкі Маст. *Не перажывай, усё будзя добра, буць спок, знойдзяцца твая карова. Не магла яна адбіцца ад статка.* Дзеравянчыцы Сл. ● *Спок* – усечаная форма слова *спакойны.*

БУЙДУ. **Буйду пусціць.** Распаўсюдзіць плёткі. *Не, гэто ні праўды, што яго патпалілі, нехто буйду пусьціў: гнаў самагонку*

*і загарэлася хата.* Беражна Карэл. (ЗНС, 86). *Буйду пусьцілі, што Маньцік ажаніўса, аля, мусі, ніпроўда. Прыстала нека алкагалічка, папілі разам, а тады пашла.* Новая Руда Гродз.

БУЙНА. **Буйна памешаны** *на чым. Неадабр.* Вельмі захоплены чым-н., адданы чаму-н. *А твой буйна памешаны на гэтым палявані. Ці прыносіць што, ці толькі ногі?* Хадзілоні Шчуч.

БУКЕЦІК. **Як букецік.** *Адабр.* Прыгожая, з густам апранутая. Пра дзяўчыну. *Цяпер ёй шэйсят, а ў моладасьці была як букецік. Прыягджала Марыліна Ала. Аля ш і дзяўчук! Як букецік!* Бершты Шчуч. (ЗНФ, 84). *Дзяўчыну ты выбраў сабе добру, як букецік.* Савічы Шчуч. (ЗНФ, 84).

БУКСЫ. **Гараць буксы**. *Гумар.* Вельмі моцна хочацца піць (пасля выпіўкі, п’янкі, перапою). *Кап соку ці хоць сыроваткі якой. Гараць буксы, ні магу.* Падбершты Шчуч. *Гараць буксы пасьля ўчарашняга. Мусі, трэба схадзіць на піва, заліць.* Гродна Гродз.

БУЛАЧКУ. **Булачку з дзёгцем** *хацець. Іран.* Пакарання. *Я бачу, што ты ні на вуліцу хочаш, а булачку зь дзёхцям.* Алекшыцы Бераст.

БУЛКА. **Не булка з маслам** *каму.* Нялёгкая, сур’ёзная справа. *Працаваць тут нялёгка, гэта табе ні булка з маслам.* Хадзілоні Шчуч.

БУЛКУ. **З’есці гарадскую булку**. *Іран.* Пажыўшы нейкі час у горадзе, падкрэслена імкнуцца да манераў гараджаніна. – *Глядзі, як яна ўжэ на рускум ламаяцца. – Та дзіво, ужэ ш гарацкую булку зьзела, ні то, што ты – дзяроўня.* Старына Маст. *Дэўша як паехаў у Гродна, та ўсе задаецца. Думая, як зьеў гарацкую булку, то ні відно, што зь вёскі.* Лунна Маст. ***Вар***. з’есці (ізесці) гарадскую (гродзенскую) булку.

**З’есці гродзенскую булку**. *Іран.* Пажыўшы нейкі час у горадзе, падкрэслена імкнуцца да манераў гараджаніна. *Зьеў гродзянску булку, та й ні здароваяцца.* Рыдзелі Гродз. *Дзе ўжэ, зьеў гродзянску булку, заганарыўсо.* Гудзевічы Маст. ***Вар***. з’есці (ізесці) гарадскую (гродзенскую) булку.

**Ізесці гарадскую булку**. *Іран.* Пажыўшы нейкі час у горадзе, падкрэслена імкнуцца да манераў гараджаніна. *Ізела гарацкую булку, та ціпер рабіць ні хоча, намалюя пазурэ і па кінах толькі ходзіць.* Бабіна Гродз. ***Вар***. з’есці (ізесці) гарадскую (гродзенскую) булку.

**Можа** *каму* **яшчэ і булку варэннем намазаць.** *Іран.* Адказ таму, хто просіць што-н. (як правіла, празмерна). – *Дай мне да палучкі паўмільёна. – Нічога сабе, можа табе яшчэ і булку варэням намазаць?* Зэльва Зэльв.

БУЛОЎКУ. **Булоўку павесіць.** Замаркоціцца, засумавацць, адчайвацца. *Чаго ж ты насупоніўся, булоўку павесіў?* Новы Двор Шчуч.

БУЛЬБА. **Сабачая бульба.** Труфель – клубнепадобны падземны грыб. *Сабачу бульбу ў нас ні ядуць, хаця яе грумадзэня [многа] расьце.* Бершты Шчуч. (ЗНФ, 63). *Некія на матацыклі прыехалі, та ўсякія грыбы зьбіралі, што пад рукі пападало. І сабачу бульбу ні абміналі.* Пілаўня Шчуч. (ЗНФ, 63).

**Яшчэ бульба не спяклася**. Прайшло нямнога часу (як што-н. адбылося, зрабілася). – *Здароў! Ой, які ты скоры! Яшчэ бульба ні сьпякласа, а ты ўжэ дахат вярнуўса. – Гэта табе скоро, а мне ні натто. Два месяцы атслужыў [на тэрытарыяльных зборах].* Бершты Шчуч. (ЗНФ, 98). *Вот работнічкі! Яшчэ бульба ні сьпяклася, а яны, мусяць, ці ні трэці рас селі на пяракур?* Забалаць Воран. (ЗНФ, 98).

БУЛЬБУ. **Хоць у бульбу хавайся.** *Выкл.* Выказванне неспакою, трывогі, страху. *Ну нарабіў ты дзялоў, а цяпер хоць у бульбу хавайся.* Капці Дзятл.

БУМ. **Ні бум ні лясь** *Неадабр.* Зусім нічога не разумее, не разбіраецца ў чым-н. *Ён жа ў гэтай арыфметыцы ні бум ні лясь.* Залессе Бар. *У гэтум дзелі ён ні бум ні лясь, а робіць від, што разьбіраяцца.* Каменка Шчуч.

БУРА. **Бура здымае** *каго.* Хто-н. злуецца, сварыцца. *І чаго цябе бура здымае? Супакойся ўжо.* Партызанская Гродз.

**Бура зносіць** *каго.* Хто-н. крычыць, сварыцца, лямантуе. *Чаго цябе бура зносіць, да якіх пор ты крычаць будзяш?!* Вострава Зэльв.

**Бура носіць** *каго дзе.* Хто-н. ходзіць, знаходзіцца дзе-н. *А нагла яго ведая, дзе ён прападая цэлы дзень, дзе яго бура носіць.* Гарны Гродз. (СНМ, 91).

**Бура нясе** *каго. Груб.* Хто-н. ідзе, прыходзіць звычайна нечакана, непажадана. *Каго там бура нясе?* Пескі Маст.

**Бура панесла** *каго куды.* Хто-н. пайшоў куды-н. *Глядзі, Лёня пайшла. І куды яе бура панесла?* Вярэйкі Ваўк. *І куды вас бура па-*

*несла! Будуйцеся там, дзе роўнае.* Піронім Сл. *І чаго яго бура туды панесла?* Табала Лід.

**Бура прэ** *каго куды. Неадабр.* 1. Хто-н. ідзе, ходзіць, прыходзіць. *І куды цібе ў такую рань бура прэ?* Правыя Масты Маст. *І куды цябе ўночы бура прэ? Сядзі лепяй у хаці.* Лунна Маст. *А Божа, каго ш там ішчэ бура прэ?* Гудзевічы Маст. 2. Хто-н. ідзе, бяжыць, едзе вельмі хутка. *І чаго цібе бура прэ на гэтум матацыклі?! Глядзі, як так будзяш лятаць, та доўго ні наегдзіш, мазгі павесіш на дзераві.* Бабіна Гродз. *Куды цібе бура прэ? Пабех і пабех, ні дам рады зысціся.* Мілявічы Маст. *Куды цябе бура прэ?* Накрышкі Дзятл. (СГВ, 580). *Куды цябе бура прэ?* Трабы Іўеў.

**Бура яго (яе, іх) ведае (знае)**. *Неадабр.* Невядома. -- *Ну і дзе ты згубіла свой ключ? – А бура яго ведая.* Сурынка Сл. *Бура яе знае, дзе яе носіць, ужо цэлую нядзелю не заходзіла.* Зенявічы Навагр. *Ці ж я, дзеткі, ведаю, дзе яны ходзяць. Як пашлі пасьнедаўшы, так і німа. Бура іх зная, што яны сабе думаюць.* Дрэчаны Свісл. *Бура яго ведае, ці прыедзе ён заўтра.* Варняны Астр. *А бура яе зная, куды яна дзелася.* Поразава Свісл. – *Ці прадалі яны хату? – А бура іх ведая.* Правыя Масты Маст. *Бура яго ведая, ці прыедзя ён заўтра.* Больнікі Астр. *Бура яго ведая, куды ён паехаў, мне нічога ні сказаў.* Пеляса Воран.

**Якая бура прыперла** *каго.* Чаму, з якой мэтай прыйшоў, прыехаў хто-н. куды-н. *І якая яго бура прыперла да нас?* Дарагляны Маст.

БУРАКАМІ. **Буракамі адпалю** *каму. Жарт.* Аддам невядома калі, а можа і ніколі. Жартоўны адказ на пытанне, калі будзе аддадзена пазычанае. – *Кума, пазыч бутылку? – Я то пазычыць магу, а чым ты аддаваць будзяш? – Ну, як ні аддам, то буракамі атпалю!* Стокі Свісл.

БУРБАЛКІ. **Бурбалкі пускаць**. Спаць пасапваючы, пахрапваючы. *Ні ўсьпеў да подушкі дайсьці, і ўжэ бурбалкі пускае.* Складанцы Воран.

БУРКАЛЫ. **Буркалы вырачыць.** *Груб.* Глядзець здзіўлена шырока адкрытымі вачыма. *Што буркалы вырачыў?! Ні бачыў хворага чалавека, то паўзірайся!* Дзешкаўцы Свісл.

БУРКАЎКА. **Як буркаўка**. Вельмі рухавы, увішны, спрытны. *Звітна баба, як буркаўка.* Парэчча Гродз. (СПЗБ-2, 287). *Во, глянь на яе, хутка поле, пашла як буркаўка.* Канюхі Ваўк.

БУРСУ. **Падымаць бурсу.** Крычаць, сварыцца, лаяцца. *Не падымай бурсы, то і спакой будзе.* Плецянічы Зэльв.(Стэц.-2, 251).

БУРСЫ. **Бурсы ў носе завяліся** *ў каго.* Хто-н. злосны, упарты, капрызны. *У майго зноў бурсы ў носе завяліся, сварыцца цэлы дзень.* Вішнеўка Зэльв.

БУРУ. **Пад буру ліхую** *ісці. Неадабр.* Прэч, каб і не было тут. *Як ты мне надаеў тут седзячы! Ідзі ты адгэтуль пад буру ліхую!* Стокі Свісл.

БУРЫ. **Ад чшыкрульскай буры**. З мінулых часоў. *А пярун яго ведае, калі я эта насеня зьбірала, ешчэ ад чшыкрульскай буры асталося.* Бастуны Воран. ● *Чшчыкрульскі* – паланізм *trzykrólski*, утвораны ад назвы рэлігійнага свята *Trzy Króli* (Тры Каралі).

БУСЕЛ. **Бусел рэпу пасеяў (пасее, сеяў)** <*у каго, на чым*>. 1. У каго-н. вельмі брудныя рукі, ногі, вушы, твар і пад. *А рукі – бусел рэпу пасеяў.* Праважа Воран. *Рукі ні мыў мо зь месяц – хоць нажом скрабі, бусял рэпу пасея.* Паўлаўшчына Ваўк. *Ты так даўно ні мыў вушы, пэўно, што там ужэ бусял рэпу пасеяў.* Каменка Бераст. *Што ш ты такі гразны? Бусял рэпу пасеяў.* Голдзішкі Шчуч. *У старога Цішкі пад пазногцямі бусел рэпу пасеяў.* Копаніха Смарг. *Сьвіня пасьвіла, па балоці хадзіла, та на нагах бусял рэпу пасеяў.* Багушоўка Гродз. 2. У каго-н. цыпкі на нагах. *А ў дзяцей за лета бусял рэпу пасеяў.* Пяроўцы Вор. (ЗНФ, 20). *Чаму ш ты ногі ні памыяш? А то бусял рэпу пасея*. Бершты Шчуч. (ЗНФ, 20). *Дзеці доўго бегалі босыя, та ў Віці бусял рэпу пасеяў.* Бабіна Гродз. (ЗНФ, 20). *Бусял рэпу сеяў на тваіх нагах, ці што?* Галынка Зэльв. (СНМЗ, 106).

**Як бусел жаб** *наесціся* і пад. Спехам, на скорую руку. *Нахватаўся як бусял жап, то ціпер жывот баліць.* Ураджайная Навагр.

БУСЛІКАЎ. **Буслікаў пускаць**. Падглядваць. *Што ты бусьлікаў пускаяш у мае карты? Але глядзі, сёроўна ні выйграяш.* Гуды Лід.

БУТАЛЬ. **На буталь сесці.** Уцягнуцца ў п’янства. *Такі маллады, а ўжо на буталь сеў. Кожны дзень напіты ходзіць.* Хадзілоні Шчуч.

БУТЫЛКА. **Як бутылка** *цёмны.* Вельмі (цёмны, недасведчаны). *Цёмны як бутылка.* Астрына Шчуч. (ППФВ, 69).

БУТЫЛКУ. **У бутылку заглядаць**. Выпіваць, напівацца. *Ні рас казала маці, бацьку, табе абы ў бутылку заглядаць.* Ваўчкі Сл. *У бутылку заглядаць.* Рыдзелі Гродз. (СНМ, 193).

БУТЭЛЬКУ. **У бутэльку глядзець.** Выпіваць, напівацца. *Толькі і ведае што ў бутэльку глядзець, а ў хаце нічога не робіць.* Сакалы Воран. *Дзе ш будзя толк у хаці, калі хазяін такі, што толькі у бутэльку глядзець умее.* Заборцы Астр. *У бутэльку глядзіць.* Рыдзелі Гродз. (ППФВ, 32).

БУХАЧОЎ. **Надаваць бухачоў** *каму.* Пабіць, пакараць. *Бывала, ні паслухаяєсься маці, пойдзяш на рэчку на лёт. А прыйдзяш дахаты, як надае бухачоў, то ўжэ й ні хочацца нічого.* Мацвееўцы Ваўк.

БЫВАЛА. **Як ні ў чым не бывала**. Быццам нічога не здарылася. *Ты сёньня вясёлая, як ні ў чым ні бывала.* Малахавічы Гродз.

БЫК. **Як бык** *здаровы.* Вельмі (моцны, дужы, крэпкі). *Здаровы як бык.* Каменка Гродз. *Ходзіць здаровы як бык, а рабіць нічога ні робіць, пэўна таму такі здаровы, што нічога ні робіць.* Моцевічы Лід. *Ды ні хворая Марыся, здарова яна як бык.* Слабодка Астр.

**Як бык ацеліцца** *ажэніцца. Іран.* Невядома калі або ніколі. *Ага, чакай – не дачакаяш, ён тады ажэніцца як бык ацеліцца.* Рутка II Навагр.

**Як бык у вароты** *ўперціся.* Вельмі (заўпарціцца). *Чаго ўжо ўпёрся як бык у варота, ідзі лепей сена складзі.* Нача Воран.

**Як бык у студні**[1] *адчуваць сябе.* Вельмі няёмка, скавана. *У горадзе я ні магу, атчуваю сябе як бык у студні.* Лылойці Смарг. *Яшчэ малады, нясьмелы, атчувае сябе на танцах як бык у студні.* Лылойці Смарг.

**Як бык у студні**[2] *крычаць. Неадабр.* Вельмі моцна. *Крычыць як бык у студні, каб яму заняло!* Апіта Іўеў.

**Як бык у тунэлі** *крычаць***.** *Груб.* Вельмі моцна. *Чаго ты крычыш як бык у тунэлі, хіба ня бачыш, што дзіця сьпіць.* Вольна Бар.

БЫКА **Памяняць быка на індыка**. *Неадабр.* Дзейнічаючы неабдумана, неабачліва, выбраць горшае. *Вышла Гэля замуж за Віцюся, ну та памяняла быка на індыка, ціпер ні рас успомніць Тадзіка.* Капцёўка Гродз. *Ну і памяняў... Быка на індыка.* Мацюкі

Шчуч. – *Ой, наш Васіль другі рас жаніўся. – Ну і як жонка? – Няма нічога добрага, памяняў быка на індыка.* Шылавічы Сл.

**Браць быка за рогі.** Рашуча, энергічна пачынаць з самага галоўнага. *Адразу як прыедзеш на месца, бяры быка за рогі.* Хадзілоні Шчуч.

**З бы́ка спад**. *Неадабр.* Не разумееш таго, што відавочна ўсім. *Ты што з быка спат? Ні знаяш, аткуль усё бярэцца?* Мацюкі Шчуч. ● Запазычанне з польскай мовы – параўн. польск. *czyśty z byka spadł* ‘тс’.

**З быка спаў (-ла, -лі).** *Неадабр.* Не разумееш таго, што відавочна ўсім. – *Казалі, на гэтым полі бульбу будзям садзіць. – Што ты, з быка спаў? Што на гэтым дзярне вырасьця?* Сямашкі Лід. (ЗНФ, 34). *Ты што? З быка споў? Хто гэта так робіць?!* Берашты Шчуч. (ЗНФ, 34). *Хіба ш так можно гаварыць с старэйшым? Вы, дзяўчаці, хіба з быка спалі?* Савічы Шчуч. (ЗНФ, 34). ● Запазычанне з польскай мовы – параўн. польск. *czyśty z byka spadł* ‘тс’.

**Як з быка малака** *карысці, толку* і пад. *Неадабр.* Зусім ніякай (карысці ад каго-, чаго-н.). *Сёння я такі хворы... І на рабоце зь мяне толку як з быка малака.* Пастарыні І Смарг. *Нашто ён табе? Пользы ад яго як з быка малака.* Старына Маст. *Хай ён з намі лепяй ні едзя, ад яго карысьці ўсё роўна як з быка малака.* Студзянец Ваўк.

БЫКІ. **Быкі каціць** *на каго.* Абгаворваць. Табе тут не канешне на міне быкі каціць, ці ў цябе іншай справы не было? Буцілы Лід. (СГВ, 580).

**Узняцца на быкі**. Знаходзіцца ў стане палавой актыўнасці. Пра кароў. *Карова ўзьнялася на быкі, гані яе дахаты, а то ўсё быдла круціць.* Баруны Ашм. ***Вар.*** узняцца (падняцца) на валы (на быкі).

БЫКУ. **Загнаць як быку ў лэб** *што. Неадабр.* Марна, упустую патраціць, правесці (дзень, вечар і пад). *Зьездзіла дзісь у Баранова і нічога не залатвіла, тылько загнала дзень як быку ў лэп.* Бастуны Воран. *І так часу німа, а тут ішчэ дзісейшы вечар загнала як быку ў лэп.* Бастуны Воран.

БЫЛА. **Каб я так здарова быў (была).** *Выкл.* Выказванне запэўнівання ў праўдзівасці сказанага, зробленага. Бярэця, гэта настаяшчы ліповы мёт, ні падробляны, каб я так здарова была. Круглікі Гродз. (СНМ, 93).

БЫЛІНА. **Як быліна** *худы.* Вельмі. *Яна худая яг быліна.* Ганчары Лід. (МСГВ, 65).

БЫЛІНКА. **Як былінка ў полі** *жыць, гібець* і пад. У поўным адзіноцтве, зусім адзін. *Макар мог бы даўно пяраехаць у вёску, а так гібея там на сваім хутары як былінка ў полі.* Забалаць Воран. (ЗНФ, 84). *Німа ў яе ніякаго роду, жыве як былінка ў полі.* Ліпнікі Шчуч. (ЗНФ, 84). *Няма ў яго нікога: ні брата, ні сястры, адзін як былінка ў полі.* Вераб'і Астр. *Як забілі немцы мужыка, засталася я адна як былінка ў полі.* Ваўкавічы Навагр. *Колькі ўжэ гаткоў адна як былінка ў полі.* Правыя Масты Маст.

БЫЛЛЁМ. **Быллём зарасло.** Даўно прайшло і стала забыта. *Усё, што было, быллём зарасло.* Араны Ваўк.

БЫЛО. **Было-было дый завяршылася.** Дайшло да крайнасці, да немагчымасці трываць болей. *Нідоўна мужыка пахавала, а ціпер во хата згарэла. Што ж зробіш, было-было дый завяршылася.* Дварчаны Воран.

**Было-было і (ды) кончылася**. Дайшло да крайнасці, да немагчымасці трываць болей. *Ужо было-было й кончылася. Мне й апхадзіцца трэба, і адзеньня памыць, і сена адно разьбіць, другоя паварочаць, а йшчэ й куранят сказаў пілнаваць – хоць ты разарвіся!* Косцевічы Астр. *Было-было і кончылася! Ровары ўжо з-пад касьцёла крадуць.* Кямелішкі Астр. *Піў да войска, а цяпер на нет расьпіўся. Было-было ды кончылася.* Монтацішкі Смарг.

**Як бы ні было.** У любым выпадку, пры любых абставінах. *Як бы ні было, а картошка свая, лук, памідоры.* Зэльва Зэльв. (ХБД, 454).

БЫЧОК. **Як Дашкавіча (Дашке́йча) бычок** *спрытны* і пад. *Іран.* Зусім не. *Лодка перавярнулася, а Зміцяр плаваць ня ўмея, спрытны, як Дашкавіча бычок, каб не Мікола, то ўтапіўся б у возяры.* Даўгялы Воран. (СГВ, 614). *А Грышка Манін дасужы як Дашкейча бычок – лятаў па вуліцы п'яны і ў лужыну ўваліўся.* Пагародна Воран. *Ну ш і спраўны малочшы Гэнюка, нічога без яго не абыходзіцца, дасьціпны як Дашкейча бычок, што ўзяў у студню ўваліўся.* Бастуны Воран. *Даходны як Дашкейча бычок – тылам, тылам – і ў студню.* Нача Воран.

БЭ. **Ні бэ ні мэ (ні мя).** *Неадабр.* 1. Зусім нічога не ведаць, не разумець. *Адзяваяцца ён то чыста, але спытай што, то ён ні*

*бэ ні мэ.* Якубаўцы Воран. 2. Зусім нічога не гаварыць, не сказаць. *Усе пяюць, размаўляюць, а ён – ні бэ ні мя.* Скідзель Гродз.

**Ні бэ ні мэ (ні мя, ні цэ, ні а) ні кукарэку.** *Неадабр.* 1. <*у чым*>. Зусім нічога не ведаць, не разумець, не разбірацца. *У школу ходзіць, а ў грамаці ні бэ ні мэ ні кукарэку.* Моцевічы Лід. *У гэтым пытанні ён ні бэ ні мэ ні кукарэку.* Гарны Гродз. *Настаўнік у яго пытая, а ён ні бэ ні мэ ні кукарэку.* Сенна Навагр. *Нашла ў каго пытацца, ён жа ні бэ ні мя ні кукарэку.* Дуброва Шчуч. *Разьбіраяцца ён там, ні бэ ні а ні кукарэку.* Мейры Лід. 2. Зусім нічога не гаварыць, не сказаць. *Што не спытаеш, ён ні бэ ні мэ ні кукарэку.* Тарнова Лід. *Ты хоць слова сказаў бы, а то стаіш ні бэ ні мэ ні кукарэку.* Пагранічны Бераст. *Што ты тут крычыш? А як прышоў брыгадзір, то ты ні бэ ні цэ ні кукарэку.* Буцілы Лід. (СГВ, 601). *Ён сёньня маўчыць – ні бэ ні мэ ні кукарэку.* Няверавічы Ваўк. 3. Нічога не варты. *Штосьці ён нейкі нецікавы, проста ні бэ ні мэ ні кукарэку.* Аколіца Лепі Воран.

БЭБАХ. **Набіць бэ́бах**. *Неадабр.* Наесціся. *Усё, набіў бэбах, ціпер можно і спаць лажыцца.* Галавічполе Шчуч. *Аля да й набіў бэбах, аж дыхаць цяжка.* Пеляса Воран. ● *Бэбах* – жывот.

БЭЛЕК. **Бэлек не хватае у галаве** *ў каго. Асудж.* Неразумны, дурнаваты хто-н. *У яго хіба бэлек не хватае ў галаве, калі ён такое сказаў.* Бярозаўка Лід.

**Пару бэлек не хватае** *ў каго. Асудж.* Неразумны, дурнаваты хто-н. *Дзіўлюся, як яе толькі замуш узялі... І ў школі была дурнавата, і ціпер пару бэляк ні хватая.* Першамайск Шчуч. ***Вар.*** адной (пятай, трэцяй) бэлькі (пару бэлек) не хапае (не хватае).

БЭЛЬКІ. **Адной бэлькі не хапае (не хватае)** *у каго. Асудж.* Неразумны, дурнаваты хто-н. *У цябе што, адной бэлькі ні хапая?! Думай, што гаворыш!..* Янаўляны Лід. *Відаць, у цябе адной бэлькі ні хватая, хто ж гэта пад восянь капусту садзя!* Маркуні Астр. ***Вар.*** адной (пятай, трэцяй) бэлькі (пару бэлек) не хапае (не хватае).

**Бэлькі падбіваць**. Гультаяваць, займацца пустымі справамі. *А гэты зноў сёньня ўвесь дзень бэлькі падбіваў, але, бачыш, паесьці прыйшоў дадому.* Лылойці Смарг.

**Пятай бэлькі не хапае** *ў каго. Асудж.* Неразумны, дурнаваты хто-н. *Ну й у гэтага Міхася, мусіць, пятай бэлькі ні хапая.*

Юрацішкі Іўеў. ***Вар.*** адной (пятай, трэцяй) бэлькі (пару бэлек) не хапае (не хватае).

**Трэцяй бэлькі не хватае** *ў каго. Асудж.* Неразумны, дурнаваты хто-н. *У яго што, трэцяй бэлькі ні хватая ці што? Як дурны, то хай лечыцца.* Больцішкі Воран. *У цібе, відаць, трэцяй бэлькі ні хватая, калі думаяш, што твой брат табе назло робіць.* Пеляса Воран. *Трэцяй бэлькі не хапае.* Гудэлі Вор. (МСГВ, 610). *Што ты гаворыш – у цібе што, не хватая трэцяй бэлькі.* Забалаць Воран. ***Вар.*** адной (пятай, трэцяй) бэлькі (пару бэлек) не хапае (не хватае).

БЭЛЯ. **Як бэ́ля**. *Асудж.* 1. *напіўся, набраўся, п'яны* і пад. Моцна (напіўся, п'яны). *І ні стыдна, сярот будняга дня напіўся як бэля.* Дабраўляны Смарг. *Зноў набраўся як бэля, лець ногі валачэ.* Ваўкавічы Навагр. *І сёння набраўся як бэля.* Сядзеневічы Маст. *Выпіў бы чарку, так не – набярэцца як бэля.* Старчаняты Іўеў. *Эх ты, напіўся як бэля.* Новыя Бяляны Гродз. *Напіўся як бэля.* Курчоўцы Воран. *Што добрага, што ты як бэля нап'есься і спакою нікому ні даеш.* Мацвееўцы Ваўк. *Напіліся як бэлі... Хай сабе й сьвята, алі нашто так напівацца.* Косцевічы Астр. *Помню... Што ты помніш?! Набраўся як бэля і ляжаў пат плотам.* Першамайск Шчуч. *Учора гэтак напілася, як бэля. Ледзь ішла.* Танявічы Шчуч. *Схадзі хоць вады прынясі ў хату, а то напіўся як бэля і ляжыш.* Партызанаўка Сл. *Ужо каторы дзень прыходзіць дахат п'яны як бэля.* Талькаўшчына Сл. *П'яны як бэля і яшчэ выступая.* Старыя Паддубы Шчуч. 2. Моцна п'яны. *Як бэля прышоў учора зь вяселя, жонка цэлы дзень лаяла.* Каменка Шчуч. *Трэці дзень як бэля ходзіць посьля палучкі.* Падольцы Астр. *Прышоў дахаты як бэля.* Алекшыцы Бераст. *Ён быў як бэля.* Падольцы Астр. ● Параўн. польск. *jak bela* 'тс'.

БЭНДЗЕ. **Ніц не бэндзе.** Не выйдзе, не атрымаецца. *Ні разу ні карміўшы хоча канём рабіць… Не, брат!.. Ніц ні бэньдзя! Вазьмі пакармі добро, тады дам загон згараць.* Бабіна Гродз.

БЮСТАМ. **Пакруціць бюстам з такім густам.** *Гумар.* Патанцаваць. *Пойдзем на танцулькі, пакруцім бюстам с такім густам.* Хадзілоні Шчуч.

Б'ЮЦЬ. **Б'юць і (ды) плакаць не даюць.** Бязмежна здзекуюцца з каго-н. *І гэта ні так, і тое ні рабі. Навошта мне гэта жыцця па-*

*гана? Як гэта кажуць – б’юць ды плакаць не даюць*. Погіры Дзятл. *Б’юць і плакаць не даюць*. Пяслі Гродз. (ППФВ, 8; МСГВ, 582).

БЯГУ. **Бягу і падаю.** *Іран.* Адмаўленне выконваць чыю-н. просьбу, загад. – *Прынясі мне кнігу. – Ага, зарас, бягу й падаю, шчытай, што ўжэ прынёс. Знашла слушку.* Васілішкі Шчуч.

БЯДА. **Бяда нясе** *куды каго.* Хто-н. куды-н. ідзе, бяжыць. *Карова бяжыць ад бонкаў – куды яе бяда нясе!* Мсцібава Ваўк. (СПЗБ-1, 257).

**Велька бяда** <*каму*>. Не важна, не мае значэння. *Велька бяда, што ты ні паедзяш.* Алекшыцы Бераст. *От, велька мне бяда, што ён вытварая, мне ўсё роўна, хай хоць на галаве стаіць.* Шашкі Воран.

**Не бяда** <*каму*>. Не важна, не мае значэння. *Хай ні пояно, ні дояно, ні давано – яму не бяда.* Міратычы Карэл. (СПЗБ-1, 257). *Схоцьцяса, тоё, што хаты ні маяця – ні бяда, усё гэто нажывецца.* Бабіна Гродз.

БЯДУ. **Маеш бяду.** Не хвалюйся, не перажывай, няма падстаў для хвалявання, перажывання. *От, маяш бяду, ні ўтопіцца, умея плаваць.* Пеляса Воран. ***Вар.*** маеш бяду (бе́ду).

**Як на бяду**. Быццам знарок, недарэчы. *І так часу няма, а тут яшчэ як на бяду сваты прыехалі.* Варняны Астр.

БЯДЫ. **Гэдакай бяды.** Няважна, не мае значэння. *Гэдакай бяды*. Міхалкі Свісл. (ППФВ, 18). ***Вар.*** *т*акой (такое, гэдакай, кой, такеля) бяды (беды).

**Кой бяды**. Няважна, не мае значэння. *Кой бяды, другі рас яшчэ лепшу сукенку купім.* Старына Маст. *Што зрабіла? Кой бяды. Вазьмі унь другую.* Жытомля Гродз. ***Вар.*** такой (такое, гэдакай, кой, такеля) бяды (беды).

**Такеля бяды**. Няважна, не мае значэння. *Такеля бяды, што зламалася сіта, ні бядуй.* Малыя Краглі Дзятл. ***Вар.*** такой (такое, гэдакай, кой, такеля) бяды (беды).

**Такое бяды.** Няважна, не мае значэння. – *Паўлюку заказваў, дык кажа – не пайду, бо дзіця хворае. – Такое бяды, хай не прыходзіць, але аказацца трэба.* Крывічы Зэльв. (Стэц.-2, 249). – *Мама! Зося кажа, што Настуля згубіла тваю хустку. – Такое бяды – новая будзе.* Валькевічы Зэльв. (Стэц.-2, 249). *Такое бяды, што ўбачыць – уцячэш.* Краснае Карэл. ***Вар.*** такой (такое, гэдакай, кой, такеля) бяды (беды).

**Такой бяды**. Няважна, не мае значэння. *Ні прышоў – такой бяды, сьвет на гэтым ні канчаяцца.* Пракопавічы Гродз. *От, такой бяды, каб яшчэ страшнейшай бяды ні было, большаго гора, а па гэтум будзеш жыць.* Свіслач Гродз. – *Ганна, забылася табе хлеба ўзяць. – Такой бяды, зарас дзеці сходзяць.* Кашалёва Навагр. *Такой бяды, я зраблю гэта сама, ты атпачні.* Празнікі Свісл. *Такой бяды, буду жыць нявенчаны, падумаў.* Казловічы Сл. (БД, 210). *Ну і такой бяды, што ні прыехалі яны ўчора, прыедуць другім разам.* Варняны Астр. – *Ні ўмея нават згатовіць паесьці. – Такой бяды, навучыцца.* Алекшыцы Бераст. *Такой бядэ ўжо, што зрабілася, то зрабілася, трэба жыць далей.* Белякоўшчына Гродз. ***Вар.*** такой (такое, гэдакай, кой, такеля) бяды (беды).

БЯЗМЕН. **Як бязмен** *дурны* і пад. *Груб.* Вельмі (неразумны, бесталковы, дурны). *А што ён валачэ ў гэтуй рабоці, дурны як бізмен.* Правыя Масты Маст. ***Вар.*** як бязмен (абязмен).

БЯЗЭННІЦУ. **Як у бязэнніцу** *прапасці.* Зусім. *Як пайшоў, то як у бязэнніцу [бездань] – прапаў недзя.* Грабава Зэльв. (СНМЗ, 22).

БЯЛАВІЧАЎ. **З Бяла́вічаў уцёк**. *Асудж.* Дурны, бесталковы хто-н. *Зразу відно, што зь Бялавіч уцёк. Накіня на сібе чорт зная што і ходзіць давольны.* Лунна Маст. *Ну, што гэта значыць... Ты ж знаяш, што ў Бялавічах е дом такі, дзе дурныя жывуць. Ну й сталі казаць на тóго, хто нешто нідобра, па-дурному робіць, што ён, пэўно, зь Бялавічаў уцёк.* Старына Маст.

БЯЛІЗНУ. **Паласкаць чужую бялізну.** Абгаворваць каго-н. *А яна і рада паласкаць чужую бялізну, а каб на сябе аглянулася, то не.* Жупраны Ашм.

БЯРВЯНО. **Ні бярвяно ні палена.** *Неадабр.* Нікуды не варты, ні да чога не здатны. *Цягаецца як біч па вёсцы, што пра яго скажаш – ні бярвяно ні палена.* Дварчаны Воран.

БЯРОЗЫ. **Пад бярозы** *збірацца.* На той свет, у магілу. *Пад бярозы зьбіраюся, кап толькі Бох доў скарэй, ба так трудна мне.* Мардасы Шчуч.

**Пайсці пад бярозы**. Памерці. *Чалавек, пакуль жыве, нечага дабіваецца, а як пойдзеш пат бярозы, то і нічога ні трэба.* Студзенікі Свісл.

БЯРЭМЯ. **Цэлае бярэмя**. 1. Жартоўны адказ на запытанне «Колькі ўрэмя?» – *Колькі ўрэмя? – Цэло бярэмя. – А колькі часоў?*

– *Колькі на галаве валасоў. – А колькі часу? – А колькі табе трэба? – А ктура гадзіна? – Пэнкла пружына.* Бабіна Гродз. *Врэмя цэла бярэмя.* Кіралі Шчуч. (СПЗБ-1, 332). 2. Вельмі многа (гадоў, часу і пад.). *Жыць добро, але маю лет цэлае бярэмя, але жыць ужэ не ўрэмя.* Талькаўцы Ваўк.

**Н.А. Леўчанка (Гродна)**

## Адлюстраванне рэалій Гродзеншчыны ў анамастычнай фразеалогіі

Фразеалагічныя адзінкі (далей – ФА) з’ўляюцца своеасаблівымі «праваднікамі» ў культурную прастору. У семантыку фразеалагізма «ўплецена» культурная семантыка, або «культурная канатацыя» (В.Н. Тэлія) [15, с. 214], і, такім чынам, фразеалагізмы выконваюць як уласна моўную, так і культурную функцыі. В. М. Тэлія адзначае, што «фразеалагічны склад мовы – гэта люстэрка, у якім лінгвакультурная супольнасць ідэнтыфікуе сваю нацыянальную самасвядомасць» [15, с. 9].

Адлюстроўваючы ў сваёй семантыцы працяглы працэс развіцця культуры народа, фразеалагізмы фіксуюць і перадаюць з пакалення ў пакаленне культурныя ўстаноўкі, эталоны і стэрэатыпы [12, с. 82]. Як слушна заўважае В. А. Маслава, «менавіта ў фразеалогіі лепш за ўсё захоўваюцца звесткі пра народную духоўную культуру – міфы, павер'і, абрады, звычаі» [12, с. 35].

Комплекснаму, усебаковаму вывучэнню і апісанню ўстойлівых моўных адзінак праз адлюстраванне ў іх традыцыйнай народнай культуры прысвечаны навуковыя даследаванні і манаграфіі беларускіх даследчыкаў: У.І. Коваля, І.Я. Лепешава, А.Л. Садоўскай, Т.В. Валодзінай, В.А. Маславай, М.А. Даніловіча і інш.

Прадметам нашага даследавання выступаюць семантычныя, нацыянальна-культурныя і этымалагічныя асаблівасці ўласных імёнаў у складзе ФА, зафіксаваных на Гродзеншчыне. Асноўная мэта работы – выявіць семантычны і экспрэсіўны патэнцыял ФА, у склад якіх уваходзяць уласныя імёны, а таксама прасачыць іх сувязь з гісторыяй, культурай, традыцыямі народа Гродзеншчыны. Адбор матэрыялу праводзіўся шляхам суцэльнай выбаркі са «Слоўніка дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны» М.А. Даніловіча

(СДФГ), а таксама з асабістай картатэкі фразеалагізмаў прафесара М.А. Даніловіча (К).

«Для ўспрымання фразеалагізма як нацыянальна спецыфічнага найбольш значным аказваецца ... пэўнае маркіраванне асобных кампанентаў фразеалагізма» [9, с. 50]. Культурна маркіраванымі ў першую чаргу аказваюцца ФА, у складзе якіх выяўляюцца ўласныя імёны, адтапанімічныя і адантрапанімічныя прыметнікі. Носьбітам нацыянальна-культурнага кампанента ў канататыўным значэнні ФА з'яўляецца онім, які, як адзначае В.А. Хахлова, страчвае функцыю ідэнтыфікацыі і індывідуалізацыі і пераўтвараецца ў спосаб ацэначнай характарыстыкі аб'ектаў, акумулюючы сацыяльна-гістарычную, інтэлектуальную, экспрэсіўна-эмацыянальную інфармацыю нацыянальнага характару [16, с. 246]. Уласныя імёны «рэагуюць» на ўсе гістарычныя і культурныя падзеі, у выніку гэтага «імя … можа быць адназначна суаднесена з культурай і культурна-гістарычнай традыцыяй вядомага народа» [14, с. 57]. ФА з анамастычным кампанентам у лексіка-структурным складзе ўтрымліваюць шырокія звесткі, якія дапамагаюць прасачыць гісторыю канкрэтнага народа, яго светапогляд. «Значэнне аданамастычнай фразеалогіі тым важнейшае, што яна звычайна адлюстроўвае не толькі нацыянальную самабытнасць народа, але і праз каларытныя імёны паведамляе аб своеасаблівых звычаях, гісторыі, міфалогіі», – піша В. М. Макіенка [13, с. 57]. Такім чынам, у фразеалагізмах з анамастычным кампанентам уласнае імя ў большай ступені матывуецца экстралінгвістычнымі (пазамоўнымі) фактарамі і суадносіцца з анамастычнымі назвамі рэальных асоб і з'яў.

Сярод ФА, якія маюць у сваём складзе кампанент-уласнае імя, можна вылучыць:

1. ФА з антрапанімічнымі кампанентамі (традыцыйнымі, папулярнымі мужчынскімі і жаночымі імёнамі, прозвішчамі, мянушкамі; імёнамі гістарычных асоб і палітычных дзеячаў; імёнамі персанажаў літаратурных твораў, а таксама міфонімамі і біблеізмамі-антрапонімамі);

2. ФА з тапанімічнымі кампанентам.

Выбар уласнага імя ў працэсе фарміравання фразеалагізма звязаны са з'явамі экстралінгвістычнага і інтралінгвістычнага характару.

У аснове экстралінгвістычных крыніц ляжаць змены ў рэальным свеце, якія вядуць да фразеалагізацыі спалучэнняў, звя-

заных з актуальнымі ў пэўны гістарычны перыяд з'явамі з розных абласцей чалавечай дзейнасці [1, с. 106]. Экстралінгвістычнай асновай утварэння фразеалагізма з уласным імем (ці прыметнікам ад яго) могуць быць гістарычныя падзеі, з’явы матэрыяльнай і духоўнай культуры, разнастайны практычны вопыт чалавека і г. д. [3, с. 116].

Разгледзім экстралінгвістычныя крыніцы ўтварэння фразеалагізмаў з анамастычным кампанентам, выяўленых у гаворках Гродзеншчыны.

Як паказвае прааналізаваны моўны матэрыял, найбольш шматлікую групу ў анамастычнай фразеалогіі Гродзеншчыны складаюць ФА з кампанентам-антрапонімам, у якіх уласнае імя мае сувязь з канкрэтнай асобай або канкрэтнай сітуацыяй. Этымалагічныя звесткі, атрыманыя ад носьбітаў гаворак пэўнай мясцовасці, дапамагаюць высветліць значэнне фразеалагізма.

Цэнтральнай фігурай у фразеалагізмах выступае чалавек ва ўсіх сваіх разнастайных праявах. Як слушна заўважае Л.А. Івашка, «багатымі і разнастайнымі з'яўляюцца групы ацэначных ФА, звязаных з характарыстыкай чалавека, яго фізічных і псіхічных асаблівасцей, дзеянняў і стану (прычым больш шматлікія фразеалагізмы з пеяратыўным значэннем)» [10, с.89]. Імя ў гэтых ФА з’яўляецца сродкам тыпізацыі, выконвае функцыю азначэнняў-характарыстык, паказвае на пэўныя рысы характару чалавека: балбатлівасць (***як Маня з гаргазу*** ‘залішне, безупынна (гаварыць, разгаварыцца)’ (СДФГ), ***лёгенькій Ёська*** ‘такі чалавек, які языком усё робіць, а не на справе’ (К); няўмельства (***як Манька з батонамі*** ‘нязграбны, няўклюдны, няўмелы хто-н.’ (СДФГ), ***Алёша з батонамі*** ‘някемлівы, няўмелы, разяваты чалавек’ (СДФГ); неразумнасць (***Магдалена галунаўская*** ‘неразумны чалавек’ (СДФГ), ***як Пятроў бот з левай нагі*** ‘вельмі дурны’ (СДФГ), ***як Ёзік Бэляў*** ‘бесталковы’ (К); неахайнасць ***(як у Яся ў торбе*** **дзе** ‘неўпарадкавана, непрыбрана дзе-н.’ (СДФГ), ***як Зоська свінчына сястрычка*** ‘вельмі брудны, запэцканы (пра дзіця)’ (К), ***як Маркізюля Яблонская*** ‘неахайны’ (К), ***як Марыся Сыманцова*** ‘неахайны’ (К). У вёсцы Бабіна Гродзенскага раёна зафіксаваны фразеалагізм ***як Шамрэй*** са значэннем ‘вельмі неахайны’ (К). Фармаванне выразу мае сувязь з неаханым мужчынам, які жыў у суседняй вёсцы [4, с. 220].

Фразеалагічны фонд Гродзеншчыны налічвае шэраг ФА, экстралінгвістычнай асновай утварэння якіх з'яўляецца выпадак, удзельнікам якога была канкрэтная асоба. Прыкладам можа служыць выраз ***як Костусь у сповядніцу*** 'не ў сваю справу (улезці)' (К), зафіксаваны ў наваколлі вёскі Слесары Іўеўскага раёна. Фразеалагізм узнік на аснове факта, калі ў касцёле Костусь заняў ксяндзова месца і вызваліў яго толькі пад прымусам прысутных [4, с. 218].

Трэба адзначыць, што рэканструкцыя значэння многіх антрапонімаў патрабуе спецыяльнага даследавання. Некаторыя фразеалагізмы страцілі сувязь з першапачатковай сітуацыяй і асобай, якая мела дачыненне да гэтай сітуацыі, і носьбіты гаворак расказваюць легенду не пра канкрэтнага, вядомага ім чалавека, а пра «некага», з кім «некалі», «недзе» гэта адбылося [3, с. 116].

Звернем увагу на фразеалагізмы, у структуры якіх маецца тапанімічны кампанент.

Тапонімы з'яўляюцца вельмі інфармацыйным матэрыялам для лінгвакультуралагічнага аналізу, таму што яны цесна звязаны з традыцыйнай духоўнай культурай народу. Як адзначае В.П. Лемцюгова, «у якім бы аспекце ні вывучаліся тапонімы, іх нельга ўявіць у адрыве ад сацыяльна-эканамічнай і палітычнай гісторыі грамадства, ад яго культурных каранёў. На ўсіх этапах лёс тапонімаў вызначаецца формай сацыяльнай арганізацыі, характарам грамадскіх і вытворчых адносінаў, асаблівасцямі сістэмы земляробства і землекарыстання» [11, с. 4–5].

Сярод геаграфічных назваў можна вылучыць вялікую групу тапонімаў-рэалій, звязаных з якімі-небудзь падзеямі ў жыцці людзей Гродзеншчыны.

Наяўнасць кампанента-тапоніма ў складзе ФА можа паказваць на адметнасці населеных пунктаў. Так, у фразеалагізме ***(стары) як Гродна*** 'вельмі (стары хто-н.), вельмі (старое што-н.)' (СДФГ) кампанент *Гродна* асацыіруецца з паняццем 'старажытнасць'. Гродна – старажытны горад, першае пісьмовае ўзгадванне пра які датуецца 1128 годам [7, с. 98].

У складзе фразеалагізма можа ўжывацца ўласнае імя, занатаванае на пэўнай тэрыторыі Гродзенскай вобласці, у прыватнасці назвы гарадоў абласнога і раённага ўзроўняў: ***плюнуць аж да Бераставіцы*** 'сягнуць у думках далёка' (К), ***прыйшлі краўцы з***

***Наваградка*** ‘хто-н. зацяжарыў’ (К), ***кудла з Ваўкавыска*** ‘жанчына з нерасчасанымі, ускудлачанымі валасамі’ (СДФГ), ***як Міхаль ад Нясвіжа*** ‘зводдаль, так, што далёка да міскі, да талеркі’ (К), ***як у Астраўцы*** ‘вельмі хуткі (рух, тэмп)’ (К), ***як у Слоніме танк выстраліць*** ‘невядома калі, а можа і ніколі’ (К), ***на Карэлічы пайшлі*** ‘вельмі заношаныя, карэлыя (шкарпэткі)’ (К).

У фарміраванні сістэмы ўласных геаграфічных назваў Гродзеншчыны прыкметнае месца займае лексіка, звязаная з назвамі вёсак і мястэчкаў: ***Гандзя з Дубна*** ‘нерастаропная, нехлямяжая, разяватая жанчына’ (СДФГ) (*Дубна* – вёска ў Мастоўскім раёне), ***з Мэштавіч уцёк*** ‘дурны, неразумны хто-н.’ (СДФГ) (*Мэштавічы* – назва вёскі ў Зэльвенскім раёне), ***у Савічах большыя родзяцца, як ты ёсць*** ‘малога росту хто-н.’ (К) (*Савічы* – назва вёскі ў Шчучынскім раёне).

Па нашых назіраннях, некаторыя ФА з тапанімічным напаўненнем, зафіксаваныя на Гродзеншчыне, могуць служыць для выражэння характарыстыкі чалавека: напрыклад, разумовых здольнасцяў (***ці дурны ці з Ёдзіч*** ‘дурны, бесталковы хто-н.’ (К), ***у Жойдзішках месца* каму** ‘хто-н. дурны, неразумны’ (К), знешнасці (***Гандзя з Дубна (Дубенска)*** ‘нерастаропная, нехлямяжая, разяватая жанчына’ (СДФГ), ***кудла з Ваўкавыска*** ‘жанчына з нерасчасанымі, ускудлачанымі валасамі’ (СДФГ), ***як Алекшыцкая грэбля*** ‘вельмі высокі хто-н.’ (К).

Асаблівае месца сярод ФА з кампанентам-тапонімам займаюць выразы са значэннем якаснай характарыстыкі асобы, асаблівасцяў паводзін жыхароў, у якіх адным з кампанентаў выступае адтапанімічны прыметнік: ***як Луца бянейска*** ‘вельмі высокага росту хто-н.’ (К) (*бянейска* – ад назвы вёскі Беняконі), ***ляйда кабузяцка (кабызяцка)*** ‘балбатун, той, хто многа і абы-што гаворыць’ (СДФГ) (*кабузяцка* – ад назвы в. Кабузі ў Свіслацкім раёне). Выраз ***варона гервяцкая*** ‘нехлямяжы, няўважлівы чалавек’ (СДФГ) узнік шляхам дапаўнення зыходнага слова-кампанента *варона* кампанентам *гервяцкая* (*Гервяты* – вёска ў Астравецкім раёне). У фразеалагізме ***Фіт канчаніноўскі*** ‘пранырлівы, лоўкі, хітры чалавек’ (К) (*канчаніноўскі* – ад назвы в. Канчаніны ў Астравецкім раёне) прыметнікавы кампанент нясе экспрэсіўную нагрузку. Праобразам яго з’яўляецца хлопец па мянушцы Фіт, які некалі жыў у вёсцы Канчаніны Астравецкага раёна [4, с. 221].

Хлебу заўсёды надавалі вялікае значэнне і ставіліся да яго з вялікай павагай. Спрадвеку хлеб у беларусаў быў у пашане і з’яўляўся знакам дабрабыту і дастатку, таму што хлеб здабываўся цяжкай сялянскай працай. У народзе гавораць: «Хлеб будзе, дык і ўсё будзе». Фразеалагізм ***з’есці (ізесці) гарадскую (гродзенскую) булку*** (К) мае іранічны падтэкст ‘пажыўшы нейкі час у горадзе, падкрэслена імкнуцца да манераў гараджаніна’ і паказвае імкненне «адарвацца ад каранёў», пераехаць жыць з вёскі ў горад. У дадзеным выпадку адбылася варыянтная замена агульнага кампанента-назоўніка *гарадская* адтапанімічным прыметнікам *гродзенская.*

Са смерцю, як завяршальным этапам чалавечага існавання, звязаны многія вераванні і ўяўленні хрысціян-беларусаў. Смерці баяліся, пра яе казалі з асцярогай і бояззю, каб не наклікаць бяду ў сваю сям’ю [8, с. 125]. «Фразеалагічныя адзінкі са значэннем ‘памерці’ ўтрымліваюць самыя старажытныя ўяуленні людзей пра ўзнікненне і згасанне жыцця, язычніцкія і хрысціянскія вераванні, звязаныя з бояззю прамога называння з'яў, якія незразумелыя і выклікаюць прымхлівы жах» [2, с. 37]. Імкненне замяніць словы і выразы, якія абуджаюць непрыемныя ці непажаданыя ўяўленні і асацыяцыі, з’яўляецца прычынай утварэння эўфемічных спалучэнняў [5, с. 64]. Так, на Гродзеншчыне зафіксаваны фразеалагізм ***пайсці пад Азот*** са значэннем ‘памерці’ (К). Узнікненне дадзенага ўстойлівага спалучэння звязваюць з буйнейшымі могілкамі ў Гродне, якія размешчаны недалёка ад вытворчага прадпрыемства «Гродна Азот».

Адносна нешматлікую групу ў фразеалагічным фондзе Гродзеншчыны складаюць устойлівыя спалучэнні, якія не маюць пазамоўнай матывацыі, а ўтвораны на аснове інтралінгвістычных фактараў. Так, выраз ***як у Нёман кануў*** ‘прапаў, знік, не паяўляецца куды-н.’ (СДФГ) узнік па аналогіі з фразеалагізмам ***як (нібы, што) у ваду кануў*** ‘нечакана прапаў, знік’ (ФСБМ). У дадзеным выпадку адбылася варыянтная замена агульнага кампанента-назоўніка ўласным імем з мэтай «ажыўлення ўнутранай формы фразеалагізма» [4, с. 230]. Фразеалагізм ***як рак на Дамянішкаўскай гары свісне*** ‘невядома калі або ніколі’ (К) (*Дамянішкі* – вёска ў Мастоўскім раёне) з’явіўся ў выніку сінанімічнай замены

фразеалагізма ***калі (як) рак <на гары> свісне*** ‘ніколі ці невядома калі (будзе, павінна адбыцца што-н.)’ (ФСБМ).

Звернем увагу на фразеалагізмы, у структуры якіх маюцца штучна ўтвораныя ўласныя імёны – «псеўдаўласныя імёны» [6, с. 13]. Як адзначае М.А. Даніловіч, антрапонімы ў дадзеных выпадках з’яўляюцца «сэнсаўтваральным цэнтрам, на базе якога фармуецца фразеалагічнае значэнне» [4, с. 233]. Штучнае ўласнае імя ствараецца моўным каламбурам і суадносіцца з антрапанімічнай ці тапанімічнай назвай. Так, фразеалагізм ***паехаць у Храпянёва*** ‘спаць’ (К) (*Храпянёва* < *храпці*) ужываецца ў ваколіцах вёскі Храпянёва Навагрудскага раёна.

На каламбурным сутыкненні мясцовай тапанімічнай назвы з блізкім па гучанні словам, якое ўваходзіць у дэфініцыю фразеалагізма, заснаваны выраз ***з Гарачага Лесу*** ‘запальчывы, нястрымны хто-н.’ (СДФГ). Гукавая пераклічка слоў *Гарачы / гарачы* надае фразеалагізму гумарыстычнае адценне, якое ў свядомасці жыхароў вёсак Бабіна, Новая Руда, Хамуты Гродзенскага раёна, Прыдоўгае, Арлова Гара Шчучынскага раёна ўзмацняецца яшчэ і тым, што кампанентная структура фразеалагізма мае непасрэдную сувязь з назвай вёскі ў Шчучынскім раёне *Гарачы Лес* [3, с. 119].

Такім чынам, фразеалагізмы з анамастычным кампанентам (найперш антрапонімам ці тапонімам) адлюстроўваюць і захоўваюць культурную спадчыну, звесткі пра асаблівасці грамадскіх адносін, уклад жыцця, звычаі і вераванні, якія складваліся на працягу многіх стагоддзяў.

### *Умоўныя абазначэнні*

СДФГ – Даніловіч, М.А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч. – Гродна : ГрДУ, 2000. – 267 с.

ФСБМ – Лепешаў, І.Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы : У 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск : БелЭн, 2008. – Т. 1 – 2.

К – Асабістая картатэка прафесара М.А. Даніловіча.

### *Спіс літаратуры*

1. Бабкин, А.М. Русская фразеология, ее развитие и источники / А. М. Бабкин. – Л. : Наука, 1970 . – 263 с.

2. Бояркин, В.Д. Фразеологические единицы со значением «умереть» в русском и чешском языках (на материале ономастической фразеологии) / В.Д. Бояркин, Л.И. Степанова // Исследования по общей и дагестанской фразе-

ологии: Межвузовский тематический сборник научных трудов. – Махачкала, 1989. – С. 60 – 67.
3. Даніловіч, М.А. Фразеалагізмы з уласным імем у гаворках Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. – 1991. – № 1. – С. 115 – 120.
4. Даніловіч, М.А. Беларуская дыялектная фразеалогія і яе лексічная аснова: манаграфія / М.А. Даніловіч. – Гродна : ГрДУ, 2003. – 272 с.
5. Даніловіч, М.А. Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны : дапам. / М.А. Даніловіч. – Гродна: ГрДУ, 2008. – 227 с.
6. Даніловіч, М.А. Фразеалагізмы з псеўдаўласнымі імёнамі ў беларускай дыялектнай мове / М.А. Даніловіч // Шлях да ўзаемнасці = Droga ku wsajemności : матэрыялы XVII Міжнар. навук. канф. (Гродна, 18 – 19 ліст. 2010 г.) / рэдкал. : Г. Хацкевіч, Я. Панькоў, Э. Ярмусік, І. Папоў (гал. рэд.) [і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2011. – С. 13 – 17.
7. Даніловіч, М.А. Этнакультурная семантыка тапонімаў у складзе фразеалагізмаў / М.А.Даніловіч // Славянская фразеология в синхронии и диахронии : сб. науч. ст. Вып. 1. / М-во образования РБ, Гомельский гос. ун-т им. Ф. Скорины; редкол. : В.И. Коваль (отв. ред.) [и др.]. – Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2011. – С. 97 – 100.
8. Дзядова, А.С. Чалавек у люстэрку беларускай фразеалогіі і парэміялогіі: манаграфія / А.С. Дзядова. – Віцебск : ВДУ імя П.М. Машэрава, 2013. – 162 с.
9. Добровольский, Д. О. Национально-культурная специфика во фразеологии / Д. О. Добровольский // Вопросы языкознания. – 1997. – № 6. – С. 37 – 48.
10. Ивашко, Л.А. Очерки русской диалектной фразеологии / Л.А. Ивашко. – Л. : Изд-во Ленингр. ун-та, 1981. – 110 с.
11. Лемцюгова, В.П. Тапонімы распавядаюць : навукова-папулярныя эцюды / В.П. Лемцюгова. – Мінск : Литература и Искусство, 2008. – 416 с.
12. Маслова, В.А. Лингвокультурология: учеб. пособие для студ. высш. учеб. заведений. – М. : Изд. центр «Академия», 2001. – 208 с.
13. Мокиенко, В.М. О собственном имени в составе фразеологии / В. М. Мокиенко // Перспективы развития славянской ономастики : сб. статей / АН СССР, Ин-т языкознания; А. В. Суперанская (отв. ред.) [и др.]. – Москва, 1980. – С. 57 – 67.
14. Суперанская, А.В. Общая теория имени собственного / А.В. Суперанская. – М. : Издательство «Наука», 1973. – 366 с.
15. Телия, В. Н. Русская фразеология. Семантический, прагматический и лингвокультурологический аспекты / В. Н. Телия. – М. : Школа «Языки русской культуры», 1996. – 288 с.
16. Хохлова, В. А. Этноспецифика оценочной семантики английской и украинской топонимической фразеологии / В. А. Хохлова // Вісник Житомирського державного університету імені Івана Франка . – 2014. – Вип. 4. – С. 246 – 251.

**І.С. Лісоўская, Ю.М. Парфіновіч (Гродна)**

## Дзеясловы маўлення пры адлюстраванні навакольнай рэчаіснасці (на матэрыяле гаворак Мастоўшчыны)

*Артыкул з'яўляецца працягам працы, прысвечанай асвятленню функцыянавання дзеясловаў маўлення ў гаворках Мастоўшчыны. У гэтым фрагменце спробнага Слоўніка падаецца матэрыял, распрацаваны на літары Е – З.*

### *Е*

ЕНКНУЦЬ, -ну, -няш, -ня; зак. Аднакр. да енчыць (у 1 знач.). *– Ні ўспела **енкнуць**, як ён зуб мне выдраў.*

ЕНЧЫЦЬ, -чу, -чыш, -чыць; незак. 1. Жаласна крычаць, стагнаць ад болю. *– Нічога яму ні лепяй. **Енчыць** і **енчыць**, нівазможна слухаць. Відно, што ўмрэ.* 2. Крычаць ад жалю (па нябожчыку). *– Ціпер ужэ **енч** ні **енч**, ні падымяш.* 3. Крычаць на каго-н. *– Што ты на гэтых дзяцей усё **енчыш**? З дзецьмі па-харошаму трэба гаварыць.*

ЕСЦІ, ем, ясі, есць; ямо, ясце, ядуць; незак., каго. Даймаць каго-н. сваркамі, папрокамі, назаляць, не даваць спакою. *– Ён міне нігды ні перастаня **есці**. Як ажаніліся, та ўсё тая самая песня.*

ЕСЦІСЯ (дыял.), емся, ясіся, есца; ямося, ясцеся, ядуцца; незак. Перан. Вельмі часта і моцна сварыцца паміж сабой. *– Чым гэдак **есціся**, та лепяй разысціся ды канцэ ў воду. – Там жыцця даўно німа. **Ядуцца** толькі кожды дзень.*

### *Ж*

ЖАБРАВАЦЬ, -рую, -руяш, -руя; незак. Выпрошваць што-н. з яды, з рэчаў; дакучаць просьбамі. *– Усё ўжэ прасвістала. Зараз **жабраваць** пойдзя.*

ЖАЛІЦЦА, -люся, -лісся, -ліцца; незак. 1. Выказваць жальбу, незадаволенасць; бедаваць. *– Баба мне **жалілася**, што яе абяжаюць нашыя, пенсію забіраюць.* 2. Наракаць, скардзіцца на каго-н.; падаваць скаргу. *– Я прысядацялю на яго **жалілася**. Быць ні можа, каб ён ні заступіўся.*

ЖАРТАВАЦЬ, -тую, -туяш, -туя; незак., з кім. Гаварыць што-н. смехам, для пацехі, легкадумна. Насміхацца над кім-н. *– Я яму **жартуючы** сказала, а ён падумаў, што праўда. – Яны з*

*цібе **жартуюць**, а ты думаяш, што праўда. –Німожна, дзеткі, гэдак **жартаваць**. Вам смешна, а яна праражывая.*

## З

ЗАБАЛАБОЛІЦЬ (дыял.) -лю, -ліш, -ліць; -лім, -ліця, -ляць; зак. Пачаць гаварыць вельмі хутка (звычайна ўжываецца ў дачыненні да дзяцей). – *Думала, ён зусім гаварыць ні будзя, а ён раптам як **забалаболіў**. Дзякаваць богу, разумны гэдыкі хлопчык.*

ЗАБАЛАМУЦІЦЬ, -мучу, -муціш, -муціць; зак., каго-што. Задурыць галаву, збіць з толку размовай. – *Наш [брат мужа] зусім мне голаў **забаламуціў**. Прыпрэ яго чорт са сваімі разгаворамі.*

ЗАБЕДАВАЦЬ, -бядую, -бядуяш, -бядуя; зак. Пачаць бедаваць. – *Чаго ты па ёй гэдак нешта **забядаваў**. У яе дзеці есць. Хай яны і бядуюць. – Бачыш, як **забядавала** ціпер, што мужык памёр! А дзе раней была? Чаму было калі ні памгчы яму? Усё сам ды сам. Высах ужэ ў націну быў.*

ЗАВОЙКАЦЬ, -аю, -аяш, -ая; зак. Пачаць вымаўляць «вой», выказваючы пачуццё болю, жалю, здзіўлення, незадавальнення. – *Можа Сліж і даў бы мне воза, але Жэня як **завойкала**, што ўсё нехта бярэ і бярэ, а як самым трэба – та німа на чом ехаць.*

ЗАВОДЗІЦЦА (дыял.), заводжуся, заводзісся; заводзіцца; заводзімся, заводзіцяся, заводзяцца; незак. да завясціся. – *Нашто было **заводзіцца** з ім. Трэба было прамаўчаць.*

ЗАВЯСЦІСЯ (дыял.), - вядуся, -вядзесся, -вядзецца; -вядзёмся, -вядзіцеся, -вядуцца; зак. Пасварыцца з кім-н. – *Марцінча з нашай ні ўспелі памірыцца, як ізноў **завяліся**.*

ЗАГАВАРВАЦЦА, гл. загаворвацца.

ЗАГАВАРВАЦЬ, гл. загаворваць.

ЗАГАВАРЫЦЦА, -варуся, -ворысся, -ворыцца; зак. Захапіўшыся размовай, доўга прагаварыць. – *Нешта мацяры доўга німа. Пэўна, ізноў з бабамі на пагоні **загаварылася**. – **Загаварыліся** мы з табой. Бегчы скарэй вячэру ставіць.*

ЗАГАВАРЫЦЬ, -вару, -ворыш, -ворыць; зак. 1. Пачаць гаварыць. // Усчаць гаворку. – *Сержыха сёня сама са мной **загаварыла.** Відно, каўдун ужэ адышоў. – Я яе ні пазнала б, каб яна сама са мной ні **загаварыла**.* 2. Навучыцца гаварыць, карыстацца вус-

най мовай. – *Нябось, як прышоў час, та быстра* ***загаварыла.*** *Ты ўсё баялася, што ні гаворыць.*

ЗАГАВАРЫЦЬ, - вару, -ворыш, -ворыць; зак., каго-што. 1. Надакучыць, стаміць працяглымі размовамі. – *Гэта Рашпільча міне зусім* ***загаварыла****. Во-о-й! Аж галава забалела!* 2. Уздзейнічаць на што-н. магічнымі словамі, загаворамі. – *Пайду да Лукашчай, каб хлеба* ***загаварыла*** *дзеўчыні. Мусіць, спалохалася, бо натта ніспакойна спіць, усю ноч кідаяцца.*

ЗАГАВОРВАЦЦА, -аюся, -аясся, -аяцца; незак. 1. Незак. Да загаварыцца. 2. Гаварыць што-н. блытана, неўпапад. – *Перад смерцю яна ўжэ пачала* ***загаворвацца****. Потым нек трохі адпусціла. – Яна бывая, што* ***загаворваяцца****, але так нічога дурнога яна ні гаворыць, нябось.*

ЗАГАВОРВАЦЬ, -аю, -аяш, -ая; незак. да загаварыць (1*).* – *Першы, сам [мужык] пачаў* ***загаворваць****. Але відно, што сяраўно злосны, пазіраць на міне ні можа... Божа, мой божа! Да чаго дажылася!?*

ЗАГАВОРВАЦЬ, -аю, -аяш, -ая. Незак. да загаварыць (2*).* – *Німа яе ў хаці. Пайшла да Алены, каб тая цукяр дзеўчыні* ***загаварыла****. – Вуж маю карову ўкусіў, усё вымя спухла. Трэба* ***загаворваць****, бо так само ні пройдзя.*

ЗАГАДАЦЬ, -аю, -аяш, -ая; зак., каму. 1. з інф. Папрасіць. – *Дзеці* ***загадалі*** *сёня вечарам яешню спякчы.* 2. Аддаць загад. – *Нябось! Як прысядацяль* ***загадая****, так той і зробіць, а ні будзя нешта ад сібе пароць!*

ЗАГАДАЦЬ, -аю, -аяш, -ая; зак., што. Прапанаваць загадку або пытанне для разгадкі, адказу (2*). – Вот, брат!* ***Загадаў*** *ты мне загадку! Нат ні ведаю, што табе сказаць.*

ЗАГАДВАЦЬ, -аю, -яш, -ая. Незак. да загадаць (1).

ЗАГАДВАЦЬ, - аю, - аяш, - ая. Незак. да загадаць (2).

ЗАГАЛАСІЦЬ, -лашу, -лосіш, -лосіць; зак. Пачаць галасіць. – *О-о-й! Стэпка як* ***загаласіла*** *– та нівазможна было слухаць. Аж скура шэрхла.*

ЗАГАЛЁКАЦЬ, -аю, -аяш, -ая; зак. Пачаць галёкаць. – *Алена як* ***загалёкая****, на гары стоячы, та ў небі чутно.*

ЗАГАРАЧЫЦЦА, -чуся, -чысся, -чыцца; зак. Ускіпець, разлавацца; выказваць сваю незадаволенасць кім-н., чым-н. – *Чаго*

*ты гэдак **загарачылася**? Мо ён і ні будзя цібе прасіць садзіць? Там свая сіла есць.*

ЗАГІНАЦЬ, -аю, -наяш, -ная; незак. Гаварыць недарэчнае, тое, што не адпавядае рэчаіснасці. – *Што? Я **загінаю**, ці ты **загінаяш**? Думай, што гаворыш! – Ба-а-чыш, куды ты ціпер **загінаяш**? Прэнка ты забыўся, як табе мы памаглі, як табе трудна было!*

ЗАГНУЦЬ, -ну, -неш, -не; зак. Перан. Сказаць што-н. непраўдападобнае, непрымальнае, недарэчнае. – *Ну ты і **загнуў**! Як гэта я пайду і скажу яму? Табе трэба – ты і ідзі. – Гэта ён ўжэ **загнуў**! Сабе цану набівая.*

ЗАГРЫЗАЦЬ, -аю, -аяш, -ая. Незак. да загрызці. – *Маці міне за яго **загрызала**. Ні хацела, каб да міне хадзіў. Яны былі багатшыя за нас. А мы што? Прыехалі, нічога свайго ні было. Нат хату спалілі. Хоць ты жабраваць ідзі ... Потым разжыліся, і хату пабудавалі ...*

ЗАГРЫЗЦІ, -зу, -зеш, -зе. Перан. Замучыць, давесці да цяжкага душэўнага стану папрокамі, прыдзіркамі, нападкамі, сваркай. – ***Загрызла** яна ўжэ гэту дзеўчыну! Дзе ні стрэня – та злая з паследніх слоў.*

ЗАГУКАЦЬ, -аю, - аяш, - ая; зак. Пачаць гукаць. // Падаць гучны голас; гукнуць, клікаць каго-н. – *Як ты **загукала**, та я тады схапілася. Каб ні ты, та пайшла б мая карова нідоеная. – Здалёк убачыў, што ідзе, та ўзяў **загукаў**, каб ні зблудзіла.*

ЗАЕНЧЫЦЬ, -чу, -чыш, -чыць; зак. Пачаць енчыць. // Енкнуць некалькі разоў запар; голасна клікаць каго-н. – *Добра, што ты ўспела **заенчыць**, а так паехаў бы. Асталася б ад усіх.*

ЗАЕСЦІ, -ем, -ясі, -есць; -ямо, -ясце, -ядуць; зак., каго. Надакучыць папрокамі, сваркай. – *Я цібе **заем**, як ты ні спагоніш у яго грошы. – Як ты міне **заеў** – та нех цібе гром ні міне!*

ЗАІКАЦЦА, -юся, -яссе, -яцца; незак. 1. Мець недахоп у вымаўленні – заіканне. – *Нашага Мішы хлопца гэдак спалохалі, што аж **заікацца**, бедн[янк]і, пачаў.* 2. Гаварыць нясмела, запінаючыся. – *Пэўна! Як ты пачнеш **заікацца** – та падумаюць, што нічога ні ведаяш. Нябось, каб ты смела гаварыў, та другоя дзела было б.* 3. Нясмела прасіць аб чым- н. – *Нават і ні **заікайся**, сяраўно ні дам. Змарнуяш, па гразі ходзячы. А мне раз прыдзяцца абуць – і німашака.*

ЗАІКНУЦЦА, -нуся, -несся, -нецца; зак. Зрабіць спробу загаварыць пра што-н., намякнуць на што-н. – *Раз* ***заікнуўся*** *– та гавары! Ніхто цібе за язык ні цягнуў! – Уперад быў* ***заікнуўся*** *шешта, што хоча жаніцца, а ціпер нат ні спамінае. Каб ажаніўся, та добра было б. Ужэ ні цягаўся б хоць. Жонка такі ні дала б.*

ЗАКАЗАЦЬ, -кажу, -кажаш, -кажа; зак., што. 1. Даць заказ на што-н. – *Усе бабы* ***заказалі*** *сабе швэдры на Рудзе ў арцелі. Толькі я адна асталася: тых грошай на ўсё ні стае. Дзецям хочацца больш памагчы.* 2. Даць наказ, апавясціць. – *Іра прыходзіла,* ***заказвала*** *на работу ў гумно ісці. Сена разгружаць німа каму.*

ЗАКАЗВАЦЬ, - аю, -аяш, -ая. Незак. да заказаць. – *Раз ты заказвала, та трэба было* ***заказваць*** *усім, што муку прывязлі, а ні ты толькі гэтым сваім дабрадзеям сказала.*

ЗАКАЙВАЦЦА, -аюся, -аясся, -аяцца. Незак. да закаяцца. – *Сколькі раз* ***закайвалася*** *ні заступацца за яе перад гэтым дурным. Хай самыя разбіраюцца... А сяраўно ні магу.*

ЗАКАМАНДАВАЦЬ, -дую, -дуяш, -дуя; зак. Даць каманду, загадаць што-н. зрабіць, выканаць. – *Сама* ***закамандавала*** *гэдак зрабіць, та чаго ты ціпер хочаш?*

ЗАКАМАНДАВАЦЬ (дыял.), -дую, -дуяш, -дуя; зак. Папрасіць аб чым-н. – *Дзеці* ***закамандавалі*** *сёня на вячэру яешню спякчы. – Мае* ***закамандавалі*** *мне зварыць уху. Хлопяц нат ладна рыбы налавіў.*

ЗАКАЙВАЦЦА, -айаюся, -айваясся, -айваяцца. Незак. да закаяцца. – *Сколькі раз* ***закайвалася*** *з ёй ні гаварыць – а сяраўно ні магу.*

ЗАКАЯЦЦА, -аюся, -аясся, -аяцца; зак. Даць слова, абяцанне не рабіць чаго-н. – *З той пары* ***закаялася*** *я гэдыкія цяжкія кошыкі валачыць. Усю восянь у бо́льніцы пракачалася.*

ЗАКЛІ́КАЦЬ, -клічу, -клічаш, -кліча; зак., каго. Паклікаць, папрасіць прыйсці куды-н. – *Міне Філімоніха ў госці* ***заклікала****. Пагаварыць ёй натта са мной хацелася, даўно ні бачыліся.*

ЗАКЛІКА́ЦЬ, -аю, -аяш, -ая. Незак. да заклікаць. – *Ні* ***заклікала*** *я яго ў госці, бо ні было натта чым гэдыкага пана тут частаваць.*

ЗАКЛІНАЦЬ, - аю, - аяш, - ая; незак., каго. Горача прасіць, маліць каго-н. аб чым-н. – *І прасіла, і* ***заклінала*** *– нічога ні памагло. Як піў – так і п'е.*

ЗАКРАХТАЦЬ, (1,3), -крахчу, -крэхчаш, -крэхча; -крэхчам, -крэхчаця, -крэхчуць; зак. Загаварыць, беспадстаўна скардзячыся на што-н., наракаць. – *Чаго ты ізноў* ***закрахтала****? Мо табе гэдыкія соткі, як мне, далі? Во! Адзін бугор – і то ні плачу.*

ЗАКРЫЧАЦЬ, -чу, -чыш, -чыць; зак. Пачаць крычаць. // Крыкнуць на каго-н., пракрычаць што-н. – *Добра, што ты* ***закрычала****, а та я як ехаў – так і паехаў бы. Сядзелі б тут нівядама сколькі.*

ЗАЛІВАЦЬ, -аю, -аяш, -ая; незак. Неадабр. Махляваць, гаварыць няпраўду. – Што ты тут мне **заліваяш**!? Сьроўна, як я ні ведаю, да каго ты ходзіш, і што ты там робіш.! – *А ўжэ* ***залівала****, што хлопяц натта добра жыв-е-е. Пэ-э-ўна, што лепш за яе. Але, мусяць, там, па ўсёй відзімасці, добрага нічога німа.*

ЗАЛЯМЯНТАВАЦЬ (дыял.), -лямянтую, -лямянтуяш, -лямянтуя; -лямянтуям, -лямянтуяця, -лямянтуюць; зак. Пачаць лямантаваць. // З лямантам прагаварыць. *–Я аж у лесі ўчула, як дзеўчына мая* ***залямянтавала****. Я так і паняла, што недзя ўлезла!*

ЗАМАРМЫТАЦЬ, -мычу, -мычаш, -мыча; зак. Неадабр. Пачаць мармытаць. // Прамармытаць. – *А! Хіба яе поймяш! Я сказаў, што можна дроў тут нідалёка загатовіць, та з некай ішчэ злосцю* ***замармытала****: «Дроў! Дроў! А потым за гэтыя дрова сколькі табе трэба лагодзіць?»*

ЗАПРАСІЦЬ, -прашу, -просіш, -просіць, зак. Папрасіць прыйсці, з’явіцца куды-н. – *Многа каго з вёскі там ні будзя. Мусіць, толькі нашых ды Гаравых* ***запрашалі*** *на тоя вяселя.*

ЗАПРАШАЦЦА, -аяцца; незак. Зал. да запрашаць. – *Некалі мы* ***запрашаліся*** *адзін да аднаго, як ішчэ бацьке жылі і нашыя, і Стэпка з Вінцуком. Ціпер ні мы іх ні клічам, ні яны нас.*

ЗАПРАШАЦЬ, -аю, -аяш, -ая. Незак. да запрасіць. – *І нас* ***запрашалі****, але мы ні пайшлі. Мне нек нідобра было, а бацька адзін ні захацеў ісці.*

ЗАПРОШВАЦЦА, -аяцца; незак. Зал. да запрошваць.

ЗАПРОШВАЦЬ, незак. Да запрасіць. – *Нас ні* ***запрошвалі****, а самыя мы ні палезям.*

ЗАПЯРЭЧЫЦЬ, -чу, -чыш, -чыць; зак. Выказаць нязгоду з кім-, чым-н; запратэставаць. – *Ба-а-чыш, як раптам* ***запярэчыў****, запёр дух! Ні панара-а-вілася, што сказала. Абідна стала. А мне*

*ні абідна, як ты плешчаш на міне абы-што, што сліна да губ прынясе.*

ЗАРАКАЦЦА, -аюся, -аяссся, -аяцца. Незак. да зарачыся. – *Ні **заракайся**! Ні табой – і то ні вытрымлівалі.*

ЗАРАЎЦІ, -раву, -равеш, -раве; -равём, -равіце; зак. Неадабр. Раптам пачаць раўці. – *Чаго ты гэдак **зароў** на гэта дзіця? Нігды ты ні можаш па-чалавечаскі аказацца!*

ЗАРАЧЫСЯ,-ракуся, -рачэсся, -рачэцца; -рачомся, -рачыцеся; зак. Даць зарок, абяцанне ніколі не рабіць чаго-н. – *Во, дзе чалавечак! Як **зарокся** – та навек.*

ЗАСТУПАЦЦА, -аюся, -аяссся, -аяцца. Незак. да заступіцца.

ЗАСТУПІЦЦА, -ступлюся, -ступісся, -ступіцца; зак., за каго. Стаць на абарону каго-н. – *Бацьку ў войску быў! Каму я патрэбна была! Ні было нат каму **заступіцца**, слова закінуць! Колюшка быў учапіўся – та чуць са свету ні зжыў.*

ЗАХАДЗІЦЬ (дыял.), -хаджу, -ходзш, -ходзіць; -ходзім, -ходзіця, -ходзяць; зак. Вельмі эмацыянальа апраўдвацца або даказваць што-н. – *Ой! Ні ўспела аказацца – та як **захадзіў**! Дзясятага ні палічыш!*

ЗАЧАПІЦЬ, -чаплю, -чэпіш, -чэпіць; зак., каго. Пачаць размову, гаворку з кім-н. – *Сержыха сама міне сёня **зачапіла**! Чмыр трохі адлёг.*

ЗАШАПТАЦЦА, -шапчуся, -шэпчасся, -шэпчацца; зак. Пачаць шаптацца. – *Як толькі зґледзялі міне – так і **зашапталіся**. Ніяк яны мае косці ні перамыюць.*

ЗАШАПТАЦЬ, -шапчу, -шэпчаш, -шэпча; зак. Пачаць шаптаць. // Прашаптаць. – *Ты гэдак моцна **зашаптала**, што ўсе ўчулі, што ты сказала.*

ЗАШАПЯЛЯВІЦЬ, -ляўлю, -лявіш, -лявіць; зак. Пачаць шапялявіць. – *Як ён толькі загаварыў, **зашапляявіў** нек – тады я зразу пазнала яго.*

ЗАШУШУКАЦЦА, -аюся, -аяссся, -аяцца; зак. Пачаць шушукацца. – *Чаго вы там **зашушукаліся**? Ні думайця, што я ні чую.*

ЗАШУШУКАЦЬ, -аю, -аяш, -ая; зак. Пачаць шушукаць.

ЗАШЧАБЯТАЦЬ,-бячу, -бечаш, -беча; зак. Пачаць хутка, голасна гаварыць (звычайна пра дзяцей, жанчын). – *Прышла з*

*поля сярадня, упала і заснула. Прачнулася, як Юля **зашчабятала** на надворку з Фанінай дзеўчынай.*

ЗАШЫКАЦЬ, -аю, -аяш, -ая; зак. Пачаць шыкаць. – *Бабы як **зашыкалі**, та тагды трохі ўспакоілася гэта галатва [дзеці].*

ЗАШЫПЕЦЬ, -плю, -піш, -піць; зак. Пачаць шыпець. // Прашыпець. – *Як **зашыпеў** на яе, аж сліна паваліла. Во дзе [злыду́х]! Як яна, бедна, з ім жыве?*

ЗАЯВІЦЬ, -яўлю, -явш, -явіць; аб чым, зак. Паведаміць у якія-н. органы. – *Наш **заявіў** на цібе! Хіба ты ні ведаў?*

ЗБРАХАЦЬ, збрашу, збрэшаш, збрэша; зак., што. Змахляваць. – *Відно, **збраха-а-ў**! Быць гэтага ні можа!*

ЗБРАХНУЦЬ, -ну, -неш, -не; -нём, -ніце; зак і аднакр. Тое, што і збрахаць. – *Трохі **збрахнуў**! З кім ні бывая!*

ЗБЭЙСЦІЦЬ (дыял.), збэйшчу, збэйсціш, збэйсціць; збэйсцім, збэйсціця, збэйсцяць; каго, зак. Груб. Груба аблаяць, зняважыць. – *Гэдак **збэйсціла** яна міне! Ды за што!? За якоя!? Каб я калі хоць што на яе казала!*

ЗВАНІЦЬ, -ю, -іш, -іць; незак. 1. Расказваць ўсім аб якім-н. здарэнні. – *Хваціць табе ўжэ **званіць**. І так усе даўно ўсё ведаюць.* 2. Надаядаць гаворкай, папрокамі, сваркай. – *Ну, ужэ пачне гэты званар **званіць**!*

ЗВАЦЦА, завуся, завесся, завецца; завёмся, завіцеся; незак. Насіць імя; называцца. – *Дзяцька ў яго быў. **Зваўся** Нікіфарам.*

ЗВАЦЬ, -у, -еш; -е; -ём, -іце; незак. 1. Запрашаць падысці ці абазвацца; клікаць. – *Ты міне, мусіць, **звала**? Хустка гэдыка тоўста, што ў ёй нічого ні чутно.* 2. Называць. – *Бог яго ведае, як яго **зваць**! Дальбух ні помню.*

ЗВЯГАВАЦЬ (дыял.), -гую, -гуяш, -гуя; -гуям, -гуяця, -гуюць; незак. Выказваць сваю незадаволенасць чым-н., кім-н.; сварыцца на каго-н. – *Усё **звягуя** і **звягуя**! Нігды ёй дабра німашака! – Чаго яна ўсё на цібе **звягуя**?*

ЗВЯЛІЧАЦЬ (дыял.), -аю, -аяш, -ая; -аяш, -аяця, -аюць; незак. Іран. Называць. – *Нат ні ведаеш, як гэтага пана **звялічаць.***

ЗВЯРНУЦЬ, звярну, зверняш, зверня; зак. Пералажыць, зваліць (віну, правіннасць і пад.) на другога. – *Ні было тога разу, каб яна на цібе ўсё ні **звярнула**, а ты ўсё па ёй плачаш! Сьроўна, як у школі больш німа з кім гаварыць.*

ЗГАВАРЫЦЦА, -варуся, -ворысся, -ворыцца; зак. Дамовіцца аб чым-н. – *Відно, **згаварыліся** ні казаць мне нічога. Як я ні выпытваў, маўчаць як сліны ў рот набраўшы.*

ЗГАВОРВАЦЦА і ЗГАВАРВАЦЦА, -аюся, -аясся, -аяцца. Незак. да згаварыцца.

ЗГАНІЦЬ, -ню, -ніш, -ніць; зак., каго-што. Даць ганьбу каму-, чаму-н., дрэнна адазвацца аб кім-, чым-н. – ***Зганілі** маё пальто бабы, сказалі, што натта маркая.*

ЗГАНЬБАВАЦЬ, зганьбую, зганьбуяш, зганьбуя; зганьбуям, зганьбуяцця; зак. Даць ганьбу каму-н., распусціўшы дрэнныя чуткі. – ***Зганьбавалі** дзеўку людзі, бо бедная была. А яна за яго пайшла б.*

ЗГРЫЗЦІ (дыял.), (6), -зу, -зеш, -зе; -зём, -зіце, -зуць; зак., каго. Перан. Змучыць пастаяннай сваркай, прыдзіркамі, папрокамі. – ***Згрызла** яна гэту бедну нявестку. Тая ўцякла да бацькоў! Гэ-эдыка скнара [свякроў] была, за кожну капейку душу даставала яна ёй.*

ЗДЗЕКВАЦЦА (дыял.), -кваюся, -кваясся, -кваяцца; -кваямся, -кваяцяся, -кваюцца; незак., з каго. Груба, зняважліва высмейваць, абражаць каго-н., кпіць з каго-н. – *Хоць я і ні магу табе даць рады, але **здзеквацца** ты з міне ні будзяш. Больш ты ні будзяш распускаць свой язык.*

ЗДЗЯВАЦЦА (дыял.), -ваюся, -ваясся, -ваяцца; -ваямся, -ваяцяся, -ваюцца. Тое, што і здзеквацца. – *Дзеткі, ні трэба з яе **здзявацца**, ні трэба абяжаць. Яе ўжэ бог абідзяў.*

ЗІКАЦЬ (дыял.), зікаю, зікаяш, зікая; зікаям, зікаяця, зікаюць; незак., на каго. Неадабр. Груба, злосна гаварыць, пакрыкваць на каго-н. – *Твая нявестка, нябось, на цібе гэдак ні **зікая**, як наша. Гаварыць ні даецца нават. Слова ёй ні патрапіш сказаць.*

ЗЛАЯЦЬ, злаю, злаяш, злая; зак., каго. Моцна накрычаць, аблаяць. – ***Злаяў** міне з паследніх слоў. За што, за якоя!?*

ЗМАНУЦЬ, -ну, -неш, -не; -нім, -ніця; зак., каго. Падгаварыць зрабіць што-н., пайсці куды-н. – *Гэта ты, валацуга, яго **змануў** астацца!*

ЗМАНЬВАЦЬ, -аю, -аяш, -ая. Незак. да зманіць. – *Ні трэба было яго **зманьваць**, та ні прыцягнуўся б. Ціпер бегай каля яго паўдня.*

ЗМАРОЗІЦЬ, -рожу, -розіш, -розіць; зак., што. Сказаць што-н. недарэчнае, неразумнае. – *Ты ні можаш абысціся, каб што ні **змарозіць**. Каб хоць раз змоўчаў!*

ЗМАХЛЯВАЦЬ, -люю, -люяш, -люя; зак. Сказаць няпраўду. – *Думаяш, я ні дагадалася, што ты **змахляваў**? Па вачох бачыла, што махлюяш.*

ЗНІВАЖЫЦЬ (дыял.), зніважу, зніважыш, зніважыць; зніважым, зніважыця, зніважаць; зак., каго. Сказаць што-н. абразлівае, крыўднае каму-н. – *Ба-а-чыш! Ахмістрыню гэдыку **зніважылі**, што праўду сказалі.*

ЗНІСЛАВІЦЬ (дыял.), зніслаўлю, зніславіш, зніславіць; зніславім, зніславіця, знiславяць; зак., каго. Распаўсюдзіць благія чуткі аб кім-н.; зганьбіць, ачарніць. – ***Зніславілі** дзеўчыну! А за што, за якоя!? Яна богу душой нівінаватая!*

**С.Г. Ляскевіч (Гродна)**

## «Абы вайны не было», альбо вайна і пасляваеннае жыццё вачыма простых вясковых жанчын

Фразу, вынесеную ў загаловак, апошнім часам вымаўлюць з іроніяй, як правіла асуджаючы нашу беларускую цярплівасць, уседаравальнасць, пэўную апалітычнасць і невысокую планку жыццёвых запатрабаванняў. Аглушаныя ідэямі спажывецкага раю, які штодзённа абяцаюць нам з экранаў тэлебачання рэкламныя ролікі, мы імкнёмся да матэрыяльнага дабрабыту, бо, гаворачы словамі ўсё той жа рэкламы, «мы гэтага вартыя». І гэтая гонка нескончальная, яна запраграмаваная самой сутнасцю эканомікі прыросту і прыбытку. Самае парадаксальнае, што ў гэтай гонцы не можа быць пераможцаў, яна нескончальна, бо за камандай «старт» няма фінішу. І ў нашай штодзённай кругаверці, пагоні за новымі дасягненнямі мы не маем часу быць проста шчаслівымі ад таго, што над намі мірнае неба, што мы спакойна спім у цёплых пасцелях не баючыся, што ў любы момант прыйдзецца бегчы хавацца ад снарадаў, не пакутуючы ад таго, што дзецям няма чаго есці, няма нават і скарыначкі хлеба.

«КАБ ХОЦЬ ДАЎ БОГ ВАЙНЫ НЕ БЫЛО», – настойліва паўтаралі жанчыны сталага веку, жыхаркі вёскі Косцевічы Зэльвенскага раёна, пад час нашых гутарак пра падзеі сямідзесяцігадовай

даўнасці. І гэта вымаўлялася пранікнёна і шчыра: як заклінанне, як малітва, як самая найвялікшая просьба для Бога. Гэтыя жанчыны не ваявалі, іх успаміны большай часткай грунтуюцца на тым, што расказвалі іх бацькі і дзесьці факталагічна не супадаюць, але стала сыходзяцца на непрыняцці вайны, разуменні яе антычалавечай сутнасці. Жаночае сэрца – сэрца маці, а самае галоўнае для маці – яе дзеці, дзеці дзяцей. Вось і турбуюцца Касавец Ганна Васільеўна, Ляскевіч Марыя Іванаўна, Пацалуйка Марыя Іванаўна, Пацалуйка Марыя Пятроўна, каб не толькі ім самім «дажыць» у міры і спакоі на гэтай зямлі, але і каб ніколі не зведалі іх нашчадкі жахаў вайны. Параўноўваючы сваё жыццё і жыццё сваіх продкаў з нашым сённяшнім, разважаюць, што моладзь дарэмна наракае на цяжкасці, баяцца, каб сваімі скаргамі і ныццём (неабгрунтаванымі, на іх думку), мы не наклікалі ізноў гэтай навалы. Яны не параўноўваюць наша жыццё з жыццём у Еўропе – ім ёсць з чым параўноўваць: яны зведалі голад і холад, беднасць і цяжар сялянскай працы.

Так размова з жанчынамі пра вайну перапляталася з іншымі тэмамі: успамінамі пра цяжкасці пасляваеннага жыцця, пра нейкія дзіцячыя крыўды, расказамі пра поспехі дзяцей і ўнукаў. Таму для нашага артыкула прыйшлося выразаць частку матэрыяла. У адрозненне ад жанчын, мужчыны строга трымаліся зададзенай тэмы, развівалі яе ў накірунку апісання ваенных дзеянняў і не чапалі іншыя аспекты. Мужчыны больш крытычна ставіліся да сваіх аповядаў: раілі, што запісаць, а што трэба толькі паслухаць. Аб’ядноўвала іх тое, што ўсе вельмі актыўна ўключаліся ў размову, за выключэннем Пацалуйка Марыі Іванаўны (1940 г.н.), якая і мае рэпутацыю негаваркой жанчыны. Нашы неаднаразовыя спробы яе разгаварыць і напрамую, і ўскосна, і на іншыя тэмы былі беспаспяховымі.

«Ні п*о*мню, як*і*я был*і* ян*ы*, т*ы*я н*е*мцы. Ніхт*о* ні пыт*а*ўсё, і ніхт*о* ні раск*а*зваў. А шт*о* й раск*а*звалі, та я ні п*о*мню. *Ха*й хто друг*і* раск*а*жа, а я ні ўм*е*ю. *А*лі нід*о*бро б*у*дзя, як вайн*а* б*у*дзя, хто гэто х*о*ча» – вось, бадай, і ўсё, што мы пачулі ад гэтай жанчыны. Заўвага: тут і далей націскныя склады ў аўтэнтычных тэкстах вылучаныя курсівам.

Затое Ляскевіч Марыя Іванаўна славіцца на ўсю вёску сваёю гаварлівасцю, сама пачувае сябе таленавітым апавядальнікам,

здольным вычарпальна ўсё расказаць, так што і «не трэба будзе ў другіх распытваць, бо лепш табе ніхто не раскажа».

Успаміны М.І. Ляскевіч (1937 г.н.).

Я была малая тады. Гэто я што мама расказвала мне скажу. Я ўсё помню: як у кнішцы чытаю, і табе раскажу.

Мама расказвала, як началася вайна, мы пашлі ў лес, дзе там равы такія, кап капаць ў тых равох акопы і хавацца. Там роў гэдыкі высокі, і зь яго трунно зьлезьці ўніс, і тады ў том рові і капалі ямы. І хаваліся самыя там і ат снарадаў, і ат усяго. І мы пашлі, і ўсе з нашае дзярэўні. Мы далёко, с футароў, ішлі аш сюды хавацца ў лес. І тут хаваліся. Міне бацько нёс, натто ш мой бацько міне шкадаваў, бо я была маленька.

У мамы было яшчэ дзьве дочкі большых. Яны з мамаю ні былі - пашлі зь дзевачкамі капаць, і мушчыны памагалі, алі яны большыя, та і самыя капалі. Выкапалі там акоп, то Зіні нашуй прышлосё навярху быць Усе пад ніс старалiся, алі ўсе ні ўмясьціліся. І Жэня, хоць і старэйша за Зіню, і Ганчаровыя, і другія ўпалі на ніс, як хто улес. Мо, дзесяць дзяўчат было, анна на анной. Думалі, снарат упадзя, та хто нанізу - выжывя. А што ты думаяш? Білі гэта снарады, рваліся, страшно было. А Зіня, бедна, у голас плакала, думала, што яна наверсі, та заб'юць яе: які там розум, ёй удавалася, яг зьверху, та заб'юць, а тыя жывыя астануцца.

Мамі душа баліць, як там тыя дочкі. Хацела бехчы глядзець, а бацько крычыць: «Куды ты пабяжыш, кап саму забіло, ды гэто дзіця пакіняш». У нашуй ямі тры сям'і сядзело, тры мушчыны капалі ямы. Ні называліся ямы, ды акопы. Там была велька яма, як зямлянка, бо тры сям'і мясьціліся: наша, яшчэ дзьве сям'йі Ганчароў. Гэты Лютак, што ў Міжэрыч, з намі сядзеў, яшчэ дзяцей было: Сабіня-дзеўчына, Стасік і Тадзік. І ў нас: я была, і тато, і мама. А старэйшыя мае сёстры пашлі ў другую яму, бо ў гэту ўжэ ні ўлазілі ўсе, ім тожа мушчыны там капаць памагалі. Два дні праседзялі, і дзьве ночы, а наранку перасталі снарады лётаць, і мы сабраліся ўжэ ісьці дамой.

Прышлі дадому, а ў дом наш упаў снарат. Прабіло паталок, асколкі па хаці ляжалі. І мама плакала, што «дзе мы ўжэ будзям». Бацько кажа: «Ні плач, усё пастроім, абы здароўе». Тато ўспакоіў маму, нек пераначавалі, усталі гатовіць кушаць, а тут - тры немцы.

Присталі да тата, што «ў цібе затраўляна вада ў калодзісі». Паставілі тата на растрэл. А мама за нас усіх (і міне схапіла на

рукі, і Жэню, і Зіню) і прасіла, на каленях кленчыла, цалавала немцам ногі, і мы. А тато расьцяраўсё, очэнь белы зрабіўсё, як гэты халадзільнік, і ні зрушыў. Нек упрасілі. Алі за тоё і мало пажыў на сьвецi: спалохаўсё, патпала балезьнь, і ў сорак восім гадоў ён памёр. Мама ўсё пасылала яго да бапкаў, пад грудзьмі балело яму. Нешто, казаў, пад грудзьмі смокча, ныя.

От якая жызьня была ў нас.

У ямах хавалі яду. А ўдома, што засталосё, тоё й елі. А што - як немцы ў хаці начавалі? У нас велька печ была – рас цэла печ тых салдат на пастоі начавала. Што хочуць, тоё і біруць тваё. Ложышся спаць – і бойся: што будзя. І парцізаны могуць прысьці – давай яду. І немцы рано пыталі, ці ні было парцізан. Тыя немцы як прышлі, та ўсё шляліся: шукалі беларускіх салдат.

Алі кап забівалі каго яны – гэтага ні ведаю. Хадзілі, продалі, каб за грошы. А дзе тыя грошы?

Я яшчэ помню, чысто парашок, - сахар некі давалі: як валідол пад язык выглядаў. Так за грошы, а ўжэ як бачаць, што малоё, та, я помню, мне далі так. А мама кажа: «Мо, ні еш, мо атрава». А цукру ні было, мама буракі сахарныя садзіла, і зь сярэдзіны варыла чай. Намыя, паскрабе, калянкамі нарэжа – і ў ваду зразу, і пілі. А хочаш – забялі, гэдак, як кофіё.

Калоць сьвіней нільзя было, шкуру здавалі. Як хочаш закалоць, калолі ўночы, напальвалі лемяшы жалезныя і смалілі ноччу, каб ні бачылі. У муку паршуку пыку ўсаджвалі, кап ні піснуў.

А яшчэ мама расказвала, што ў гумне нашум некалькі дзён салдаты нашыя былі. Тады хлеп свой пяклі, мама насіла ім есьці. А адзін раняны ў шчоку быў, мама ложачкаю яго карміла, а ён шчоку о гэдык дзяржаў (паказвае - заўвага наша), кап ні праліваласё. Алі што ты! Ведамо, рана. Усё баяліся, кап немцы ні нашлі, ні забралі іх. Алі потым машына прышла іх, і недзя ўжэ павязьлі. Та ён так мамі дзякаваў: і канфет, і часы свае аставіў.

А то яшчэ ўспомніла. Як мамі афіцэрскія жоны аддавалі дочкі: адна адну прасіла падзяржаць, а другая - дзьве. Патхадзяшчыя, мама казала, ужэ дзяўчаткі. І адзежу, казалі, усю аставім (і дзецко, і узросло), і ўсё. А мама кажа: «Як я дам рады? У мяне ш сваіх троё». А яны: «Мы прыедзям посьля, забярэм.» Алі мама ні ўзяла, і пашлі тыя, бедныя. А скуль яны йішлі і куды – ні ведаю, ад немца ўцякалі.

А посьля вайн*ы* цётка горнянска ў ж*ы*ці нашл*а* дз*е*вачку. А ў я*е* был*о* два сынк*і*: Жэнік і Ж*о*ржык. Ян*а* к*а*жа: «Сын*о*чкі, дав*а*йця пак*і*ням, б*у*дзя вам сястр*ы*чка.» І пак*і*нула. Назв*а*ла Г*а*лячка. І гадав*а*ла. І дз*е*сяць клас т*а*я дз*е*ўчынка к*о*нчыла, і н*е*дзе паступ*і*ла, і ў Маскв*е* в*ы*шла з*а*муш. Заўсёды цётку м*а*маю назыв*а*ла, і прыяждж*а*ла нав*е*дваць. У сам*о*й дв*о*ё дзяўч*а*так был*о*. К*а*жуць, што п*о*сьля і м*а*ці т*а*я, што к*і*нула, аб'яв*і*лася, *а*лі ян*а* прызнав*а*ла т*о*лькі тую, што в*ы*гадавала і в*ы*вучыла. А як на пахар*о*ны пры*е*хала, та два раз*ы* ск*о*ру вызыв*а*лі, д*у*малі, ні аткач*а*юць, так ян*а* па цёццы ўбів*а*лася. М*о*жа, й яшчэ т*а*я жэншчына дзе ў Маскв*е* ж*ы*ва.

От бач, як я таб*е* ўсё расказ*а*ла, цэлу кн*і*шку нап*і*шаш. У нас тут лепш ніхт*о* ні раск*а*жа, бо я д*о*бро ўсё п*о*мню, што мая м*а*ма мне раск*а*звала, як у кнішцы чыт*а*ю. Х*і*ба ў Ст*а*ха пайдз*і* што спытайся, бо ён старэйшы, больш што раск*а*жа.

Марыя Пятроўна Папялуха прыйшла ў Косцевічы замуж з іншай вёскі Зэльвенскага раёна. Яна цярпліва слухала і не перапыняла нашу размову з гаспадаром, сказаўшы: «Хай ён першы, а я посьля вам раскажу». І па ўсім было відаць, што яна мае ў запасе гісторыю, якая безумоўна нас зацікавіць.

Успаміны М.П. Папялухі (1940 г.н.).

Я ні атс*ю*ль р*о*дам, са Стар*о*го Сял*а*. *А*лі ўсё раскаж*у*, бо п*о*мню, як мая м*а*ма раск*а*звала, як н*е*мцы ў нас стая*лі*. А вёска хар*о*ша был*а*, дам*ы*, дар*о*га брукав*а*на.

Гэто як ням*е*цкі паджыг*а*цяль нав*о*дзіў на парцыз*а*наў.

Тад*ы* был*о* гэдык: ун*о*чы парціз*а*ны, а днём немцы. Ну, то той нарочна, як зарэзаў сва*е* кар*о*вы, то к*у*пкам чэрпаў і к*а*паў тую кроў аш у лес, што, мол, б*у*тто парціз*а*ны й забр*а*лі кар*о*ву. Гэто ён хацеў на парціз*а*наў усяляк нав*е*сьці.

Пры*е*халі н*е*мцы, сагн*а*лі ўсю вёску ў адн*о* м*е*сцо, паст*а*вілі пулямёты: «Прызнав*а*йцяся, гаварэця, хто зьв*я*заны с парціз*а*намі, дзе ян*ы*».

А с*о*лтус усё дак*а*зваў, перав*о*дзіў-перав*о*дзіў, аш рваў на саб*е* валас*ы*, што гэто ніпр*а*ўда, ніхт*о* з н*а*шых нівінав*а*ты. Бо пераб*і*лі п ус*ю* вёску. І на т*о*е ўсё і йішл*о*. Ужэ н*е*мцы пашл*і* па дам*а*х і ж*о*нак зь дз*е*цьмі зганялі. Прыш*о*ў н*е*мяц да м*а*мы і к*а*жа, кап ян*а* бр*а*ла дз*е*так і йішл*а* туд*ы*. А м*а*ма ўм*е*ла па-ням*е*цкі гавар*ы*ць, бо ішчэ за п*е*ршымі н*е*мцамі дая*р*каю был*а*. Я мал*а*я был*а*, м*а*ма мін*е* на рук*а*х

нясл*а*, а два брат*ы* йішл*і* сам*ы*я. І дапр*а*швалі пра т*ы*я сьляд*ы* й кроў нак*а*пану да л*е*су. А ніхт*о* ніч*о*го ні в*е*дая, бо той гэто сам зрабі*ў*.

А *я*к стаў, *я*к стаў гэты с*о*лтус б*е*дны дак*а*званць, прас*і*цца-мал*і*цца. А таш апраўд*а*ў ус*ю* вёску!

А тад*ы* ў л*е*сі дазнал*і*ся, што гэдык той в*ы*рабіў (бо сьвязн*ы*я б*ы*лі)

Та парціз*а*ны пр*ы*шлі, та ўс*ю* сям'*ю* спал*і*лі. І ўсе яго ні жал*е*лі, наабар*о*т, дав*о*льныя был*і*. Бо нашт*о* ён так в*ы*рабіў.

А як бамб*і*лі, та ўся вёска хав*а*лася ў хл*е*ві мурав*а*нум, з кірпіч*а*. А м*а*ма здурэла ды пабегла на футар зь дз*е*цьмі. Там чалав*е*к в*ы*капаў саб*е* *я*му. Той чалав*е*к у той *я*мі, і м*а*ма – у т*у*ю *я*му. А самалёты н*і*ско, здэцца, упад*у*ць у т*у*ю *я*му. А п*о*тым н*е*мцы шлі па ф*у*тары. Ід*у*ць па дар*о*зі ч*ы*стыя, хар*о*шыя, в*ы*мытыя. Малак*о* пыт*а*лі, *я*ец. Даў **хазяйін** малак*а*. А м*а*ма пыт*а*я ў н*е*мца, дзе ёй дз*е*ці дзець, як страляюць. Н*е*мяц пак*а*заў на раз*о*рку, кап палаж*ы*ла па адн*о*м і к*а*жа-пак*а*звая: «Як п*у*ля, то ніц кап*у*т, а як снар*а*т – *а*ліс цуз*а*мін». М*а*ма к*а*жа: «Не, мне трэба р*а*зам зь дз*е*цьмі». А той махн*у*ў рук*о*й, што так ні ўрат*у*ешся.

От што, я п*о*мню, пра вайн*у* раск*а*звалі.

Ганна Васільеўна Касавец расказала нам і пра сябе, і пра свайго гаспадара, які не надта добра сябе адчувае. Прапанаваная намі тэма абудзіла не самыя прыемныя ўспаміны з маленства, напомніла пра цяжкае пасляваеннае жыццё, пра нерэалізаваную мару стаць настаўніцай пачатковых класаў. Колькі болю і шкадавання ў яе аповядзе, колькі суму! Але крыўды няма. Ёсць трывога за маладое пакаленне, ёсць развагі над праблемамі сённяшнімі. І ёсць упэўненасць, што галоўнае – каб не было вайны, каб людзі і ў мірны час заставаліся людзьмі.

Успаміны А.В. Касавец (1939 г.н.).

Я таб*е* за хазяіна сам*а* раскаж*у*. Зав*у*ць яг*о* Часл*а*ў Валяр'й*я*навіч Касав*е*ц. Яг*о* б*а*цька ваяв*а*ў на фронці, яг*о* прызв*а*лі ***па павестцы***. Та м*а*ло й пажы*ў*, праз небальш*о*ё врэмя пасьл*я* вайн*ы* й памёр. Майм*у* хазяйіну дз*е*сяць гад*о*ў был*о*, а ён с саракав*о*га г*о*да, а м*е*ньшуй іхнуй – тры, як б*а*цько памёр. Што ты! – без здар*о*ўя. Ям*у* тут ц*я*шко даст*а*лосё. Усё на саб*е* цягн*у*ць. А пра вайн*у*, мо дзе ж*о*нцы й раск*а*зваў, ды што я в*е*даю. Калі да таго было. Я й у сва*і*х бацьк*о*ў - і то не расп*ы*твала. І хав*а*ліся вайн*о*ю яны, як і ўсе к*о*сьцяўскія, у Ж*ы*рале, за Шыш*о*м.

А я малая яшчэ ў вайну была, ніцэлых два гады. От я ўсяго анно помню, як беглі хавацца. Мама ўпала каля хлява, пацяры гаворыць, і я малая «пыш-пыш-пыш», як бутто малілася, думала. Алі я тады яшчэ пацяраў ні знала, так паўтарала. І думала, малюсё. А страху ніякого ні помню, я ш у трыццаць дзявятым нарадзілася, у аўгусьці. А ўжэ ў канцы вайны я натто плакала, баялася, як снарады лёталі. А як далі агнястрэльнымі, то яны ў нашу хату папалі. А тато натто абгарэў, як гумно гарэло, як сьвіньню выкідаў с парасятамі. Та мы пака зіма находзіла, то ў гумне сядзелі. А потым сусет кажа: «Бяры дзіця, ідзі ў хату, бо сьнех». На патсуседзях жылі, а бацькаў брат сь сям'ёю у Разэлі жылі. Потым бацькі на том самум месцы адбудаваліся, і мы во ў гэтуй хаці жывем.

А парцізаншчыны ў нас ні было, бо нейк мімаходам ішоў фронт і пайшоў. Нешто казалі бацькі, уласаўцы ехалі некія, алі яны па-рускі гаварылі. А брат мой, с першай бацькавай жонкі, тады ў Пінску жыў, і пры немцах у зямельным аддзелі рабіў. То ён у парцізаны перашоў, та ўзналі, прышлі – і прапаў, забралі немцы - і па сёння німа. Та жонка пасьля вайны с сынам прыяжджала сюды. Мо, думала, дзе ён у нас, алі пабачыла, што німа, і паехала. А ў нас лясоў ні было, та ні было парцізанаў. У Хоўставе, у Бярэжак, дзе лясы, яны былі.

Я за сваіх сясьцёр намного малотша, анна ўжэ пашла замуш, як я радзілася. А другой было сямнаццаць лет. Алі яна мусіла ісьці замуш, як бы і ні па любві, бо хто выйдзя замуш, то таго немцы ўжэ на работы да сібе ў Германію ні бралі. Алі жылі яны патом харашо. Вот так ад тых работ спаслася сястра.

А сьвіней, праўда, ні разрашалі немцы калоць. Калі ноччу, як хто сумея. А як узнаюць, та ўсю сьвіню забяруць. Алі нашто табе тыя фашысты? А ў наш час чума рабіла што? Яшчэ лепшыя фашысты! Ун сваяк казаў, енк, піск, а яны ўсё грузілі, і ніпачом, што людзі крычаць. А ціпер людзі ўжэ папрывыкалі, і дзяржаць нічого ні хочуць.

Яшчэ ў вайну да нас барыня заходзіла. Белянчыха звалі, фамілія Белянкова. Мая мама, як былі паны, та ў йіх прыслужвала, каравы даіла. Тут жа ў нас Польшча была, тут быў універсіцет, у школі той, сёстры мае хадзілі вучыліся. Яшчэ як я радзілася, то Польшча была, бо на дажынках у сястры спыталі: «Цо пан Бог дал?» Мама кажа: «Захоцьце, барыня» (гэто як тая наведалася). А

ян*а* ёй: «Я ўжэ ні б*а*рыня, я ўжэ жабр*а*чка.» А куд*ы* ян*а* пашл*а* – нівяд*о*ма.

А як л*ю*дзі ран*е*й ц*я*шко жыл*і*! Пась*ля* вайн*ы* пак*а* пабудав*а*ўсё т*а*ткаў брат на Л*е*шанцы сваёй, то ян*ы* ў н*а*шуй х*а*ці жыл*і* чатырн*а*ццаць чалав*е*к: у адна*го* бр*а*та чацьвёра дзяц*е*й, і ў друг*о*га чацьвёра, і сам*ыя*, і бацьк*і*. Так трын*а*ццаць лет жыл*і*, па кал*е*йцы вар*ы*лі, па кал*е*йцы пал*і*лі, - і ні свар*ы*ліся н*і*гды, ні б*і*ліся. А ці гэдык *е*лі, як ціп*е*р?! Хто таг*о* катл*е*та б*а*чыў, падв*е*сяць т*о*ё с*а*ло ж*о*ўто пат стрэхаю, і *е*лі, і см*а*шно был*о*. Што с*а*мі *е*лі, т*о*ё і дзіц*я* *е*ло, ні выдурн*я*ліся.

А ты ёй раск*а*звала, як у калх*о*с уступ*а*лі? От што трэбуло расказ*а*ць. Л*ю*дзі хац*е*лі што пас*е*ялі - жжаць, а ян*ы* – у калх*о*с забр*а*ць. Як тут ус*е* б*а*бы бунтав*а*лі. Ёзю аш у міл*і*цыі забр*а*лі на н*е*калькі с*у*так. Брыгадз*і*ра з маш*ы*ны сьцяг*а*лі. Але адваяв*а*лі: с*а*мыя паж*а*лі. У пійс*я*т п*е*ршум н*а*ша вёска ў калх*о*с уступ*а*ла. А ў пійс*я*т трэцюм пачал*а*ся калх*о*зная стр*о*йка. А ў нас гумн*о* адбір*а*лі, на калх*о*зно збожжасх*о*вішча. У каг*о* барахл*о*, та ні бр*а*лі. Вун у сус*е*дзяў і ішчэ н*е*што там ста*і*ць. А ў нас н*о*во, т*а*то с хар*о*шаго дз*е*рава атстр*о*іў, як тад*ы* снар*а*т пап*а*ў. Ян*ы* - браць, а т*а*то - ні браць! Адзін ужэ нав*е*рх зал*е*с, а т*а*то: «Злась, ат*о* зарубаю!». А карал*і*нцаў мн*о*го пры*е*хало забір*а*ць, алі як уб*а*чылі тут так*о*ё, разьвярн*у*ліся й па*е*халі». *А*лі ўсё р*о*ўна прышл*о*ся т*о*ё гумн*о* С*о*балю на х*а*ту адд*а*ць, так прыказ*а*лі, бо С*о*баль будав*а*ўсё. Шкадав*а*ў н*а*тто б*а*цько гумн*а*, *а*лі ўжэ лепш так – зяцю і даццэ на буд*о*ўлю.

П*о*тым прыв*ы*клі к так*о*й ж*ы*зьні. Як жыл*і* за п*а*лачкі, та на адз*і*н трудадз*е*нь прых*о*дзіласё дзьв*е*сьці грам зб*о*жжа. Як ст*а*лі гр*о*шмі плац*і*ць, тад*ы* пашл*о* ўжэ ляхчэй. А як я ў шк*о*лу хадз*і*ла? Тк*а*ны капт*а*н, с*у*мка салд*а*цка зялёна с палатн*а*.

Я за ст*а*ршу сяст*ру* на дв*а*ццаць лет мал*о*тша. Мін*е* ніхт*о* ні хац*е*ў, я нілюб*і*мо дзіц*я*, а бацьк*і* пры мне дажыл*і*. М*а*ма ў підзіс*я*т лет мян*е* радз*і*ла, ян*а* д*у*мала, што ўжэ з в*о*зраста в*ы*шла, а тут я. Усё раб*і*ла: і м*ы*ло *е*ла, і з гар*ы* пр*ы*гала, а я ўсё р*о*ўна радз*і*лася. *А*лі як*а*я я раз*о*мна был*а*: нів*о*дна сястр*а* так ні вуч*ы*лася. Я сем кл*а*саў на адн*ы* пяцёркі ск*о*нчыла. П*о*тым трэба был*о* ў Міжэрычы ісьц*і* вуч*ы*цца, а там шк*о*ла пл*а*тна, та м*а*ма ні пуск*а*ла, а т*а*то, ён у мін*е* на стр*о*йцы раб*і*ў, дагавар*ы*ўсё с тым дырэктарам, каб біз гр*о*шай. Хай, к*а*жа, кал*і* ян*а* пр*а*ўда раз*о*мна такая, прых*о*дзіць. А м*а*ма – ні ў как*у*ю. То нас тут был*о* тр*о*ё так*і*х, як я. І па*е*халі мы зь

дзяўчатамі ў Ліду на вучыцялей начальных класаў паступаць. А мама малілася, каб я ні паступіла, бо яна хацела, кап я замуш вышла ды зь імі была.

Як ціпер помню тыя экзамены. Первым быў рускі дзіктант: «Горны козёл бежал по диким степям...». А нека учыцяльніца, што чытала яго, не ўмела акуратно гаварыць, ні р, ні тоё л. То яна так чытала, а некаторыя так і пісалі: ні горны, а говны. Алі я добро напісала той дзіктант. А патом была історыя. Канцітуцыя. І якрас у гэто врэмя нешто там праісходзіло ў Жэневе. То яны ў міне й пытаюць: Это сёня мы целевізар смотрым, газеты чытаям, а раней у людзей і радзіва ні было. Што я там магла ведаць! То яны мне: «Садзісь, дзевачка, пабольшэ нада чытаць.» Так мы трох як паехалі, то і вярнуліся. А мама кажа: «Добро, што ні паступіла.» І назаўтра я за сярпа - і ў калхос. Каб гэто сёньняшні розум, та хай бы калі тато паехаў йім адвозіць грамату (бо мне зразу ні выдалі), та трэбуло даць ім што-небудзь крыху. Алі што ты! Думаў: мая дачка разомна, і граматы будзя.

От што я раскажу пра сваю жызьнь! Там ні жызьня была, прошлай жызьні я ўспамінаць ні хачу. У саломі спалі, радзюшкаю зрэбнаю накрываліся.

От што я баюсё: цяпер ужэ праграшымо зарас. Жыць можно, а вымышляюць. Кап хоць даў Бог вайны ні было. Шкада маладых. Хоць бы ні вярнулася тая жызьнь, кап ужэ ўмярці пры гэдыкуй, як цяпер.

А я ўсё кажу, што патходзіць канец. Я некалі Біблію чытала, што пачнецца з малога гасударства. А я думаю, што Ўкраіна ні такоё і велько гасударство. Хто ш гэто калі мог ведаць, а пісаласё.

А калі будзя ішчэ такі год, як гэты, то й праўда, ні будзя што есьці. Вось і голат будзя. І піша: людзі будуць лётаць, мятацца ва ўсе стораны. Я гляджу, колькі сёня бежанцаў – і німа ім прытулку.

*Запісана і апрацавана: жнівень-кастрычнік 2015 г., С.Г. Ляскевіч*

**С.Г. Ляскевіч (Гродна), К.Л. Ляскевіч (Гродна)**

# Вайна ва ўспамінах гаспадароў вёскі Косцевічы Зэльвенскага раёна

Тэму дадзенага артыкула прадвызначылі падзеі гэтага года. У нашай рэспубліцы і ў Расіі шырока адзначалася сямідзесяцігоддзе свята Перамогі над фашысцкай Германіяй. Гэта была перамога духу, перамога высокіх гуманістычных ідэалаў над небяспечнай ідэалогіяй фашызму, так званай карычневай чумой XX стагоддзя.

Згодна з нацысцкай ідэалогіяй, толькі нямецкі народ прызнаваўся дасканалым, правільным і меў права на дамінаванне і навязванне сваёй волі іншым народам, таму ў дасягненні мэты на пабудову расава-чыстай дзяржавы фашысты не цураліся самых нечалавечых сродкаў. Жыхары нашай рэспублікі на сабе зведалі ўсе цяжкасці ваеннага ліхалецця. Планы фашысцкай Германіі прадугледжвалі высяленне 75% насельніцтва Беларусі, а астатнія падлягалі анямечванню. Па новым адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле ў склад генеральнага камісарыята «Беларутэнія» ўвайшлі 10 габітаў (абласцей), тэрыторыя якіх складала толькі чацвёртую частку насельніцтва БССР, астатняя тэрыторыя была падзелена паміж Усходняй Прусіяй, Генеральным камісарыятам «Літва», рэйхскамісарыятам «Украіна», а таксама ўключаная ў вобласць армейскага тылу. Акупацыйная палітыка фашызму вылілася ў рэжым тэрору, знішчэння ні ў чым няпавінных людзей, жанчын, старых і нямоглых, дзяцей.

«Каб не забыліся, каб помнілі…» – з гэтай мэтай Алесь Адамовіч сабраў успаміны сведкаў той вайны, якія выйшлі асобным выданнем «Мы з вогненнай вёскі» і былі перакладзеныя на мовы свету. Сёння побач з намі застаецца ўсё менш і менш ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, непасрэдных удзельнікаў тых лютых падзей. Вайна і пасляваеннае жыццё жывуць яшчэ ва ўспамінах дзяцей той вайны, але і гэтых сведкаў засталося не так і многа, таму трэба спяшацца разгаварыць іх, занатаваць іх аповяды пра падзеі сямідзесяцігадовай даўнасці.

У вёску Косцевічы Зэльвенскага раёна вайна прыйшла ўжо летам 1941 года. Як і для ўсёй краіны – нечакана. Таму з першых дзён вайны на фронт ніхто не пайшоў, але пасля вызвалення Беларусі некаторыя мужчыны былі прызваныя і служылі. Некаторыя так і не вярнуліся з вайны. Дамы ветэранаў і тых, хто не вярнуўся з вайны,

вызначалі зорачкамі і піянеры павінны былі «трымаць шэфства» над членамі сям'і ветэрана.

У Косцевічах сёння, па дадзеных Каралінскага сельскага савета, прапісана 42 чалавекі. Найстарэйшая жанчына ўжо не вельмі добра сябе адчувае і жыве ў Брэсцкай вобласці ў дачкі. Найстарэйшы з мужчын – Папялуха Станіслаў Браніслававіч 1934 года нараджэння – дбайны гаспадар, чалавек з гумарам і добрай памяццю – працаваў усё жыццё экскаватаршчыкам, добра зарабляў, але і меў уласную гаспадарку. Ён яшчэ і сёння (адзін на ўсю вёску) трымае каня і «вядзе хазяйство». Менавіта да яго, як самага старэйшага, і перанакіроўвалі нас Іван Адольфавіч Пацалуйка і Люцыян Іванавіч Ляскевіч. І сапраўды, памятае Станіслаў Браніслававіч і прыход немцаў, і як жылося пад немцамі, і як гналі пасля тых немцаў назад у іх Германію. Расказаў ён нам і некалькі выпадкаў, калі самому прыйшлося «кантактаваць» з немцамі, і пра сустрэчу немцаў з партызанамі на вясковым вяселлі.

Успаміны С.В. Папялухі (1934 г.н.).

Ну я зь йіх найстарэйшы, та можа й помню што-трохі. Хаваліся ў Жарале, як мы гэто называям, пат Шышом, у гэтых равох. А то ось у Казлоўшчыні хаваліся. Дзе каму папало, там і хаваліся. У лесі тожа было апасно хавацца, бо бамбілі. Яны, гэтыя самалёты, як лёталі, та ніско лёталі, а ў лесі ўжэ ім ні бачно, хто там: так людзі ці салдаты.

Я **адно** помню, як ад немца гумы палучыў. Тады каравы дзеці свае пасьвілі. У нас дзьве было й цяля. Ну, я жану, а тут, дзе крыж – каля гасьцінца – карова ў шкоду. Та я й кінуў камяня, каб ні шла ў шкоду. А ён мне гумаю за гэто. Гума – як ціпер міліцыя носіць рызінавыя дубінкі. І ў йіх такія гумы былі, і плёткі былі, і ўсё было. У зялёнуй формі хадзілі. Ось так і палучыў тое гумы ад немца, добро ён міне церабнуў. Што ты! Ім да ўсяго дзела было. Немяц як сказаў, то так далжно быць.

Дзе паны жылі, там аселіца. І на рэццы той, помню, купаліся, мыліся. Чыстату натто любілі, што праўда, то праўда: усе вымытыя хадзілі, акуратныя. Ну, купаліся гэто яны на рэццы, параскідалі ўсё, і с карманаў павысыпалі і шакалады, і нажы. І такі ножык харошы, маленькі. Я ўзіраўсё ўсё, так мне яго хацеласё, алі думаю: «Не, ні буду браць». А каторы хацеў узяць, та пугі палучыў. Ці Петрусь, ці

Алесь. А тады нас пальчыкам паклікалі «ідзі сюда» – і па шакалацы далі. О, думаю, добро, што ні ўзяў таго ножыка.

Так якабы парадачны нарот, алі ізьвяргі: асобянно як ішла перадавая, та тады нікого ні шчадзілі. А дзе парцізаны – там і вёскі палілі, і ўсё.

У нас ішлі ўжэ чысто німецкія грошы, а за рэчкаю, за Зяльвянкаю, там, дзе Навасёлкі, ужэ другія. І калі туды ісьці, та так ні пойдзяш. У некаго з нашых сваякоў там віселё меласё быць, то бацько пашоў на шляхту пазваленё на віселё ісьці браць. Гэто там камендатура на Шляхці была і немцы стаялі. Шляхта - бо раней паны жылі, там, дзе школа, дзе кароўнікі, лявей нашай рэчкі Жэрнаўкі. А хто кажа й Мэштаўка. Праўда. Разрашыў камяндант. І яго прыглашалі, і чалавек сем немцаў пашлі. Ну, помню, весяло, селі за стол, і мы, дзетвара гойсаям: лянь, музыка. А тут зашлі парцізаны. І адзін німецкі салдат – за пісталет. А камяндант нешто яму па-свойму сказаў, каб ні страляў. І парцізаны толькі паглядзелі, нікога ні зачапалі, хлеба папыталі, воткі і кап хто ім брот на Медухава паказаў. І пашоў зь імі адзін дзяцько брот паказваць. Вярнуўсё праз якую гадзіну ці меньш. Камяндант пытая, ці паказаў броду. А той: «Паказаў. Мусіў паказваць». Тады той камяндант немцам па-свойму нешто сказаў, і пальцам трасе, што кап стрэльнулі, то ўсе ў воздух пашлі п. Парцізаны ш усе былі абвешаныя гранатамі. І дагулялі мы тоё вяселё, і пашлі мы дахаты.

Натто чысто па-рускі ўмеў гаварыць камяндант. І некі нічого быў. Усе людзі хвалілі. Што харошы, то харошы. І строгі, немцы слухаліся яго. Дзе яны стаялі, хадзілі бабы мыць пол, і дзяўчаты маладыя хадзілі. Та салдаты, вядома, інцірасаваліся, алі камяндант сказаў – сьвято. А лагер быў там заключонных, та ні натто тымі заключоннымі інцірасаваліся. Усе да аднаго ўцяклі салдаты.

От помню, поўну машыну грэчкі разьбілі. Хто папаў, рускія ці немцы, - ні скажу. То ўсе нашыя кінуліся тую грэчку зьбіраць: хто ў торбу, хто ў мяшок. То яны як церабнулі з пулямётам - пакідалі ўсю тую грэчку, уцякаючы. Алі прыпугнулі, нікого ні забілі. Так яны ні зачапалі мірнага насяленьня, бо тут німа ні парцізанкі, ні лясоў ні было. Ну так якую маладую паймаюць – і ўсё. А хто на яе бяду паглядаў? Вайна на гэто.

Як фронт ішоў, та бацькі пашлі на балото, ні помню, што рабіць. А фронт ішоў, гэта перадавая. На матацыклах ехалі, раве ўсё,

што ты! А ў нас конь быў харошы, Лысы звалі, спалохаўсё конь – і сарваўсё, і пайшоў. Я – за йім, бацька жа німа ўдома. Аш пад Губаром дагнаў, і то ні дагнаў бы. А двох немцаў на матацыклах – р-рас! – і акружылі яго. А конь увесь дрыжаў, я за ланцуга і прывёў дахаты.

На Васілёвум кусьці, на футарах, там нашо полё было. Ганілі кароў на свае палеткі. Два жыда шло, маладыя хлопцы, здаровыя, красівыя. Нешто между сабою гаварылі. Цёця Маня кажа: «Глядзеця, хлопцы, бо немцы толькі паехалі. Махнулі рукою, і ў Каралінскія горы пашлі. Яны друх друга язык панімалі, німецкі і жыдоўскі пахожыя. Тут іх ні забівалі, а ў Зэльву ў камендатуру, што хацелі, тоё і рабілі зь йіх па расказам людзей.

Дзяцько мой на вайне быў, і Антось Канаховічаў, а ў Дашы зьвёздачка вісела, алі там хітра паліціка. Лёнік Губароў бачыў яе мужыка на Какчытаве (обласьць на цаліне), алі той прасіўсё, каб ні гаварыў.

У канцы вайны ўжэ ні ўцякаў ніхто. Перлі іх, яны ні адбіваліся, алі й злыя былі: паляну ці засьмяяўсё , што рускія ідуць, та бахня з руж'я – і ўсё. Это ж ізьвяргі былі. Та людзі ні выходзілі с хатаў, каб йім ні пападацца, як йіх назат гналі. А ўласаўцы ішлі кубанкія, атступалі за немцамі сьледам. Та тыя горшыя, грабіцялі, коні забіралі ў людзей. Ганьдзя прадала нашаго каня, што харошы. І андалі, а што: лядзі, штоб яшчэ пулі ні палучыў. Алі ўласаўцаў гэтых уцялі недзя тут у Беларусі парцізаны. Алі мы посьля дабылі каня, як з Германіі гналі коні, та ўзяў бацько бутылку воткі – і даў дзяцько каня.

*Запісана: жнівень-верасень 2015 г., С.Г. Ляскевіч.*

Іван Адольфавіч і Люцыян Іванавіч на 6-7 гадоў маладзейшыя, таму іх ўспаміны ў асноўным датычацца канца вайны. Бамбёжкі і гул самалётаў – вось што ўрэзалася ў памяць чатырохгадовых хлапчукоў, а яшчэ пошукі куляў пасля вайны. Бедныя дзеці бачылі ў гэтым забаўку, а іх бацькі – бесперапынны страх, каб тыя не пакалечыліся, не падарваліся.

Люцыян Іванавіч слыве ў вёсцы вельмі разумным і адукаваным чалавекам: ён выдатна, на два гады раней, скончыў школу, з першага разу не паступіў у інстытут і па беднасці сям'і не паўтараў спробы. Яго настойліва пераконвалі застацца ў арміі, меў ужо званне малодшага лейтэнанта, але кажа, што камандаваць людзьмі – не яго. Так пасля службы вярнуўся ў вёску, дзе працаваў будаўніком, памочнікам брыгадзіра, паштальёнам і нават прадаўцом. Гэта вельмі

спакойны і ўдумлівы, начытаны чалавек. Кажуць, што ён па два разы перачытаў усе кнігі ў вясковай бібліятэцы, пастаянна выпісваў і чытаў газеты, слухаў радыё і тэлебачанне. Сёння, на жаль, падводзіць зрок і слых. Але імкненне ва ўсім разабрацца, даць правільную і вычарпальную інфармацыю, крытычнае асэнсаванне сказанага сведчаць аб аналітычнасці яго мыслення. Відавочна, што пасля нашых размоў, ён, застаўшыся сам насам, не забываў пра іх, крытычна аналізаваў і на наступны ранак прыходзіў з пэўнымі тлумачэннямі-ўдакладненнямі.

Успаміны Л.І. Ляскевіча (1941 г.н.).

Вайна? А скольկі мне там тады было? Ерунда! Як яна началася, та я радзіўсё адно. Крыху помню, як у дзетка [вытворнае ад «дзед»] ў ямі хаваліся, алі гэто ўжэ пат канец вайны было, як адступалі немцы. Глыбокі быў роў, ат Шыша пад дарогу. Тады мне ўжэ больш як тры годы было, та крыху помню, а больш нічого ні помню.

Бацькі казалі, немцы прыходзілі і пыталі: «Матко, млека, яйка давай». Сахары за гэто крыху давалі, ці што. І план быў нешто здаць. Мы ні ў вёсцы жылі, мо там дзе вясковых і застаўлялі рабіць, а ў нас - не. Тады калхозаў ні было, была собствяннасць. Нас жа ў трыццаць дзявятым асвабадзілі ат палякаў, колькі там?- два гады ні прашло, як вайна началася. Хазяйсво было сваё, та дзяржалі і куры, і каравы. Калоць сьвіней ні давалі. Трэбуло кожы здаваць свіныя ім, а ніхто ні хацеў здзіраць кожу з сьвіней, бо якоё там сало тады. Відно, на што-то ім тыя кожы былі патрэбныя, на што-то ішлі ў іх, чорт іх зная. Некалі машынкаў ніякіх ні было, апякалі саломаю, алі гэто відно кругом. То тады награвалі лемяхі ад плуга ў печы і прыкладвалі, і выпякало. Ну а што рабіць? Не, у нас на футарах ні даносілі. А хто там немцам будзя даносіць, у нас ні было такіх паліцыянтаў. Нічутно было, каб каго й судзілі после вайны. Я ні чуў гэтаго, па-відзімаму, у нас і ні было іх.

Тут у нас у школі, што ў Аляксандраўшчыні, немцы стаялі. Я ні знаю, колькі тут немцаў было, але некія спакойныя, мо якія пажылыя. Парцізаны іх ні трывожылі. А мо чуствавалі сібе слабодна, бо ў нас тут парцізан ні было, толькі ў Медухаві быў атрат, алі да нас яны ні даходзілі.

Немцы хутко прайшлі, ходам, а нашыя салдаты атступалі, та трэбуло есьці, заходзілі ў хаты. Дадуць крыху што. Мы пры дарозі

жылі. Гэто быў тракт на Ружаны, та пры такой дарозі ніхто тут ні паказваўсё. Бо немцы часцей прыяжджалі.

Сіла была ў немца. Уся Яўропа пад ім была, Афрыку яму заняць – мелач было. Расія – о! - была само цяшко. Расію цяжало заваяваць. Вучылі історыю? Ізучалі і пра французаў, і манголаў. Так і немцы назат пакаціліся. Сталін ні верыў, што вайна будзя. Гэто ж Молатаў і Расінберг дагаварыліся. Немцы Польшу ўзялі, а савецкія - Беларусь і Ўкраіну. І Сталін ні верыў нікак. Бачылі, што на граніцы скапляюцца і танкі, і так, і усяроўно ні верылі. Некі разьвеччык дажа ўказаў чысло, а ўсяроўно ні верылі. Мусі, Зорге, здэцца. Церыторыя бальшая, а цехнікі тады ш ні было такой, вот немяц прайграў.

А як Савецкія вайска асвабадзілі гэтых, што там у Германіі рабілі, тады дзяцька Эдзю забралі на Японію. Алі пака яны там цераз Манголію і Кітай ішлі, та Америка кінула бомбу. Та так і вярнуўсё, алі медалі некія два далі і быў вецяранам вайны.

Мо дзе ў вёсках людзі больш знаюць, дзе што, а там-та на футарах вось так. Там дамоў-та много раней было, мо дзе дваццаць ці цераз дваццаць, алі раскіданыя, та калі што і было, та маўчалі.

Бач, мало што помню. Ты да Стаха схадзі, той-та раскажа.

*Запісана: жнівень-верасень 2015 г., К.Л. Ляскевіч,*
*С.Г. Ляскевіч*

Іван Адольфавіч Пацалуйка ўсё жыццё прапрацаваў шафёрам, і сёння, як усе нашы героі-інфарматары, не сядзіць без справы: бульба, буракі, прывычныя сялянскія клопаты. Хоць і цяжка, хоць і здароўе ўжо не тое, але наша беларуская ўцягнутаць і «як ты будзяш сядзець цэлы дзень» не дазваляюць яму нічога не рабіць. Ды і дзецям хочацца дапамагчы, каб прыехалі ды было што даць з сабою. Іван Адольфавіч таксама няшмат помніць пра тую вайну: яму быў толькі годзік. Але вайна і пасля свайго завяршэння нядобра напамінала пра сябе праз дзіцячыя дражнілкі. Прычынай таму было супадзенне імя яго бацькі і Гітлера. І хоць яго бацька Адольф (па вясковаму – Адоль) ваяваў на вайне, таго за вочы маглі назваць Гітлер, а Іван Адольфавіч і сёння – па-вясковаму Адоль.

Успаміны І.А. Пацалуйка (1940 г.н.).

А што мы цяперака раскажам праз тую вайну. Я с саракавога года, та мне было, мусі, гот. Ну, праўда, та адно гот.

Былі ў школі немцы. А людзі ў Жырале стаялі, бацькі ў тым рові хаваліся і я зь імі. І жывял хавалі там. Аво-аво, точно, сьвіней

ні давалі калоць. Заколюць, то праталі, забіралі яны ў нас. Праўда-праўда.

А за парцізаны ні растрэльвалі, ні чуў. Каб былі парцізаны сільнейшыя, та да. А ў нас загэтым і ні растрэльвалі людзей. У нас во цяперака былі п парцізаны – усё ў лясох. Алі раней тут лясоў ні было. Вунь жонка лясы насаджвала ўжэ посьля вайны, як вель-ка была. Тамака ў Караліні, як дзе лясы, та там і парцізаны. А парцізанам трэба было і адзецьця, і абуцьця, панятно, карміцьця. А с чаго яны маглі жыць?

А ўжэ ў канцы вайны помню, як пулі ляцелі. Як бухкало, як схваціў бацько, прыпёр ў роў. І я ўжэ гэто помню, а больш нічого ні помню.

А потым мы і ў рэццы находзілі тыя патроны, і на палях находзілі.

Каго змаглі, забралі на вайну. З нашых бацько быў, алі нек вярнуўсё быстро. А брат бацька й кала Масквы ваяваў. У Таісы Міхайлаўны некі быў спісак, там усё напісана.

Канаховіч Антось прышоў кульгавы з вайны. Каня раняна-го дастаў. І быў той конь, пакуль мы ўжэ сваімі ні паабзаводзіліся. Канаховіч быў віціран.

Н-да, вайна-та нікому ні нравіцца, каму-то вайною лёхко.

*Запісана: жнівень-верасень 2015 г., К.Л. Ляскевіч.*

**В.В. Маршэўская (Гродна)**

## Коска ў фразеалагізмах, структурна падобных да аднародных членаў сказа (на матэрыяле літаратурнай мовы і гаворак Гродзеншчыны)

У некаторых дыялектных фразеалагічных слоўніках і мікраслоўніках у слоўнікавых артыкулах, а таксама ў прыкладах-ілюстрацыях можна сустрэць розную падачу фразеалагізмаў, структурна падобных да аднародных членаў сказа: з коскай паміж кампанентамі фразеалагічнай адзінкі і без коскі. Напрыклад: *Нехлямяжы – няўдалы,* ***ні богу свечка, ні чорту качарга; Ні богу свечка, ні чорту качарга*** *– гавораць так, як благі муж* [1, т. 3, с. 215]; *У яго* ***ні плоту, ні замёту*** [1, т. 2, с. 230]; *Сабраліся* ***Цюха і Мацюха, і Калупай з братам*** [1, т. 4, с. 339]; *Дзісяка* ***і стары, і малы*** *прытуляны, нарот папрытульваны; Цяпер добра жыць – усім ёсць*

*прытулак:* ***і старым, і малым*** [1, т. 4, с. 166] і інш. Як пазначаў І.Я. Лепешаў, «за кожным знакам прыпынку замацавана пэўная функцыя. Раздзяляльная коска раздзяляе адну значымую ў сэнсавых і граматычных адносінах частку ад другой, а выдзяляльныя коскі служаць для выдзялення пэўнай сінтаксічнай канструкцыі. У фразеалагізме ж з яго цэласнай, непадзельнай семантыкай часткі-кампаненты не маюць самастойнага лексічнага значэння і не могуць выконваць ролю якога-небудзь члена сказа (гэта функцыя ўсяго фразеалагізма). Пастаўленая паміж кампанентамі коска не дапамагае правільна зразумець тэкст, як у сказе, пабудаваным са слоў свабоднага ўжывання, а толькі перашкаджае ўспрыманню фразеалагізма, бо штучна нібы аднаўляе этымалагічнае значэнне яго частак – асобных слоў, раздзяляе непадзельнае, сігналізуе пра інтанацыйную паўзу, якая, аднак, тут недарэчы» [2, с. 254–255]. У прыведзеных прыкладах (і падобных) фразеалагічных адзінак кампаненты нельга назваць аднароднымі членамі і непатрэбнасць коскі ва ўсіх прыведзеных прыкладах відавочная.

Фразеалагізмы, якія сваёй структурай нагадваюць аднародныя члены сказа, дзеляцца на дзве групы. Да першай групы адносяцца выразы са структурай пералічальнага раду (кампаненты звязаны злучнікамі *і–і, ні–ні, ці–ці, то–то*). Гэта выразы *і да зайца стралец і да дзевак маладзец* ‘здатны да ўсяго, майстар на ўсе рукі’*, і кучачку і горбачку* ‘вельмі многа (нагаварыць)’*, і на свёнткі і на пёнткі* ‘на ўсе выпадкі жыцця’*, і нашым віль і вашым віль* ‘адным і другім адначасова служыць, дагаджаць’*, і ў місцы і ў лыжцы* ‘пры кожным зручным выпадку (успамінаць)’*, і ў цюці і ў людзі* ‘ўсюды ў адным і тым жа адзенні (хадзіць)’*; ні богу ні людзям* ‘нікуды не варты’*, ні да тэнгі ні да лэнгі* ‘ні на што не здатны, няўмелы’*, ні бум ні лясь (у чым)* ‘зусім нічога не разумець, не разбірацца ў чым-н.’*, ні калочка ні платочка (у каго, дзе)* ‘нічога няма’*, ні сшыць ні спароць* ‘няўмелая, няздатная, нічога не ўмее ці не хоча рабіць’*, ні ў школу ні ў красную армію* ‘нікуды не варты, ні на што не здатны хто-н.’*, ні тпру ні мя ні божае імя* ‘нехлямяжы, няздатны, няўдалец хто-н.’*; ці грэх ці два* ‘якая розніца, няхай будзе так’*, ці дурны ці ў дурнога на кватэры* ‘неразумны’*, ці спіш ці дарогі пытаеш* ‘хто-н. няправільна зразумеў, успрыняў сказанае’*, ці радзіва слухаў ці газету чытаў* ‘вельмі мала, недастаткова (паесці)’*, ці кіем ці палкай* ‘аднолькава, тое самае’*; цо то я цо то комузэлька мая* ‘ганарысты,

фанабэрысты чалавек, нясе сябе высока’ і інш. Напрыклад: *Адзень другую кашулю, а то ходзіш у ёй* ***і ў цюці і ў людзі*** [3, с. 95] (= усюды ў адным і тым жа адзенні), *Такога хлопца дзеўкі не любяць –* ***ні тпру ні мя ні божае імя*** [3, с. 140] (= ён няўдалы), *А яму* ***ці кіям ці палкай****. Ніяк не даходзіць* [3, с. 201] (= аднолькава).

Трэба адрозніваць ад аднародных членаў сказа і фразеалагізмы, кампаненты якіх звязаны адзіночным злучнікам *і*. Напрыклад, у сказе *Ён як нап’еццa, та пачынае* ***ляды драць і гедрыка скакаць****, нікому спакою ні дасць* [3, с. 110] фразеалагізм *ляды драць і гедрыка скакаць* мае значэнне ‘сварыцца’ і з’яўляецца прызвязачнай часткай састаўнога дзеяслоўнага выказніка. Гэты выказнік (*пачынае* ***ляды драць і гедрыка скакаць***) аднародны з выказнікам *спакою ні дасць*. Падобную структуру маюць выразы *было-было і выпала дно* ‘дайшло да крайнасці, да немгчымасці трываць болей’*, голыбосы і богу праціўны* ‘бедны, нічога не мае, нічога не нажыў’*, кот за ноч з’есць і не абліжацца (каго)* ‘невялікі, малараслы, мізэрны ці слабы, схуднелы хто-н.’*, набор касцей і метар скуры* ‘вельмі худы хто-н.’ і інш.

У другую групу ўваходзяць выразы з парна-супастаўляльнымі аб’яднаннямі кампанентаў (з дапамогай злучнікаў *а (але), хоць, не–а*). Адзінкі гэтай групы заслугоўваюць асобнай гаворкі.

Не ставіцца коска ў фразеалагізмах з уступальным злучнікам *хоць* (тыпу адзінак *хоць стой хоць падай, хоць так хоць сяк*). Калі ж фразеалагізм структурна арганізаваны як спалучэнне аднародных членаў, звязаных пры дапамозе супастаўляльнага злучніка *а*, то ў сярэдзіне фразеалагізма раздзяляльная коска ставіцца традыцыйна. Так у сказе *А ты слухай* ***ушмі, а рот зажмі****, то ні трэбо будзя перапытваць* [3, с. 110] фразеалагізм *(слухай) вушмі, а рот зажмі* мае значэнне ‘ўважліва, не перабіваючы’ і функцыянуе ў ролі аднаго члена сказа – акалічнасці спосабу дзеяння. Да гэтай групы адносяцца таксама фразеалагізмы *шпіка дастаць, а раны не зрабіць* ‘несупынна, назойліва прабіраць каго-н., рабіць заўвагі, дапякаць каму-н.’*; у добрую пару выгаварыцца, а ў ліхую змаўчаць* ‘выказванне засцярогі ад чаго-н. нядобрага, нежаданага’*; у галаве круціцца, а на язык не пападае* ‘не ўспамінаецца, цяжка ўзнаўляецца ў памяці што-н.’*; дзевяноста дзевяць на фронце, а адзін у рамонце (у каго)* ‘хто-н. неразумны, легкадумны’ і інш.

У дыялектных слоўніках зафіксавана толькі частка таго, што бытуе на ўсім лінгвагеаграфічным абшары. Таму падчас палявой практыкі могуць быць сабраны новыя, не зафіксаваныя яшчэ адзінкі. Нарматыўны слоўнік І.Я. Лепешава [4] падае напісанне з коскай у кампанентным складзе фразеалагізмаў, якія генетычна ўзыходзяць да канструкцый, дзе злучнік *а* злучае аднародныя члены сказа з узаемным выключэннем (звычайна пры наяўнасці адмоўя ў першай частцы) і адпавядае слову «наадварот»: *не на жыццё, а на смерць; не ў брыво, а ў вока (біць, пападаць і пад.), не па днях, а па гадзінах (расці, развівацца, павялічвацца і пад.)* і інш., а таксама ў выразах, дзе адчуваецца эліпсіс супраціўнага злучніка *але,* – (нос) *на дваіх рос, аднаму дастаўся* і пад.

### *Спіс літаратуры*

1. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5-ці т. / рэдкал. : Ю.Ф. Мацкевіч (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Навука і тэхніка, 1979–1986.

2. Лепешаў, І.Я. Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы / І.Я. Лепешаў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1984. – 264 с.

3. Даніловіч, А.М. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны / А.М. Даніловіч. – Гродна : ГрДУ, 2000. – 267 с.

4. Лепешаў, І.Я. Слоўнік фразеалагізмаў. У 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Беларус. Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2008.

**М.М. Нечай (Гродна)**

## Фразеалагізмы з кампанетам *КОТ* у гаворках Гродзеншчыны

У гаворках Гродзеншчыны найбольш пашыраны зоафразеалагізмы з кампанентам-заонімам «кот». Гэта звязана, напэўна, з тым, што кот заўсёды быў каля чалавека, таму людзі назіралі за ім і ўбачанае ўвасаблялі ў моўныя адзінкі, у тым ліку ў фразеалагізмы. Такім чынам, ужыванне заоніма *кот* у фразеалагізмах невыпадковае. Гэтая жывёла адыгрывала вялікую ролю ў жыцці чалавека. Кот адлюстраваны ў міфалогіі, фальклоры, у розных жанрах літаратуры. Напрыклад, ва ўяўленні беларусаў кот як жывёліна звязаны са шматлікімі асацыяцыямі: адмоўнымі (ён лічыўся нячыстай сілай) і станоўчымі («кот выступае як хітрая, увішная і кемлівая жывёла, верная свай-

му гаспадару, і дапамагае яму ў крытычныя моманты свайго жыцця» [1, с. 255]). Ніжэй даецца падборка фразеалагізмаў з кампанентам «кот», прапанаваных з фразеалагічнай картатэкі праф. М.А. Даніловіча, а таксама з дыялектных слоўнікаў Гродзеншчыны (пералік іх гл. у канцы артыкула).

КАТА. **Валачыць ката за хвост.** *Іран.* Марудзіць. *Нам трэба пасьпяшыць з работаю на полі, а то мы валочым ката за хвост.* Залацеева Зэльв.

**Ганяць ката ў прыпечку**. Вельмі моцна хацець спаць. *Ці адпачывала ты сёньня? А то зноў будзеш ганяць ката ў прыпечку.* Бярозаўка Лід.

**Драць ката**. *Неадабр.* Жыць нядружна, часта сварыцца. Звычайна пра мужа і жонку. *Ат, як яны там жывуць... Вот, дзяруць ката ды і ўсё. Кожны сваё права правіць.* Кальчуны Ашм.

**З сядзячага ката** *вырасці. Насмешл.* Невысокі, нізкарослы. *Вырас сь сядзячага ката, а да дзевак, глядзі, паткі.* Дзевяткаўцы Ваўк.

**Купіць ката ў ворку.** Невядома што**.** *Глядзець трэба, а то купіў ката ў ворку***.** Воранава Воран.

**Не вучы старога ката смятанку злізваць.** *Незадав.* Не лезь са сваімі парадамі, павучаннямі. *Каму ты гаворыш? Мне, як рабіць? Ні вучы старога ката сьмятану зьлізваць.* Суботнікі Іўеў.

**Цягнуць ката за хвост**. Вельмі марудна рабіць што-н. *Зробім сёньня, чаго цягнуць ката за хвост*. Малахавічы Гродз. *Зьбіраешся усё роўна што ката за хвост цягнеш*. Бастуны Воран. *Хуччэй гавары, ні цягні ката за хвост*. Грынкі Свісл.

**Як благога ката** *біць. Неадабр.* Моцна. *Што за дзіця... Ты яго бі як благога ката, а ён усё роўна будзіць сваё рабіць*. Косцевічы Астр. ***Вар***. як шкоднага (благога) ката.

**Як ката ў мяшку.** Моцна біць. *Бацька цябе за двойку вылупіць як ката у мяшку.* Алекшыцы. Бераст. *Як будзеш лесьці, натаўчэм як ката ў мяшку.* Улезлы Ваўк.

**Як ката ў мяху.** *Іран.* Нічога не бачыць, усляпую.*Завязлі мяне туды як ката ў мяху, ды кінулі там, кап ня мяшала ім жыць, на халеру я ім?* Вольна Баран.

**Як у ката за лапаю пясок**. *Іран.* Зусім (не захаваецца, не ўтрымаецца што-небудзь у каго-небудзь у сакрэце). *Ты ш хаця не*

*кажы ёй, у яе ш нічога не ўдзержыцца як у ката за лапаю пясок, па ўсёй вёсцы разьнясе.* Мастаўляны Лід.

**Як шкоднага ката** *біць. Неадабр.* Моцна. *Калі ні будзеш слухаць, то буду біць як шкоднага ката.* Лозкі Навагр. ***Вар.*** як Шкоднага (благога) ката.

КАТОЎ. **Як катоў ня рэзаных**. Вельмі шмат. *А людзей там было як катоў ня рэзаных*. Навагрудак.

КАТУ. **Калі кату зад зарасце**. Не зараз споўніцца нешта. *Я ту замуш ні выйду, а можа калі кату зат зарасьце, тады.* Амбілеўцы Шчуч.

**Кату на адзін зуб (глык)** *чаго.* Вельмі мала. Пра ежу. *Канчай мяска, тут яго ўжэ  кату на адзін зуб, з'еш усё.* Купры Шчуч. *Колькі я там зьеў, кату на адзін зуп будзя.* Уселюб Навагр. *Алі ш наліла малака, кату на адзін глык.* Аздобічы Шчуч.

**Кату па калена.** *Іран.* Малы, невысокі, нізкарослы хтонебудзь. *Ужэ з дваццаць гот мая, а сам кату па калена, як дзіця.* Уселюб Навагр. *Куды ты лезеш? Кату па калена, а такі ўжо дзелавы!* Варняны Астр. *Што гэта за жаніх – кату па калена.* Навасёлкі Ашм. **Кату па каўнер** *кавалер. Іран.* Малы, невысокага росту. *Тожа мне кавалер – кату па каўнер, можна і лепшага знайсці.* Хутар Праважа Воран. *Кавалер кату па каўнер, а ўжэ да дзевак ходзіць.* Уселюб Навагр. *Які ж ён табе кавалер – кату па каўнер.* Вензавец Дзятл.

**Кату па пяту**. *Іран.* 1. Малы, нізкі. *А хлопчык той кату па пяту.* Танявічы Шчуч. *Вот урадзіўся – кату па пяту.* Залужжа Стаўбц. *Мой малы расце, кату па пяту, а другія вунь як павырасталі*. Уселюб Навагр. *Што ж гэта за кавалер кату па калена*. Лоша Астр. *Я з ім бліска ня стану, ён жа кату па пяту, а я два мэтры росту.* Вольна  Баран. *Кату па пяту вырас.* Сімакова Карэл. (МСГВ, 584). 2. Мелкі. *Вясной гэта сажалка была глыбокай, а цяпер кату па пяту.* Бакшты Іўеў.

**Кату пад хвост**. 1. Упустую. *А што ты гэта ў цесто ўсыпала, то ж ні сахар, а кіслата. Ой, Божа, дваццаць яец кату пад хвост.* Свіслач Гродз. 2. Нікуды не варты. *Твой білет кату пад хвост, са сроку та выйшаў.* Талькаўцы Ваўк.

**Кату хвост палажыць**. Вельмі малой плошчы. *Які там гарот...  Кату хвост палажыць. Як пасадзіш там усяго, то будзеш мецць аш лэп будзе цьвёрды.* Бастуны Воран.

**На понюх кату** *чаго*. Вельмі мала чаго-н. *Трэба зьбіраць сьмятану, бо масла таго засталося на понюх кату.* Косцевічы Астр.

**Ні заўша (усягда) кату масленіца**. Не заўсёды чакае поспех у справах. *Я яму нескулькі раз гаварыла, сьцеражыся, бо ні заўша кату масляніца*. Ляхавічы Зэльв. *Сёння яму ні павязло, адказалі яму ў прозьбе. Праўду кажуць, ні ўсягда кату масляніца*. Камянка Бераст.

**Як кату аброць (лапці)**. *Іран.* Зусім не (падыходзіць штонебудзь каму-небудзь). *Начапіла бляшанак на вушы, на шыю і думая, што натто добра, а яны ёй падыходзяць як кату аброць*. Правыя Масты Маст. *Гэтыя боты йдуць табе як кату лапці, толькі грошай шкада, што ўваліла.* Новы Двор Свісл.

**Як кату пятая лапа**. Зусім не (патрэбны). *Ты мне патрэбны як кату пятая лапа*. Зэльва.

КОТ. **Бадзялы кот**. *Асудж*. Распусны, блудны мужчына. *А мая ты! Ён жа ш ужо сколька бабаў памяняўшы, збадзяўшыся, бадзялы кот, толька ніхто ні знаіць.* Косцевічы Астр. *Ён ні муш, а кот бадзялы.* Дубнікі Астр. ***Вар***.: бадзялы (блудны, памаўзлівы) кот.

**Блудны кот.** *Асудж.* Распусны, блудны мужчына. *Чаго гэта ты ходзіш, як блудны кот, жаніўся б, меў бы прытулак.* Хутар Праважы Воран. *Цягаецца па вёсцы гэты Болік як блудны кот і работы яму дома німа*. Зенявічы Навагр. *І колькі ён будзіць цягацца ад адной дзеўкі да другой! Ужо двух жонак памяняў, да трэцяй кліны падбіваіць. Блудны кот дый толькі.* Лылойці Смарг. *Ходзіць як блудны кот, нідзе яму прытулку няма.* Сурынка Сл. ***Вар***.: бадзялы (блудны, памаўзлівы) кот.

**І кот <кошку> не валяў** *у каго, дзе*. *Іран.* Нічога не роблена, не пачата, не падрыхтавана. *Чаму ж вы нічога ні рабілі? Я думала ў вас тут ужэ па ўсім, а тут ішчэ й кот кошку ні валяў.* Стокі Свісл. *– Думаў, можно ўжэ ісьці палуднаваць, ды ў вас ішчэ і кот ні валяў. – Нічого, зара зьбярэм.* Старына Маст.

**Калі кот на хвасце падскочыць**. Ніколі. *Калі ты мне аддасі грошы? Калі кот на хвасьце падскочыць*. Вялікія Азёркі Маст.

**Кот за ноч з'есць** *каго* **<і вады не нап'ецца>.** *Іран.* Хтонебудзь вельмі мізэрны, невялікі, маларослы ці слабы, схуднелы. *Што цябе есьць...і кот за ноч зьесьць.* Монькавічы Маст. *Ну і нявестка малая, што кот за ноч зьесьць.* Ладзенікі. Навагр. *Які ён яшчэ мушчына... Яго кот за ноч зьесьць і вады ні нап'еццa.* Падліпкі

Гродз. *Маўчы ўжэ ты лепяй с сваею нівесткаю, нашла кім хваліцца: яе кот за ноч зьесьць і вады ні нап'еццa.* Вараны Бераст. *Ні глядзі, што яе кот за ноч зьесьць, а робіць, як усе, ні атстае.* Грамавічы Шчуч. *Што это за кавалер! Худы, малы. Да яго ш кот за ноч зьесьць!* Лунна Маст. *Быў спраўны, а цяпер яго кот за ноч зьесьць.* Галімаўшчына Іўеў. (ЗНФ, 43). *Сама велька, мажная жонка, а за такого хрушча пайшла, што кот за ноч з'еў бы яго.* Старое Сяло Зэльв. (СНМЗ, 132).

**Кот за раз з'есць** *каго. Іран.* Хто-небудзь вельмі худы, невялікі. *Які зь яго работнік?! Кот за рас з'есьць.* Алекшыцы Бераст.

**Кот за ноч з'есць і вядро малака вып'е.** Невялікі, худы, слабы чалавек. *А што з яго возьмеш. Яго за ноч кот з'есць і вядро малака вып'е.* Крупава Лід.

**Кот за ноч з'есць <і не абліжацца>** *каго. Іран.* Невялікі, маларослы, мізэрны ці слабы, схуднелы хто-н. *Мой сынок, пакуль хварэў, на нет зблажэў – кот за ноч зьесьць і ні абліжацца.* Зэльва. *Гэту маладую кот за ноч зьесьць, гэдыка благенька. І дзе тулькі яго вочы былі?* Старына Маст. *Такая худая, кот за ноч зьесьць.* Аздобічы Шчуч. Параўн. у Леп., 43: *кот за ноч з'есць <і вады не нап'ецца>.*

**Кот кошку не валяў**. Нічога не зроблена. *Чаму ж вы нічога ні рабілі? Я думала, у вас тут ужэ па ўсім, а тут яшчэ кот кошку ні валяў.* Стокі Свісл. *Я прыйшоў на работу, а там кот кошку не валяў.* Яблынька Дзятл.

**Кот крупніку не з'есць.** (Сказаць, гаварыць) нешта недарэчнае. *От, як скажаш, кот крупніку не зьесьць.* Гута Дзятл.

**Кот мартавы.** Распуснік, блуднік. *У суседняй вёсцы шмат катоў мартавых.* Місявічы Воран.

**Кот наплакаў.** Вельмі мала. *У мяне тых грошай кот наплакаў.* Раклевічы Дзятл. (СГВ, 595). *Сорамна табе, Галка, як кот наплакаў зьела.* Таркачы Дзятл. *У мяне тых грошай кот наплакаў.* Парэчча Дзятл. *І так грошай кот наплакаў, а ён машыну хоча купіць.* Яблынька Дзятл. *Але ж нарабіла – кот наплакаў.* Каргаўды Воран. *Ты сёння зрабіў, як кот наплакаў.* Хадзілоні Шчуч.*У мяне тых грошай кот наплакаў.* Дарагляны Маст. *У цябе тых грошай кот наплакаў.* Азярніца Сл. *Тых вішань як кот наплакаў.* Любча Навагр.

**Кот памыйны.** Валацуга, бяздомнік. *Цягаецца гэты кот памыйны па вёсках, галодны, п'яны ўвесь, абарваны.* Уселюб Навагр.

**Ласы як кот на каўбасы (кіўбасы)**. Які любіць пажывіцца, з’есці што-небудзь смачнае. *Ні будзь ты такім, бо ласы, як кот на каўбасы*. Канюхі Ваўк., Конна Зельв. (МСГВ, 597). *Ласы, як кот на каўбасы*. Селюкі Гродз. ( СНМ, 185). *Ласы як кот на каўбасы*. Конна Зэльв. (ППФВ, с. 37). *Усё толькі смашнаго шукаяш, ласы як кот на каўбасы.* Бабры Ваўк. *Наш хлопяц да цукерак ласы як кот на кіўбасы. А много ні зьесьць – мігам высыпая*. Лунна Маст.

**Памаўзлівы кот**. *Асудж.* Распусны, блудны мужчына. *Як увідзіць новую дзеўку, дык і круціцца кала яе, такі ўжо памаўзьлівы кот, хай Бох крыіць і ратуіць!* Косцевічы Астр. ***Вар***.: бадзялы (блудны, памаўзлівы) кот.

**Як кот благі.** Беспрытульны. *Бадзялы як кот благі.* Бацюны Ашм. (ППФВ, 7). *Усе кажуць пра Сцяпана, што ён як кот благі бадзялы*. Ляпешкі Іўеў.

**Як кот з сабакам** *жыць.* Нядружна, у сварках. *Васіль жыў з жонкай як кот з сабакай.* Малая Бераставіца Бераст. *Мужык с жонкай жывуць, як кот з сабакам*. Маісеевічы Ваўк. *Раней усе добра жылі, а цяпер як кот з сабакам*. Руда Яварская Дзятл.

**Як кот з салам (з селядцом)**. *Неадабр.* Без толку, недарэчна (насіцца з чым-н.). *Носіцца с кнішкай як кот с салам.* Вялікая Мыса Смарг. *Што ты носісься з гэтай каструляй як кот сь селяццом.* Новы Двор Свісл. *Носіцца з гэтым чыгунікам, як кот з селядцом*. Дарані Свісл.

**Як кот лізнуць.** Мала з’есці. *Ты зусім не хочаш есьці, лізнеш як кот ды пайшла на работу*. Новы Двор Свісл.

**Як кот лядачы**. Дрэнны, нахабны. *Зяць у нас як кот лядачы, што зарве, то прап'е.* Геруцева Свісл. (СГВ, 615)

**Як кот маслянкі**. *Неадабр.* Залішне, празмерна (напіцца і пад.). Пра п’янага. *Ты паглядзі на яго, нарэзаўся як кот масьлянкі, языком ні варочая.* Баброўнікі Свісл.

**Як кот на жарнах.** Няўдала (пагуляць). *Куды ты, сынок, пойдзеш? Там адно будуць мужчыны, ты нагуляяся як кот на жарнах*. Сялец Смарг. (СГВ, 615).

**Як кот на мыш** *утаропіцца.* З зацікаўленасцю (глядзець на каго-небудзь). *Чаго ты ўтаропіўся на яе як кот на мыш*. Скрыдліва Навагр.

**Як кот наплакаў.** Вельмі мала. *Далі грошаў як кот наплакаў.* Дзераўная Сл. – *Даў семячкаў, то як кот наплакаў, –* сказала Віцю

*Лора.* Праважа Воран. *Дзень працы, а знаку – як кот наплакаў.* Парачаны Лід. *Зарабіў як кот наплакаў.* Лаша Гродз. (ППФВ, 29). *Зямлі той было як кот наплакаў, але жылі, карміліся.* Аляксандраўшчына Зэльв. *Зямлі ў вас як кот наплакаў.* Навумаўцы Шчуч. *Нарабіўся як кот наплакаў.* Сянькоўшчына Сл. *Ну і дапамог ты мне, як кот наплакаў.* Радзявічы Маст. *Сена ён прывёс – як кот наплакаў.* Белякі Дзятл.

**Як кот на сала** *глядзець.* З захапленнем (глядзець). *Ты ведаіш, суседачка, Віцька твой глядзеў на Аньку на танцульках як кот на сала.* Крэва Смарг. *Хлапец глядзеў на яе, як кот на сала.* Палушы Астр.

**Як кот сяручы.** *Груб.* Шырока адкрыўшы вочы ад здзіўлення ці фізічнага напружання (глядзець). *Ну што ты вылупіўся як кот сяручы, я ш табе ні карціна!?* Зэльва Зэльв.

**Як кот у вазонах.** Нахабна. *Прышоў у маю хату, ды яшчэ мяне ганіць, рассеўся як кот у вазонах.* Вільчашы Іўеў. (СГВ, 616).

**Як кот у дыме**. Часта (маргаць, лыпаць вачыма). *Ці ты ні відзіш?.. Гэта ш пад люстэркам на цьвяку вісяць нажэнкі [нажніцы]. Чаго глядзіш і лыпаяш як кот у дыме.* Малыя Вайшнарышкі Ашм.

**Як кот у марцы**. *Неадабр.* Распусны, разбэшчаны. *Як гэта Лена жыве с ваім мужыком?.. Ён жа ш як кот у марцы, швэндаяцца ўсюды, усе пра яго гавораць.* Купры Шчуч.

**Як кот у мыш** *утаропіцца.* З цікавасцю. *Чаго ты ўтаропіўся на яе як кот на мыш.* Скрыдлева Навагр.

**Як кот у мяшок** *папасці.* У непрыемную сітуацыю. *Жаніўшыся, Сцёпка папаў як кот у мяшок.* Сакольнікі Свісл.

**Як кот у сваты.** Вельмі прыгожа. *Прыбралася мама як кот у сваты.* Кіралі Шчуч. (СПЗБ-4, 123).

**Як кот у смятану.** Цалкам, вельмі, поўнасцю. *Улез як кот у смятану.* Кавалі Лід. (ППФВ, 64).

**Як кот у ямку.** *Груб.* Вельмі мала (зрабіць, выканаць). – *Мамко, пусьці пагуляць, я сёня на гародзі ўсей дзень праседзяў! – Толькі што праседзяў, нарабіў як кот у ямку.* Стокі Свісл.

**Як кот цыбулю** *любіць.* *Жарт.* Зусім не (любіць). *Яна любіць старога як кот цыбулю, покуль у таго грошы есць.* Ананічы Дзятл.

**Як марцовы кот на страсе** *прыскеліцца.* Вельмі. *Чаго прыскеліўся як марцовы кот на страсе?* Бярэзіна Іўеў. (ППФВ, 69).

КОТКА. **Котка за адну вячэру з'есць (з'ела б)** *каго. Іран.* Хто-небудзь вельмі мізэрны, невялікі, маларослы ці слабы, схуднелы. *Таго жаніха котка за адну вячэру б зьела.* Альхоўка Навагр. *Ай, які гэта чалавек... Паўчалавека, котка за адну вячэру зьесьць яго.* Місявічы Воран. (ЗНФ, 43).

**На тым котка і задавілася**. *Неадабр.* На гэтым і скончылася, завяршылася што-небудзь. *Усё ў жыцці забываецца. Так жа ш добра зь Янькай дружылі, а о, вышла замуш, выехала адгэтуль, пару пісьмаў напісала – на тым котка й задавілася.* Бастуны Воран.

**Тым котка і ўдавілася.** *Неадабр.* На гэтым справа і кончылася, гэтым і абышлося. Пры нявыкананні абяцання. *І проўда, што як просяць, та жнуць і косяць; так і тут: як пазычыла, та ўсё «аддам, аддам», аля тым котка і ўдавіласа!* Бершты Шчуч. *Мая дачка гаварыла ўсё, што вось-вось дадуць кватэру, а тады нешта перакруцілі, атсунулі чаргу, тым котка і ўдавілася.* Гродна. *Абяцаў, як будзя палучка, даць нам за тоя сена сотню, а заплаціў палову, так тым котка і ўдавілася.* Нача Вор. (ЗНФ, 70).

## *Скарачэнні крыніц*

БФ – Янкоўскі, Ф. Беларуская фразеалогія : фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне / Ф. Янкоўскі; рэд. М. Яўневіч, А. Баханькоў. – Мінск : Выш. шк., 1968. – 448 с.; ЗНФ – Лепешаў, І.Я. З народнай фразеалогіі: дыферэнц. слоўнік / І.Я. Лепешаў. – Мінск : Выш. школа, 1991. – 110 с.; МСГВ – Сцяшковіч, Т.Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці / Т.Ф. Сцяшковіч; рэд. Ю.Ф. Мацкевіч, М.А. Жыдовіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1972. – 620 с.; ППФВ – Сцяшковіч, Т.Ф. Прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, выслоўі народных гаворак Гродзенскай вобласці / Т.Ф. Сцяшковіч; Гродзенскі дзярж. пед. ін-т імя Янкі Купалы. – Гродна, 1968. – 75 с.; СГВ – Сцяшковіч, Т.Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т.Ф. Сцяшковіч; рэд. Ю.Ф. Мацкевіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1983. – 671 с.; СНМ – Цыхун, А.П. Скарбы народнай мовы: з лексічнай спадчыны насельнікаў Гродзенскага раёну / А.П. Цыхун; навук. рэд. П.У. Сцяцко. – Гродна, 1993. – 243 с.; СНМЗ – Сцяцко, П.У. Слоўнік народнай мовы Зэльвеншчыны / П.У. Сцяцко. – Гродна : ГрДУ, 2005. – 145 с.; Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча : у 5 т. – Мінск : Навука і тэхніка. – 1984. – Т. 4. – 616 с; Лепешаў, І. Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы : у 2 т. Т. 1. А – Л. / І. Я. Лепешаў. – Мінск : БелЭн, 1993. – 590 с.

## *Адміністрацыйна-тэрытарыяльныя раёны*

*Астр.* – Астравецкі, *Ашм.* – Ашмянскі, *Бар.* – Баранавіцкі, *Бераст.* – Бераставіцкі, *Валож.* – Валожынскі, *Ваўк.* – Ваўкавыскі, *Воран.* – Воранаўскі, *Гродз.* – Гродзенскі, *Дзятл.* – Дзятлаўскі, *Зэльв.* – Зэльвенскі, *Іўеў.* – Іўеўскі, *Карэл.* –

Карэліцкі, *Лід.* – Лідскі, *Маст.* – Мастоўскі, *Навагр.* – Навагрудскі, *Свісл.* – Свіслацкі, *Сл.* – Слонімскі, *Смарг.* – Смаргонскі, *Стаўб.* – Стаўбцоўскі, *Шчуч.* – Шчучынскі.

*Спіс літаратуры*

1. Беларуская міфалогія: энцыклапед. слоўнік / С. Санько [і інш.]; склад. І.Клімковіч. – 2-е выд., дап. – Мінск: Беларусь, 2006. – 599 с.

**А.Ю. Паўлоўская (Гродна)**

## Прыказкі аграгарадка Адэльск

Адэ'льск – аграгарадок у Беларусі, які размяшчаецца на рацэ Одла; адміністрацыйны цэнтр Адэльскага сельсавета Гродзенскага раёна Гродзенскай вобласці. Насельніцтва складае 661 чал. (на 2010 г.). Знаходзіцца Адэльск за 34 кіламетры на поўдзень ад Гродна, за 9 кіламетраў ад аўтамабільнай дарогі Гродна-Ваўкавыск.

Тапонім «Адэльск» мае балцкае паходжанне і ўтварыўся ад назвы ракі Одла (Адлянка), прытока ракі Свіслач.

Адэльск мае багатую і цікавую гісторыю. У мінулым гэты невялікі аграгарадок лічыўся горадам і нават меў магдэбурскае права. Жыхары горада Гродна і па сённяшні дзень жартаўліва называюць мясцовых жыхароў Адэльска «шляхтай», паколькі ў мінулым Адэльск быў сапраўдным каралеўскім горадам, валодаў шматлікімі каралеўскімі прывілеямі. Гэтыя прывілеі Адэльску былі дадзены ад многіх уладароў: ад караля Казіміра IV Ягайлавіча, караля Аляксандра Ягайлавіча, каралевы Боны Сфорцы, караля Стэфана Баторыя, караля Уладзіслава IV Вазы, караля Яна II Казіміра, караля Міхала Карыбута Вішнявецкага, караля Яна III Сабескага, караля Аўгуста II Саса, караля Аўгуста III Саса, караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Адэльск – гэта радзіма Тадэвуша Кандрусевіча – каталіцкага арцыбіскупа Мітрапаліта Менска-Магілёўскага. Тадэвуш Кандрусевіч – асаблівы аб’ект гонару адэльчан, у яго імя нават названа адна з галоўных вуліц аграгарадка.

Жыхары Адэльска даволі шчодрыя на моўныя афарызмы. Звернем увагу на прыказкі, што бытуюць у гэтай мясцовасці. Аднак пададзім толькі тыя парэміі, якія адрозніваюцца ад агульнаўжывальных пэўнымі фанетычнымі або лексічнымі асаблівасцямі ці часткова і семантыкай.

Пакольki на сённяшні момант у аграгарадку Адэльск пражывае пэўная колькасць бежанцаў з Усходняй Украіны (Луганск), гэта таксама знаходзіць адлюстраванне ў прыказках. Напрыклад, у прыказцы *чужая сям'я – пацёмкі* замест звычнага нам слова «душа» ўжываецца слова «сям'я».

Сярод насельніцтва аграгарадка пераважная колькасць людзей – каталікі, але ёсць і праваслаўныя. І тыя, і другія жывуць у згодзе, што яшчэ раз падкрэслівае такую характэрную для беларусаў рысу, як талерантнасць.

АД ДАБРА ДАБРА НЕ ЖДУЦЬ. Зрабіўшы некаму дабро бескарысна, не чакаюць дабра ў адказ. *Ты мілок, нічога ні разумеіш. Ад дабра дабра ні ждуць.*

АД РАБОТЫ КОНІ ДОХНУЦЬ. Кажуць у апраўданне, калі не хочацца нічога рабіць. Таксама як парада некаму адпачыць ад працы. *– Чаму на работу дзісь ні пайшоў? – Ад работы коні дохнуць.*

АЛЬХОВА, АБЫ НОВА. Няважна, якой якасці рэч, галоўнае, што новая. *Вось і будзе табе што насіць. Альхова, абы нова.*

АПОШНІМ ЦЫЦКА ПАД ХВАСТОМ. Кажуць пра тых, хто спазняецца. *А трэба было раней прыходзіць, братку: апошнім цыцка пат хвастом.*

БЯЛА НІ БЯЛА, АБЫ ВОДУ ВІДАЛА. Кажуць пра бялізну, якую не было магчымасці добра памыць. *А я так трохі прапаласнула тую сукенку і ні дурыла сабе галавы. Бяла ні бяла, абы воду відала.*

ГЛЯДЖУ Ў КНІГУ – ВІЖУ ФІГУ. Пра чалавека, які не разумее тое, што чытае. *Саша, пра што тут напісана?Ну няўжо ш ты ні зразумеў? Правільна, гляжу ў кнігу – віжу фігу.*

ГОЛ ЯК КОЛ І ГОСТРЫ ЯК МЕЧ. Пра беднага чалавека. *Гэты ўкраінец гол як кол і гостры як меч.*

ГОЛ ЯК САКОЛ. Пра беднага чалавека. *Я малады быў прыгожы і вабны, але гол як сакол.*

ГРАЗА Ў ЛЕС НЕ ІДЗЕ. Ужываецца як парада выказаць сваё незадавальненне ў вочы чалавеку, замест таго, каб маўчаць: з тваёй прамовы хоць нешта дойдзе да чалавека, «не адляціць у лес». *Граза ў лес ня йдзе. Ідзі і ўсё яму скажы.*

ГРУШКА МІНУШКА, А ЧАЛАВЕК НА ВЕК. Гучыць як парада сур'ёзна адносіцца да выбару мужа або жонкі. *Ведайце, дзеткі, грушка мінушка, а чалавек на век.*

ДУРАК [ШУКАЕ] РАБОТУ, А РАБОТА ДУРАКА. Пра чалавека, які заўсёды нечым заняты. *Дурак работу, а работа дурака. Цэлы дзень вярчуся.*

ДУРАК ДУРАКА БАЧЫЦЬ ЗДАЛЯКА. Людзі, падобныя ў нечым, хутка распазнаюць адзін аднаго. *О дык я ж бачу, што гэта мой чалавек. Дурак дурака бачыць здаляка.*

З КРАСАТЫ ВАДЫ НЕ ПІЦЬ. Кажуць пра няважнасць знешняй прыгажосці ў параўнанні з унутранымі якасцямі і гаспадарлівасцю, працавітасцю пры выбары мужа або жонкі. *Яна была ў яго надта красівая. Але з красаты вады ні піць, як кажуць.*

ЗАМУЖ ВЫЙСЦІ ТРЭБА ЗНАЦЬ – ПОЗНА ЛЕГЧЫ, РАНА ЎСТАЦЬ. Пра нялёгкае жыццё замужняй жанчыны. *Ня трэба тарапіцца! Замуж выйсьці трэба знаць – позна легчы, рана ўстаць.*

ЛЕПЕЙ ДЗЕСЯЦЬ РАЗ ДАЦЬ, ЧЫМ РАЗ ПРАСІЦЬ. Кажуць, калі трэба нечага папрасіць, а не хочацца гэтага рабіць. *Ааа, прасіць... Лепей дзесяць раз даць, чым раз прасіць.*

ЛЕПШ БАЛЮЧА, ЧЫМ СМЯРДЗЮЧА. Лепш расказаць чалавеку праўду і зрабіць яму балюча, чым падманваць. *– Трэба прызнацца і ўсё расказаць. Лепш адзін раз зрабіць балюча, чым усё жыцьцё падманваць. – Я ўжо й сама ні магу яму лгаць...І праўда, лепш балюча, чым сьмярдзюча.*

ЛЮБОЎ НЕ КАРТОШКА, НЕ ВЫКІНЕШ У АКОШКА. Кажуць пра вялікую сілу пачуцця кахання, ад якога проста так не пазбавіцца. *А што паробіш, калі ён любіць. Любоў ні картошка, ні выкініш у акошка.*

МНОГА ЦЯБЕ ТУТ ЕСЦЬ, КОТ ЗА НОЧ З'ЕСЦЬ. Кажуць пра малога і худога чалавека. *Еш, бо зусім ссохнеш. Многа цябе тут есьць, кот за ноч з'есьць.*

НА АБІЖАНЫХ ВОДУ НОСЯЦЬ. Чалавек павінен умець даравацць крыўды. *Надулася ўжэ! На абіжаных воду носяць!*

НА ЧУЖОМ НЯШЧАСЦІ НЕ ПАСТРОІШ СВАЙГО. Нельга стаць шчаслівым, адбіраючы шчасце ў іншага. *Але на чужом няшчасьці ні пастроіш свайго...Так і ён застаўся нешчасьлівы.*

НЕ МЫЛА, НЕ ЗМЫЛІЦЦА. Папрок таму, хто не хоча нечым дзяліцца. *А трэба было сказаць ёй: не мыла не змыліцца. Чаго яна такая скваппная?*

НЕ ТАКІ СТРАШНЫ ЧОРТ, ЯК ЯГО РЫСУЮЦЬ. Часам нешта можа быць не такім страшным, як пра гэта расказваюць людзі. *Не такі страшны чорт, як яго рысуюць. Ня бойся нічога, ідзі.*

НЕ ЎСЁ ТО ЗОЛАТА, ШТО БЛІШЧЫЦЬ. Не ўсё, тое, што прыгожа, сапраўды каштоўнае. *Ты не глядзі на красату. Не ўсё то золата, што блішчыць.*

НІ НАСЯРУ НІ ЗДРАСЬЦЕ. Варыянт: НІ НАСЯРУ НІ ДЗЯКУЙ. Пра чалавека, які не вітаецца, або не праяўляе ніякай рэакцыі ў адказ. *А ён пайшоў міма і ўсё. Ні насяру ні здрасьце. Вось табе і маладзёш.*

ПЕСНЯЙ СЫТ НЕ БУДЗЕШ. Акрамя таго, як спяваць песні, трэба працаваць, займацца сур'ёзнай справай, каб пражыць. *Ты, Ягор, паймі: песьняй сыт ня будзіш.*

ПЛАХОМУ ТАНЦОРУ ЯЙЦА МЯШАЮЦЬ. Кажуць нязграбнаму чалавеку, які спрабуе знайсці апраўданне свайму няўмельству. *Табе заўсёды нешта перашкаджае. Плахому танцору яйца мяшаюць.*

САБАКА І НА БОГА БРЭША. Няма чаго слухаць, што іншыя гавораць. *Некаторым людзям абы языком мянціць, няма чаго іх слухаць. Сабака і на Бога брэша.*

СВІННЯ ПРОЙДЗЕ І ТАЯ РОХНЕ. Гаворыцца як папрок няветліваму чалавеку. *А тэй Антось ідзе і хоць бы павітаўся! Не, морду завярнуў і пайшоў! Тожа мне кароль! Сьвіньня пройдзе й тая рохне!*

СВОЙ ЧАМАДАН, КАМУ ХАЧУ, ТАМУ ДАМ. Я сам вырашу, што мне рабіць з маімі рэчамі. *Гэта мае справы, каму я і што аддаю. Свой чамадан, каму хачу, таму дам.*

ССЫ Ў ГЛАЗА – ОН СКАЖЭТ БОЖАЯ РАСА. Пра чалавека без характару. *Ды яму ссы ў глаза – он скажэт божая раса.*

СТАРЫЯ – УЖО ДУРНЫЯ. Пра пажылых людзей, якія з-за ўзросту многа не помняць і не разумеюць. *А мы старыя – ужо дурныя...не разумеем нашу маладзёш.*

СТРАЧАЮЦЬ ПА АДЗЁЖКЕ, А ПРАВАЖАЮЦЬ ПА УМУ. Аб чалавеку мяркуюць па яго розуме. *У нас так кажуць: страчаюць па адзёжке, а праважаюць па уму.*

СЫНЫ – ЧУЖЫЯ ДЗЕЦІ. Для маці ад сыноў мала дапамогі, таму лічыцца, што яны «чужыя» дзеці. *А сыны мае падраслі, раз'ехаліся хто куды, а я адна тут засталася. Вось і кажуць, што сыны – чужыя дзеці.*

ТАЯ МАЦІ ШЧАСЛІВА, КАТОРА МАЕ ДОЧКІ. Кажуць пра тое, што лепш мець дачок, чым сыноў, бо ад іх больш дапамогі для

гаспадыні. *Ооо, дзеткі, нідарам кажуць: тая маці шчасьліва, катора мая дочкі.*

ФАМІЛЬЯ НЕ ПА МАТЦЫ, А ПА ПРАЦЫ. Пра чалавека кажуць, гледзячы на яго справы. *Так у нас кажуць: фамілья ні па матцы, а па працы.*

ХАХОЛ РАДЗІЎСЯ – ЖЫД ЗАПЛАКАЎ. Аб украінскай хітрасці і выкрутлівасці, якія пераўзыходзяць нават яўрэйскую прадпрымальнасць. *У нас пра хахлоў кажуць: хахол радзіўся – жыд заплакаў.*

ХТО КАГО ЧУБІТ, ТОТ ТАГО І ЛЮБІТ. Пра неабыякавыя адносіны паміж людзьмі, якія адзін з адным спрачаюцца, сварацца. *Глядзі, Мішка: хто каго чубіт, тот таго і любіт.*

ЦО ЗАДЗЮЖЭ ТО НЕ ЗДРОВЕ. Ва ўсім трэба ведаць меру. *Хопіць чытаць, ідзі пагуляй. Цалы дзень чытаеш. Хочаш ужо быць натта разумным, усё ведаць. Цо за дзюжэ, то не здрове. Марш на вуліцу!*

ЧАКАЙ ЛЯ МОРА ПАГОДЫ. Іранічна кажуць таму, хто чакае дарэмна доўгі час. *А ты, ёлупень! Сядзі! Чакай ля мора пагоды.*

ЧУЖАЯ СЯМ'Я – ПАЦЁМКІ. Кажуць з парадай не ўмешвацца ў чужыя справы. *У нас усе кажуць: чужая сям'я – пацёмкі.*

ЯК КРАСАТУ БОГ ДЗЯЛІЎ, ТО СПАЛА, А ЯК ДОЛЮ, ТО ЎСТАЛА. Пра непрыгожую, але шчаслівую дзяўчыну. *А пра мяне заўсёды казалі: як красату Бог дзяліў, то спала, а як долю, то ўстала.*

**М.А. Якалцэвіч (Гродна)**

## Моўныя скарбы Косаўшчыны

Вясной гэтага года выдавецтва «Тэхналогія» апублікавала слоўнік Алеся Зайкі «**Прыказкі і прымаўкі**, жарты і каламбуры, прыгаворкі і языкаломкі, вясельныя прыгаворкі пры дзяльбе каравая, вітанні і зычэнні, ветлівыя і ласкавыя выразы, засцярогі і прысяганні, праклёны і адкляцці, жартоўныя праклёны і дражнілкі-кепікі, зневажанні і параўнанні, прыкметы народнага календара **з Косаўшчыны**». Як відаць ужо з самой назвы, у слоўнік увайшло даволі шмат фальклорных адзінак самага рознага тыпу. Яны аб'яднаны ў 15 груп. Гэта – прыказкі і прымаўкі; прыкметы з народнага календара, назіранні; жарты, каламбуры, прыгаворкі; вясельныя прыгаворкі пры дзяльбе каравая; языкаломкі, вітанні; зычэнні;

ветлівыя, ласкавыя звароты; прысяганні; праклёны; жартоўныя праклёны; адкляцці; зневажанні; дражнілкі-кепікі, параўнанні.

Адлюстраванне ў славесных формулах быту, дзейнасці народа, яго традыцый і духоўнай спадчыны было б далёка не поўным, калі б складальнік абышоў гэтыя віды вуснай народнай творчасці. Яны служаць натуральным і лагічным працягам яго прац – «Дыялектны слоўнік Косаўшчыны» (2011), «Населеныя пункты Івацэвіччыны» (2012), «Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны» (2014). Чаргова выдадзены новы слоўнік – вынік шматгадовай карпатлівай працы яго складальніка (запісы зроблены з 1969 па 2014 гг.). Слоўнікавы артыкул уключае наступныя элементы: 1) загалоўкавы выраз; 2) прозвішча і ініцыялы інфарманта, звесткі пра год яго нараджэння, час запісу, месца жыхарства і адміністрацыйную прыналежнасць; 3) семантычная, а калі трэба, то і сітуацыйная характарыстыка ад укладальніка ці (або і) тлумачэнне інфарманта. Структурныя часткі «цытата з аповеду інфарманта», «прыклад інфарманта» з'яўляюцца не абавязковымі. Напрыклад, у слоўнікавым артыкуле *Ад парога падлогу не мятуць* пасля загалоўкавай прыказкі даецца яе пашпартызацыя: *Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.* Затым прыводзіцца тлумачэнне інфарманта з захаваннем асаблівасцей, характэрных для мясцовай гаворкі: «*На ўсё на сьвеце е парадак*».

У многіх выпадках, замест семантычнай (лагічнай) характарыстыкі, узнікае неабходнасць даваць сітуацыйную характарыстыку, г.зн. раскрываць сітуацыю, у якой ужываецца пэўная прыказка. Так, тлумачальная частка прыказкі *Рабіць не грэх, грэх красці* складаецца толькі з сітуацыйнай характарыстыкі: так адказвае чалавек, калі яго дакараюць, што працуе ў свята. Значэнне некаторых іншых прыказак зусім не суправаджаецца тлумачэннем, але яно тут і не з'яўляецца абавязковым, бо агульны сэнс кожнай такой прыказкі вынікае з прамых значэнняў яе слоў-кампанентаў, напрыклад: *Дзе гарэлка, там бяда; Дзяцей на свет пускаць лёгка, ды гадаваць цяжка; Злодзей пакіне вуглы, а агонь нічога; Лёгка сказаць, ды цяжка зрабіць; На век не нагуляешся, не выспішся навек; Разумны навучыць, а дурны памучыць; Рана загоіцца, а ліхое слова не забудзецца*. Хоць тут, магчыма, можна і было б акрэсліць маўленчую сітуацыю, у якой ужываецца прыказка. Дарэчы, пры падачы другіх прыказак такога кшталту тлумачальная частка ёсць: *Ніхто сабе не вораг* «ніхто сабе ліха не жадае»; *Сілаю не будзеш мілаю* «сілаю

ні прымусіш любіць»; *Хвораму нічога не міла* «хвораму чалавеку нічого ні міло, нішто ні радуя, ён думая толькі пра сваю хваробу (тлум. інф.)»; *Хто працуе, той і мае* «хто старанны, дбайны ў працы, у таго дастатак у хаце».

Для зручнасці карыстання ўвесь матэрыял унутры груп размешчаны ў алфавітным парадку.

Гэта кніга, як гаворыцца ў анатацыі, «першае сістэматызаванае апісанне парэміялагічнага і фразеалагічнага багацця мовы жыхароў аднаго з куткоў Беларусі – радзімы Тадэвуша Касцюшкі». Але перш за ўсё – парэміялагічнага: падачы прыказак адводзіцца большая частка кнігі. Праўда, побач з прыказкамі (напэўна, у якасці прымавак) пададзены тыповыя фразеалагізмы: *Ад зямлі адарваўся, а да неба не дастаў; Аддам на святыя ніколі; Чужымі рукамі жар заграбаць* і інш.

Ёсць фразеалагізмы і ў іншых раздзелах. Часам яны прыводзяцца ў сваёй традыцыйнай форме, як у фразеалагічных слоўніках літаратурнай мовы (*як карова языком злізала; як з ланцуга сарваўся; гад печаны; пудзіла агароднае; не дай Бог; не давядзі Бог*) або фіксуюцца разам з іх слоўным акружэннем (*адно дзіця, як вока ў лобе; патрэбны, як у мосце дзірка; расце як на дражджах; кожны на свой капыл цягне; сядзіць як мыш пад венікам; ходзіць як сам не свой; спіць як пшаніцу прадаўшы)* ці даюцца ў адной з іх магчымых парадыгматычных форм (*упаў як сноп; пражыла як на свінні праехала; абадралі як ліпку; шукае як ветру ў полі; каб мне язык адсох*).

У зборніку сустракаюцца таксама і прыказкі, занатаваныя ў двухтомным акадэмічным зводзе «Прыказкі і прымаўкі» (1976): *Адна галава добра, а дзве лепей; Без хлеба яда – да парога хада; Гарбатага магіла выправіць; Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка; Кожны цыган сваю кабылу хваліць; На бяду мала трэба; Папаў у нерат – ні ўзад, ні ўперад; Сцеражонага і Бог сцеражэ; У ціхім балоце чэрці водзяцца; Што праўда, то не грэх; Яйка курыцу вучыць* і інш. У гэтай сувязі прывядзём выказванне Ф.М. Янкоўскага, якое цалкам стасуецца і да збірання прыказак: «Далейшае разгортванне фразеаграфічнай (як і лексікаграфічнай) працы… вымагае, каб у новых слоўніках падаваліся спасылкі на тыя слоўнікі, у якіх ужо засведчаны народна-дыялектныя фразеалагізмы (словы), каб не бясконца «адкрываць» новыя і новыя фразеалагізмы, каб аблегчыць

працу даследчыкам, садзейнічаць фразеалогіі лінгвагеаграфічным метадам» [1, с.12]. І ўсё ж такі выданне Алеся Зайкі працуе на папаўненне прыказкавай скарбонкі. Нерушы тут багата: *Грэчка, як авечка: альбо пашанцуе, альбо не; «Дай» ніхто не любіць, а «на» і глухі пачуе; Жаба з вады – не пі вады, жаба ў воду – пі воду; За гарою валы задарма; Моглiц дзявочых няма; Лепей чакаць, чым выглядаць; Лепш дзеверы чатыры, чым залвіца адна; Надакучыць летам весніцы адчыняючы, а зімою нос уціраючы; Не будзь плохі, бо з'ядуць блохі; Пакуль Піліп прыбраўся, то Мірон насярбаўся; Прыгожую дзеўку і добрую карову з сяла не выпусцяць; Рабі, рабі ды папраўся; Як ні варочай, адно аднаго карочай; Як ляжыш, то выгадуеш вош, як бяжыш, то дагоніш грош* і інш.

Большасць прыведзеных у зборніку прыказак у ранейшых парэміялагічных працах не апісвалася.

Вельмі добра, што сюды ўключаны і парэміі, што адрозніваюцца ад раней апублікаваных структурай, кампанентным складам, вобразнай асновай: *На бітай* (літ: выбітай, вытаптанай, торнай*) дарозе трава не расце; Хто рана ўстае, таму Бог падае* (літ.: дае); *Як трывога, усе да Бога, а па трывозе – забыліся аб Бозе* (літ.: Як трывога, тады да Бога); *Пажывем далей – пачуем болей* (літ: Пажывём – пабачым); *Нуда горшая* (літ.: горш) *за каросту; У бабы косы* (літ.: валасы) *доўгія, а розум кароткі; Сыты з галоднага* (літ.: галоднаму) *не спагадае; Каму баліць, той крычыць* (літ.: Што каму баліць, той пра тое і крычыць); *Добрае далёка чуваць, а ліхое* (літ.: дрэннае*) – яшчэ далей*. І такія прыклады можна доўжыць.

Сярод традыцыйных прыказак можна вылучыць і такія, якія адрозніваюцца часткова і семантыкай. Гэта якраз дапамагае нам атрымаць уяўленне аб прыказках ва ўсёй разнастайнасці іх выкарыстання. Параўнаем іх агульнаўжывальнае значэнне і адпаведна тэрытарыяльна абмежаванае: *Добрую траву людзі сеюць, а ліхая чорт ведае адкуль бярэцца* 'ўжываецца як здзіўленне і абурэнне кепскімі ўчынкамі якіх-н. людзей' і *Добрую траву сеюць, а ліхая сама ўсходзіць* 'дабру вучаць, а ліха само родзіцца'; *Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць* 'пакуль дачакаешся чаго-н. жаданага, то будзе позна і прыйдзецца перанесці шмат гора, нядолі' і *Пакуль сонца ўзыдзе, то раса вочы выесць* 'пакуль жыццё наладзіцца, то здароўе страціш, не будзе калі жыць'; *Хто б дзятла пазнаў (ведаў), каб не яго <доўгі> нос* 'кажуць пра таго, хто сам прагаварыўся або

яшчэ якім-н. чынам выдаў сябе’ і *Хто ведаў бы дзятла, каб не яго доўгі нос* ‘пра чалавека, які не ўмее трымаць язык за зубамі, разгалошвае сакрэты’; *Радня да паўдня, а як сонца зойдзе, сам чорт не знойдзе* ‘кажуць пра сваякоў вельмі далёкіх або такіх, якія прызнаюць каго-н. раднёй толькі ў неабходных выпадках’ і *Радня да паўдня, а як сонца зайдзе, яе ніхто не найдзе* ‘гэдык кажуць, як трапляюць у бяду. Радня суцешыць у бядзе колькі дзён, а табе гараваць гадамі’; *На наш век дурняў хопіць* ‘кажуць з упэўненасцю, што падобнае да таго, аб чым гаварылася, не знікне, не перавядзецца, будзе паўтарацца’ і на Косаўшчыне ‘цынічнае выказванне чалавека, які жыве за кошт іншых’.

У асобных выпадках даюцца этымалагічныя звесткі. Так, узнікненне прыказкі *Куды машына, туды і Макрына* аўтар звязвае з пэўным жыццёвым выпадкам: «Жыла Макрына. Аўтобусы тады ні хадзілі, то яна прыходзіла да праўленьня калгаса і ехала, куды йшла машына: у Косава – значыць, у Косава, у Ружаны – значыць, у Ружаны. Гэдык цяпер кажуць на жанчыну, якая бадзяецца бяс справы, добрую гультайку».

Калі ж у склад моўнага выслоўя ўваходзіць малавядомае слова ці слова не з агульнапрынятым сэнсам, то тут жа, у слоўнікавым артыкуле, паясняецца яго значэнне: *Дзень гайды, навек бяды* (*гайда* – вяселле, шумнае, шматлюднае); *І ў Парыжы з аўса не зробіш рыжы* (*рыжа* (дыял.) – рыс); *Крывога дзерава не выправіш* (*дзерава* – дрэва); *Мужыку жонка, як у небе абалонка* (*абалонка* – прасвет у хмарным небе); *Цалуюць, але ўсе бязносыя* (*бязносыя* – тут: бедныя); *Сякі-такі варнач – ды ўсё лепшы за плач* (*варнач* – тут: муж).

Адлюстравана ў слоўніку і прыказкавая варыянтнасць. Лексічныя варыянты прыказак уключаюцца ў загаловак і даюцца ў круглых дужках: *Адна бяда не ходзіць, за сабою другую (сем) водзіць; Без грэбеня (начыння) і вош не заб’еш; Вышэй за галаву (нос) не падскочыш; Гаспадарку весці – не барадою (ганавіцамі) трэсці; Не радуйся (не смейся), рабе, бо будзе і табе*.

Што да сінтаксічных і некаторых іншых варыянтаў, то паколькі іх не заўсёды можна адлюстраваць у загалоўку, яны прыводзяцца ўнутры слоўнікавага артыкула. Напрыклад, у артыкуле *Запас бяды не чыніць* пасля загаловачнай прыказкі ідзе яе апісанне (семантычная характарыстыка), а затым прыводзяцца два варыянты: *Запас есці не просіць* і *Запас месца не пралежыць*. Параўн. так-

сама: загаловачная прыказка *Здаровы з хворага не спагадае* і варыянт *Здаровы хворага не разумее; Маўчыш, то двух навучыш* і *Хто маўчыць, той двух навучыць; Не надзявай рызы, калі не поп* і *Не поп, не ўбірайся ў рызы*.

Варта адзначыць, што некаторыя варыянтныя прыказкі адрозніваюцца адна ад другой відазмяненнямі сінтаксічнай канструкцыі, у іншых выпадках змяняецца парадак слоў або перастаўляюцца часткі прыказкі, калі яна структурна арганізавана як складаны сказ і гэтак далей. І ўсё гэта трэба ўлічваць пры падачы прыказак. Аднак у слоўніку ёсць выпадкі, калі прыказкі з аднолькавай вобразнай асновай падаюцца на розных старонках. Пададзім некаторыя з іх: *Дзе іголка, там і нітка* (с.35) і *Куды іголка, туды і нітка* (с. 57); *Горка рэдзька – усе ядуць, замужам кепска – усе ідуць* (с. 28) і *Рэдзька горка – усе ідуць, замуж кепскі – усе ідуць; За грошы здароўя не купіш* (с. 43) і *Здароўя за грошы не купіш* (с. 47); *Дзе свае сабакі кусаюцца, хай чужыя не мяшаюцца* (с. 36) і на с. 53 гэтая ж прыказка падаецца як варыянт парэміі *Калі свае б'юцца, чужы не лезь; На Бога спадзявайся, але ж і сам старайся* (с. 66) і *Не толькі на Бога спадзявайся, але і сам старайся* (с. 77); *Надарыў Бог Мікіту на валакіту* (с. 68) і *Пакараў Бог Мікіту на валакіту* (с. 82)…

Некалькі прыказак, уключаных у Слоўнік, маюць не адно, а два значэнні.

Напрыклад, значэнне прыказкі *Сухая лыжка рот дзярэ* тлумачыцца такім чынам: «Так кажа мужык жонцы, пытаючы ў яе перад ядою гарэлкі, – гэта адно. Другое: каб зьдзейсніць задуманае, трэба начальніку даць хабар» (с. 97). Ці яшчэ: *Хоць благое плецянішка, але за ім зацішка* «хоць старое паліто, але ратуя ат холаду; хоць благенькі мужык, а жонцы заступца» (с. 108).

Не будзем затрымлівацца на дэталёвым разглядзе іншых раздзелаў слоўніка, але з упэўненасцю адзначым, што ўсе яны не менш цікавыя за першы. Тут сабраны сапраўды выразы трапныя, дасціпныя, вобразныя. Каб чытач меў уяўленне, прывядзём хоць па два прыклады з гэтага жанрава разнастайнага матэрыялу: *Гром на крыгу – халодная вясна; Дзе мухаморы, там і баравікі* (прыкметы з народнага календара), *Дурная галава заўсёды баліць; Жывем, як за царом Гарохам: снег гарыць, саломай тушым* (жарты), *Дару маладым міску, каб у хаце было многа піску; Няхай вас Бог гадуе і лёс шыхуе* (вясельныя прыгаворкі пры дзяльбе каравая), *Каласы*

*каласавалі, каласавалі, выкаласаваліся; Павук вусаты наеўся салаты, салата спушыла, павука задушыла* (языкаломкі), *Добрым людзям добры вечар! Здаровенькі начавалі!* (вітанні), *Дай, Божа, вам лепей смяяцца, чым плакаць! Каб не хварэлі ды ўвесь хлеб паелі!* (зычэнні), *Зорачка мая ясная! Ягадка ты мая салодкая!* (ласкавыя выразы), *Каб мне язык калом у роце стаў! Як перад Богам клянуся!* (прысяганні), *Дай Бог табе доўга жыць, але аднаму! Каб тое сала табе калом у горле стала!* (праклёны), *А няхай цябе камар убрыкне! Каб табе жонка сем дачок нарадзіла!* (жартоўныя праклёны), *Соль табе ў вочы, кацаўба ў зубы, засланка ў плечы! Хай Бог міласцівы ўберажэ ад тваіх слоў!* (адкляцці), *Вырвус! Зацэнлівы конь!* (зневажанні), *Пятрок ходзіць без парток; У нашага Антося штаны з палосся* (дражнілкі-кепікі), *Пагуляў як Парася ў Сцяпана на печы; У лесе як у старой хаце* (параўнанні).

Слоўнік, у якім сабраны і дбайна апісаны народныя выслоўі як адзін са сродкаў мастацкай выразнасці, будзе карысны не толькі фалькларыстам, мовазнаўцам, выкладчыкам і студэнтам ВНУ, але і ўсім, хто цікавіцца беларускай мовай, рупіцца, каб сваю думку перадаць па-народнаму трапна і вобразна. Тут чытач знойдзе многа новых, раней не апісаных рэгіянальных устойлівых выразаў, пазнаёміцца з характэрнымі мясцовымі формуламі прывітання, зычэння, прысягання і г.д.

*Спіс літаратуры*

1. Янкоўскі, Ф. Беларуская мова / Ф. Янкоўскі. – 3-е выд., дапрац. – Мінск: Выш. шк., 1978. – 336 с.

**І.Т. Яўгенідзэ (Гродна)**

## Прыметнікавыя фразеалагізмы са структурай, адпаведнай іх катэгарыяльнаму значэнню (на матэрыяле гаворак Гродзеншчыны)

Фразеалагізм – гэта «ўстойлівая, узнаўляльная, не менш як двухкампанентная моўная адзінка, якая спалучаецца са словамі свабоднага ўжывання і мае цэласнае значэнне, не роўнае суме значэнняў яе кампанентаў (калі іх разглядаць на ўзроўні слоў)» [4, с. 5].

На аснове семантычнай, марфалагічнай і сінтаксічнай прымет фразеалагізмы размяркоўваюцца па семантыка-граматычных разрадах, суадносных (з назоўнікам, прыметнікам, дзеясловам і інш.) або несуадносных з часцінамі мовы. Так, напрыклад, І.Я. Лепешаў вылучае назоўнікавыя, прыметнікавыя, дзеяслоўныя, прыслоўныя, мадальныя, выклічнікавыя фразеалагізмы, а таксама фразеалагізмы, несуадносныя з часцінамі мовы: *начная зязюля* – назоўнікавы, *заварваць (заварыць) кашу* – дзеяслоўны, і інш.

Паводле стуктуры ўсе фразеалагізмы падзяляюцца на тры тыпы: фразеалагізмы, утвораныя па структурнай схеме словазлучэння, яны маюць галоўны і залежны кампаненты, звязаныя паміж сабой падпарадкавальнай сувяззю: *курыцы (пеўня) не пакрыўдзіць (не выб'е), на рыб'ю нагу*; фразеалагізмы са структурай спалучэння слоў, у якіх галоўны і залежны кампаненты не вылучаюцца: *мех і торбу, так а так*; фразеалагізмы са структурай сказа, у якіх умоўна можна вылучыць граматычную аснову (і дзейнік, і выказнік або толькі адзін галоўны член*): як рукой зняло, каб прымеў бы то (дык) з'еў бы*.

Да прыметнікавых адносяцца фразеалагізмы, якія абазначаюць прымету асобы ці прадмета, звычайна маюць граматычна галоўны кампанент, выражаны прыметнікам, дзеепрыметнікам, лічэбнікам ці займеннікам, у сказе выступаюць у ролі дапасаванага азначэння ці іменнага выказніка: *ласы як кот на каўбасы* 'які любіць пажывіцца'. Сярод іх вылучаюць фразеалагізмы са структурай, адпаведнай іх катэгарыяльнаму значэнню (граматычнае значэнне сігналізуецца прыметнікавым, дзеепрыметнікавым, займеннікавым, лічэбнікавым кампанентам), і фразеалагізмы са структурай, не адпаведнай іх катэгарыяльнаму значэнню (не маюць знешняга паказчыка свайго катэгарыяльнага значэння). Спынімся падрабязней на першым тыпе прыметнікавых фразеалагізмаў. Разгледзім іх падзел поводле структуры.

1. Фразеалагізмы, утвораныя па структурнай схеме словазлучэння. Яны складаюцца з двух і болей кампанентаў, звязаных паміж сабой сувяззю дапасавання, кіравання і прымыкання. «Праўда, такая сувязь носіць чыста фармальны характар» [4, с. 113]. Прыметнікавыя фразеалагізмы-словазлучэнні ўтвораны па наступных мадэлях:

а) «прыметнік + залежная форма назоўніка з прыназоўнікам у вінавальным склоне»: *востры на язык* – 'дасціпны, знаходлівы': *Наш дзяцька востры на йазык, ніхто з йм не згаворыцца*. Панара Смарг. (СГВ); *лёгкі на капыт* – 'шпаркі ў хадзе, які можа лёгка і хутка хадзіць': *Нінка! Ты лёгкая на капыт. Зьбегай у агарот, нарві морквы*. Косцевічы Астр. (СДФГ); *хворы на галаву* – 'неразумны, дурань': *Што з табой гаварыць, што табе ўталкоўваць, калі ты хворы на галаву.* Жупраны Ашм. (СДФГ);

б) «дзеепрыметнік + залежная форма назоўніка ў творным склоне»: *саломай крыты* – 'светлавалосы': *Такія ўжо беленькія валасы, саломай крыты*. Малая Бераставіца Бераст. (СДФГ); *чортам падшыты* – 'вельмі спрытны, бойкі, разбітны': *Ну й даходны хлопец, чортам патшыты.* Ківанцы Воран. (СДФГ); *шылам брыты* – 'з пабітым воспаю тварам': *Цяпер гэтай воспы й ні чуваць, а да вайны ў нас быў адзін дзет шылам брыты.* Данілавічы Дзятл. (ЗНФ);

в) «дзеепрыметнік + назоўнік з прыназоўнікамі *ў* або *на* + прыметнік»: *купаны ў гарачай вадзе* – 'нястрыманы, запальчывы': *Мой мужык купаны ў гарачай вадзе, йак што ні па-йаго, то й вылайаць можа*. Клепачы Зэльв. (СГВ); *ласы на кілбасы* – 'які мае намер забраць, прысвоіць што-н., завалодаць чым-н.'. *Во, та ты ласы на кілбасы!.. Захацеў усе агароды забраць… А пра другіх ты падумаў?..* Бабіна Гродз. (СДФГ);

г) «дзеепрыметнік + злучнік *як* + назоўнік + назоўнік з прыназоўнікам *на*»: *ласы як кот на каўбасы* 'любіць пажывіцца, з'есці што-н. смачнае'. *Усё толькі смашнага шукаяш, ласы як кот на каўбасы*. Бабры Ваўк. (СДФГ);

д) «прыметнік + назоўнік у назоўным склоне са злучнікам *як*»: *белы як крэта* – 'бледны'. *Йак заваліўса ў роў трактар, мой Хведар прыбех дадому белы йак крэта, ні мох слова сказаць.* Клінчаны Гродз. (СГВ). *Голы як біч, востры як меч* – 'пра нікчэмнага чалавека, які любіць выстаўляцца'. *Ты йаго ні чапай, ніхай хваліцца, йаго ні справіш, бач, голы як біч, востры як меч.* Барташы Шчуч. (СГВ). *Голы як стой* – 'бедны'. *Дзяцей у яго пеціара, голы як стой, але вельмі ўдалы, што хочаш змайструя.* Хорашава Навагр. (СГВ);

е) «*як* + прыназоўнік + назоўнік у родным склоне + дзеепрыметнік»: *як з вока вырваны* – 'вельмі падобны да каго-н.

(з бацькоў ці родных)’. *Бачыла Танінага хлопчыка. Ну ш як з вока вырваны – увесь, як маці.* Пілаўня Шчуч. (ЗНФ). *Як з яйца выліты* – ‘вельмі падобны да каго-н. (з бацькоў ці родных)’. *Мар’я прыехала с сынам. Як зь яйца вуліты, увесь Адам.* Курыцічы Петр. (ЗНФ);

ж) «*як* + назоўнік у творным склоне + дзеепрыметнік»: *як памыямі абліты* – ‘зняважаны, аганьбаваны хто-н.’. *Стаяў як памыямі абліты, а ўсе глядзелі на яго, як на дурнога.* Студзенікі Свісл. (СДФГ). *Як цапамі збіты* – ‘вельмі стомлены, знясілены’. *І на адной рабоці былі, але Віктар прышоў, паеў і на гулянку паляцеў, а Васіль не пойдзя, ён кажа, як цапамі зьбіты* Нача. Воран. (ЗНФ);

з) «лічэбнік + назоўнік у творным склоне + дзеепрыметнік»: *адным грэбенем чэсаныя* – ‘вельмі падобныя, аднолькавыя’. *На нас з Валькай, маёй сястрой, тожа гэдык казалі, што мы адным грэбяням чэсаныя, а праўда, ці не, хто яго зная.* Старына Маст. (СДФГ);

і) «часціца *не* + назоўнік у творным склоне + дзеепрыметнік»: *не пальцам роблены* – ‘не горшы за іншых, не пазбаўлены ведаў, здольнасцяў’. *Ты думаў, мы ўжэ такія, горшыя за ўсіх, нічога ні можам. Не, брат, і мы ні пальцам робляныя.* Стокі Свісл. (СДФГ);

к) «назоўнік у родным склоне + часціца *не* + прыметнік»: *нагі не варты* – ‘нікчэмны’. *Ты ж йаго нагі не варта, чаго йашчэ выдумляйаш усякайа глупства?* Міхнічы Смарг. (СГВ);

л) «прыметнік + назоўнік з прыназоўнікам *у*»: *плячысты ў жываце* – ‘тоўсты хто-н’. *Яшчэ такі малады, а ўжэ плячысты ў жываце.* Вострава Маст. (СДФГ).

Галоўным кампанентам фразеалагізмаў акрэсленага структурнага тыпу выступае прыметнік або дзеепрыметнік, які кіруе назоўнікам з прыназоўнікам ці без яго.

2. Фразеалагізмы, утвораныя па структурнай схеме спалучэння слоў. «Да фразеалагізмаў-спалучэнняў належаць звароты, кампаненты якіх не ўтвараюць прэдыкатыўную аснову або не знаходзяцца паміж сабой у падпарадкавальных адносінах» [1, с. 290]. Прыметнікавыя фразеалагізмы-спалучэнні ўтвораны па наступных мадэлях:

а) «злучнік *як* + дзеепрыметнік»: *як выкапаны* – ‘вельмі падобны на каго-н.’. *Васіль іхны як выкапаны бацька; што ён,*

*што бацька – адно ліцо.* Алешавічы Маст. (СДФГ). *Як пасвенчаны* – ‘ціхі, спакойны, рахманы’. *Янак Лёнчыкаў такі ўжо ш, як пасьвенчаны ўсядно, ні ён каму ў вочы кідаецца.* Мардасы Ашм. (СДФГ, 240). *Як перамыты* – ‘прыгожы, здаровы, у росквіце хто-н.’: *Прыехаў яе зяць. Хлопяц, во! Як перамыты: поўны, крупны, свежы!* Гнесічы Навагр. (СДФГ);

б) фразеалагізмы, утвораныя як аднародныя члены, звязаныя злучнікам *ні – ні*: *ні сухі ні мокры* – ‘пасрэдны чалавек, які ні чым не вызначаецца і якога цяжка кваліфікаваць’. *Сказалі на яе, што ні сухая ні мокрая, дык пакрыўдзілася.* Генюшы Навагр. (ЗНФ). *Ні сцяты ні павешаны* – ‘збянтэжаны, разгублены’. *Йак машыну адабралі, ходзіць цяпер ні сцяты, ні павешаны.* Геранёны Іўе. (СГВ). *Ні сыры ні вараны* – ‘без настрою, прыгнечаны, разгублены’. *Чаго ты сёння такі ні сыры ні вараны? Няма як нават пагаварыць.* Каменка Шчуч. (СДФГ);

в) фразеалагізмы, створаныя як аднародныя члены, звязаныя без злучніка: *голы-босы* – ‘бедны, нічога не мае, нічога не нажыў’. *Прыйшоў да мяне ў прымы голы-босы, пасьля ўжэ ражжыліся.* Купры Шчуч. (СДФГ).

Такім чынам, прыметнікавыя фразеалагізмы са структурай, адпаведнай іх катэгарыяльнаму значэнню традыцыйна падзяляюцца на такія структурныя тыпы: фразеалагізмы-словазлучэнні, фразеалагізмы-спалучэнні. Найбольшую колькасць адзінак аб’ядноўвае першы тып, які налічвае адзінаццаць утваральных мадэляў. Значна меншы па колькасці фразеалагізмаў другі структурны тып, у ім вылучаем тры ўтваральныя мадэлі.

*Спіс літаратуры*

1. Бурлыка, С.І. Прыметнікавыя фразеалагізмы са структурай спалучэння слоў / С. І. Бурлыка // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні: зб. навук. прац. – Гродна: ГрДУ, 2007. – С. 289 – 295.

2. Даніловіч, М.А. Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны / М.А. Даніловіч. – Гродна: ГрДУ, 2000. – 267 с.

3 Лепешаў, І. Я. З народнай фразеалогіі: дыферэнцыйны слоўнік / І.Я. Лепешаў. – Мінск, 1991. – 110 с.

4. Лепешаў, І.Я. Фразеалогія сучаснай беларускай мовы: Вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ / І.Я. Лепешаў. – Мінск: Выш. шк., 1998. – 271 с.

5. Сцяшковіч, Т.Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т.Ф. Сцяшковіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 671 с.

**І.І.Бубновіч, Ж.С.Сіпліведня (Гродна)**

## Адметнасці хады чалавека як падстава для ўтварэння мянушак

У антрапанімічнай сістэме Гродзеншчыны прыкметны пласт уласных асабовых імёнаў складаюць мянушкі, што называюць асобаў паводле адметнасцей іх хады, перамяшчэння, фізічнага руху. Колькаснае багацце антрапонімаў такога тыпу не з'яўляецца выпадковым, бо паходка чалавека нярэдка адлюстроўвае не толькі асаблівасці канстытуцыі яго цела, але і настрой, тэмперамент, узаемадачыненні людзей у калектыве. Вялікі знаўца чалавечай душы Анарэ дэ Бальзак параўноўваў паходку чалавека з «фізіяноміяй» характару. «Паходка – дакладнае адлюстраванне думак, жыцця», – падкрэсліваў пісьменнік [1, с. 83]. І гэта сапраўды так. Назіранні псіхолагаў сведчаць, што павольны крок – прыкмета спакойнай натуры, якая прызвычаілася да стабільнага жыцця. Такія людзі, як правіла, усё трымаюць пад кантролем, яны верныя пэўным прынцыпам. Напружаная хада – паказчык замкнутасці, баязлівасці чалавека. Доўгі, шырокі крок уласцівы людзям дысцыплінаваным, якія дбаюць пра свой гонар. Млявая паходка дэманструе слабую волю, бяссілле чалавека і г. д. Такім чынам, адметнасці хады чалавека могуць стаць трапнай характарыстыкай яго ўнутранага стану, а часам нават і маральных рысаў. Усё згаданае знайшло сваё адлюстраванне і ў сістэме вулічных імёнаў-мянушак, бо нішто так трапна і выразна не раскрывае сутнасці той ці іншай з'явы або прадмета ці асобы, як жывое народнае слова.

Аналіз фактычнага матэрыялу паказаў, што большасць мянушак, узнікненне якіх звязана з пэўным тыпам паходкі чалавека, вызначаецца празрыстай матывацыяй. Утварыліся такія антрапонімы семантычным спосабам – шляхам пераасэнсавання былых назваў-характарыстык асобы паводле характару іх хады, перамяшчэння. Аднак падставай для ўтварэння мянушак могуць стаць не толькі адметнасці хады, перамяшчэння чалавека ў прасторы (*Адна нага тут, другая там; Лёгкі; Павольны; Рухасянка; Скараход; Хуткі; Шагайло*), але і яго рухавасць, спрытнасць у роз-

ных справах (*Мякека, Пстрычка, Шатан, Шэвеліха*). Таму ў семантычнай структуры шэрагу мянушак побач з семай, якая паказвае на адметнасць хады чалавека, нярэдка прысутнічае сема, што характарызуе і іншыя яго якасці (спрытнасць, увішнасць, працавітасць і г. д.). Напрыклад*: Бурдзюк, Брэндала, Лэга, Мокры, Сарна, Трусіла* і пад.

Пашырэнне на Гродзеншчыне маюць мянушкі, у аснове ўзнікнення якіх ляжыць падабенства ў характары перамяшчэння людзей з перамяшчэннем прадстаўнікоў жывёльнага свету, насякомых (*Вожык, Гусь, Мядзведзь, Слон, Кузьнечык, Лось, Качур, Качушка, Рысь, Чарапаха*), прадметаў побыту (*Венік*), зброі (*Тарпеда*), або падабенства са з'явамі прыроды (*Вецер, Маланка, Мяцеліца*).

Часам мянушка магла развіцца на падставе падабенства хады носьбіта мянушкі з хадой той ці іншай рэальнай асобы або героя кінафільма (*Озалс, Тэрмінатар*). Зразумела, што з'яўленне падобных мянушак звязана з вобразна-экспрэсіўным мысленнем народа.

У асобную групу можна аб'яднаць мянушкі, дадзеныя асобам, што маюць пэўныя адхіленні, звязаныя з станам і працай апорна-рухальнага апарату: неаднолькавая даўжыня ног, крывізна ног (*Гуляй нага, Крываногая, Набокі*, *Цэпа*).

Актыўна функцыянуюць у гродзенскіх гаворках мянушкі для называння асобаў, адметнасць паходкі якіх выклікана пашкоджаннямі розных частак апорна-рухальнага апарату чалавека ў выніку няшчасных выпадкаў: *Бязногі, Клыба, Клыбаты, Кульцяпка, Падскакеіч, Трыножка* і пад.).

Ніжэй змешчаны мянушкі, зафіксаваныя на Гродзеншчыне. Антрапанімічны матэрыял падаецца ў выглядзе слоўніка ў алфавітным парадку з выкарыстаннем спрошчанай транскрыпцыі.

АДНА́ НАГА́ ТУТ, ДРУГА́Я ТАМ, м. Мянушка пажылога мужчыны, які заўсёды некуды бяжыць. *Адна нага тут, другая там усюды даляціць першым. Нідзе без яго ні абыдзяцца.* Галаўнічы Гродз.

БУРДЗЮ́К, м. Мянушка мажнага, надта непаваротлівага хлопца, які спыняецца падчас хады праз некалькі крокаў. *Нехта ў прымні шоргая, пэўна Бурдзюк зашоў.* Рэпля Ваўк.

БЯЗНО́ГІ, м. Мянушка мужчыны, якому ампутавалі адну нагу, аднак з дапамогай кастылёў ён рухаецца хутка. *Бязногі скурожыць вам быля-што пра чалавека, і як ветрам яго здуя.* Верцялішкі, Капцёўка Гродз.

ВЕ́НІК, м. Мянушка спрытнага мужчыны, які хутка ходзіць. *Учора каля Рэні курэй продалі, то Венік першым даляцеў, аж дзесяць штук узёў.* Путрышкі Гродз.

ВЕ́ЦЕР, м. Мянушка мужчыны, які вельмі хутка ездзіў на кані. *Вецер нясецца ў лес, як шалёны.* Дабраволя Свісл.

ВО́ЖЫК, м. Мянушка чалавека, які пры хадзьбе гучна тупае. *Вожык сваім тупатам ізноў усіх пабудзіў.* Путрышкі Гродз.

ГУЛЯ́Й НАГА́, м. Мянушка мужчыны-злодзея, у якога адна нага карацейшая за другую. *Яшчэ цёмна было, а Гуляй нага з гароду с цалюткім мяшком пацягнуўса. Каму ш сёньня памох выкапаць?* Верцялішкі Гродз.

ГУСА́К, м. Мянушка мужчыны, які ходзіць як гусь. *А Гусака ні відаць даўно, мо, да сына паехаў.* Путрышкі Гродз.

ГУСЬ, м. Мянушка мужчыны, які ходзіць паважна, як гусак. *Гуся здалёк пазнаяш. Ідзе хілдаючыса, як назаўтра.*Стрыеўка Гродз.

ЖА́БКА, м. Пра мужчыну з няўклюжай паходкай. *Ну йзноў да магазіна Жапка падаласа. Відаць, маці пеньсю палучыла.* Жытомля Гродз.

КАЛО́ША, ж. Мянушка жанчыны, якая кульгае. *Калі шчэ прыйдзя тая Калоша, яе за сьмерцю трэба пасылаць.* Гірдзеўка Шчуч.

КАНДЫ́БА, м. Мянушка мужчыны, які хутка хадзіў. *Наш Кандыба каго хочаш дагоніць, яму матоцыка ні трэбо.* Беняконі Воран.

КАНДЫБА́Й КАНДЫБА́ЯВІЧ, м. Мянушка кульгавага старога дзеда. *Дзе трэбо, там Кандыбай Кандыбаявіч першы даляціць.* Сколабава Гродз.

КАРУ́СЬ, м. Мянушка кульгавага мужчыны. *Як тока прыгрэя вясеньня слонца Карусь ідзе ў лес па ляшчыну, а пасьля і кошыкі плесьць пачыная.* Беняконі Воран.

КАСТЫ́ЛЬ, м. Мянушка мужчыны, які пасля таго, як зламаў нагу, стаў хадзіць з кастылём. *Зарас Кастыль ні можа нават сам*

*сабе прапалоць гароду, а ўпярот такі ш хуткі мушчына быў.* Путрышкі Гродз.

КАЦУ́П, м. Мянушка хлопца, які ходзіць, вагаючыся з боку на бок. *Нашага Кацупа здалёк пазнаяш, ідзе, як карабель плыве.* Кульшычы Маст.

КАЧУ́ШКА, ж. Мянушка жанчыны, хада якой падобна да хады качкі. *Качушка на фап ізноў лезе. Пэўна, з мужыком пагрызласа і ўжэ даўленя паднялоса.* Васілевічы Гродз.

КАЧУ́Р, м. Мянушка мужчыны, хада якога падобна да хады качкі. *У Качура і дзеці ідуць перавальваючыса.* Каўшова Маст.

КА́ЧКА, ж. Мянушка дзяўчыны, якая звычайна ходзіць хістаючыся. *Качка ходзіць неяк смешна, некрасіва.* Геранёны Іўеўск.; Сцяткоўшчына Дзятл.

КЛЫ́БА, ж. Мянушка жанчыны, якая ходзіць, кульгаючы на адну нагу. *Клыба клыбае памалу сабе.* Валавічоўцы Гродз.

КЛЫБА́К, м. Мянушка мужчыны, які кульгае. *Клыбак сваю нагу ішчэ ў войску падвярнуў.* Кульшычы Маст.

КЛЫБА́ТКА, ж. Мянушка жанчыны, якая клыбала на адну нагу. *Паціху праз вёску прайшла Клыбатка.* Алішкаўцы Шчуч.

КЛЫБА́ТЫ, м. Мянушка мужчыны, які клыбаў, бо адна нага ў яго была некалі зламана. *Глядзі-ты, Клыбаты ўжэ які рас чыкілдыкая да лаўкі.* Заполле Маст.

КЛЫ́НДА, ж. Мянушка няўвішнай жанчыны, якая звычайна марудна ходзіць хістаючыся. *Ля, Клында па ваду пайшла, ды прапала.* Дубна Маст.

КЛЫПА́Ч, м. Мянушка кульгавага мужчыны, у якога адна нага карацейшая за другую. *Відзяла нідаўна Клыпача ў магазіні, аля ён і здаў, сівы стаў, нядышлы.* Геранёны Іўеўск.

КЛЭ́БА, м. Мянушка чалавека, які зламаў (пашкодзіў) нагу. *Клэба, хіба, у бальніцы.* Масты.

КЛЭ́ЙША, м. Мянушка кульгавага мужчыны, што ў маладосці зламаў ногі. *Клэйша доўго на кармацэху на барабанах рабіў, а як ногі зламоў, на млын пашоў.* Верцялішкі Гродз.

КЛЭ́ПКА, ж. Мянушка самаўпэўненай жанчыны, у якой вельмі грацыёзная паходка. *Клэпка кажны дзень прыбярэцца як да вянца і да магазіну ідзе.* Масты.

КРЫВАНО́ГАЯ, ж. Мянушка кабеты, у якой крывыя ногі. *Крываногая нігды спаньніцы ні носіць, яна заўсягда ў штанах.* Гераначы Іўеўск.

КРЫВЫ́, м. Мянушка пажылога мужчыны, які кульгаў на адну нагу. *Крывога да лесу сын на матоцыку давязе, а назад ён паціху і сам дадыбая.* Беняконі Воран.

КУЗНЕ́ЧЫК, м. Мянушка невысокага мужчыны, які кульгае на адну нагу. *Кузьнечык жаніўса ў гэтым року. Узёў сабе і жонку кульгаву.* Валавічоўцы Гродз.

КУЛЬГА́ВЫ, м. Мянушка кульгавага мужчыны. *Кульгавы кінуў ферму ды калываяцца сабе каля хаты.* Індура Гродз.; Хацькоўцы Ваўк.; Верцялішкі, Капцёўка Гродз.; Грабава Зэльв.

КУЛЬГУ́ША, м. Мянушка маладога мужчыны, які кульгае на левую нагу. *Кульгуша, мо, с тры рокі ў хаці сядзіць на бацькоўскіх харчах.* Эймінаўцы Бераст.

КУЛЬЦЯ́ПКА, м. Мянушка кульгавага старога дзеда. *Як трэбо што зрабіць, Кульцяпка ні можа, ногі баляць. А як па пеньсю, то на пошту ён бягом ляціць.* Верцялішкі Гродз.

КУЛЮ́НЬКА, м. Мянушка мужчыны, які вельмі хутка ходзіць, пра яго звычайна вяскоўцы кажуць: «Паляцеў, як кулюнь». *Кулюнька ўсюды першы пасьпея.* Балотцы Навагр.

КУРДУ́ПЕЛЬКА, ж. Мянушка старой працавітай, спрытнай жанчыны, якая вельмі хутка ходзіць. *Курдупелька нешта натта рана да Гронна паляцела, павалакла нейкія торбы с сабой. Пэўна на базар.* Галаўнічы Гродз.

КУ́РЫЦА, ж. Мянушка немаладой жанчыны, якая звычайна нетаропка ходзіць, расставіўшы ў розныя бакі рукі. *Курыца прыехала ў нашу вёску з Расіі, аля добра баба.* Дабраволя Свісл.

КУЦІ́ВІХА, ж. Мянушка жанчыны, якая ходзіць без справы. *Куцівіха то там прыстаня да кампані, то тут. Валэндаецца недзе, так і дзень пройдзя.* Азёры Гродз.

ЛЁ́ГКІ, м. Мянушка высокага спрытнага хлопца, які вельмі хутка ходзіць. *Лёхкі ў дзяцьку свайго ўдаўса. Той такі, як вецяр, да работы спраўны.* Азёры Гродз.

ЛОСЬ, м. Мянушка мужчыны, які ходзіць павольна, нязграбна. *Лось, як нап'ецца, дык у хаці спасу німа: усё на яго дарозі ляціць на зямлю.* Путрышкі Гродз.

МАЛА́НКА, ж. Мянушка хуткай, рухавай жанчыны. *Гэта баба ўсюды пасьпявая, мо, таму яе Маланкай у нас і завуць.* Савічы Слон., Пыра Гродз.

МАТЫ́ЛЬ, м. Мянушка рухавага мужчыны, які мае звычку хадзіць подбегам. *Матыль ні йдзе, а нібыто бяжыць некуды.* Андрэеевічы, Хацькоўцы Ваўк.

МО́КРЫ, м. Мянушка маруднага, няспрытнага мужчыны, які заўсёды марудна ходзіць. *Мокры што робіць, што ходзіць, як мокрая гарыць.* Індура Гродз.

МЯДЗВЕ́ДЗЬ, ж. Мянушка маладой мажнай жанчыны, якая ходзіць не спяшаючыся. *Ходзіць яна сагнуўшыса, як старая баба, аш палавіцы трашчаць, таму, пэўна, і называюць Мядзьведзям.* Свіслач.

МЯДЗВЕ́ДЗЬ, м. Мянушка нязграбнага мужчыны, які ходзіць хістаючыся. *У Мядзьведзя і сын гэтакі, трыцаць метраў да школы, а ён калуваяцца з гадзіну, покуль дойдзя да яе.* Мацеявічы Бераст.

МЯКЕ́КА, м. Мянушка вельмі маруднага, няспрытнага чалавека. *Мякека і рубля на воз укласці добра ні можа, сена ні прысцісьня.* Індура Гродз.

МЯЦЕ́ЛІЦА, ж. Мянушка рухавай жанчыны сталага ўзросту, якая ходзіць трушком. *Мяцеліца зраня і ў хаці работу парабіла, і да сына ў Юравічы пасьпела заляцець.* Некрашэвічы Карэл.

НАБО́КІ, м. Мянушка мужчыны, які ходзіць, нахіліўшыся ў правы бок. *Набокаму трэбуло аперацу на пазваночнік рабіць, аля маці ні пусьціла, пабаяласа, што ні ўстаня зусім.* Азёры Гродз.

О́ЗАЛС, м. Мянушка мужчыны, які шлёпаў нагой. *Озалс наш адно толькі зная, як на дзеўкі хадзіць.* Дзенькаўцы Маст.

ПА́ВА, ж. Мянушка гультаяватай жанчыны, якая ходзіць без справы, павольна, як паўлін. *Пава каля хаты нічога не зробіць бес памагатых.* Свяцк Гродз.

ПАВО́ЛЬНЫ, м. Мянушка мужчыны, які ходзіць павольна, дробнымі крокамі. *А ун, і Павольны наш цяняцца, нагу за нагу ледва перастаўляя.* Навасёлкі Шчуч.

ПАДСКАКЕ́ІЧ, м. Мянушка мужчыны, які кульгае на адну ногу. *Патскакеіч быў вартаваць на стан пашоў, аля зімой упаў ды зноў с палачкай ледва ходзіць.* Валавічоўцы Гродз.

ПАЖА́РНІК, м. Мянушка мужчыны, які звычайна некуды спяшаецца. *Хацела запытацца ў Пажарніка пра каня, то ш ні дала рады дагнаць. Вот чалавек, усё некуды ляціць.* Клявіца Ашм.

ПІНГВІ́Н, м. Мянушка старога дзеда, які ходзіць, расставіўшы рукі ў розныя бакі. *Стары Пінгвін растапырыць рукі ў стораны і ідзе, нібыта нікога ні відзіць.* Кульшычы, Струбніца Маст.

ПСТРЫ́ЧКА, ж. Мянушка вельмі хуткай жанчыны. *Нашай Пстрыццы ніколі на месцы ні сядзіцца.* Табала Гродз.

ПЭ́НДА, ж. Мянушка жанчыны, якая хутка ходзіць. *Пэнда на вечар недзе паперласа*. Свяцк Гродз.

РУХАСЯ́НКА, ж. Мянушка маладой дзяўчыны, якая хутка ходзіць. *Бывало Рухасянка да міне за мінут пяць даляціць. А ціпер перабраліса ў бабіну хату, за санаторну школу.* Азёры Гродз.

РЫСЬ, м. Мянушка мужчыны, які хутка бегае. *Рысь, пэўно, пабег за дабаўкай у магазін*. Струбніца Маст.

САРАКАНО́ЖКА, ж. Мянушка спрытнай жанчыны, якая ўсюды паспявае. *Сараканошка па дарозі ні ідзе, а ўсё напрастке, праж жыто*. Эймінаўцы Бераст.

САРНА́, ж. Мянушка рухавай жанчыны. *С Сарной ні зраўняцца нікому.* Шынкаўцы Шчуч.

САХА́ТЫ, м. Мянушка мужчыны, які хадзіў вялікімі крокамі, як лось. *Сахаты так сцігіляя, што аш папяроса з роту вылятая.* Беняконі Воран.

СКАРАХО́Д, ж. Мянушка жанчыны, якая хутка ходзіць. *На дварэ такая сьлізгота, а Скараход недзе падаласа.* Грабава Зэльв.; Астрына Шчуч.

СКО́РЫ, м. Мянушка спрытнага мужчыны. *Скоры да работы ў Луцкаўлянскі лес з'езьдзіў, грыбоў троху назьбіраў.* Індура Гродз.

СЛІМА́К, м. Мянушка мужчыны, які павольна ходзіць. *Сьлімак палес памалу дадому.* Валавічоўцы Гродз.

СЛОН, м. Мянушка чалавека, які заўсёды наступае на ногі іншым. *Нехта зь дзевак вішчыць, відаць, зноў Слон наступіў камусьці на нагу.* Гродна.

СПО́РЦІК, м. Мянушка жвавага мужчыны. *Спорцік ужо ўсьпеў даць сьвіням і схадзіць на гарот.* Азёры Гродз.

СУСА́НІН, м. Мянушка старога мужчыны, які ніколі не ходзіць па дарозе. *Сусанін у лес зноў некімі кругамі пайшоў.* Скамарошкі Гродз.

ТАРАПУ́НЬКА, м. Мянушка мужчыны, які заўсёды спяшаецца. *Трэба ісьці каровы страчаць, сёньня Тарапунька гоніць.* Стрыпуны Астр.

ТАРПЕ́ДА, ж. Мянушка хуткай, спрытнай жанчыны. *Нашу Тарпеду ў гэтум годзі на трахтар пасадзілі. Як яна будзя егдзіць? Яна ж ляціць, ні глядзіць ні на што.* Губінка Гродз.

ТАРЦІ́ЛА, ж. Мянушка пажылой жанчыны, якая павольна ходзіць. *Тарціла ў магазін папаўзла.* Бераставіца.

ТРЫНО́ЖАК, м. Мянушка кульгавага мужчыны. *Івана нашага Трыношкам хлопцы празвалі.* Алішкаўцы Шчуч.

ТЭРМІНА́ТАР, м. Мянушка рухавага хлопца, які мае манеру хадзіць хутка, шырокімі крокамі. *Гэты Тэрмінатар папалохаў мне дзіцей.* Няцечы Гродз.

УНУ́ЧКА, ж. Мянушка вельмі рухавай бабулькі. *Унучка зімой лён церла на церніцу, дык мае дзеўкі бегалі глядзець.* Занкі Свісл.

ФАРСА́Ж, м. Мянушка мужчыны, які любіць хутка ездзіць на аўтамабілі. *Ну то паспрабуй уганіса за Фарсажам, толькі ці дагоніш?* Ігнатавічы Бераст.

ХРОМ, м. Мянушка кульгавага мужчыны. *Чаму Хром? Бо кульгая, як ідзе, хіліцца.* Бабраўнікі Астр.

ХУ́ТКІ, м. Мянушка мужчыны, які робіць усё хутка. *У Хуткага ў руках усё гарыць.* Андрэевічы, Хацькоўцы Ваўк.

ЦА́ПЛЯ, м. Мянушка мужчыны, які ходзіць шырокімі крокамі. *Цапля па дарозе ідзе, як метрам мерае.* Індура Гродз.

ЦЭ́ПА, м. Мянушка мужчыны, у якога адна нага карацейшая за другую. *Цэпа тупая паціху, але ат хаты далёка не атходзіцца.* Дабраволя Свісл.

ЧА́ЙКА, м. Мянушка спрытнага мужчыны, які мае звычку хадзіць подбегам. *Бачыла дзісь Чайку ў горадзі, казаў, што прыехаў на базар.* Азёры Гродз.

ЧАРАПА́ХА, ж. Мянушка жанчыны, якая вельмі марудна ходзіць. *Чарапаха пакуль да крамы дайшла, я бульбу сваю каля хаты асыпала.* Беняконі Воран.

ЧАРАПА́ХА, м. Мянушка маруднага мужчыны. *Хіба я ш Чарапахай куды дайду?* Азёры Гродз.

ЧЫКІЛДА́, м. Мянушка маладога мужчыны, які ходзіць павольна, не спяшаючыся. *Чыкілду ні кліч. Пакуль ён дойдзя, сам усё зробіш.* Індура Гродз.

ШАГА́ЙЛО, м. Мянушка старога мужчыны. *Шагайло хутка ходзіць*. Юравічы Дзятл.

ШАЛЁНЫ, м. Мянушка старога чалавека, які заўсёды спяшаецца. *Глянь, зноў Шалёны на выган пабех*. Баброўнікі Гродз.

ШАРКА́ТЫ, м. Мянушка хлопца, які ходзіць, шаркаючы нагамі. *Шаркатаму дзеці ўнукаў прывязьлі. Дзе ён дасьць рады з гэтымі жэўжыкамі справіцца?* Навасёлкі Гродз.

ША́ТАН, м. Мянушка хлопца, які вельмі хутка ездзіць на аўтамабілі. *Шатан такі ўжо спраўны, ас скура на ім гарыць.* Пыра Гродз.

ШЛЁП-НАГА́, ж. Мянушка жанчыны, якая кульгае на адну нагу. *Да Шлёп-нагі ўчора дзеці прыехалі*. Алішкаўцы Шчуч.

ШЛЭ́ПА, ж. Мянушка жанчыны, у якой адна нага карацейшая за другую. *Шлэпа разам з намі яшчэ на танцулькі хадзіла*. Табала Гродз.

ШЛЭ́ПІХА, ж. Мянушка жанчыны, якая ідучы, быццам цягне ногі па зямлі. *Шлэпіха ўжэ ледва ногі валачэ.* Эймінаўцы Бераст.

ШТЭ́ПСЕЛЬ, м. Мянушка хлопца, які ходзіць, шоргаючы нагамі. *Штэпсялю маці абутку ні напасецца, што ні абуя гэты хлопяц, усё рвецца.* Гірдзеўка Шчуч.

ШЭВЕ́ЛІХА, ж. Мянушка рухавай жанчыны. *Шэвеліха чысто гонча па вёсцы носіцца.* Заполле Маст.; Асташына Навагр.

*Спіс літаратуры*

1. Бальзак, О. Теория походки / О. Бальзак // Бальзак, О. Патология общественной жизни. – Москва: Ламартис, 2006. – 288 с.

**А.У. Каспарэвіч (Гродна)**

## Мікратапанімія вёскі Салтанішкі Воранаўскага раёна

Ёсць на Беларусі цудоўная вёска Салтанішкі. Зусім звычайная вёсачка, але мае слаўнае гістарычнае мінулае. Як сведчаць пісьмовыя крыніцы, Салтанішкі вядомы з 16 стагоддзя. У 1596 годзе гэта быў маёнтак у Лідскім павеце, уласнасць Яна Марчэўскага.

Сёння сярод навакольных вёсак Салтанішкі вылучаюцца прыгожымі мясцінамі: зялёнымі лясамі, квітнеючымі лугамі, блакітным возерам. Салтанішкі вабяць да сябе сваёй прыгажосцю, прастатой. Па велічыне вёска невялікая, складаецца з дзвюх вуліц. Тут жывуць ветлівыя людзі. Кожны ведае адзін аднаго. Жыхары вёскі радуюцца пабудаванай капліччы, куды кожную нядзельку прыязджае ксёндз і адводзіць імшу.

Асабліва прыгожая старая частка вёскі, якая мае нейкі дужа мілы, задумлівы і паэтычны каларыт дзякуючы прысадам вялікіх дрэў на вуліцы, вялізным дзічкам у садах. Тут шмат зеляніны, шмат неба над галавой. Перад кожнай хатай ёсць кветнік, які ад пачатку вясны да позняй восені радуе вока гаспадара, вяскоўцаў, а таксама ўсіх тых, хто хоць аднойчы бываў у Салтанішках у цёплую пару.

Значная частка населенага пункта – новыя дамы, пабудаваныя з белай цэглы, але кожны гаспадар мае свой густ, а адсюль і першыя адметныя рысы: рамы вокнаў пафарбаваны ў розныя колеры, побач з некаторымі хатамі раскінуліся прыгожыя кветнікі і сады, ад іншых у летнюю спёку ідзе цень і прахалода ад арак з густымі кустамі вінаграднай лазы, якая прыгожа аздабляе сцежкі каля дамоў.

А вакол вёскі зелянеюць мурожныя лугі, віднеюцца бясконцыя палі, бярозавыя гаі. Калі заходзіш у лес, адразу адчуваеш свежае і чыстае паветра, становіцца лягчэй дыхаць. А азірнешся вакол сябе, убачыш нейкі іншы, непадобны да вёскі свет. Гаспадар лесу – дуб-волат. Ён узвышаецца над іншымі дрэвамі. Вакол дуба шмат прыгажунь-елак, бяроз, асін, вольхаў. Звяроў якіх толькі тут

не сустрэнеш!? Па галінках дрэў скачуць вавёркі-працаўніцы, лятаюць галасістыя птушкі, водзяцца ласі, дзікі, ваўкі.

Менавіта такія пачуцці выклікае ў мяне мая вёска, навакольныя мясціны. Гэта і захапленне, і радасць, пераплеценая з пяшчотаю.

Прыгожы выгляд мае мая вёсачка дзякуючы працавітым рукам чалавека. Я вельмі люблю месца, дзе нарадзілася, часта прыпамінаю прымаўку: «Дарагі той куток, дзе рэзалі пупок». Мне здаецца, што куды б ні закінуў мяне лёс, сваю вёсачку я буду ўспамінаць з цеплынёй. Яна будзе вабіць мяне ўдзень і ўночы, летам і зімой. Кожны куточак мілы жыхарам вёскі, кожная мясціна мае сваю назву.

Ніжэй змешчаны мікратапонімы вёскі Салтанішкі, сабраныя аўтарам у палявых умовах.

АДАМО́ВІЧА ХУ́ТАР. Назва хутара. *Яблыкі смачныя пры Адамовіча хутары.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад прозвішча гаспадара Адамовіч, які жыў пры гэтым хутары.

АДЫ́НЦАЎ ХУ́ТАР, м. Назва хутара, дзе жыла сям'я Адынец. *Каля Адынцавага хутару шмат лісічак ёсьць.* Салтанішкі Воран.

АКЛА́ВЫ, мн. Частка лесу, які размяшчаецца за вадасховішчам. *У Аклавы хадзілі, відзялі зайца.* Салтанішкі Воран. /Цяпер гэтая частка лесу адносіцца да Літоўскай Рэспублікі.

АЛЬТА́НА (АЛЬТА́НКА), ж. Сажалка, якая знаходзіцца паблізу Боравага лесу. *Пашоў на Альтанку ўчора, нічога ні злавіў.* Салтанішкі Воран.

АЛЬШО́ЎНІК, м. Назва лесу, дзе расце шмат альшыны. *Да Альшоўніка ходзяць усе.* Салтанішкі Воран.

АЛЬШЫНА́, ж. Луг, які знаходзіца блізка ад калгаснай фермы. *Пашоў у Альшыну па рабіну.* Салтанішкі Воран.

АНУ́ЧКІ ХУ́ТАР мн. Назва хутара, гаспадар якога збіраў анучы і здаваў іх пасля за грошы ў спецыяльныя пункты прыёму. *Хутар Анучкі рано прадалі.* Салтанішкі Воран.

АЦІ́НКІ, мн. Лясок, размешчаны каля Фрайтара хутара, дзе расце шмат грыбоў. *У Ацінкі бягуць маліны зьбіраць.* Салтанішкі Воран.

АСІПО́ВІЧАЎ ХУ́ТАР, м. Назва хутара. *Пад Асіповічаў хутар паехаў бацька касіць дзялку.* Салтанішкі Воран. / Назва

паходзіць ад прозвішча гаспадара Асіповіча, які жыў на тым хутары.

АШМЯНА́, ж. Поле на поўначы ад вёскі. *Каля Ашмяны соткі пасадзілі.* Салтанішкі Воран.

АШМЯ́НСКІ ХВО́ЙНІК, м. Назва лесу, які расце каля Ашмянскага канца вёскі. У *Ашмянскім Хвойніку завша людзей многа.* Салтанішкі Воран.

БАЛЬШАВІ́ЦКІ ХУ́ТАР, м. Назва хутара. *Як пойдзя мой стары да Бальшавіцкага хутару, то і прападзе да вечару.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад мянушкі мужчыны, які жыў пры гэтым хутары.

БАЛЬШАВІ́ЦКІ, м. Назва лесу. *У Бальшавіцкім лесі шмат лісічак.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад мянушкі мужчыны, які жыў на гэтым хутары.

СО́НГІНА ХУ́ТАР, ж. Хутар, дзе жыў гаспадар з прозвішчам Сонгін. *Ля Сонгіна хутара вёдрамі зьбіраюць брусніцы.* Салтанішкі Воран.

БАРЦЯКО́Ў ХУ́ТАР, м. Назва хутара, дзе жыла багатая сям'я Барцяк. *Багатыя людзі, кулакі там жылі ў Барцяковым хутары.* Салтанішкі Воран.

БАРЦЯКО́Ў, м. Назва склепа. *Барцякоў там, дзе жылі браты Міхаіл і Альяш.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад прозвішча Барцяк, які пабудаваў гэты склеп.

БАСЮЛЯ́ ГРУ́ШКА, ж. Месца, дзе каля дарогі расце грушка. *Ёсьць яшчэ у нас Басюля грушка, алі там смачныя грушы.* Салтанішкі Воран.

БЕЗРАБО́ЧЫ, м. Назва лесу, які расце каля вёскі Межанцы. *У Безрабочы страшно хадзіць аннаму.* Салтанішкі Воран.

БЕЛАУ́САЎ ХУ́ТАР, м. Назва хутара. *Каля Белаусаў хутара стаяў маяк, дзеці там любілі лазіць наверх.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад прозвішча гаспадара, які жыў на гэтым хутары.

БЕ́РЦАЙЧА ЛА́ЗНЯ, ж. Лазня, якая знаходзіцца каля Берцайчавага хутара. *Дзяўчаты да Берцайчы сабраліса мыцца.* Салтанішкі Воран.

БЕ́РЦАЙЧАЎ ХУ́ТАР, м. Назва хутара, дзе жыў мужчына з прозвішчам Бярцэвіч. *Да Берцайчавага хутару, мо, с кіламетры два ад нас.* Салтанішкі Воран.

БОР, м. Лес каля вёскі Высокія. *У Боры гэдулькі баравікоў раней было.* Салтанішкі Воран.

БРУК, м. Участак зямлі, дзе было шмат камянёў. *Паехалі па каменя ў Брук.* Салтанішкі Воран.

БЯРЭ́ЗІНА, ж. Поле, на якім раней рос бярэзнік, пасля яго выкарчавалі. *Гэта на Бярэзіне канюшына вырасла?* Салтанішкі Воран.

БЯРЭ́ЗНІК, м. Назва лесу, дзе расце шмат бярозаў. *У Бярэзьнік паехаў спускаць сок.* Салтанішкі Воран.

ВАВЖЫ́НЦАЎ ХУ́ТАР, м. Назва хутара. *Мёд бярэм толькі на Вавжынцаў хутары.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад прозвішча памешчыка Вавжынец, які жыў на тым хутары.

ВАРАНО́ЎСКІ ХУ́ТАР, м. Назва хутара. *Вараноўскі прыдумаў яго брат, так і кажуць, пад Вараноўскага пойдзям.* Салтанішкі Воран. / Назва пайшла ад прозвішча Вараноўскі, які жыў на гэтым хутары.

ВЕ́ЛЬКІ КА́МЕНЬ, м. Участак зямлі, каля якога ляжаў вялікі камень. *Гараць паедзям да Велькага Камня.* Салтанішкі Воран.

ВЕЦЯРО́К, м. Гумно, дзе не было забітых шчытоў, праходзіў вецер. *Ецця па сена ў Вецярок.* Салтанішкі Воран.

ВІ́КТЫ ХУ́ТАР, м. Назва хутара. *Пад Новы год хадзілі да Вікты хутару па ёлачкі.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад імя жанчыны Вікта, якая жыла на гэтым хутары.

ВІ́ЛЬБІКАЎ ХУ́ТАР, м. Назва хутара. *Вільбікі такія жылі, зато і гавораць Вільбікаў хутар.* Салтанішкі Воран. / Назва пайшла ад прозвішча Вільбік, які жыў пры гэтым хутары.

ВІЛЬКЯЛЁ́Ў, м. Назва лесу, дзе жыў мужчына з прозвішчам Вількель. *У Вількялёў часто па грыбэ ідзем.* Салтанішкі Воран.

ВЫ́ГАН, м. Паша, якая знаходзіцца на поўначы ад вёскі Салтанішкі. *На выгані пасьвім сьвіней.* Салтанішкі Воран.

ВЯРЦІ́МСКАЯ РО́ЙСТА, ж. Назва балота, якое знаходзіцца за Франуся хутарам. *Не ець на Вярцімска Ройста, мы самі паедзям.* Салтанішкі Воран.

ВЯРЦІ́МЫ, мн. Частка пашы. *Вярцімы длугія ў нас.* Салтанішкі Воран.

ГАЕ́ЛІ, мн. Назва лесу, які расце паблізу хутара Франуся. *У Гаелі езьдзілі за мохам.* Салтанішкі Воран.

ГАЙ, м. Невялічкі лясок каля хутара Семсі. *У Гаі больш за ўсё арэшніку было.* Салтанішкі Воран.

ГО́НКА, ж. Сенажаць. *На Гонку пойдзям сёньня, трохі падробім.* Салтанішкі Воран.

ГУМНО́, н. Месца, дзе стаіць малатарня. *Нешта ля Гумна шмат людзей сабралася.* Салтанішкі Воран.

ДА́МБА, ж. Назва возера, якое размяшчаецца каля вёскі Высокія. *На Дамбі рыбу ловяць.* Высокія Воран.

ДЗІКО́ВІНА, ж. Запушчанае балота, якое знаходзіцца ў канцы вёскі. *Каля Дзіковіны давалі сена.* Салтанішкі Воран.

ДЗЯ́ЛКА, ж. Участак зямлі. *Пойдзям на Дзялку працаваць.* Салтанішкі Воран.

ДЗЯРВАНЫ́, мн. Частка лесу, які расце каля вёскі Кулі. *У Дзярваны пашлі гуляць у шышкі.* Салтанішкі Воран.

ДУБКІ́, мн. Бераг насупраць возера. *Каля Дупкоў столькі дзіцей гуляе, з усяе вёскі папрыляталі.* Салтанішкі Воран.

ДУБО́ВЫ ЗРУБ, м. Калодзеж, які быў размешчаны каля фермы ў Салтанішках. *Дубовы Зруп развальваяцца ўжэ.* Салтанішкі Воран.

ЖВІРА́НКА, ж. Поле паблізу Семсевага саду. *На Жвіранцы расьці нічога ні хоча.* Салтанішкі Воран.

ЖВЯРЫ́НЕЦ, м. Узгорак паблізу возера. *На Жвярынцы дзеці зімой на санках катаюцца.* Салтанішкі Воран.

ЗАГУМЕ́ННЕ, н. Месца, якое знаходзіцца за гумном. *Вядзя, навяжы каня на Загуменьня.* Салтанішкі Воран.

ЗЫ́ДАРАЎ ХУ́ТАР, м. Назва хутара. *Паедзям да Зыдаравага хутару* . Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад мянушкі мужчыны, які жыў на гэтым хутары.

ІНЖЫНЕ́Р-ХУ́ТАР. Назва хутара, дзе жыў Вайткун Іван, які працаваў інжынерам у калгасе 40 гадоў. *Пат хутар Інжынера ездзілі рабіць трахтар.* Салтанішкі Воран.

КАБЫ́РАЎ ЛЕС, м. Назва лесу. *Чарніц сёлета німа ў Кабыравым лесі.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад мянушкі мужчыны, які жыў на гэтым хутары.

КАВАЛЁЎШЧЫНА, м. Лес паблізу вёскі Кавалькі. *С Кавалёўшчыны дровы цягаюць.* Салтанішкі Воран.

КАНЦАВЫ́ ХВО́ЙНІК, м. Назва лесу, які расце ў канцы вёскі. *Каля Канцавога Хвойніка яго злавілі.* Салтанішкі Воран.

КАНЦАВЫ́Я, мн. Палоскі зямлі на поўдні ад вёскі. *Паехаў да Канцавых рабіць.* Салтанішкі Воран.

КАПЕ́Ц, м. Брацкія могілкі, дзе былі пахаваныя яўрэі. *Капец ёсьць яшчэ ў нас.* Салтанішкі Воран.

КАР'Е́Р, м. Штучнае возера, якое ўзнікла на месцы ранейшага кар'ера, адкуль бралі жвір, гравій. *Улетку на Кар'еры месца свабоннага німа.* Салтанішкі Воран.

КА́СПАРА РО́ЙСТВА. Назва лесу. *Да Каспара Ройства потым і хадзіць баяліса.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад прозвішча чалавека Каспар, які памёр у гэтым лесе.

КІТО́ЙЧА ХУ́ТАР, м. Назва хутара, дзе жыў гаспадар з прозвішчам Кітойч. *Да Кітойча ні раз лёталі на дзень.* Салтанішкі Воран.

КІ́ШНЯВАЙ ХУ́ТАР. Назва хутара. *Пойдзям да Кішнявай хутара за травамі.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад прозвішча жанчыны Кішня, якая была знахаркай.

КЛА́ДКА, ж. Доўгі мост, які знаходзіцца паблізу кар'ера. *Прас Клатку ходзяць на ферму.* Салтанішкі Воран.

КЛО́НІ, мн. Назва кустоў, каля фермы ў вёсцы. *Пашлі ў Клоні рубаць ольхачкі.* Салтанішкі Воран.

КО́НЬСКІ ГРУДО́К, м. Назва лесу. *Коньскі грудок так і празвалі, бо конь утапіўся.* Салтанішкі Воран.

КРУ́ГЛАЯ, ж. Паша. *Каровы сёньня пагнаў на Круглую.* Салтанішкі Воран.

КРУГЛІ́ЦА, ж. Паляна круглай формы ў лесе паміж ямамі. *На Кругліцы касілі, леснікова сенажаць была.* Салтанішкі Воран.

КУ́ДЖМЫ ХУ́ТАР. Назва хутара, дзе жылі браты Алясюк і Рома Куджмы. *На Куджмавым хутары жыў добры масьцяр, ён хаты будаваў.* Салтанішкі Воран.

КУ́ДРА, ж. Назва невялікага вадаёма. *Ець касі пат Кудру.* Салтанішкі Воран.

КУЛЕ́ВІЧАЎ ХУ́ТАР, м. Назва хутара, дзе жыў мужчына з прозвішчам Кулевіч. *Да Кулевіча хутару сабраліса на шашлык.* Салтанішкі Воран.

КУТЫ́, мн. Поле і сенажаць, якія знаходзяцца паміж вёскай і балотам, быццам у куце. *Здалёк былі бачны гэтыя Куты.* Салтанішкі Воран.

ЛАГЕ́ЗЫ ХУ́ТАР. Назва хутара. *Хутар Лагезы, бо быў такі Лагеза, дзеткі.* Салтанішкі Воран. / Назва пайшла ад прозвішча мужчыны, які жыў пры гэтым хутары.

ЛАЗО́ВЫ КУСТ, м. Палоскі зямлі на тарфяніках. *Пашлі нарубаям чаранкоў пад Лазовы куст.* Салтанішкі Воран.

ЛІ́НГІ Я́МА. Сажалка. *Пад Лінгі Ямай навязвалі кароў.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад прозвішча Лінга.

ЛУЖКІ́, мн. Частка лесу, дзе мясцовае насельніцтва збірае ягады. *У Лушках сёньня паўвёскі было.* Салтанішкі Воран.

ЛУНЁЎ ХУ́ТАР. Назва хутара. *Каля Лунёў хутара шмат у гэтым годзі грыбоў і ягадаў.* Салтанішкі Воран. / Назва пайшла ад прозвішча дзеда, які жыў на хутары.

ЛУ́НКАЎСКІЯ, мн. Могілкі, якія знаходзяцца каля вёскі Лункі. *Учора былі на Лункаўскіх, аля там зарасло.* Салтанішкі Воран.

ЛУ́ЧКІ мн. Затокі, якія злучаюцца з возерам. *Пашлі лапаць рыбу ў Лучкі.* Салтанішкі Воран.

ЛЯГУША́ТНІК, м. Азярцо-сажалка за хатамі жыхароў вёскі. *Вада ў Лягушатніку цёплая.* Салтанішкі Воран.

МАЛАТА́РНЯ, ж. Месца, дзе малацілі зярно. *Вязём малаціць зярно на Малатарню.* Салтанішкі Воран.

МА́ЧА КРЫЖ. Участак зямлі, дзе стаяў вялікі крыж. *Кветак насаджана каля Мача Крыжа.* Салтанішкі Воран.

МАЯ́К, м. Узгорак каля кар’ера ў вёсцы Высокія. *Маяк і Маяк гавораць.* Салтанішкі Воран.

МЕХ, м. Паша. *Гані каровы ў Мех.* Салтанішкі Воран.

МО́ЛІСАЎ ХУ́ТАР. Назва хутара. *У Молісавым хутары арэхаў многа.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад прозвішча Моліс, які жыў на гэтым хутары.

МЯЖА́НСКІЯ, мн. Палоскі зямлі, якія знаходзяцца блізка да літоўскай граніцы. *На Мяжанскіх касіць заўтра будзям.* Салтанішкі Воран.

НЕ́МКІ ХУ́ТАР. Назва хутара, гаспадар якога быў нямым. *Да Немкі хутара езьдзілі, натта ладна Немка ставіць дзьверы, вокны.* Салтанішкі Воран.

НІ́ЎКІ, мн. Поле, якое знаходзіца паблізу ад Кабыравага лесу. *Я пагнаў пасьвіць карову на Ніўкі.* Салтанішкі Воран.

О́КІ, мн. Частка лесу, які размяшчаецца за вадасховішчам у вёсцы. *У Оках было заўжды цёпла,а чаму, то ніхто ні ведая .* Салтанішкі Воран.

ПАД БАЦЯ́НЧЫКАМ. Назва хутара, які знаходзіцца на поўнач ад вёскі. *Пад Бацянчыкам шмат бацяноў.* Салтанішкі Воран.

ПАД ГРУ́ШУ. Хутар Крандатоў, дзе раслі грушы. *Гані кароў Пад Грушу.*

ПАДБУ́ЧЧА, н. Поле, якое знаходзіцца каля хутара Кандрата. *За Падбучча рвалі лён.* Салтанішкі Воран.

ПАДДУБЫ́, мн. Мясцовасць, абсаджаная елкамі з дубамі. *Жыве ў Паддубах адна тылько бабулька старэнькая.* Салтанішкі Воран.

ПА́СЕКА, ж. Поле, якое знаходзіцца за вёскай. *На Пасеку навязала каня.* Салтанішкі Воран.

ПАЎЛО́ВІЧАЎ ХУ́ТАР, м. Назва хутара. *Зьнянслі ні так даўно Паўловічаў хутар.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад прозвішча гаспадара, які жыў на тым хутары

ПО́СТАЎКІ, мн. Могілкі, якія знаходзяцца ў вёсцы Нача. *Там на Постаўках наш дзет пахаваны.* Салтанішкі Воран.

ПРУДЗЕ́Ц, м. Невялікая сажалка, адразу за вёскай. *Высахла апошнім часам сажалка, німа чаго і глядзець на гэты Прудзец.* Салтанішкі Воран.

ПУ́ШЧА, ж. Вялікі лес. *У Пушчу па чарніцы заўтра пойдзям.* Салтанішкі Воран.

РАЎДА́НКА, ж. Назва аднаго з палёў на тэрыторыі вёскі. *Малыя пабеглі пад Раўданку ляпіць снежну бабу.* Салтанішкі Воран.

САЛТА́НАЎСКІЯ, мн. Могілкі ў вёсцы Салтанішкі. *Немцы растралялі жыхароў вёскі, то яны пахованы тут, на Салтанаўскіх могілках.* Салтанішкі Воран.

СВЯТЛО́ЙЧАЎ, м. Ручай, паблізу якога жыў мужчына з прозвішчам Святловіч. *У Сьвятлойчым добра папаіць каней.* Салтанішкі Воран.

СЕ́МСЕВА ЛА́ЗНЯ, ж. Лазня. *У Семсевай Лазьні найлепій.* Салтанішкі Воран. / Назва пайшла ад прозвішча Семся.

СЕ́МСЕЎ САД, м. Стары сад. *Там і тэрас дзеці гуляюць у хаванкі.* Салтанішкі Воран.

СКА́ЙСТАЙШАЛЯ, ж. Назва лесу. *Хадзілі за зялёнкамі ў Скайстайшаля лес.* Салтанішкі Воран.

СО́ТКІ, мн. Зямельны ўчастак, які выдавалі жыхарам вёскі. *Да Соткаў патрэбно ісці, бо ўжо цямнея.* Салтанішкі Воран.

СТАВО́К, м. Сажалка, якая знаходзіцца на тарфяніках. *Капалі бульбу ля Стаўка.* Салтанішкі Воран.

СТАЛО́ВАЯ, ж. Будынак ранейшай школьнай сталовай, дзе цяпер жывуць рабочыя, якія прыехалі ў калгас на працу. *Ля Сталовай ціпер ціха, рабочыя дадому на тыдзянь паехалі.* Салтанішкі Воран.

СЯЎРУКА́ ХУ́ТАР, м. Назва хутара. *Па суніцы да Сяўрука пойдзям.* Салтанішкі Воран. / Назва пайшла ад прозвішча Сяўрук, які жыў пры гэтым хутары.

ТАРФЯ́НІК, м. Назва балота, якое знаходзіцца паблізу фермы. *Прас Тарфянік каровы на ферму жануць.* Салтанішкі Воран.

ФРА́НУСЯ ХУ́ТАР, м. Назва хутара. *Паехалі да Франуся па кошыкі.* Салтанішкі Воран. / Назва паходзіць ад імя мужчыны, які жыў на тым хутары.

ЧАПКО́ЎСКІ ХУ́ТАР, м. Назва хутара. *Я ўчора вожыка бачыла ля Чапкоўскага хутару.* Салтанішкі Воран. / Назва пайшла ад прозвішча Чапкоўскі, які жыў на гэтым хутары.

ЧУЖЫ́, м. Лес, які знаходзіцца на поўначы ад хутара Кулі. *Усе блудзяць у гэтым Чужым лесі.* Салтанішкі Воран.

ШЭЙСЯ́ДКА, ж. Сенажаць. *Сёньня б'юць цюкі на Шэйсяцыцы* Салтанішкі Воран. / Сенажаць мае плошчу 60 гектараў. Адсюль пайшла і назва.

ЭВЭ́М, н. Месца, дзе выраблялі хвойную і травяную муку. *На Эвэмі малолі траву.* Салтанішкі Воран.

Я́ВАР, м. Невялікая сажалка, якая знаходзіцца на захадзе ад вёскі Салтанішкі. *Бульбу мыць калісьці хадзілі ў Явар.* Салтанішкі Воран.

**В. А. Комар (Гродна)**

# Адапелятыўныя мікратапонімы вёскі Бабраўнікі і яе ваколіцаў

У сістэме мікратапонімаў вёскі Бабраўнікі і яе ваколіцаў значную ў колькасных адносінах групу складаюць адапелятыўныя назвы. Большасць з іх узнікла ад агульных назоўнікаў, семантыка якіх утрымлівае інфармацыю аб асаблівасцях рэльефу мясцовасці, гаспадарчай дзейнасці чалавека, характары прыродных умоў, расліннага і жывёльнага свету, звесткі пра эканамічныя і культурныя ўзаемадачыненні мясцовага насельніцтва з іншымі рэгіёнамі ці прадстаўнікамі розных этнасаў.

На даследаванай тэрыторыі намі зафіксаваны 94 назвы, якія матывуюцца апелятывамі (гэта складае 58 % ад агульнай колькасці мікратапонімаў).

Назіранні над фактычным матэрыялам у межах групы адапелятыўных мікратапонімаў дазваляюць вылучыць наступныя групы адзінак:

- назвы, асновай для ўзнікнення якіх сталі асаблівасці мясцовых краявідаў, адметнасці ландшафту. Як падкрэсліў Л. М. Лыч, нашы продкі ахвотна выкарыстоўвалі асаблівасці прыроднага ландшафту ў назвах тых ці іншых мікрааб'ектаў [1, с. 19]. Да згаданай групы варта аднесці мікратапонімы тыпу: *Алея* ‘лес у вёсцы Ліпкі, дзе растуць асіны’; *Парк* ‘частка вёскі, дзе даўней стаяў панскі палац’, *Пушча* ‘вялікі густы лес’, *Ройста (Ройсты)* ‘лес на балоце’, *Зачэпка* ‘лес’, *Пустоша* ‘поле, на якім нічога не расце’, *Сухадолы* ‘сцежка праз цёмны лес’ і г.д.

- мікратапонімы, што матывуюцца найменнямі расліннага свету (*Асінкі* ‘дарога, па абодва бакі якой растуць асіны’, *Бярэзнік* ‘лес, у якім расце многа бярозаў’, *Верасы* ‘поле, дзе расце шмат верасу’, *Вішнева* ‘былы сад, у якім расло шмат вішань’, *Ёлачкі* ‘поле, па баках якога растуць ёлачкі’, *За арэшнікам* ‘агарод, які знаходзіцца за арэшнікам’, *За бэзам* ‘поле, на якім расце вялікі куст бэзу’, *За ёлачкамі* ‘поле, каля якога растуць маладзенькія елкі', *За маліняком* ‘луг, паблізу якога расце густы малліннік’, *Каліна* ‘мясціна ў лесе, дзе расце шмат каліны’, *Кукуруза* ‘поле, на якім некалькі гадоў запар сеюць кукурузу’, *Лазняк* ‘прылесак, у якім расце лаза’, *Лубяніска* ‘поле з сінім лубінам’, *Ляшчыннік* ‘лес, дзе расце ляшчына’, *На*

*дубкі* ‘луг, уздоўж якога растуць дубы’, *Сасновая гара* ‘ўзвышша, дзе растуць сосны’, *Чарэшнікі* ‘мясціна ў лесе, дзе растуць чарэшні’, *Чарнічнік* ‘прылесак, у якім растуць чарніцы’ і пад.).

- мікратапанімічныя адзінкі, што паходзяць ад назваў фаўны (*Жураўлінае* ‘балота, на якім людзі часта бачаць жураўлёў’, *Бабрынка* ‘месца на рацэ’, *Вараб’і* ‘возера каля вёскі Вараб’і’, *Воўчыя равы* ‘равы’, *Вужаковая ўпадзіна* ‘балота, у якім водзіцца шмат вужоў’, *Конская завадзь* ‘паша’, *Лягушнік* ‘сажалка, у якой водзіцца шмат жабаў’ *Рыбны роў* ‘роў, у якім водзіцца рыба’, *Сарочча* ‘лясная мясціна, дзе заўсёды можна ўбачыць сарокаў’.

- мікратапонімы, што паказваюць на асаблівасці рэльефу мясцовасці: *Горнае* ‘лес, у якім шмат невялікіх горак’, *Балота* 'сенажаць у нізкім месцы паблізу возера'.

- мікратапонімы, якія ўзыходзяць да агульных назваў водных аб'ектаў: *Азярышкі* ‘частка вёскі Слабодка’, *Белая вада* ‘лес, у якім размяшчаўся хутар Белая вада’, *Нашая сажалка* ‘сажалка, якую выкапаў дзед яе сённяшняга ўладальніка’, *Нежывое озера* ‘лясное возера з чорнай вадой, у якім няма рыбы’, *Рачное* ‘луг, паўз які некалі працякаў невялікі раўчук', *Сажалка* ‘невялікая сажалка’, *Ставы* ‘частка вёскі Варняны, дзе размешчана група ставаў’ і інш.

- найменні ўчасткаў зямлі ў залежнасці ад характару глебы, яе ўласцівасцей: *Жвірблі* ‘пясчанае поле’ (утваральнай асновай для назвы паслужыў апелятыў *жвір*), Камянішча ‘поле, на якім шмат камянёў’, *Глінішча* ‘поле, дзе здабывалі гліну’, *Тарфянікі* ‘лес, адкуль раней вывозілі шмат торфу’.

Часам у аснову назвы таго ці іншага зямельнага ўчастка магла легчы яго форма, памер: *Шырокія палоскі* ‘шырокае поле, якое складаецца з некалькіх палосаў, што аддзяляюцца паміж сабой равамі’, *Квадрат* ‘поле, што мае форму квадрата’.

У якасці ўтваральнай базы для мікратапанімічных адзінак нярэдка выкарыстоўваюцца назвы рэалій, якія адлюстроўваюць вынікі дзейнасці чалавека, абазначаюць з’явы, звязаныя з гаспадарчым жыццём чалавека:

- назвы будынкаў, іх частак, гаспадарчых збудаванняў, вытворчых прадпрыемстваў (*Базар* ‘месца, дзе раней быў невялікі рынак’, *Будка* ‘частка вёскі’, *Вышка* ‘поле, дзе стаіць пажарная вежа’, *Замкавая гара* ‘гара, на якой калісьці стаяў панскі палац’, *Запраўка* ‘частка вёскі Варняны, дзе раней працавала аўтазапраўка’, *Канто-*

*ра* ‘будынак у вёсцы Варняны, дзе размяшчаецца праўленне калгаса’, *Катэджы* ‘частка вёскі Варняны, дзе пабудаваны двухпавярховыя катэджы’, *Млын* ‘частка вёскі Варняны, у якой знаходзіцца млын’, *Пад панскай сядзібай* ‘каменны мур’, *Станцыя* ‘частка вёскі каля прыпынку грамадскага транспарту', *Цагельня* ‘поле, дзе некалі стаяў завод’.

- намінацыі наземных або водных участкаў для ўзлёту і пасадкі самалётаў, верталётаў і планёраў, а таксама руху наземных відаў транспарту (*Аб’язная* ‘дарога каля вёскі Варняны’, *Аэрадром* ‘поле, дзе ў час вайны быў аэрадром’, *Аўтадром* ‘месца ў вёсцы Варняны, дзе размешчаны аўтадром’

-назвы асобы паводле роду заняткаў, пасады, сацыяльнага статусу, рысаў характару чалавека, схільнасцяў: *Ксяндзоўская* ‘вуліца, на якой жыве ксёндз’, *Панская сядзіба* ‘месца ў вёсцы, дзе раней знаходзілася сядзіба пана’.

У асобную групу вылучаюцца гэтак званыя мікратапонімы-арыенціры, якія ў большасці выпадкаў суадносяцца з прыназоўнікава-іменнымі канструкцыямі, у складзе якіх ёсць апелятыў. На думку Ж.С.Сіплівені і І.І.Бубновіч, «у сістэме мікратапанімічных адзінак падобныя назвы вылучаюцца поліварыянтнасцю формаў і здольнасцю ў асобных выпадках трансфармавацца ў састаўныя наймені» [2, с. 41]. Звычайна з дапамогай мікратапонімаў-арыенціраў менш вядомыя мікрааб’екты абазначаюцца праз больш вядомыя: *За белым домам* ‘агароды, якія знаходзяцца за домам з белай цэглы’, *За свірнам* ‘поле за свірнам’, *Каля бані* ‘агарод каля лазні’, *За фермай* ‘поле, якое знаходзіцца за фермай’, *Каля бункеру* ‘поле, дзе былі бункеры’, *Каля гумна* ‘поле, на якім раней стаяла калгаснае гумно’, *Каля канюшні* ‘поле, дзе раней былі калгасныя канюшні’, *Каля млына* ‘лес, каля якога быў млын’, *На студэнку* ‘лес, дзе быў глыбокі калодзеж’.

Большасць прааналізаваных мікратапонімаў утворана семантычным спосабам. Гэта значыць яны структурна роўныя невытворным апелятывам або поўнасцю супадаюць з вытворнымі апелятывамі. У тапаніміцы падобныя назвы кваліфікуюцца як мікратапонімы бязафікснага ўтварэння.

Другім прадукцыйным спосабам узнікнення адапелятыўных мікратапонімаў з'яўляецца марфалагічнае ўтварэнне. Пры гэтым асноўнымі сродкамі марфалагічнага ўтварэння мікратапонімаў, як правіла, выступаюць суфіксы *-ішч-* (*Глінішча*, *Камянішча*), *-іск-*

(*Бульбавіска*, *Лубяніска*),*-к-* (*Зачэпка*), *-нік*, *-няк* (*Лазняк*, *Бярэзнік*) і інш.

Мікратапонімаў флексійнага тыпу, што матывуюцца агульнымі назоўнікамі, выяўлена намі значна менш. Да ліку такіх назваў можна аднесці мікратапонімы *Верасы, Смолкі*, *Чарэшнікі, Сухадолы, Ставы, Катэджы*, *Вараб'і*, *Горкі* і г.д. Флексія ў структуры падобных назваў адыгрывае функцыю ўтварэння мікратапоніма і далучаецца непасрэдна да ўтваральнай асновы.

Зафіксаваны мікратапонімы, утвораныя марфолага-сінтаксічным спосабам – шляхам пераходу прыметнікаў у назоўнікі (*Горнае*, *Рачное, Цёмнае*). Сустракаюцца і састаўныя паводле будовы мікратапонімы, якія звычайна суадносяцца са структурай атрыбутыўнага словазлучэння. У якасці атрыбутыўнага кампанента выступаюць прыметнікі ўсіх трох разрадаў: якасныя, адносныя і прыналежныя (*Шырокія палоскі, Белая вада, Нежывое возера, Воўчыя равы, Рыбны роў, Сасновая гара* і пад.).

*Спіс літаратуры*

1. Лыч, Л. М. Назвы зямлі беларускай / Л. М. Лыч. – Мінск: Універсітэцкае, 1994. – 128 с.

2. Бубновіч, І.І. Назвы-арыенціры ў мікратапаніміі Гродзенскага раёна / І.І.Бубновіч, Ж.С.Сіпліненя // Нацыянальная мова і нацыянальная культура: аспекты ўзаемадзеяння: Зборнік навуковых артыкулаў / рэдкал.: В.Д.Старычонак, Д.В.Дзятко, Н.А.Радзіваноўская і інш. – Мінск: БДПУ, 2011. – С.38 – 41.

**А.С. Садоўская, М.М. Нечай (Гродна)**

## Мянушкі Казлоўшчынскага сельскага Савета

Мянушкі як адзінкі антрапанімікі складаюць самы старажытны пласт лексікі. Але і сёння яны не страцілі сваёй папулярнасці, таму што з'яўляюцца пастаяннымі спадарожнікамі жыцця чалавека. Яны сумяшчаюць у сабе дзве якасці: называюць асобу і нясуць інфармацыю пра яе, трапна характарызуюць па якой-небудзь адной прыкмеце. Такая ўніверсальнасць гаворыць аб тым, што працэс з'яўлення мянушак будзе няспынным, пакуль існуе чалавецтва і людскія ўзаемаадносіны. Мянушкі з'яўляюцца дадатковым сродкам характарыстыкі чалавека нярэдка з эмацыйнай адзнакай. Узнікненне мянушак мае розную семантыч-

ную матывацыю: на анове знешняга выгляду чалавека, сацыяльнага статусу і роду дзейнасці, месца жыхарства і нацыяльнасці, назваў жывёльнага і расліннага свету, паводзін чалавека, яго звычак, фізічных ці псіхічных якасцей, па разумовых здольнасцях, па адносінах да працы, сваяцкіх адносінах і становішчы ў сям'і, па населеных пунктах, адкуль паходзяць ці прыехалі. Некаторыя мянушкі маюць нематываваную ўнутраную форму.

Вёска Казлоўшчына і яе ваколіцы – гэта жывапісны край Дзятлаўшчыны, край, у якім, як і па ўсёй Беларусі, жывуць простыя працалюбівыя людзі і займаюцца штодзённымі справамі – ходзяць на працу, даглядаюць гаспадарку, нараджаюць дзяцей, сварацца, мірацца, весяляцца, смуткуюць, ад'язджаюць і прыязджаюць… Так было і так будзе, бо з гэтага складаецца чалавечае жыццё. А яшчэ яно складаецца з мовы, якая, як сапраўднае люстэрка, адлюстроўвае ўсё тое, чым жывуць людзі. Надзвычай трапнымі ў гэтым плане з'яўляюцца прыказкі, фразеалагізмы і, канечне, шматлікія антапанімічныя назвы, сярод якіх фігуруюць і мянушкі – «адзінкі антрапанімікі, назвы, дадзеныя чалавеку жартам, у насмешку або для канспірацыі»[1, с. 65].

Сабраныя намі мянушкі жыхароў Казлоўшчынскага сельскага савета можна размеркаваць па тэматычных групах, у аснове матывацыі якіх ляжаць самыя разнастайныя прыкметы: а) знешні выгляд чалавека (Буслік, дзед Талаш, Калабок, Калхіда, Мядзведзь, Пончык, Чырвоны); б) імёны, прозвішчы (Баравік, Баярскі, Ваван, Гусь, Захар, Макар, Ступа, Хілімон, Яначка, Яна); в) паводзіны, рысы характару, звычкі (Абясінец, Ліса, Радзіво, Сарока, Чорт, Шмэрка, Спалоханы, Хі-хі, Кузя, Долар, Качан, Боцік); г) населеныя пункты, адкуль носьбіты мянушак прыехалі (Аўстрыяк, Мао-Цзэдун, Нарыльскі); д) заняткі і род дзейнасці (Баян, Дуда, Дудалька, Маслаў, Пуціс); е) назвы жывёльнага свету (Аўчары).

АБЯСІ́НЯЦ, м. Мянушка мужчыны, які п'яны аж бесіцца. *Цяпер Абясіняц робіць дзень праз два.* Лявонавічы Дзятл.

АЎСТРЫЯ́К, м. Мянушка мужчыны, які быў у Аўстрыі. *У Аўстрыяка хату бялілі дзеці сёння.* Скіпоравічы Дзятл.

АЎЧАРЫ́. Мянушка сям'і, якая трымае шмат авечак. *Во дзе нінаедныя гэтыя Аўчары! Усё ім мала! Калі ўжэ яны наядуцца?* Падвялікае Дзятл.

БАРАВІ́К, м. Мянушка мужчыны па прозвішчы Грыб. *Учора прышоў на работу, а тут кажуць, што Баравік уволіўся. Я перш ні паверыў*. Падвялікае Дзятл.

БАЯ́Н, м. Мянушка мужчыны, які іграе на баяне. *Прасіця на вяселля граць Баяна. Лепшага не знойдзяця*. Дзянісаўка Дзятл.

БО́ЦІК, м. Мянушка мужчыны, якому абутак робяць пад заказ. *Устроіўся, казалі, Боцік на ферму пастухом*. Падвялікае Дзятл.

БУ́СЛІК, м. Мянушка мужчыны з доўгімі худымі нагамі. *Да Бусліка ўчора прыехала жонка з горада*. Падвялікае Дзятл.

БАЯ́РСКІ, м. Мянушка мужчыны, які носіць шляпу як М.Баярскі. *Купіў пару гадоў назад Баярскі козы ў Вінзаўцы.* Лозкі Дзятл.

ВАВА́Н, м. Мянушка мужчыны па імені Вова. *У Вавана брыгадзі німа нікога талковага*. Падвялікае Дзятл.

ГУСЬ, м. Мянушка мужчыны па прозвішчы Гуськоў. *А хто яго ведае, дзе цяпер той Гусь падзеўся. Пераехаў недзя з нашай вёскі.* Лявонавічы Дзятл.

ДЗЕД ТАЛАШ, м. Мянушка маладога мужчыны з барадой. *Лясьнікі сьмяюцца з Дзеда Талаша, бо ні ўмея нічога рабіць.* Лявонавічы Дзятл.

ДО́ЛАР, м. Мянушка мужчыны, які вельмі любіць грошы і часта ўжывае слова долар. *Паехаў мужык да Долара бульбу вазіць.* Скіпоравічы Дзятл.

ДУ́ДА, м. Мянушка мужчыны, дзед якога іграў на дудзе. *Стаіць кожны божы дзень Дуда пад магазінам.* Лозкі Дзятл.

ДУДА́ЛЬКА, ж. Мянушка жанчыны, якая іграла на дудзе. *Пазычала сіта ў Дудалькі, то нясу аддаваць*. Лявонавічы Дзятл.

ЗАХА́Р, м. Мянушка мужчыны па прозвішчы Захажэўскі. *Разьвёўся Захар ж жонкай ды плаціць цяпер аліменты дзецям*. Скіпоравічы Дзятл.

КАЛАБО́К, м. Мянушка мужчыны, у якога вялікі жывот. *Зайшоў бы да Калапка, мо ў яго есьць каса.* Дзянісаўка Дзятл.

КАЛХІ́ДА, ж. Мянушка поўнай непаваротлівай жанчыны. *Німа часу, а то я зайшоў бы да гэтай Калхіды і сказаў, што думаю*. Падвялікае Дзятл.

КАЧА́Н, м. Мянушка старога мужчыны, які апранаецца ў некалькі адзежак. *Дачка хацела забраць Качана да сябе. Але ён не захацеў.* Падвялікае Дзятл.

КУ́ЗЯ, м. Мянушка мужчыны, які часта гаворыць кузя-кузя. *Запрасіў на гулянку Кузю ды сто разоў пашкадаваў. Даў жа бог суседа!* Падвялікае Дзятл.

ЛІСА́, ж. Мянушка хітрай жанчыны. *Ліса ўжэ памярла, але засталася дачка жыць у яе хаці.* Лявонавічы Дзятл.

МАКА́Р, м. Мянушка мужчыны па прозвішчы Макарчык. *Макар жыве каля масьцярскіх. Во, пята хата справа.* Скіпоравічы Дзятл.

МА́О ЦЗЭДУ́Н, м. Мянушка мужчыны, які прыехаў з Ашхабада. *Нехта ляпнуў «Мао Цзэдун» ды так і асталося.* Лявонавічы Дзятл.

МА́СЛАЎ, м. Мянушка мужчыны, дзед якога прадаваў масла. *Царства нябесная яму. Памёр Маслаў даўно ўжэ. Павесіўся.* Лявонавічы Дзятл.

МЯДЗВЕ́ДЗЬ, м. Мянушка здаровага няўклюжага мужчыны. *Нідаўна прыяжджаў Мядзьведзь на новуй машыні.* Лявонавічы Дзятл.

НАРЫ́ЛЬСКІ, м. Мянушка мужчыны, які прыехаў з Нарыльска. *Да Нарыльскага, мусіць, вярнулася жонка.* Лявонавічы Дзятл.

ПО́НЧЫК, м. Мянушка невысокага поўнага мужчыны. *Сьмяюцца людзі ў вёсцы з Пончыка. Кажуць, нашто яму аднаму гэтыя соткі.* Нянадавічы Дзятл.

ПУ́ЦІС, м. Мянушка мужчыны, які пракладаў пуці. *Пуціса хата стаяла сярот поля, а цяпер заставілі ўбраць.* Лявонавічы Дзятл.

РА́ДЗІВА, н. Мянушка жанчыны, якая разносіць навіны. *У Радзіва нідаўна нарадзіўся другі ўнук.* Лявонавічы Дзятл.

САРО́КА, ж. Мянушка балбатлівай жанчыны, якая збірае плёткі. *Бралі ў Сарокі мяхі хлопцы ды ні аддалі, то ўжэ крычала на чым свет стаіць. Што за баба?* Падвялікае Дзятл.

СПАЛО́ХАНЫ, м. Мянушка хлопца, які ўсяго баіцца. *Узялі на сваю голаву на комплекс Спалоханага. Ні прайшоў і тыдзянь як забыўся, што трэба хадзіць на работу.* Падвялікае Дзятл.

СТУ́ПА, м. Мянушка мужчыны па прозвішчы Ступчык. *Ступа адно прыедзя паглядзець цяля, а лячыця самі. Мы і навучыліся.* Лявонавічы Дзятл.

ХІЛІМО́Н, м. Мянушка мужчыны па прозвішчы Хілімончык. *Устроіўся Хілімон недзя ў горадзі на работу.* Лозкі Дзятл.

ХІ-ХІ. Мянушка мужчыны, які смяецца хі-хі-хі. *Кап хто сказаў, то ні паверыў. Гэта Хі-хі жэніцца!* Падвялікае Дзятл.

ЧОРТ, м. Мянушка худога чарнявага мужчыны, які робіць шкоду іншым. *Калхоз выдзяліў Чорту хату ў канцы вёскі.* Падвялікае Дзятл.

ЧЫРВО́НЫ, м. Мянушка мужчыны, у якога чырвоны твар. *Ні было таго дня, кап Чырвоны ні быў п'яны. Як яго яшчэ ні выгналі з работы?* Падвялікае Дзятл.

ШМЭ́РКА, м. Мянушка неахайнага мужчыны. *Цягаяцца Шмэрка па вёсцы ды чапляяца да людзей.* Лозкі Дзятл.

Я́НАЧКА, м. Мянушка мужчыны па імені Іван. *Заходзіў да Яначкі, кап памох зрабіць машыну.* Падвялікае Дзятл.

Я́НЧА, ж. Мянушка жанчыны па імені Яня. *Сын прыяжджаў да Янчы, то хадзіла расказвала ўсім па вёсцы.* Падвялікае Дзятл.

*Спіс літаратуры*

Мезенка, Г.М. Беларуская анамастыка: навуч. дапаможнік для студэнтаў універсітэтаў / Г. М. Мезенка. – Мінск: Вышэйшая школа, 1997. –119 с.

**Ж. С. Сіпліменя (Гродна)**

## Мяне б'юць, варочаюць, рэжуць, а я ўсё цярплю і ўсім дабром плачу: пра назвы зямлі і зямельных участкаў у гаворках Гродзеншчыны

Для селяніна зямля ва ўсе часы лічылася асноўным багаццем. Зямля, на якой жылі і працавалі яго продкі, з'яўлялася мерай усіх каштоўнасцей. Ад зямлі залежаў матэрыяльны дабрабыт сялянскай сям'і, адметнасці працы-земляроба адлюстраваліся ў традыцыях і звычаях селяніна, яго жыццёвай філасофіі. З зямлёй звязваліся надзеі на лепшую будучыню. «Адарвіце селяніна ад зямлі, ад тых клопатаў, якія яна накладвае на чалавека, ад тых інтарэсаў, якімі яна хвалюе селяніна… – і няма гэтага народа,

няма народнага светаўспрыняцця, няма цеплыні, што зыходзіць ад яго», – справядліва падкрэсліваў Г. Успенскі [1, с. 479].

Яшчэ са старажытных часоў земляробства было галоўным заняткам беларуса-працаўніка. Не страціла сваёй гаспадарчай каштоўнасці зямля і сёння: на сучасным этапе развіцця грамадства земляробства адыгрывае вызначальную ролю ў жыцці чалавека. «Зямля свет корміць», – гаворыць народная мудрасць. Усё згаданае наклала свой яскравы адбітак і на слоўнікавы склад мовы, у якім важнае месца займае не толькі земляробчая лексіка, але і ўласныя назвы, што выкарыстоўваюцца для абазначэння розных участкаў зямлі, этапаў апрацоўкі глебы, зямельных адносінаў. У мікратапанімічнай сістэме Гродзеншчыны падобныя назвы вызначаюцца колькасным багаццем і семантычнай разнастайнасцю лексічных асноў, што паслужылі асновай для іх узнікнення. Пераважная большасць назваў зямлі і зямельных участкаў з'яўляецца вынікам семантычнай дэрывацыі. Як правіла, такія мікратапонімы ўтварыліся шляхам вобразнага пераасэнсавання семантыкі апелятыва на аснове метафарычнага або метанімічнага пераносаў. Падставай для метафарычнага пераносу магло стаць падабенства па форме, колеры, якаснай характарыстыцы і г. д. Метанімічны перанос назвы адбываецца на аснове сумежнасці ў выніку пэўных прасторавых, сітуацыйных, прычынна-выніковых сувязей паміж з'явамі, прадметамі і інш. [2, с. 228].

Назіранні сведчаць, што асабліва актыўна ў якасці ўтваральнай базы для мікратапонімаў выступаюць агульныя назоўнікі, якія ўжываліся для абазначэння розных участкаў зямлі ў залежнасці ад характару яе распрацоўкі пад ворыва (*Абрубка, Абрубы, Вырубка, Дзерць, Жары, Капані, Карчоўка, Ляда, Пасека, Порубань, Просекі*). У выбары мясцінаў пад ворыва, як правіла, перавага аддавалася тэрыторыям каля рэк, азёр. Улічваўся таксама характар глебы. Пад ворыва звычайна адводзіліся найбольш урадлівыя землі, размешчаныя на раўнінных тэрыторыях з багатымі глебамі. Неўрадлівыя, бедныя глебы істотна ўскладнялі характар сялянскай працы, былі адвечным клопатам селяніна. Гэтымі акалічнасцямі тлумачыцца ўзнікненне мікратапонімаў тыпу *Камяніста, Жвіроўня, Глінішча, Гліны, Пясчанка, Тарфіско, Камянка, Грудок*.

У асобных выпадках у семантычнай структуры мікратапонімаў выяўляюцца асаблівасці зямельных участкаў у залежнасці ад іх формы (*Кругe, Круглякі, Клінок, Рагатка*), памеру, плошчы (*Велькія ніўкі, Велькаполе, Вузкаполе, Малы палетак, Шасцідзесятка*), мэтаў выкарыстання (*Аўсянкі, Бульбовіско, Гаўсюкі, Гарохавішча, Жытніца)*, месца размяшчэння (*За возерам, За канавай, Загай, Забарок, Пад Стан*).

Адлюстраванне ў мікратапаніміі Гродзеншчыны знайшла і аграрная рэформа Жыгімонта II Аўгуста, паводле якой уся зямля ў маёнтку падзялялася на валокі. Пры гэтым лепшыя землі звычайна адводзіліся пад вялікакняжацкія фальваркі, іншыя раздаваліся сялянам у падворнае землекарыстанне. Сялянскія сем'і замацоўваліся за валокай ці яе часткай, станавіліся як бы дадаткам да яе, часткай уласнасці землеўладальніка. Пра характар сістэмы пазямельных адносін, што склаліся на Гродзеншчыне, сведчаць такія мікратапанімічныя адзінкі, як *Асьмінка*, *Доўгія валокі, Доўгія шнуры, Валочкі, Наддаткі, Долькі, Долькі вузкія, Долькі далейшыя, Долькі шырокія, Чвэртка, Чвярцінка, Дзялка, Маргі, Прыдаткі, Вузкія прыдаткі, Палосачка, Панскія дзесяціны, Трайцінэ, Трацяк, Трэція Шнурэ* і пад. Згаданая група назваў зямельных участкаў прадстаўлена ў мікратапаніміі Гродзеншчыны надзвычай шырока.

У пазнейшы перыяд у сістэме назваў зямельных надзелаў і іх частак бачым нязначныя колькасныя змены. У савецкі час актывізуецца выкарыстанне мікратапонімаў *Дзялкі*, *Калхозныя дзялкі*, *Соткі, Гяктары, Надзелы.* Нярэдка падобныя мікратапонімы функцыянуюць як двухсастаўныя найменні з кампанентам – прыналежным прыметнікам (*Таклюсіны дзялкі, Зэскавы соткі, Гаўрылікаў надзел).*

Ніжэй змешчаны назвы зямлі і зямельных участкаў, што зафіксаваны ў гаворках Гродзенскага раёна. Слоўнік адлюстроўвае толькі тыя мікратапонімы, што матывуюцца агульнымі найменнямі. Мікратапонімы, утвораныя ад уласных назваў, у прапанаваным артыкуле не разглядаюцца.

АБРУ́Б, м. Поле. *Учора Тадзік Карабовіч бульбавеня на Ракітнум зьбіў, а на Абрубі і ні чапіў, бо трахтар зламоўсо.* Азёры, Казіміраўка.

АБРУ́БКА, ж. Поле на поўдні ад былой вёскі Падкрыжакі. *Раней пан абрубаў лес да поля, капцэ паставіў, таму і кажуць: «Абрупка».* Падкрыжакі.

АБРУ́БЫ, мн. Поле паблізу зернясховішча. *Абрубы ўжо ў другі раз засеялі. Першы раз рапс быў, аля рана скасілі на зялёнку.* Эйсманты.

АДДЗЕ́ЛАК, м. Частка поля. *Аддзелак ў прошлым годзі аддалі Адамавым пад гарот.* Путрышкі.

АДЛО́ГА, ж. Поле, размешчанае ў нізіне. *У Адлозі ніц ні хоча расьці. Вядома, ж балота.* Азёры.

АДСТО́ЙНІКІ, мн. Поле непадалёку ад калгаснай фермы. *Ціпер на Аცтойніках люцкія гарадэ.* Жытомля.

АДСУ́ДЖАНО, н. Частка поля на захадзе ад вёскі Путрышкі. *Аცсуджано, бо наш калхос калісьці аცсудзіў зямлю ў старога Яроміча. Той, мо, з гяктар меў пат хатай зямлі свае.* Путрышкі.

АКРА́ЙНІЧАК, м. Невялікае поле. *Зеляніць Акрайнічак здалёк. Добра пшанічка зышла, роўненька.* Гожа.

АКТА́РА, мн. Поле на ўсходзе ад вёскі Тужаўляны. *Упярод багацейшы хто-колек у пана зямлю па актарах выкуплёў. Таму і кажуць: «Актара».* Казіміраўка.

АЛЕ́ШЫНА, ж. Поле паблізу ўрочышча Пышкі. *На Алешыні, хіба, толькі кукуруза і расьце*. Гродна.

АПО́ШНЯЯ, ж. Ніва ў вёсцы Азёры. *Апошняя далёка аცьсюль, і трэбо доўга ісьці да яе.* Азёры.

АСЬМІ́НКА, ж. Поле на поўначы ад вёскі Забалаць. *Калі ехаць на Гронна праз Забалаць, Асьмінка па левы бок ад дорогі.* Забалаць.

АЭРАДРО́М, м. Поле каля аэрадрому. *На Аэрадромі пшаніца высока ў гэтум року.* Абухава.

БАЛО́ТО, н. Поле, размешчанае ўздоўж дарогі ў вёсцы Эйсманты. *Помню, як на Балоцi бульбу выбіралі, на ноч нагаралі, а ранкам мароз доў, уся ляснула*. Табала.

БІТАЛЯ́РНЯ, ж. Участак поля, размешчаны на месцы былога прадпрыемства па вырабе бетонных слупоў. *У гэтым годзі на Біталярні бульба ні ўрадзіла*. Ланявічы.

БО́РКІ, мн. Поле паблізу лесу. *У Борках добра зямля, лёхка, усё расьце, як на дражджох*. Стрыеўка.

БУЛЬБАВІ́СКО, н. Поле, дзе звычайна садзілі бульбу. *На Бульбавіску ніўды, апроч бульбы, ніц ні садзілі. А тэрас пасеялі бураке.* Стрыеўка.

БУ́РТАЧКІ, мн. Участак поля. *Буртачкі так зарастаюць пыраям, што людзі палоць іх рады ні даюць.* Занявічы.

БУРТЭ́, мн. Поле ў вёсцы Табала. *Трахтары на Буртэ гной цягаюць. Такі смурот у вёсцы стаіць.* Табала.

БЫ́ЛЬНІК, м. Поле, размешчанае недалёка ад хутара Санкоўшчына. *Быльнік лебядой парос, хіба, хіміі ні далі зусім.* Баяры.

БЯРЭ́ЗНІК, м. Поле паблізу невялікага лесу ў вёсцы Тапалёва. *Як ехаць на Сколабава, за ляском будзя і Бярэзьнік.* Тапалёва.

ВАЛО́КА, ж. (ВАЛО́КІ, мн.). Ніва ў ваколіцах вёскі Стрыеўка. *Тыя Валокі с кіломятры два цягнуцца.* Стрыеўка.

ВАЛУ́НЫ (ВАЛУНЭ́), мн. Камяністае поле. *На Валунах кажны гот каменя зьбіраюць, аля нічога ні вінна.* Ланявічы.

ВАЎКЕ́, мн. Поле на поўначы ад вёскі Жытомля (раней на месцы гэтага поля была пустоша, зарослая ваўчкамі). *Буракі добро пакрылі ўсе Ваўке, зямлі ні відаць.* Тапалёва.

ВЕ́ЛЬКА БАЛО́ТА, н. Поле на паўночным захадзе ад вёскі Путрышкі. *Балота ўрэзалі, сталі ставіць домікі, а ўпярот цягнуласо да Забалаці.* Путрышкі.

ВЕ́ЛЬКА, н. Поле каля маладога калгаснага саду. *У Велькум дзісь малацілі да цямна. Баяцца, каб дажджэ зноў ні пашлі.* Абухава.

ВЕ́ЛЬКАЕ, н. Поле на поўдні ад чыгункі, што праходзіць каля былой вёскі Малая Капліца. *На Велькум хочуць склад ад Азоту рабіць.* Путрышкі.

ВЕЛЬКАПО́ЛЕ, н. Поле каля Высокай гары паблізу вёскі Баяры. *У гэтым годзі на Велькаполі, пэўно, будзя жыто, палянь, сколькі гною ўвалілі.* Верцялішкі.

ВЕ́ЛЬКІЯ НІ́ЎКІ, мн. *Калхоз Велькія Ніўкі толькі жытам засявая.* Губінка.

ВЕРАСКЕ́, мн. Участак поля. *Школьнікаў недзе ў Вераске бульбу атправілі выбіраць.* Селюкі.

ВУ́ГАЛ, м. Поле за паўтара кіламетры ад хутара Абуховічы. *З гэтага Вугла так цяшка трахтарам выягджаць. З аднаго боку Канава, з другога – роў.* Абуховічы.

ВУ́ЗКА ПО́ЛЕ. Невялікае поле. *Вуска поля каля лесу. Там месца зацішна, роўненька.* Ялоўшчына.

ВЫ́ВЕЙ, м. Поле на поўдні ад былой вёскі Падкрыжакі. *Бацька на расаду капусту сеяў. З Вывею зямлі прывёс. Дадумаўса. Хіба, гэта зямля? Пясок адзін.* Падкрыжакі.

ВЫ́ГАН, м. Поле. *На Выгані раней каровы пасьлі, а тэрас пшаніцу пасеялі.* Занявічы.

ВЫ́РУБКА, ж. Поле на месцы былога кустоўя. *Доўга яшчэ карчэ на Вырупцы будуць варочаць. Ні рас трахтарэ паламаюцца.* Казіміраўка.

ВЫ́СЕКІ, м. Поле. *Пойдзем на Высекі калхозныя бураке церабіць.* Беражаны.

ГАРАБІ́НКА, ж. Поле на захадзе ад вёскі Казіміраўка. *На Гарабінцы ізноў нешта капаюць.* Тужаўляны.

ГАРО́ДЧЫКІ, мн. Вузкія палосы зямлі за вёскай Загорнікі. *Гароччыкі ўсенькі затапіло.* Загорнікі.

ГАЎСЮКЀ, мн. Участак поля. *Учора мой Гаўсюке гараў. Казаў, трахтар ледво цягня. Такая макрэціна стаіць.* Клінчаны.

ГЛІ́НІЦА, ж. Поле на паўночным захадзе ад вёскі Путрышкі. *Паеду на Глініцу па гліну, трохі печ трэбо падмазаць.* Путрышкі.

ГЛІ́НІШЧЫ, мн. Поле за вёскай Лойкі. *Глінішча так заваліла сьнегам, у пояс сумёты ляжаць.* Лойкі.

ГО́СТУП, м. Поле. *На Гоступ коні ўбіліса, усенькі гавёс вытапталі.* Табала.

ГРУДО́К, м. Пясчанае поле на поўнач ад вёскі Верцялішкі. *На Грутку пасеялі морку, мо, і будзя што. Морка пясочак любіць.* Верцялішкі.

ДАДА́ТАК, м. (ДАДАТКІ, мн.). Частка поля, якое раней было прыватнай уласнасцю багатага селяніна, што жыў на хутары. *Жыта на Дадатку, як адрэзано.* Караліно.

ДЗІРВО́НКІ, мн. Поле. *Дзірвонкі хіміч ні хіміч. Адна трасца, зеля расьце ў рост чалавека.* Пыра.

ДЗЯ́ЛКІ, мн. Засеянае буракамі калгаснае поле, якое было падзелена для праполкі паміж калгаснікамі. *Мае Дзялкі на ўсё поля зеляняць. Я першы рас пад дошч палола.* Тапалёва.

ДО́ЎГАЯ НІ́ВА, ж. Поле каля лесу. *Доўгу ніву абрабілі так, бытто карцінку якую.* Гушчыцы.

ДО́ЎГІ ГРУД, м. Поле ў ваколіцах вёскі Лакно. *Кажны рас, як толькі соткі маям на Доўгім грудзі, бульба пасьля гніе.* Лакно.

ЖА́РЫ, мн. Поле паблізу вёскі Рыдзелі. *На Жарах зямля мяхка, лёхка.* Табала.

ЖЫ́ЛА, ж. Поле. *О, ж Жылы многа намалацілі, там добра збожжа, пшаніца ні палёхшая была.* Жорнаўка.

ЖЫ́ТКА, н. Поле ў вёсцы Стрыеўка. *На Жыццы дзіке ўсё зьмясілі.* Стрыеўка.

ЗА ВО́ЗЕРАМ. Поле. *Бураке ў гэтум годзі За Возерам выбіраюць.* Стрыеўка.

ЗА КАНА́ВАЙ. Палетак на поўдні ад вёскі Пыра. *Бульбу раньню калхос больш ні садзіць За канавай. Там натто крадуць, ні ўпільнаваць.* Стрыеўка.

ЗА КО́МПЛЕКСАМ. Поле. *Мы За компляксам бульбу пасадзілі. Так зарасла, што ні дапалоцца.* Сухмені.

ЗАБАРО́К, м. Поле, якое знаходзіцца за борам. *У тым року так далёка соткі былі. А тэраз Забарок засаджваюць. Я ў Забарок і на ровары даеду.* Завадзічы.

ЗАГАДЗЬ, ж. Поле на поўначы ад вёскі Лакно. *У Загадзі па торфе чампіёны павылазілі. Будзям бульбу капаць і грыбэ зьбіраць.* Лакно.

ЗАГА́Й, м. Поле паблізу вёскі Корчыкі. *Сёньня ў Загай дзіскі пускалі. Мо, узоўтра боразны нарэзваць будуць.* Азёры.

ЗАКРА́ЙКІ, мн. Поле. *Закрайкі ўсе пазасейвалі кукурузай.* Гожа.

КАДА́ЎБА, ж. Поле. *Ат Кадаўбы ўжэ і ні асталоса нічога, усю застроілі катэджамі.* Лапенкі.

КАЛХО́ЗНА ПО́ЛЕ, н. Поле. *Калхозна поля чыста, аброблянa, ні тоя, што люцкія соткі.* Стрыеўка.

КАЛХО́ЗНЫЯ ДЗЯ́ЛКІ, мн. Участкі поля. *У каго мала свайго гароду, той на Калхозных дзялках бульбу садзіць.* Путрышкі.

КАЛЮ́ЧА, н. Поле каля вёскі Губінка. *Чаму Калюча? Бо асоту па ўсім полі столькі, што спасу ад яго німа.* Азёры.

КА́ЛЯ ГРУ́ШКІ. Поле, якое знаходзіцца пры дарозе, каля грушы-дзічкі, у вёсцы Стрыеўка. *На гэты гот каля Грушкі хочуць пасадзіць бульбы.* Стрыеўка.

КА́МЯНКА, ж. Камяністае поле. *Сёньня бабы на Камянцы чыста павымучваліса. Рукі панабівалі. Дзе ш, матычкі ні ўбіць!* Адэльск.

КАПАНІ́, мн. Поле паблізу вёскі Дубінка. *Хібо, пат Капані заехалі, бо бачыш, якія равы пачаліса*. Дубінка.

КАПЦЫ́ (КАПЦЭ́), мн. Поле. *На Капцах град натто жыта палажыў.* Багушоўка.

КАРЧЫ́ (КАРЧЭ́), мн. Поле пры вузкакалейцы за вёскай Верцялішкі. *Карчы натто рано лані засадзілі бульбай, баяліса, кап хоць ні памерзла.* Верцялішкі.

КЛІНКЕ́, н. Поле каля вёскі Зарачанка. *Падедзь на Клінке, мо, там трактара перапыніш.* Зарачанка.

КРУ́ГЛАЕ, м. Поле за вёскай Губінка. *С Круглага па паўтрахтарчыка бульбы вязуць. Ніяк ні ўрадзіла ў гэтум годзі.* Губінка.

КУТ, м. Поле паміж двума выступамі лесу вакол вёскі Пыра. *Жоржык прас Кут ехаў, глядзеў бульбу. Казоў, жукоў німа.* Пыра.

ЛІ́ПАЎКА, ж. Поле на месцы былой ліпавай пасадкі ўздоўж чыгункі. *Праягджоў каля Ліпаўкі, там такі роў выкапалі. Відаць, нешто будуць цягнуць ат Скідля.* Гушчыцы.

ЛІ́САЎШЧЫНА, ж. Поле. *На Лісаўшчыне лані соткі давалі.* Путрышкі.

ЛІСІ́НАЯ ГАРА́, ж. Поле каля лесу. *На Лісінай гарэ ў гэтум годзі хароша пшанічка вырасла, і вот табе і дажджоў ні было.* Занявічы.

ЛЫ́СА ГАРА, ж. Поле паміж Путрышкамі і Казіміраўкай. *Колькі я папалятала па той Лысай гарэ, як пошту насіла. Усё хацела хуччэй, напрамке. Летам па сьцежаццы так і дабяжыш. А ціпер німа ніц, кар'ер выкапалі такі, што падысьці страшно да яго.* Путрышкі.

ЛЫ́СКА, ж. Участак зямлі без расліннасці. *На Лыску мы нават куры і гусі ні пускаям, гэдака там зямля нідобра.* Тапалёва.

ЛЮДСКО́Е, н. Участак зямлі, выдзелены вяскоўцам пад агароды. *Вогір казоў, у яго ўсю цыбулю на Люцкім выбралі.* Азёры.

ЛЯВА́К, м. Поле за вёскай Масткі. *Лявак вясной гэдак завалілі гноям, што ўсё пабуяло.* Масткі.

МАГІ́ЛЬНАЕ, н. Поле каля могілак на поўдні ад аграгарадка Індура. *На Магільным у гэтум року бульба памерзла*. Індура

МАКРЫ́ЦА, ж. Поле паблізу вёскі Лакно. *Хто пасадзіў соткі на Макрыцы, кажуць, добра бульба, а хто на Горах садзіў, той і паловы мінулагодняй ні ўзёў.* Лакно.

МАЛЫ́ БАГО́Н, м. Поле. *Малы багон некалі засейвалі кармавымі буракамі. От велькія расьлі, цэлу восень упраўляліса зь імі.* Азёры.

МАЛЫ́ БРОД, м. Поле на захадзе ад былой вёскі Малая Капліца. *Малы брод натта топіць увесну.* Путрышкі.

МАЛЫ́ ПАЛЕ́ТАК, м. Невялікае поле, размешчанае за школай, што ў вёсцы Жытомля. *У Сярковых на Малым Палетку добра бульба ўрадзіла, а Лахманы нічога ні накапалі.* Жытомля.

МАСІ́ЎКА, ж. Поле. *На Масіўцы бульбу ў суботу палолі. То, як даў дошч, папамоклі ўсе. Там жа ж нідзе ні схавацца.* Азёры.

МАЧУ́ЛЭ, н. Поле на нізкім месцы, якое звычайна пасля працяглых дажджоў вымакае. *Мой мужык ні захацеў на Мачулэ бульбу весьці садзіць. Кажа, у гэтум року пайдзе да брыгадзіра на другі ўчастак прасіцца.* Путрышкі.

МІЖРЭ́КІ, мн. Поле, якое знаходзіцца недалёка ад вёскі Казіміраўка. *Раней было балота каля Лазоўкі, але яго асушылі, ціпер стала поля. У нас кажуць: «Міжрэкі».* Казіміраўка.

МО́КРАЕ, н. Поле паблізу вёскі Казловічы. *На Мокрум ніўды нічога не вырасьце.* Табала.

НА ПО́ЖНЮ. Поле. *Пасадзіў раньню капусту на Пожню.* Жытомля.

НАВАЗЭ́, мн. Поле. *На Навазах бульба добра родзіць, толькі асату многа.* Табала.

НАВАПО́ЛЯ, н. Поле паблізу вёскі Малахавічы. *Некалі гэта поля пат Куратнікам было. Але во, абрабілі, навязьлі тарфакрошкі.* Гібулічы.

НАВІ́НКА, ж. Поле за кіламетры два ад вёскі Маркаўцы. *Васька Брыцькаў з Навінкі сваім прыцэпчыкам бульбу вазіць стаў ды заграс, потым трахтарам цягнулі.* Маркаўцы.

НАВО́ЗНІКІ, мн. Поле. *На Навозніках тэрас тылько буракі сеюць.* Прывалкі.

НАДЗЕ́ЛЫ, мн. Поле, дзе раней былі людскія надзелы. *Раней на тым месцы ў кажнага свой надзел быў, таму і назвалі гэдак*. Масткі.

НІ́ЎКІ, мн. Поле ў ваколіцах вёскі Путрышкі. *Само багато поля. Усё ў Ніўках расло добро.* Путрышкі Гродз

ПАГНО́І, мн. Поле паблізу вёскі Русота. *У Пагноях зямля цяшка, ды й ад зеля спасу німа, лебяда, як ёлкі, ні выцягнуць.* Русота.

ПАД ЛЯСКО́М. Поле на паўночным захадзе ад невялікага лесу, пасаджанага на кар'еры. *Пад Ляском зямля добра, раней там гарадэ былі.* Верцялішкі.

ПАД СКЛА́Д. Поле каля зернясховішча. *Пат Складам кажны год адной кукурузай сеюць.* Табала.

ПАД Я́МАМІ. Поле. *Пад Ямамі соткі даваць будуць.* Путрышкі.

ПАДДУ́БЫ, мн. Поле на паўночным захадзе ад вёскі Кісялі. *З Паддубаў салому ў скірды звозяць.* Кісялі.

ПАЛЕ́ТКІ, мн. Поле паблізу чыгункі. *На Палетках пшаніца была б нічога, аля дажджом палажыла.* Жытомля.

ПАЛО́СКІ, мн. Поле. *О, раней гэтыя Палоскі адзін перад анным абраблялі, усё ў ручную рабілі, да зялінкі выполвалі.* Табала.

ПАПО́ЎСКАЕ, н. Поле за былой канюшняй. *На Папоўскім некалі калхос хату Люпцы Іванушкінай паставіў.* Верцялішкі.

ПА́СЕКА, ж. Поле, паблізу якога раней была пасека. *Далёка палоць бураке хадзілі, ажно на Пасяку.* Пыра.

ПАСТАЛЫ́, мн. Палетак ворнай зямлі каля хутара Абуховічы. *Пасталы за паўдня і канём можна перагараць.* Жытомля.

ПАСТЭ́ЎНІК, м. Поле на месцы былой пашы. *Пастэўнік яшчэ лані згаралі, і вот вам поля.* Эйсманты.

ПО́РУБАНЬ, ж. Вялікае поле на месцы згарэлага ўчастку лесу. *Згарэў лес, карчэ павывозілі, што папалілі, перагаралі, а цяперака поля. Мы кажам: «Порубань».* Стрыеўка.

ПРО́СЕКІ, мн. Поле ўздоўж лесу на поўдні ад вёскі Путрышкі. *На Просеках карчоў многа. Вядома, ш тыля гадоў лес рос.* Бушнева.

ПРЫДА́ТКІ, мн. Поле. *Каля тых Прыдаткаў Гайдзіс некалі і хату паставіў.* Канюхі, Путрышкі.

ПУ́СТА ПО́ЛЕ, н. Неўрадлівае поле. *На Пуста поля і гной вазілі, і тарфакрошку, і бяс толку, нічога добрага на ім ні расьце.* Багушоўка.

ПУСТЭ́ЛЬНІК, м. Поле на ўзгорыстым месцы каля вёскі Губінка. *Раней на Пустэльніку гара была, гэта ўжэ патом яе зрэзалі.* Губінка.

ПЯСЧА́НКА, ж. Пясчанае поле. *На Пяшчанцы толькі моркy сеюць, яна пясок любіць.* Плавы.

ТАПІ́ЛАЎКА, ж. Поле на нізкім месцы. *У Тапілаўцы бывало так затопіць, што зямлі ні відаць. Сколькі дзён прайдзе, каб вада ўпіталаса.* Грынёўка.

ТРАЦЯК, м. Невялікае поле паблізу вёскі Пыра. *Калісьці дзет Сьцяпана Пронкі панскае зямлі змох аткупіці, абрабляў яе, багаты быў чалавек.* Пыра.

ЦЫГА́НСКІЯ МАГІ́ЛКІ, мн. Поле. *На Цыганскіх Магілках раней сянажныя ямы былі. То што тут табе будзя расьці?* Путрышкі.

ЧАРНАЗЕ́МЯ, н. Поле ў ваколіцах вёскі Віцькі. *Сьнегу ні было. Як доў марос, то на Чарназемі ўсе азімыя памерзьлі.* Віцькі.

ШАСЦІДЗІСЯ́ТКА, ж. Поле плошчай каля шасцідзесяці гектараў паміж вёскамі Жытомля і Завадзічы. *Усю Шасцідзісятку калхоз раньняй бульбай засадзіў. Кажуць, нейкі добры сорт, жука ні баіцца.* Жытомля.

*Спіс літаратуры*

1. Успенский, Г. И. Крестьянин и крестьянский труд / Г. И. Успенский // Лебедев, Ю. Письма из деревни. Очерки о крестьянстве в России второй половины XX века / Ю. Лебедев, В. Селиванов, А. Энгельгардт, Н. Златовратский, Г. Успенский. – Москва: Современник, 1987 – 512 с.

2. Станкевіч, А. А. Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках / А. А. Станкевіч. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 1996. – 255 с.

**П.У. Сцяцко (Гродна)**

# Айконімы Зэльвеншчыны

Айконімы маюць шмат крыніц свайго паходжання. Гэта ўласныя асабовыя імёны і ўтвораныя ад іх прозвішчы, імёны-мянушкі асобы і ўтвораныя ад іх прозвішчы, геаграфічныя і тапаграфічныя адметнасці тэрыторыі і іншыя.

Матэрыялам для даследавання паслужылі айконімы Зэльвеншчыны, зафіксаваныя ў кнізе «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць. Нарматыўны даведнік» . – Мінск: Тэхналогія, 2004. – 471 с. – С.205–216: Зэльвенскі раён.

Як паказаў аналіз, найбольшую колькасць найменняў населеных пунктаў Зэльвеншчыны складаюць адымёнавыя ўтварэнні. Таму з іх і пачынаем разгляд.

Непасрэдна найменнем паселішча (вёска) стала імя *Супрун* (< *Софоний*), яго множналікавая форма *Супруны* (падаецца ў рубрыцы «Страчаныя назвы» (с. 216). Імя набыло ролю прозвішча *Супрун* (у кнізе «Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Зэльвенскага раёна». (Мінск, 2003 на с. 322 чытаем: *Супрун* Іван Сямёнавіч (вёска Залацеева).

Ад уласнага імя *Александрыя* (< *Аляксандр*) утворана назва вёскі *Александрыя* (Дзярэчынскі сельсавет).

Найбольш блізкія да імёнаў тыя айконімы, што ўтвораны пры дапамозе прыналежных суфіксаў -*оў*/-*еў*/-*аў*/-*ін*/-*ын* ад асабовых уласных імёнаў (кананічных ці народна-гутарковых). Такія айконімы першасна былі кампанентамі двухслоўных найменняў –аналітычных назваў, а потым у адпаведнасці з законам моўнай эканоміі «сцягнуліся» (кандэнсаваліся) у аднаслоўныя, дзе першы кампанент-прыметнік стаў назоўнікам. Такімі на Зэльвеншчыне з’яўляюцца тры айконімы: *Агатава*, *Тадзіно*, *Франкова*. Разгледзім іх.

***Агатова*** і ***Агамтава*** (Дабрасельскі сельсавет) паходзіць ад імя *Агата* з прыналежным суфіксам -*ава*: *Агат-ава*. Першасная форма *Агатава маёмасць* (*уладанне*); форма з націскам на суфіксе – *Агатова* – пад уплывам польскай мовы (націск на перадапошнім складзе слова).

***Тадзіно*** (хутар; Ялуцавіцкі сельсавет) – прыметнікавая форма з суфіксам *-іно* ад *Тадзё* (гутарковая форма ад польск. катал. *Тадэуш*): *Тадз-іно (Т. уладанне):* канцавое *-ом* пад уплывам мясцовых гаворак, дзе захоўваецца ў маўленні канцавое ненаціскное «о» (*жыто*, *сено*).

***Франкова*** (Сынкавіцкі сельсавет) – прыметнікавая форма з суфіксам

*-ов-а* ад *Франак (Францішак): Франкова* (< *Франкава ўладанне*).

***Каралін*** (цэнтр Каралінскага сельсавета) – ад жаночага ўласнага асабовага імя *Караліна* ці мужчынскага *Кароль (*Карл), якое стала прозвішчам (утварэнне з суфіксам -ін: *Карал-ін*), а потым набыло ролю айконіма.

Наступную групу адымёнавага паходжання складаюць айконімы з суфіксамі *-ічы/-овічы/- евічы/-авічы.* Гэта былыя найменні асобы па бацьку (дзеду, прадзеду), якія сталі прозвішчамі, а ў множналікавай форме – назвамі паселішчаў – айконімамі. Падаем іх разгляд з улікам алфавіту.

***Алексічы*** (Дзярэчынскі сельсавет) – ад прозвішча *Алексіч* (утварэнне з суфіксам *-іч* ад *Алексій: Алекс-іч*), якое ў множналікавай форме *Алексічы* стала абазначаць ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі, якія маюць прозвішча *Алексіч*).

***Аўдзеевічы (***Ялуцавіцкі сельсавет) – ад прозвішча *Аўдзеевіч* (утварэнне з суфіксам *-евіч* ад імя *Аўдзей: Аўдзей-эвіч*) і паказчыкам формы множнага ліку канчаткам -ы *Аўдзеевічы*, якое набыло значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Валькевічы*** (Дзярэчынскі сельсавет) – ад прозвішча *Валькевіч* (утварэнне з суфіксам *-евіч* ад *Валька* (*Валько*) (< *Вялянцін)*, якое ў множналікавай форме *Валькевічы* набыло значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Грыцкавічы*** (Зэльвенскі сельсавет*)* – ад прозвішча *Грыцкавіч* (утварэнне з суфіксам *-авіч* ад Грыцко (< Грыгорый), множналікавая форма якога стала абазначаць ‘паселішча’ (з жыхарамі з названным прозвішчам).

***Зенькаўцы*** (Славаціцкі сельсавет) – ад прозвішча *Зенькавец* (утварэнне ад імя *Зенька* (< Зенон) і яго прыметнікавай формы *Зенькава* (уладанне, мясцовасць), ад якой найменне асобы з

суфіксам -*ец Зенькавец*), множналікавая форма *Зенькаўцы* набыло значэнне ‘паселішча’ (з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Івашкавічы*** (Каралінскі сельсавет) – ад прозвішча *Івашкавіч* (утварэнне з суфіксам -*авіч* ад *Івашка* (< Іван), якое ў множналікавай форме набыло значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Клімавічы*** (Галынкаўскі сельсавет) – ад прозвішча *Клімавіч* (утварэнне з суфіксам -*авіч* ад *Клім* (< Клімент), якое у множналікавай форме *Клімавічы* набыло значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Косцевічы*** (Каралінскі сельсавет) – ад прозвішча *Косцевіч* (утварэнне ад імя *Косця* (< *Канстанцін*) з суфіксам -*евіч*: *Косцевіч*), якое у множналікавай форме набыло значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Лаўрыновічы*** (Каралінскі сельсавет) – ад прозвішча *Лаўрыновіч* (утварэнне з суфіксам -*овіч* ад імя *Лаўрын* (< Лаўрэнцій), якое у множналікавай форме *Лаўрыновічы* набыло значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Марцінавічы*** (Крамяніцкі сельсавет) – ад прозвішча *Марцінавіч* (утварэнне з суфіксам -*авіч* ад імя *Марцін*), якое ў множналікавай форме *Марцінавічы* набыло значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Мелехавічы*** (Славаціцкі сельсавет) – ад прозвішча *Мелехавіч* (утварэнне з суфіксам -*авіч* ад імя *Мелех* (< Емельян), множналікавая форма якога *Мелехавічы* набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Паўлавічы*** (Славаціцкі сельсавет) – ад прозвішча *Паўловіч* (< Паўлавіч) (утварэнне з суфіксам -*авіч* ад імя Павел), множналікавая форма якога *Паўлавічы* набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Пятрэвічы*** (Каралінскі сельсавет) – ад прозвішча *Пятрэвіч* (утварэнне з суфіксам -*эвіч* ад імя *Петра* (< Петр), форма множнага ліку якога *Пятрэвічы* набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Савічы*** (Дзярэчынскі сельсавет) – ад прозвішча *Савіч* (утварэнне з суфіксам -*іч* ад імя *Сава* (< *Савва*), множналікавая фор-

ма якога *Савічы* набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Хамічы*** (Славаціцкі сельсавет) – ад прозвішча *Хаміч* (утварэнне з суфіксам -*іч* ад імя *Хама* (< Фама), множналікавая форма якога набыла значэне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Церахавічы*** (Славаціцкі сельсавет) – ад прозвішча *Цераховіч* (< Цераховіч ‘імя па бацьку’) (утварэнне з суфіксам -*авіч* ад імя *Церах*), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

Ад уласных асабовых імёнаў паходзяць і айконімы на *-шчына /-оўшчына/-аўшчына*. Гэтыя назвы паселішчаў першапачаткова былі двухслоўнымі з першым кампанентам-прыметнікам з суфіксам *-скі/-оўскі/-еўскі/-аўскі*, які меў значэнне прыналежнасці, потым да асновы яго быў далучаны суфікс *-іна (-ына)*, у выніку іх спалучэння ўзнік тапанімічны (айканімічны) фармант (суфікс разам з канчаткам) *-шчына/-оўшчына/-аўчына*, напрыклад: *Аляксандр – Аляксандраўскі* (надзел, тэрыторыя) – Аляксандраўшчына (Аляксандр-аўшч-ына, *ск/шч*). Такія айконімы першасна мелі значэнне ‘уладанне, надзел зямлі’.

На Зэльвеншчыне чатыры айконімы гэтага тыпу.

***Аляксандраўшчына*** (Каралінскі сельсавет) – ад імя *Аляксандр* з фармантам *-аўшчына: Аляксандр-аўшчына.*

***Віскоўшчына*** (Каралінскі сельсавет) – ад прозвішча *Віско* (утварэнне ад канан. імя *Віктар* ці *Вікенцій, Вінцэнт*) з фармантам *-оўшчына: Віск-оўшчына*.

***Юнкаўшчына*** (Дабрасельскі сельсавет) – ад прозвішча *Юнко* (утварэнне ад імя *Юний* з суфіксам *-к-о: Юн-ко*) з фармантам *-аўшчына: Юнк-аўшчына.*

***Янаўшчына*** (Тулаўскі сельсавет) – утварэнне ад прыметнікавай формы з суфіксам -*ава* ад імя *Ян (Янава)* з далучэннем фарманта *-шчына – Яноў-шчына* (*Ян-аў-шчына*).

Другую групу айконімаў Зэльвеншчыны складаюць *утварэнні ад імёнаў – мянушак асобы*, якія пры далучэнні суфіксаў *-іч/-овіч/-евіч/-авіч* сталі прозвішчамі (а да гэтага – імёнамі па бацьку (дзеду) названай асобы). Такіх зарэгістравана на Зельвеншчыне 22 адзінкі.

***Авечыцы*** (Славаціцкі сельсавет) – першасна *Авечычы* – ад прозвішча *Авечыч* (утварэнне ад мянушкі *Авечка* з суфіксам *-іч* (*Авечыч*) і значэннем ‘імя па бацьку’) – множналікавая форма якога *Авечычы* (> *Авечыцы*) набыло значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Бародзічы* і *Барадзічы*** (Зэльвенскі сельсавет) – ад прозвішча *Бародзіч* (утварэнне суфіксам *-іч* ад мянушкі *Барада* ‘барадаты чалавек’), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Варонічы*** (Галынкаўскі сельсавет) – ад прозвішча *Вароніч* (утварэнне з суфіксам *-іч* ад мянушкі *Варона* (< *варона* ‘птушка’), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Даўгаполічы*** (Дзярэчынскі сельсавет) – ад прозвішча *Даўгаполіч* (утварэнне з суфіксам *-іч* ад мянушкі *Даўгаполы* (‘з доўгімі поламі адзення’), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Дзешкавічы*** (Сынкавіцкі сельсавет) – ад прозвішча *Дзешкавіч* (утварэнне з суфіксам *-авіч* ад мянушкі *Дзешка*, множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Казловічы*** (Сынкавіцкі сельсавет) – ад прозвішча *Казловіч* (утварэнне з суфіксам *-овіч* ад мянушкі *Казёл* (< *казёл* ‘свойская ці дзікая жывёла’), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Крывічы*** (Дзярэчынскі сельсавет) – ад прозвішча *Крывіч* (утварэнне ад мянушкі *Крывы* (< *крывы*), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам). Назва паселішча *Крывічы* магла ўзнікнуць і ад найменне ўсходнеславянскага племені *крывічы*.

***Ляхавічы*** (Крамяніцкі сельсавет) – ад прозвішча *Ляхавіч* (утварэнне з суфіксам *-авіч* ад мянушкі *Лях* (< *лях* ‘паляк’), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Пінскавічы*** (Галынкаўскі сельсавет) – ад прозвішча *Пінскавіч* (утварэнне з суфіксам *-авіч* ад *Пінскі* (< *Пінск*), якое ў множналікавай форме набыло значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Рудзевічы*** (Дабраселецкі сельсавет) – ад прозвішча *Рудзевіч* (утварэнне з суфіксам *-евіч* ад мянушкі *Рудзь* (< *рудзь* ад *руды* (колер)), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Самаравічы*** (Крамяніцкі сельсавет) – ад прозвішча *Самаравіч* (утварэнне з суфіксам *-авіч* ад мянушкі *Самара* (< Самара – горад у Расіі), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Славамцічы*** (Славаціцкі сельсавет) – ад прозвішча *Славаціч* (утварэнне ад *Славак* (< *славак,* этнонім) з суфіксам *-іч (*чарг. к/ц) – Славак-іч → Славаціч), множналікавая форма якого набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Сынкавічы*** і ***Сынковічы*** (Сынкавіцкі сельсавет) – ад прозвішча *Сынкавіч* (утварэнне з суфіксам *-авіч* ад мянушкі *Сынко* (*Сынок)* (< *сын*), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Цяглевічы*** (Дабраселецкі сельсавет) – ад прозвішча *Цяглевіч* (утварэнне з суфіксам *-евіч* ад мянушкі *Цягло* (< *цягацца – цягло*), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Ялуцавічы*** (Ялуцавіцкі сельсавет) ад прозвішча *Ялуцавіч* (утварэнне з суфіксам *-авіч* ад мянушкі *Ялуца* (< Ялума < Яўлампі) з значэннем ‘імя па бацьку названай асобы’), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Яруцічы*** (Славаціцкі сельсавет) – ад прозвішча *Яруціч* (утварэнне з суфіксам *-іч* ад *Ярута* (< *Яры*) – *Яруц-іч*), множналікавая форма якога *Яруцічы* набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

Наступную групу складаюць множналікавыя айконімы, утвораныя ад апелятыўных мянушак-прозвішчаў (іх 18).

***Барукі*** (Галынкаўскі сельсавет) – ад прозвішча *Барук* (семантычнае ўтварэнне з суфіксам *-ук* ад *барукацца* ‘дужацца’ – ‘той, хто дужаецца (барукаецца); літарат. *барэц*, *змаганнік*), множналікавая форма якога набыла значэнне ‘паселішча’ (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Бібікі*** (Дзярэчынскі сельсавет) – ад прозвішча *Бібік* (семантычнае ўтварэнне ад дзеяслова *бібікаць* ‘пераймаць сігналы (по-

звы) машын: *бібі-бібі-бібі!*-- (Інакш*: піпікаць*)' – 'той, хто бібікае', «сігнальшчык»), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Дзеркачы*** (Ялуцавіцкі сельсавет) – ад прозвішча *Дзяркач* (семантычнае ўтварэнне ад *дзяркач* 'невялікая лугавая птушка з характэрным скрыпучым голасам', тое, што і *драч*. Або ад *дзяркач* 'сцёрты венік, голік'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Драпаўцы*** (Сынкавіцкі сельсавет) – ад прозвішча *Драпавец* (утварэнне з суфіксам *-ец* ад айконіма *Драпава* з значэннем 'жыхар названнай мясцовасці'), множналікавая форма якога стала абазначаць паселішча, дзе жывуць асобы з названым прозвішчам.

***Жадзейкі*** (Ялуцавіцкі сельсавет) – ад прозвішча *Жадзейка* (утварэнне з суфіксам *-ейка* ад *жадны* (< *жадаць*) 'прагны'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названным прозвішчам).

***Кабакі*** (Галынкаўскі сельсавет) – ад прозвішча *Кабак* (семантычнае ўтварэнне ад *кабак* (руск.) 'карчма, шынок'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Кандакі*** (Крамяніцкі сельсавет) – ад прозвішча *Кандак* (семантычнае ўтварэнне ад *кандак* 'песня ў гонар Хрыста, Багародзіцы'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названным прозвішчам).

***Каняўцы*** (Крамяніцкі сельсавет) – ад прозвішча *Канявец* (утварэнне з суфіксам *-ец* ад *Конеў* (< *Конь* < *конь* 'свойская цяглавая жывёла'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названным прозвішчам).

***Кашалі*** (Каралінскі сельсавет) – ад прозвішча *Кашэль* (*Кошаль*) (семантычнае ўтварэнне ад *кашэль* 'кош, кошык' (*каш-эль*), множналікавая форма якога *Кашалі* набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названным прозвішчам).

***Клепачы*** (Тулаўскі сельсавет) – ад прозвішча *Кляпач* (семантычнае ўтварэнне ад *кляпач* 'малаток для кляпання (вастрэння) касы', а таксама 'той, хто кляпае касу (лязо яе)': *кляпач*), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (з асобамі з названным прозвішчам).

***Лебядзі*** (Крамяніцкі сельсавет) – ад прозвішча *Лебядзь* (семантычнае ўтварэнне ад *лебядзь* (птушка), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска, дзе ёсць названае прозвішча).

***Мадзейкі*** (Ялуцавіцкі сельсавет) – ад прозвішча *Мадзейка* (семантычнае ўтварэнне ад *мадзейка,* якое ад *мадземць* 'жыць у цяжкіх умовах', з суфіксам *-ейк-а: мадзейка*), множналікавая форма якога *Мадзейкі* набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названным прозвішчам).

***Пузікі*** (Тулаўскі сельсавет) – ад прозвішча *Пузік* (семантычнае ўтварэнне ад *пузік* 'пузаты' (*пуза* 'жывот'+ суфікс -*ік*), множналікавая форма якога *Пузікі* набыла значэнне 'паселішча' (з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Талалайкі*** (Тулаўскі сельсавет) – ад прозвішча *Талалайка* (семантычнае ўтварэнне ад апелятыва *талалайка* 'той, хто часта выгуквае: *«Талала-Талала»*), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Шулякі*** (Сынкавіцкі сельсавет) – ад прозвішча *Шуляк* (семантычнае ўтварэнне ад *шуляк* 'птушка ястраб', а таксама 'шула з пазамі'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Шыйкі*** і ***Шэйкі*** (Тулаўскі сельсавет) – ад прозвішча *Шэйка (Шыйка)* (семантычнае ўтварэнне ад *шыйка* (*шэйка* – руск.), якое ад *шыя* (*шэя*) з суфіксам -*ка*: *шыйка (шэйка*), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

Астатнія айконімы, як адасобленыя (несістэматызаваныя) словы, разгледзім з улікам іх алфавітнай паслядоўнасці.

***Бязводна*** (Дабраселецкі сельсавет) – скарочаная назва ад *бязводная (без вады*) 'рэчка, высахлая рака, ці мясцовасць, якой не хапае вады' – семантычнае ўтварэнне ад апелятыва *бязводна*, які стаў найменнем вёскі.

***Бярэжкі і Беражкі*** (Зэльвенскі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад *беражкі*, якое з памяншальна-ласкальным суфіксам -*кі* ад *бераг*, што значыць 'тое, што знаходзіцца на беразе (ракі, вадаёму)'.

***Вішнеўка*** (Ялуцавіцкі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад *вішнеўка* 'вішнёвы зараснік' (*вішнеў-ка).*

***Вострава*** (Палынкаўскі сельсавет) – у іншых рэгіёнах Беларусі – *Востраў* (семантычнае ўтварэнне ад *востраў* 'частка сушы, акружаная з усіх бакоў вадой', а таксама 'участак, які вылучаецца чым-небудзь сярод навакольнай мясцовасці, напрыклад, сухое месца сярод балота, невялікі лес сярод поля і пад.' Форма *Вострава* – дастасаванне да слова *сяло*, *вёска*.

***Галынка*** (Новая Галынка, Старая Галынка) (Галынкаўскі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад апелятыва *галынка* 'голае месца', з суфіксам -*ынк-а* ад *голы* 'без расліннасці', 'бедны' і пад.

***Горна*** (Каралінскі сельсавет) – скарочаная форма ад *Горная* –семантычнае ўтварэнне ад прыметніка *горная* (*гара → гор-н-ая*), што значыць 'гарыстая', 'з узгоркамі' (мясціна, тэрыторыя).

***Грабава*** (Дзярэчынскі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад *грабава* 'мясціна з зараснікам грабу': *Граб-ав-а*.

***Дабрасельцы*** – форма множнага ліку ад прозвішча *Дабраселец* (утварэнне ад айконіма *Добрае сяло*, з суфіксам -*ец* (*Дабраселец*).

***Дзярэчын*** (цэнтр сельсавета) – ад прозвішча *Дзярэча* (семантычнае ўтварэнне ад *дзярэча* 'той, хто дзярэ (*дзяр-эча)*, выдзірае пчолы з дуплаў, забірае іх мёд' (Гл. кнігу: Міхась Скобла. Дзярэчынскі дыярыюш. (Мінск, 1999, с. 6).

***Елка*** (Сынкавіцкі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад *елка* (руск. 'яліна, хваіна'), занесенае ў гэтую мясцовасць нетутэйшым чалавекам.

***Задвор'е*** (Тулаўскі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад *задвор'е* 'тое, што за дваром'. Вёска магла атрымаць назву ад тапоніма *За Дваром*, г. зн. размешчана за паселішчам *Двор.*

***Залацеева*** (Дзярэчынскі сельсавет) – форма прыналежнага прыметніка з суфіксам -*ева* ад прозвішча *Залацей* (семантычнае ўтварэнне ад апелятыва з*алацей* 'той, хто залоціць (пазалочвае) вырабы' (утварэнне з суфіксам -*ей* ад дзеяслова *залаціць* (< *золата*).

***Запруддзе*** (Славаціцкі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад *запруддзе* 'тое, што за прудом' *(за-пруд-jэ → запруддзе)*. Назва паселішча магла ўзнікнуць ад тапоніма *За прудом* (*за прудом*), дзе даўнейшае слова *пруд* мела значэнне 'млын'.

***Зэльва*** (цэнтр раёна) – ад назвы ракі *Зэльва*; гідронім *Зэльва* мае некалькі версій свайго паходжання, але найбольш верагодная з іх наступная: слова *«Зэльва»* складаецца з дзвюх частак:

*Зэль* – ‘зялёны’ і -*ва* ‘вада, рака’. Для адмежавання назвы ракі ад паселішча ўзнікла вытворнае слова *Зэльвенка* (> Зальвянка) – (утварэнне з суфіксам -*янка*), якое стала называць раку (Ад ранейшай, аналітычнай назвы *Зэльвенская рака* (цячэ праз *Зэльву*).

***Зяленіца* і *Зеляніца*** (Зэльвенскі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад апелятыва (= агульнага назоўніка) *зялемніца* / *зелянімца* ‘тое, што *зеляніць*’ (нагадвае зялёны колер: *зелян-іца*).

***Каліноўка*** (Тулаўскі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад *каліноўка* ‘калінавы зараснік’ (*калін-аў-ка*).

***Кашчэева*** (страчаная назва хутара) – прыметнікавая форма з суфіксам -*ава* ад прозвішча *Кашчэй* (утварэнне ад *кашчавы*, *косць*, з суфіксам *-ей (кашч-эй)* і значэннем ‘худы (адны косці)’.

***Конна*** (Зэльвенскі сельсавет) – скарочаная форма ад *Конная* (семантычнае ўтварэнне ад *конная* ‘тое, што звязана з коньмі (канём)’ (дарога, пабудова).

***Крамяніца*** (Крамяніцкі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад апелятыва *крамяніца* (ад *крамяны* ‘усеяны каменнем, камяністы’ – ‘поле, дарога, збудаванне’.

***Крываконна*** (Зэльвенскі сельсавет) – складанае слова: *Крыва* (*крыві* < *кроў*) і *конна* (ад апелятыва *крываконна* ‘крывавыя (параненыя) коні’. Абодва словы з коранем -*кон*- (*Конна* і *Крываконна*) абазначалі першасна ‘памяшканне для коней’, а затым набылі значэнне ‘паселішча’. Варта тут мець на ўвазе і Ганненскі кірмаш ў Зэльве, дзе найперш адбываўся гандаль коньмі.

***Крэсла*** (Тулаўскі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад *крэсла* ‘від ланшафту, які нагадвае контуры крэсла (мэбля)’.

***Лозы*** (хутар) – ад апелятыва *лозы* ‘зараснік лазы’.

***Луконіца*** (Галынкаўскі сельсавет) – семантычная ўтварэнне ад *луконіца* ‘мясціна (бераг ракі ці вадасхоў) з абрысамі лукі (з выгібам)’.

***Медухава*** (хутар) – форма прыналежнага прыметніка з суфіксам -*ава* ад прозвішча *Медух* (семантычнае ўтварэнне ад *медух* (*мед-ух*) са значэннем ‘звязаны з мёдам’ (параўн. *медуніца* (расліна з пахам мёду).

***Міжэрычы*** (Тулаўскі сельсавет) і *Межырэчча* – семантычнае ўтварэнне ад *межырэчча* ‘межы рэчча (рэчышча)’, г. зн. *межы рэчышча*.

***Мошкі*** (вёска, страчаная назва) – семантычнае ўтварэнне ад *мошкі* ‘мясціна з мноствам мошак (насякомых)’.

***Навасёлкі*** (Каралінскі сельсавет) – складанае слова: *Новыя сёлкі* ‘паселішча (*сёлкі*), якое ўзнікла пазней’.

***Падбалоцце*** (Крамяніцкі сельсавет) – утварэнне ад тапоніма: *пад балотам* (арыенцір).

***Падгрушаны*** (Ялуцавіцкі сельсавет) – адтапанімічнае ўтварэнне – арыенцір ад *Груша* (прыставачна-суфіксальнае): *пад-груш-аны*.

***Пруд*** (Галынкаўскі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад апелятыва *пруд* ‘млынавая запруда’, (руск.) *пруд* ‘сажалка’, ‘ставок’.

***Пустаборы*** (Галынкаўскі сельсавет) – складанае слова: *пусты бор* (без грыбоў, ягад) пераасэнсавалася, набыла тыповую для айконімаў множналікавую форму і набыла значэнне ‘паселішча’.

***Пянюга*** (Каралінскі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад апелятыва *пянюга* ‘вялікі пень’ (з суфіксам -*юг-а* ад *пень*: *пян-юга*).

***Тулава*** (Тулаўскі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад апелятыва *тулава* ‘цела чалавека або жывёлы без галавы, канечнасцей’. Відаць, ад вырабу з камля дрэва такой статуі.

***Угрынь*** (Дзярэчынскі сельсавет) (Вялікая У., Малая У.). Існуе некалькі версій паходжання слова (аўтар Маліноўскі, пазней набыў найменне Угрынскі і інш.). Адна з іх: ад этноніма *венгр* (< вугор < угр). На радзіме аўтара гэтых радкоў *венгрын* азначала ‘чалавек, які пакладае самцоў свойскай жывёлы (бугаёў, жарабцоў, кнуроў)’. Лічылася, што гэта спраўна рабілі прыезджыя асобы з Венгрыі. Адсюль *Угр-ын* (суфікс прыналежнасці -*ын* (а не -*ынь*). Другая версія – ад назвы рыбы *(в)угор:(в)угрын*. У в. Грабава кажуць: *Угрынё* (дастасаваная форма да слова «сяло»).

***Холстава*** (Зэльвенскі сельсавет) – форма прыналежнага прыметніка з суфіксам *-ава* ад прозвішча *Холст (Холстава)*, семантычнага ўтварэння ад *холст* (руск.) ‘палатно’, ‘часаны лён’, ’кудзеля’). Уладанне названай асобы набыло значэнне ‘паселішча’.

***Цыганоўка*** (Каралінскі сельсавет) – семантычнае ўтварэнне ад апелятыва *цыганоўка* (ад *цыган*, з суфіксам -*оўка* (*цыган-оўка*) або ад прыметніка *цыгановы*, з суфіксам -*к-а*: *цыганоў-ка*). Пер-

шасна было двухслоўнае найменне *Цыгановае* прыстанішча, якое кандэнсавалася ў адно слова *Цыганоўка*.

***Ярнева*** (Сынкавіцкі сельсавет) – форма прыналежнага прыметніка з суфіксам *-ева* ад прозвішча *Ярны* (*Ярн-ева*), якое ад апелятыва *ярны* 'вясновы' (параўн. *ярына, яравая* пшаніца). Найменне ўладання асобы (участка зямлі) набыло значэнне 'паселішча (вёска)'.

**З.А. Урбановіч, М.В. Іванюк**
*(Дабраволя Свіслацкага раёна)*

## Тапанімічнае мікраполе вёскі Дабраволя Свіслацкага раёна

Кожны тапонім цесна звязаны не толькі з пазамоўнай рэчаіснасцю, але і з іншымі тапанімічнымі назвамі пэўнай тэрыторыі. Таму тапанімію пэўнага рэгіёна трэба разглядаць як складаную арганічную сістэму. Гэтую цэласную сістэму можна кваліфікаваць як тапанімічнае поле.

У дадзеным артыкуле аб'ектам увагі з'яўляецца тапанімічнае мікраполе вёскі Дабраволя Свіслацкага раёна.

Вёска Дабраволя – цэнтр Дабравольскага сельскага Савета, знаходзіцца за 15 км ад горада Свіслач. Блізка ад яе праходзіць дзяржаўная мяжа з Польшай. Размешчана вёска на тэрыторыі нацыянальнага парка «Белавежская пушча». З усіх бакоў яе акружаюць лясы, раслінны і жывёльны свет якіх вельмі багаты і разнастайны.

Назва вёскі паходзіць ад слоў *добрая воля*, дзе *воля* – у значэнні свабода: паселішча, жыхары якога вызваляліся ад некаторых павіннасцей. Падобнае паходжанне маюць назвы вёсак Ціхаволя, Новая Воля, Волька, Вулька, Свабода.

Першы ўпамін аб Дабраволі адносіцца да 1538 года. У 1897 годзе гэта сяло Дабравольскай воласці: 171 двор, 1180 жыхароў, царква, вучылішча, валасная ўправа, збожжавы магазін, піццёвыы дом [1 , с.511]. У 2003 годзе – 283 двары, 578 жыхароў. На сённяшні час у вёсцы налічваецца 191 двор, 360 жыхароў. У асноўным жыхарамі вёскі з'яўляюцца людзі пенсійнага ўзросту. Моладзь прываблівае гарадское жыццё.

Вельмі цікавымі і незвычайнымі з’яўляюцца назвы геаграфічных аб’ектаў дабравольскай зямлі, якія ўвасобілі ў сабе ўсю прыгажосць і непаўторнасць гэтага пушчанскага краю. І вось мясцовыя назвы, што выкарыстоўваліся на працягу многіх дзесяцігоддзяў, забываюцца. Наша задача – не даць ім знікнуць бясследна.

Тапанімічны матэрыял збіраўся на працягу апошніх трох гадоў метадам апытання жыхароў вёскі Дабраволя, а таксама ажыццяўлялася праца з архіўнымі дакументамі былога калгаса «Пагранічнік».

Тапонімы ў артыкуле падаюцца блокамі: гадонімы (назвы вуліц), драмонімы (назвы дарог), лімнонімы (назвы азёр), патамонімы (назвы рэк), гелонімы (назвы балот), дрымонімы (назвы лясоў), аграонімы (назвы палёў). Усе назвы пранумараваны ў парадку іх паслядоўнай падачы. Прыкладаецца карта тапанімічнага мікраполя вёскі Дабраволя, на якой падаюцца нумары тапааб’ектаў, адпаведныя нумарам тапанімічных назваў у слоўніку. Лічба на карце ўказвае на цэнтральную частку тапааб’екта, крайнія межы яго не абазначаны.

Гадонімы

1.БАБІЛІ́, мн. Назва першай паловы вуліцы М.Русака. Тут пражывала шмат нежанатых мужчын.

2.БАЛЬНІ́ЧНАЯ, ж. Назва вуліцы Кастрычніцкая. Гэта вуліца выходзіць да былой бальніцы, а цяпер там занаходзіцца Дабравольскі дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў.

3.БІ́РЖА, ж. Месца злучэння самых вялікіх вуліц М.Урбановіча і М.Русака.

4.ГО́РАЧКА, ж. Месца злучэння вуліцы Першамайская і Міра. На гэтым стыку невялікае ўзвышша.

5.ДВО́РНАЯ, ж. Назва вуліцы Першамайская. Даўней на гэтым месцы былі маёнткі пана.

6.Ё́ТКІ, мн. Назва другой паловы вуліцы М.Русака.

7.ЖАБЯ́ЧАЯ, ж. Назва вуліцы Заслонава. За вуліцай знаходзіцца балота, дзе вельмі шмат жаб.

8.ЖА́РКАЎСКАЯ, ж. Назва вуліцы Белавежская. Гэта вуліца выходзіць на дарогу, што вядзе да вёскі Жаркаўшчына.

9.МЯСТЭ́ЧКА, н. Назва другой паловы вуліцы М.Урбановіча. Тут захаваліся самыя старыя дамы. Адсюль, відаць, і пачыналася раней будавацца вёска.

10.ПРЫТЫ́РАНЫЯ, мн. Назва вуліцы Даватара. Першымі жыхарамі, чые дамы пабудавалі на гэтым месцы, былі сем'і двух братоў, якіх аднавяскоўцы называлі Прытыраныя.

11.САБА́ЧАЯ, ж. Назва вуліцы П.Васіленкі. Гэта самая крайняя вуліца вёскі, там збіраецца заўсёды шмат сабак.

12.САМА́РЫ, мн. Назва першай паловы вуліцы М.Урбановіча.

13.ШКО́ЛЬНАЯ, ж. Назва вуліцы Міра, на якой размешчана школа.

Драмонімы

14.БУ́ДКА, ж. Дарога ў 69 квартале Броўскага лясніцтва. Раней тут стаяў шлагбаум і невялікі домік (падобны на будку).

15. ГРА́НАЧКА, ж. Дарога, якая аддзяляе агароды жыхароў вуліцы М.Урбановіча ад калгаснага поля (граніца).

16. ЗАГУ́МНЫ, мн. Дарога, якая ідзе за хлявамі (раней гумнамі) жыхароў вуліцы М.Русака.

17. ЗА ПРАКО́ПАМ, м. Дарога, якая вядзе да поля За Пракопам.

18. МАЙДА́Н, м. Дарога ў лесе.

19. НА ГРУДЫ́, мн. Дарога да поля Груд. Раней на ўскрайку гэтага поля было звезена шмат камянёў.

20. НА ЛО́СКІ, мн. Дарога да ляснога возера Лоскі.

21. НА ПАСЯКІ́, мн. Дарога да поля Пасекі, якое ўтварылася на месцы выкарчаванага лесу.

22. РАСКРЫЖНЫ́Я, мн. Перакрыжаванне дарог вуліц П.Васіленкі і М.Урбановіча.

23.САКАЛО́ЎСКА, ж. Дарога на поле Сакалова. Раней на гэтым полі быў надзел лесніка па мянушцы Сокал.

Аграонімы

24. БА́БКА, ж. Поле.

25. ГАРАДЫ́, мн. Поле. Раней на гэтым месцы былі агароды жыхароў вуліцы М.Русака.

26. ГАРО́Д, м. Поле. Раней на гэтым месцы былі зямельныя надзелы (агароды) жыхароў вуліцы М.Урбановіча.

27. ГРУ́Д, м. Поле. Раней на ўскрайку гэтага поля было звезена шмат камянёў.

28. ДЗЕ́ДАЎШЧЫНА, ж. Поле за вёскай. Раней тут жыў дзед, які лячыў людзей.

29. ЖАРСТВЯ́К, м. Поле.

30. ЗА БА́МАМ, м. Поле за фермай новай, якую называлі Бам.

31.ЗА ВАЛА́МІ, мн. Поле каля вёскі. Непадалёку знаходзіўся земляны насып.

32.ЗА ДО́МІКІ, мн. Поле, якое размешчана за нядаўна пабудаванымі калгаснымі дамамі на завулку Даватара.

33. ЗА КАСТРЫ́, мн. Поле каля вёскі. Назва пайшла ад таго, што некалі побач згарэла частка лесу.

34. ЗА КО́МПЛЕКСАМ, м. Поле за вёскай. Назва паходзіць ад месцазнаходжання яго – за жывёлагадоўчай фермай (комплексам).

35.ЗА ЛО́СКАМІ, мн. Поле, якое знаходзіцца каля дарогі на лясное возера Лоскі.

36. ЗА ПРАКО́ПАМ, м. Поле. Тут некалі быў надзел лесніка-хутараніна Пракопа.

37.ЗА РО́ВАМ, м. Поле, па краі якога цягнецца роў.

38. ЗАРЭ́ЧКА, ж. Поле, якое знаходзіцца з левага боку ракі Пчолка.

39. ЗА ПЧО́ЛКАЙ, ж. Поле, якое знаходзіцца з правага боку ракі Пчолка.

40. ЗА ШУ́РКАЙ, ж. Поле, якое размешчана за апошнім домам на вуліцы М.Русака, у якім пражываў мужчына па імені Шурка.

41. ЗРЭ́ПКАЎШЧЫНА, ж. Поле.

42. КАЗАДО́ЕВА, н. Поле за вёскай. Тут жыў хутаранін па мянушцы Казадой, які гадаваў шмат коз.

43. КАЛЯ БАЛЬНІ́ЦЫ, ж. Поле, якое знаходзіцца каля бальніцы.

44. КАЛЯ БО́ЧАК, мн. Поле, непадалёку ад якога раней быў хімсклад калгаса «Пагранічнік».

45. КАЛЯ ДУ́БА, м. Поле, на краі якога расце вялікі дуб.

46. КАЛЯ ЁЛАЧАК, мн. Поле, па краі якога растуць маладыя елачкі.

47. КАЛЯ КАР’Е́РА, м. Поле, з аднаго боку якога быў некалі кар’ер.

48. КАЛЯ ПЯТНА́ЦЦАТАГА, м. Поле, якое знаходзіцца каля квартала 15 Броўскага лясніцтва.

49. КРУГЛЯ́К, м. Поле за вёскай, якое знешняй формай нагадвае круг.

50. МАЧУ́ЛІШЧА, н. Поле за вёскай. Назва паходзіць ад дзеяслова мачыць. На гэтай мясцовасці шмат глыбокіх ям, у якіх некалі мачылі луб і канаплю.

51.ПАГНО́Й, м. Поле, размешчанае за людскімі агародамі, лічыцца ўрадлівым.

52. ПАЛЫНЕ́Ц, м. Поле. Некалі тут расло многа палыну.

53. ПА́СЕКІ, мн. Поле за вёскай, якое ўтварылася на месцы выкарчаванага лесу.

54. ПА́ЎЛАЎШЧЫНА, ж. Поле за вёскай. Назва паходзіць ад уласнага імя Павел, які некалі тут пражываў.

55. ПІЯНЕ́Р, м. Поле.

56. РЭ́ПІШЧА, н. Поле. Назва паходзіць ад сельскагаспадарчай культуры мінулага – рэпы, якую некалі тут сеялі.

57. САКАЛО́ВА, н. Поле за вёскай. На гэтым месцы раней быў надзел лесніка па мянушцы Сокал.

58. СВЯЙКО́ВА, н. Поле за вёскай. Раней тут быў надзел лесніка па прозвішчы Свейка.

59. СМУ́ШКА, ж. Поле ў лесе.

60. СТАРЫНА́, ж. Поле за вёскай.

61. УРБІ́ЦКАЎ ХУ́ТАР, м. Поле за вёскай. Раней на гэтым месцы быў хутар чалавека па прозвішчы Урбіцкі.

62. ЧАБАНО́ВА, н. Поле. На гэтым месцы некалі быў хутар, на якім жыла сям’я па прозвішчы Чабан.

63.ЧУ́ДА-ПО́ЛЕ, н. Вялікае пясчанае поле каля вёскі, вельмі беднае на ўраджаі.

64.ШЫ́Я, ж. Поле каля вёскі, якое знешнім выглядам нагадвае шыю.

Дрымонімы

65. АЛЁС, м. Лес, які знаходзіцца ў квартале 46 Броўскага лясніцтва, непадалёку ад вёскі. Лес размешчаны ў топкім месцы.

66. АЛЁ́ХАЎШЧЫНА, ж. Лес, які знаходзіцца ў квартале 47, за вёскай. Тут вельмі шмат расце вольхаў.

67. БАЛО́ТЦА, н. Лес, які знаходзіцца ў квартале 252 Свіслацкага лясніцтва, каля вёскі. На гэтым месцы некалі было балота.

68. КАЛО́ДЗЕЦ, м. Лес у 70 квартале Броўскага лясніцтва. На гэтым месцы знаходзіцца калодзец.

69. КАСТРЫ́, мн. Лес, які знаходзіцца ў квартале 246 Броўскага лясніцтва, за вёскай. У гэтым лесе ёсць паляна, на якой разводзілі кастры ў час першамайскіх свят.

70. ПЛІТА́, ж. Лес. Раней на гэтым месцы на зямлі ляжала вялікая цэментавая пліта.

71. САМАСЕ́Й, м. Лес, які знаходзіцца ў квартале 47 Броўскага лясніцтва. Гэты лес сам насеяўся.

72. СЕМЯНО́Ў БО́Р, м. Лес, які знаходзіцца ў квартале 251 Броўскага лясніцтва. Раней тут быў абход лесніка па імені Сямён.

73. СЯРГЕ́ЙЧЫКАЎ ХУ́ТАР, м. Лес, які знаходзіцца ў квартале 33 Броўскага лясніцтва. Раней на гэтым месцы быў хутар селяніна па прозвішчы Сяргейчык.

74. ФО́ЙНІК, м. Хваёвы лес.

75. ЦЯЛЯ́ЧА ДАЛІ́НА, ж. Лес, які знаходзіцца ў квартале 59 Свіслацкага лясніцтва.

76.ШО́ПКА, ж. Лес у 71 квартале Броўскага лясніцтва. Тут некалі быў будынак (шопка), у якім захоўваўся корм дзікім жывёлам. Потым будынак згарэў.

Гелонімы

77. КНЯГІ́НЯ, ж. Балота.

78.НА́РВА, ж. Балота, якое цягнецца да ракі Нарва.

79. ПУХО́ЎШЧЫНА, ж. Балота.

80.РЭ́ПІШЧА, н. Балота.

Лімнонімы

81.ЛО́СКІ, мн. Лясное возера.

82. РАВО́К, м. Роў.

83.СА́ЖАЛКА, ж. Штучнае возера ў в.Дабраволя.

Патамонімы

84.ПЧО́ЛКА, ж. Рака.

*Спіс літаратуры*

1. Памяць. Свіслацкі раён: Гістарычна-дакументальныя хронікі градоў і раёнаў Беларусі/ Рэдкал. І.І.Варанец і інш.; Маст. Э.Э.Жакевіч. – Мн.: Беларусь, 2004 г. – 526 с.


## *Карта 1. Тапанімічнае мікраполе вёскі Дабраволя Свіслацкага раёна*



# ЛІТАРАТУРНАЕ І ФАЛЬКЛОРНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА

**М.А. Даніловіч (Гродна)**

## Народныя прыкметы Гродзеншчыны

*Прапанаваныя тут прыкметы сабраны аўтарам у апошнія тры дзесяцігоддзі на Гродзеншчыне. У кожнай прыкмеце выяўляецца аб'ект, якому яна прысвечана. Слоўнікавае размяшчэнне прыкметы адпавядае алфавітнай назве яе вызначальнага аб'екта.*

**Адзежа.** Калі ўстанеш і адзенеш на левы бок адзежу, будзе штосьці нечаканае. Харціца Маст. Як адзеў на ліхі [левы] бок адзеня, та ліхо прычэпіцца. Бабіна Гродз. Як на благі [левы] бок адзеняш, то нехта адвернецца ад цябе. Косцевічы Астр.

**Акно.** Калі ў мароз спацелі вокны, то пацяплее. Кямелішкі Астр.

**Арэхі.** Калі шмат арэхаў, а грыбоў мала – зіма будзе снежная. Косцевічы Зэльв.

**Багач.** Багач – кідай рагач, бяры сявеньку – сей памаленьку. Дабраволя Свісл.

**Баравік.** Як знойдзеш першага ў гэтым годзе баравіка, трэба на яго тры разы папляваць, то будзе шанцаваць у грыбаванні. Бабіна Гродз.

**Благавешчанне.** •Калі на Благавешчанне хмарна, восень будзе дажджлівая, а калі пагода, то – пагодлівая. Шундры Сл. •На Благавешчанне няможна рашчэсвацца, каб куры не дралі расаду. Дабраволя Свісл. •Як на Благавешчанне добра, то і на Вялікдзень будзе добра. Бародзічы Зэльв.

**Благуста.** На Благусту сей капусту. Бенін Навагр.

**Бурбалкі.** Як булбалкі ў лужах – доўга быць дажджу. Парэчча Гродз.

**Бусел.** •Бусел сядзе на комін – будзе дзіця ў той хаце. Бародзічы Зэльв. •Калі над табой пралятае бацян, трэба сказаць: »Бацян-калода, што заўтра будзя – дождж ці пагода?» Як у гэты час бацян замахае крыламі, то будзя дождж, калі не – то пагода. Кульбакі Лід. •Як ходзіць бусел па балоце, то будуць людзі ў ра-

боце. Нізаўцы Навагр. Як убачыш вясной першы раз бусла сядзячым на гняздзе, цэлы год сядзець будзеш, а як убачыш ляцячым, цэлы год лётаць будзеш. Бабіна Гродз.

**Бяроза.** •З бярозы цячэ многа соку – на дажджлівае лета. Карпуцяны Воран. •Калі бяроза распусцілася раней за вольху – чакай цёплага лета, калі наадварот – лета будзе халоднае і даждлівае. Алянішчаўка Шчуч.

**Бярозка.** Як бярозка [травяністая расліна] згортвае кветкі – будзе дождж. Вялікае Сяло Свісл.

**Вадохрышча.** •На Вадохрышча яснае і марознае надвор'е – да засушлівага лета, хмарнае і снежнае – на добры ўраджай, зорная ноч – будзе шмат ягадаў. Бершты Шчуч. •Трашчы не трашчы – ужо прайшлі Вадохрышчы. Дабраволя Свісл.

**Вароны.** •Вароны і галкі садзяцца на вяршыні дрэў – на мароз. Карпуцяны Воран. •Вароны каркаюць на дождж. Карпуцяны Воран. •Моцна каркаюць вароны – на дождж. Мядзвінавічы Дзятл. •Вароны крычаць – да змены надвор'я. Пальніца Гродз. •Вароны на вяршыне дрэва сядзяць – будзе мароз. Нягневічы Навагр. •Вароны на дрэве зімой – на мароз. Вялікае Сяло Свісл. •Вароны пайшлі па сцежках – будзе слата. Кракоўка Ашм. •Калі на страсе хаты збярэцца многа варон, значыць, у ёй будзе вяселле. Хадзілоні Шчуч. •Калі чарада варонаў пралятае над дзяцьмі, то трэба прысядаць на кукішкі, бо дзеці будуць кепска вучыцца, калі не прысядуць. Скрышава Карэл.

**Ваўкі.** Пакуль ваўкі не з'явяцца, зімы не чакай. Кракоўка Ашм.

**Венік.** •Калі дзяўчына мяце падлогу, то ёй няможна перадаваць свой венік другому, бо гэтым яна можа перадаць свайго кавалера. Дакудава Лід. •Няможна венікам змятаць стол і лавы, бо куры будуць гарод кошкаць. Кульбакі Лід. Нельга паліць дзяркач, бо каршун курэй драць будзе. Бабіна Гродз.

**Вераб'і.** •Вераб'і дружна цвыркаюць – на адлігу. Карпуцяны Воран. •Вераб'і напыжаныя згарнуўшыся сядзяць на плоце – значыць, будзе мароз. Вялікае Сяло Свісл. •Вераб'і ў пяску купаюцца – будзе добрае надвор'е. Тапілішкі Шчуч. •Калі гаспадыня карміла курэй і разам з курамі дзюбалі вераб'і, то іх нельга было праганяць, бо гэта лічылася дрэннай прыметай. Тапілішкі Шчуч.

**Вішня.** Калі вішня ападае, то настае зіма. Нягневічы Навагр.

**Вока.** Калі свярбіць левае вока – на шчасце, правае – крывавае. Харціца Маст.

**Вольха.** Калі вольха распускаецца пазней за бярозу, чакай засушлівага лета. Кямелішкі Астр.

**Вугаль.** •Калі вугаль выскачыў з печы – будзе госць. Бабіна Гродз. •Калі вугаль з печы на патэльню зваліцца – будзе госць. Яцыны Астр.

**Вусы.** Вусы чэшуцца – ласавацца будзеш. Нягневічы Навагр.

**Вядро.** Калі перайшлі дарогу з пустым вядром – не пашанцуе. Харціца Маст.

**Вялікдзень.** •З Вялікадня птушкі пачынаюць спяваць. Нізаўцы Навагр. •Перад Вельканоцай вялікія чварцік, пёнцік і субота сухія – вясна сухая, мокрыя – вясна дажджлівая. Яцыны Астр.

**Вяртанне.** Варочаюцца назад у хату – быць няшчасцю. Зэльва Зэльв.

**Вясёлка.** Калі ў вясёлкі дуга крутая – пагоды заўтра чакай. Харціца Маст.

**Галкі.** Галкі збіраюцца чародамі – на дождж.Карпуцяны Воран.

**Ганна.** Да Ганны і пад кустам высахне, а пасля Ганны і на кусце не хоча сохнуць. Яцыны Астр.

**Гарошка.** Зацвітае гарошка – пара канчаць садзіць бульбу. Карпуцяны Воран.

**Грамніцы.** •Грамніцы – палова зіміцы. Яцыны Астр. Як на Грамніцы пятух нап'ецца вадзіццы, то ў маі бык наесца травіцы. Косцевічы Астр. •Калі на Грамніцы пятух нап'ецца вадзіцы, тады на Юр'я вол наесца травіцы. Нягневічы Навагр. •Як на Грамніцы нап'ецца пятух вадзіцы, то ў маі наесца вол травіцы. Аляніштаўка Шчуч. •На Грамніцу сонца – пяруністае лета. Іўе Іўеў. •На Грамніцы слонца – лета сухое. Яцыны Астр.

**Гром.** • Гром на голы лес – да неўрадлівага лета. Карпуцяны Воран. •Гром у верасні абяцае цёплую восень. Сцяпанішкі Маст.

**Грыбы.** •Калі грыбоўна, то і хлябоўна. Кямелішкі Астр. •Калі няма грыбоў – будзе зімна зімой. Кямелішкі Астр. • Калі ў лесе шмат грыбоў, то шмат хлеба будзе. Нізаўцы Навагр.

**Грыгор.** На святога Грыгора ідуць рэкі да мора. Гута Дзятл.

**Гусі.** •Гусі высока – зіма далёка, гусі нізка – зіма блізка. Кямелішкі Астр. •Гусі дзюбы хаваюць – будзе холад. Тапілішкі Шчуч. •Гусі ідуць з луга – на дождж. Бародзічы Зэльв. •Гусі на адной назе стаяць – будзе мароз. Солы Смарг. •Калі гусь стаіць на адной назе – будзе холад. Харціца Маст.

**Дарога.** Калі выйшаў у дарогу па справе і насустрач ідзе мужчына, – на ўдачу, а калі жанчына, – не пашанцуе. Харціца Маст.

**Дзверы.** Калі нага ў дзвярах ушчэпіцца або зачэпіцца, хтосьці памрэ. Яцыны Астр.

**Дзень.** Які першы дзень месяца, такі і ўвесь месяц будзе. Іўе Іўеў.

**Дзіця.** Калі пры хрышчэнні дзіця маўчыць, спіць, то будзе спакойным, а як галосіць – то будзе спеваком. Бародзічы Зэльв.

**Дождж.** •Кастрычніцкія навальніцы – да марознай зімы. Солы Смарг. •Два дажджы ў маю, старчыць хлеба і гультаю. Солы Смарг. •Дождж у маю – будзе хлеб гультаю. Студзянец Ваўк. •Калі ў дзень вяселля ідзе дождж – маладыя будуць багатыя Сцяпанішкі Маст.

**Дровы.** Дровы гараць з трэскам – да марозу. Карпуцяны Воран.

**Дуб.** •Дуб апранаецца – скаціна наядаецца. Нізаўцы Навагр. •Усе дубы ўсыпаны жалудамі – будзе цёплая зіма. Косцевічы Зэльв. •Як дуб пусціў лісткі, то замаразкаў не будзе. Васілішкі Шчуч.

**Дуброва.** Дубрава зімой пачарнела – чакай адлігу ці буру. Карпуцяны Воран.

**Дым.** •Дым без ветру паўзе па зямлі – сыпаць снегу ці ліўню ліць. Харціца Маст. Дым з коміна па зямлі сцелецца – будзе туман. Тапілішкі Шчуч. •Дым па зямлі – на дошч. Вялікае Сяло Свісл. •Дым проста ўгору ідзе – мароз будзе. Васілішкі Шчуч. •Калі дым сцелецца – дождж, калі ўгору падымаецца – пагода. Віганцы Воран.

**Еўдакія.** На Еўдакію [14 сакавіка] мароз – далей сакавік марозны будзе. Падольцы Астр.

**Жабы.** •Жаба голас падае – сей авёс. Карпуцяны Воран. •Жабы ўвечары моцна квакаюць – назаўтра будзе цёплае надвор'е. Тапілішкі Шчуч. •Калі жабы ўвечары квакаюць – назаўтра цяпло будзя. Падбалоцце Зэльв.

**Жар.** •Калі паліш печ і ўжо пературлела, а адкрыеш заслонку – жар жарыць, то на мароз зімою, а калі летам, то – на пагоду. Табала Гродз. •На ветры жар моцна разгараецца – будзе мароз. Дзераўная Сл.

**Жураўлі.** •Калі журавы ляцяць нізка і моўчкі – чакай непагадзі. Карпуцяны Воран. • Калі жураўлі ляцяць высока, то яшчэ зіма далёка, а калі нізка, то зіма блізка. Тапілішкі Шчуч.

**Жыта.** Каласіцца жыта – многа грыбоў знойдзеш. Каркуцяны Воран.

**Завіруха.** Зімой завіруха кружа – летам непагадзь замуча. Падольцы Астр.

**Зайцы.** Зайчыкі часта дарогу перабягаюць, то будзе перамена надвор'я. Кракоўка Ашм.

**Звеставанне.** На Звеставанне дзеўка касы не пляце, а пташачка гнязда не ўе. Гарэцкаўшчына Ашм.

**Зіма.** •Зіма снежная – лета дажджлівае. Нізаўцы Навагр. •Цёпла зіма – халодна лета. Парэчча Гродз. •Якая зіма, такое і лета. Нізаўцы Навагр.

**Зоркі.** •Калі ідзеш разам з хлопцам ноччу і бачыш, што падае зорка, – да шчасця ў сям'і. Харціца Маст. •У купальскую ноч, калі на небе шмат зорак, то грыбоў увосень будзе шмат. Казлоўшчына Дзятл. •Зімою ноччу неба ўсё ў зорках, то заўтра днём будзе мароз. Нягневічы Навагр.

**Зяблік.** Зяблік прылятае – чакай холаду. Карпуцяны Воран.

**Зязюля.** •Зязюля кукуе – лічыць гады: колькі разоў пракукуе, столькі гадоў і пражывеш. Бабіна Гродз. •Калі зязюля кувае на голы лес – будзе галодны год. Хадзілоні Шчуч. •Калі зязюля кукуе і ў кішэні грошы ёсць, трэба трасці, то будзеш багаты. Бародзічы Зэльв. •Прылёт зязюлі – пачатак сяўбы цеплалюбівых культур. Сцяпанішкі Маст.

**Іва.** Калі вясною першыя зелянеюць івы, – да мокрага лета, калі бярозы – то да сухога. Казлоўшчына Дзятл.

**Іван.** На Івана ходзіць баба п’яна. Дабраволя Свісл.

**Іголкі.** Калі калюшкі з сасны рана пасыпаліся на зямлю, будзе ранняя зіма. Альхоўка Астр.

**Ілля.** •Ілля – наробіць гнілля. Бенін Навагр., Нізаўцы Навагр. •Калі на Іллю дождж, то бульба ў пограбе не будзе ляжаць. Ціхаволя Свісл. •Прыйдзе Ілля – наробіць гнілля. Аляншчаўка Шчуч., Іўе Іўеў. •Прышоў Ілля – нарабіў гнілля. Мядзвінавічы Дзятл.

**Іней.** •Асенні іней – да сухога сонечнага надвор’я. Карпуцяны Воран. •Іней – на харошы ўраджай. Казлоўшчына Дзятл. •Калі ноччу іней – днём снегу не будзе. Нізаўцы Навагр.

**Каляды.** •Адны Каляды на лядзе, другія – на вадзе. Дабраволя Свісл. •На Каляды мяцеліца – на ўраджай пчол. Бенін Навагр.

**Камары.** •Вясной як камары мак таўкуць – будзе скора цёпла. Альхоўка Астр. •Камары вечарам мак таўкуць – на пагоду. Кямелішкі Астр. •Камары мак таўкуць – цёпла будзе. Солы Смарг. •Камары мак таўкуць – будзе пагода. Ашмяны Ашм. •Калі камары паявіліся позна ўвосень, то будзе мяккая зіма. Кямелішкі Астр. •Калі ў глухую восень камары збіраюцца кучамі, значыць, будзе цёпла. Нягневічы Навагр. •Камары збіваюцца ў кучу – на дождж. Харціца Маст. •Камары моцна кусаюцца – на цяпло. Бародзічы Зэльв. •Камары ў кучу таўкуцца – да дажджу. Парэчча Гродз. •Убачыш камара – пачынай сяўбу. Нізаўцы Навагр. •Як з’явяцца камары, сей жыта. Карпуцяны Воран.

**Каровы.** •Калі каровы не хочуць ісці з пашы, то будзе добрае надвор’е. Дубінка Гродз. •Карова лажыцца на ноч пад павець – да непагоды, а на дварэ застаецца – да цяпла. Яцыны Астр. •Сцеганеш карову пры першым выгане вельканоцнай вярбой – здаровая ўвесь год будзе. Віганцы Воран.

**Качкі.** Дзікія качкі прыляцелі тлустыя – вясна халодная і доўгая. Падольцы Гродз.

**Кветкі.** Кветкі моцна пахнуць перад дажджом. Вензавец Дзятл.

**Клён.** Калі ў клёна лісты мокрыя – дождж будзе. Ашмяны Ашм.

**Ключы.** •Згубіў ключ – хутка вернешся. Зэльва Зэльв. • Ключы ляжаць на стале – да сваркі ў доме. Прыдоўгае Шчуч.

**Конь.** Калі конь дзярэ капытам – да сухаты. Харціца Маст.

**Косы.** Нельга заплятаць косы на людзях – не прыедуць сваты. Косцевічы Зэльв.

**Кот.** •Калі кот есць траву – будзе дождж. Солы Смарг. •Калі кот ляжыць на печы апусціўшы хвост – будзе мароз. Харціца Маст. •Калі кот спіць на печы – мароз будзе. Мядзвінавічы Дзятл. •Кот на печ палез – будзе холад. Нягневічы Навагр. Кот на печ – сцюжа на двор. Нізаўцы Навагр. •Як кот на печ – будзе холадна. Гожа Гродз. •Як кот у печ лезе, будзе мароз. Кракоўка Ашм. •Як кот спіць не пад сонцам, то скора будзе навальніца. Альхоўка Астр. •Калі кот мыецца – будуць госці, лапай паказвае, з якога боку прыедуць госці. Бабіна Гродз. •Кот лапкай мыецца – чакай гасцей. Зэльва Зэльв. •Кот мыецца – госці будуць, і, гледзячы з якога боку вылізваецца, з таго боку і госці прыедуць. Прыдоўгае Шчуч. •Кот мыецца ля парогу – чакай гасцей. Сцяпанішкі Маст. •Кот мыецца на ганку – госці ў хату. Бенін Навагр.

**Коцікі.** Трэба есці коцікі свянцонай вярбы, не будзеш баяцца грому. Дабраволя Свісл.

**Крышчэнне.** На Крашчэнне добрыя гузы – будуць добрыя гарбузы. Дзераўная Сл.

**Крот.** Крот рыецца ў лістападзе – будзе доўгі час цяпло. Нягневічы Навагр.

**Крумкач.** Крумкач крычыць на могілках – хутка нехта памрэ. Харціца Маст.

**Крыжык.** Калі згубіць нацельны крыжык, то нехта памрэ з родных. Нягневічы Навагр.

**Купала.** На Купалу раса – будуць агуркі. Хадзілоні Шчуч.

**Курапатка.** Курапаткі на вёсцы збіраюцца – на холад. Вялікае Сяло Свісл.

**Куры.** •Калі куры кудакчуць перад усходам сонца – да вялікай бяды. Харціца Маст. •Калі куры паміж сабой б'юцца – госці прыб'юцца. Харціца Маст. •Калі куры ходзяць па двары ў час яшчэ дробнага дажджу, то будзе працяглы дождж. Кямелішкі Астр. •Як доўга куры па дажджы ходзяць – доўга будзе дождж. Галавачы Гродз. •Калі куры ходзяць пад дажджом, то доўга будзе ісці дождж. Індура Гродз. •Калі куры цярэбяцца, будзе дождж.

Галавачы Гродз., В.Вялікае Сяло Свісл. •Як куры цярэбяцца ў пер'і – будзе дождж. Мядзвінавічы Дзятл. •Калі курыца знесла яйка на зямлю, будзе багаты ўраджай. Індура Гродз. •Куры загаддзя сядаюць на седала – будзе добрае надвор'е. Тапілішкі Шчуч. •Куры купаюцца ў пяску – да дажджу. Ліхачы Гродз. •Куры на жэрдку паселі да захода сонца – на дождж. Вялікае Сяло Свісл. •Куры пачынаюць церабіцца – будзе дождж. Тапілішкі Шчуч. •Куры пёры чысцяць – на дождж. Альхоўка Астр. •Куры ўвосень рана ліняюць – будзе зіма цёплая. Солы Смарг. •Курыца спявае на бяду. Харціца Маст. •Курыца спявае на здыхату. Бабіна Гродз.

**Куцця.** •Калі на Куццю зорнае неба – будзе многа ягад у лесе. Альхоўка Астр. •Калі на Куццю зорнае неба, будуць куры добра несціся. Бабіна Гродз. •Калі на Куццю на слупках ляжыць шапкамі снег – будзе грыбны год. Альхоўка Астр. •Калі сядуць есці на Куццю, трэба дзецям па-петушынаму кукарэкаць – будуць куры добра несціся. Альхоўка Астр. •На Куццю пагода – куры нясучыя, хмарна – каровы дойныя. Яцыны Астр. •Перад Куццёю трэба цэлы дзень пасціць, нічога не есці, бо калі штосьці з'ясі, то летам будуць камры кусацца. Бабіна Гродз.

**Ламота.** Косці ломіць – будзе дождж. Харціца Маст.

**Ластаўкі.** •Калі ластаўкі на провад садзяцца – на дождж. Альхоўка Астр. •Калі ластаўкі нізка лётаюць над зямлёй – да дажджу. Сцяпанішкі Маст. •Калі ластаўкі ці мошкі нізка лятаюць над вадой, то будзе дождж. Малая Воля Дзятл. •Ластаўкі да зямлі падаюць – на дождж. Вялікае Сяло Свісл. •Ластаўкі нізка лятаюць – перад дажджом. Вензавец Дзятл., Князева Зэльв., Галавачы Гродз.

**Лес.** Калі ўваходзіш у лес, трэба перажагнацца і сказаць: »Куцця была ў панядзелак [ці аўторак, сераду, чацвер, пятніцу, суботу, нядзелю]. Хадзіў панядзелак па свеце, ніхто яго не рушыў. Дай Божанька, каб і нас ніхто не рушыў. Кульбакі Лід.

**Лета.** Сухое лета – марозлівая зіма. Харціца Маст.

**Ліст.** •Калі дубовы лісток выкручваецца, то будзе мароз. Ашмяны Ашм. •Калі лісты з дрэў хутка ападаюць, то скора зіма. Нягневічы Навагр. •Лісце шалясціць на дождж. Бародзічы Зельв. •Як бярозавыя лісты восенню пажаўцеюць зверху – вясна будзе ранняя, а як знізу – позняя. Бераставічаны Бераст. •Калі лісце

ў бярозы распусціцца раней, чым у вольхі, лета будзе сухое і цёплае. Карпуцяны Воран., Сцяпанішкі Маст.

**Лотаць.** Цвіце лотаць – будзе гаспадар малако лопаць. Дабраволя Свісл.

**Люстэрка.** Дзіцяці да года няможна ў люстэрка глядзецца – шчасце сваё праглядзіць. Гарэцкаўшчына Ашм.

**Люты.** •Люты марозіць – гаспадар печы паліць і дровы возіць. Васілішкі Шчуч. •Пытае люты, ці добра абуты. Васілішкі Шчуч. •Пытае люты, ці коні падкуты. Бабіна Гродз.

**Лядзяш.** •Доўгія ледзяшы ў канцы лютага – да доўгай вясны. Карпуцяны Воран. •Калі зімой многа ледзяшоў – будзе добры ўраджай. Кямелішкі Астр.

**Май.** •Мокры май – будзе жыта як гай. Драчаны Свісл. •Тры дажджы ў маі – і не трэба агранома. Драчаны Свісл. •У маі халадна – будзе голадна. Воранава Воран. •Май халодны – год галодны. Масаляны Бераст.

**Маладая.** Чым далей сядзіш ад маладой на вяселлі, тым пазней выйдзеш замуж. Альхоўка Астр.

**Маладзік.** •Калі ўбачыш маладзічок на небе, трэба перажагнацца: будуць здаровыя і моцныя зубы. Кульбакі Лід. •Калі на маладзік народзіцца дзіця, то надта ўрокаў баіцца. Прыгодзічы Гродз. •Калі маладзік знаходзіцца высока і рогі яго ўверх, то будзе той месяц холодны. Дзераўная Сл. •Маладзік рогі задраў – на пагоду. Нізаўцы Навагр.

**Марац.** •Марац укусіць за палец. Бабіна Гродз. •Хто сее гарох у марцу, той гатуе ў гарцу, а хто ў маю – той у яю [у яйку]. Яцыны Астр. Марц то снегам сее, то сонцам грэе. Драчаны Свісл.

**Марка.** На Марка неба ярка, бабам у хаце жарка. Васілішкі Шчуч.

**Матрона.** Калі на Матрону іней на дрэвах цэлы дзень, дык блізка маразы, а калі туман, дык блізка адліга. Нягневічы Навагр.

**Месяц.** •Месяц акругляецца на дождж. Іўе Іўеў. •Як месяц не чысты, а вакол яго, як зацягнута, жоўта, то гэта на снег. Ліхачы Гродз.

**Мікола.** Да Міколы ніколі не сей грэчкі ды не стрыжы авечкі. Нізаўцы Навагр.

**Мурашкі.** Калі мурашы лезуць на акенца – да няшчасця. Харціца Маст.

**Мухі.** •Мухі кусаюцца моцна – на дождж. Вялікае Сяло Свісл. •Як мухі часта сядаюць на кончык носа, то будзе дождж і падаць будзе доўга. Альхоўка Астр.

**Нага.** •Калі спатыкнешся на левую нагу – на шчасце, а калі на правую – на няшчасце. Харціца Маст. •Спатыкнуўся на правую ногу – пашанцуе, на левую – чакай бяды. ЗэльваЗэльв.

**Немаўля.** Незамужняй дзяўчыне няможна хрысціць немаўля жаночага полу, бо тое можа забраць яе шчасце. Кульбакі Лід.

**Нос.** •Калі нос свярбіць – будзе гулянка. Кракоўка Ашм. •Нос свярбіць – піць будзеш або біты будзеш. Зэльва Зэльв.

**Нябожчык.** •Калі выносяць нябожчыка з хаты і ён яшчэ мяккі, то ў гэтай хаце хутка зноў будзе пахаванне. Кульбакі Лід. •Калі нябожчык сніцца, то, значыць, хоча, каб за яго памаліліся. Ашмяны Ашм. •Як нясуць нябожчыка, няможна глядзець праз акно, а то ён можа забраць цябе з сабой. Кульбакі Лід.

**Павук.** •Калі павук спускаецца па павуціне – да нечаканай навіны. Харціца Маст. •Павук звісае на павуціне ў хаце – будзе навіна. Калі светлы павук – светлая навіна, калі чорны павук – чорная навіна. Бабіна Гродз.

**Павуцінне.** •На дзень ясны па галінах дрэў сцелецца павуцінне. Харціца Маст. •Павуцінне сцелецца па раслінах – да цяпла. Карпуцяны Воран.

**Падмятанне.** Калі з сям'і хто-небудзь паехаў у дарогу, у гэты дзень нельга ў хаце падмятаць. Уселюб Навагр.

**Пакровы.** •Калі на Пакровы цёпла, то зіма будзе халодная. Нягневічы Навагр. •Калі Пакровы цёплыя, дык і зіма будзе мяккая. Нягневічы Навагр. •На Пакровы заганяюць у хлеў каровы. Нягневічы Навагр. •Пакрова – зіма гатова. Дабраволя Свісл.

**Панцялей.** З Панцялея капуста пачынае ў качан завівацца. Бенін Навагр.

**Папярхнуцца.** Пры ядзе папярхнуўся – нехта спяшаецца. Харціца Маст.

**Парог.** •Цераз парог не здароўкаюцца, бо будзе сварка. Хадзілоні Шчуч. •Дзеўка сядзіць на парозе – доўга не выйдзе замуж. Бершты Шчуч. •Калі пераступіў парог – не вяртайся назад. Харціца Маст. •Калі просяць вады, не перадавай праз парог – за-

муж не выйдзеш. Косцевічы Зэльв. •Праз парог нельга нічога перадаваць. Гожа Гродз.

**Прачыстая.** Прычыстая – усё пачысціла. Бершты Шчуч.

**Птушкі.** •Калі зімой птушкі садзяцца высока на дрэвы – будзе вялікі мароз. Кямелішкі Астр. •Калі птушка пастукае ў акно да дванаццаці гадзін, то шчасце прыносіць, а калі пасля дванаццаці, то непрыемнасць. Ашмяны Ашм. •Пташка пастукае ў акно – госць будзе. Кракоўка Ашм. •Птушка б’ецца ў ваканіцу – да навін. Бенін Навагр. •Птушкі адлятаюць у вырай нізка – зіма блізка. Харціца Маст. •Птушкі нізка лётаюць – дождж будзе. Іўе Іўеў. •Птушкі падымаюцца – да непагоды. Карпуцяны Воран.

**Пчолы.** •Пчолы спяшаюцца ў вулей – хутка прыйдзе дождж. Бабіна Гродз. •Пчолы моцна шумяць – на дождж. Карпуцяны Воран.; Сцяпанішкі Маст.

**Пшаніца.** Не сей пшаніцы, калі дзеці ідуць у суніцы. Нізаўцы Навагр.

**Пятро.** Прыйшоў Пятрок – упаў лісток, Прыйшоў Ілля – упала два. Мядзвінавічы Дзятл.

**Пятух.** •Петухі на захадзе спяваюць – на змену надвор’я. Вялікае Сяло Свісл. •Петухі спяваюць на змену пагоды. Іўе Іўеў.

**Рабіна.** •Калі рабіна ядроная – будзе марозная зіма. Харціца Маст. •Калі ядроны рабіны, то будзе ўвосень гразі па аглабіны. Шылавічы Сл.

**Раса.** •Калі раніцай няма расы – чакай да вечара дажджу. Кямелішкі Астр. •Калі расы раніцай няма, то ўночы будзе дождж. Альхоўка Астр. •Калі ўвечары летам на траве няма расы, то ноччу ці ранкам будзе дождж. Малая Воля Дзятл. •Раніцай раса – увесь дзень будзе пагода. Тапілішкі Шчуч. •Раса на траве – да спякотнага дня. Зэльва Зэльв. •Як уранку росна, удзень будзе млосна. Букштава Маст.

**Рукі.** •Правая рука свярбіць – здароўкацца, левая – грошы будуць. Нягневічы Навагр. •Валіцца з рук – нехта ў хату ўваліцца. Бабіна Гродз.

**Сабака.** •Калі сабака вые – бяда будзе ў хаце. Парэчча Гродз. •Калі сабака вые і ўгору глядзіць, то на пажар, а калі няўгору, то на пакойніка. Ашмяны Ашм. •Калі сабака вые ўгору – будзе пажар, калі ўніз – нябожчык. Кульбакі Лід. •Калі сабака вые ўніз галавой – нехта памрэ, а калі ўверх – на пажарышча. Харціца Маст.

•Калі сабака качаецца па зямлі, то будзе мяцеліца. Ліхачы Гродз. •Калі сабака качаецца па снезе – будзе пацяпленне. Харціца Маст. •Калі сабака пачынае выць па-воўчы, то хто-небудзь памрэ. Малая Воля Дзятл. Калі сабака скручваецца і ляжыць колам – на холад, выцягваецца па зямлі ці спіць, раскінуўшы лапы – на цяпло, валяецца па зямлі – будзе дождж. Косцевічы Зэльв. •Ноччу вые сабака – на пакойніка. Табала Гродз. •Сабака есць траву – будзе дождж. Падольцы Астр. •Сабака зімою ў снезе купаецца – будзе адліга. Мядзвінавічы Дзятл. •Сабака па снезе качаецца на адлігу. Карпуцяны Воран. • Сабака чэшацца – да цяпла, скавыча – да непагадзі. Карпуцяны Воран.

**Сакавік.** Калі сакавік мокры, то хлеб будзе горкі. Бенін Навагр.

**Салавей.** Салавей і зязюля пяюць да цяпла. Карпуцяны Воран.

**Сарока.** Сарока ў вёсцы – на няшчасце. Вялікае Сяло Свісл.

**Свінні.** •Калі накормленыя свінні пачынаюць пішчаць, то надвор’е зменіцца. Міхалішкі Астр. •Калі свінні віжджаць, то дождж будзе. Кракоўка Ашм. •Свіння гумна цягае – будзе дождж. Суботнкі Іўеў.

**Свіст.** У хаце свістаць – чарцей склікаць. Іўе Іўеў.

**Сена.** Моцна сена пахне – будзе дождж. Нізаўцы Навагр.

**Сініца.** •Сініца пачынае з раніцы сінькаць – чакай ноччу марозу. Сцяпанішкі Маст. •Сінюк пішчыць – пахаладае. Вялікае Сяло Свісл.

**Смецце.** Няможна смецце перамятаць цераз парог хаты, бо так можна вымесці ўсё шчасце і здароўе сям’і. Кульбакі Лід.

**Снег.** •Зіма снежная – лета дажджлівае. Зэльва Зэльв. •Калі зімой шмат снегу, то лета будзе дажджлівае. Малая Воля Дзятл. •Калі на плоце шапкі снегу, то будзе многа грыбоў. Парэчча Гродз. •Мала снегу – не будзе хлеба. Зэльва Зэльв. •Многа снегу – добры ўраджай будзе. Нізаўцы Навагр. •Многа снегу зімой – многа хлеба. Кямелішкі Астр.

**Соль**. •Рассыпаная соль – да няшчасця. Зэльва Зэльв. •Соль рассыпаць – да разладу ў хаце. Дзярэчын Зэльв.

**Сонца.** •Калі вечарам сонца заходзіць за хмару, то заўтра будзе дождж. Тапілішкі Шчуч. •Калі заход сонца ярка-чырвоны,

то ранак будзе марозны. Малая Воля Дзятл. •Калі сонца заходзіць за хмару, то ранкам будзе дождж. Малая Воля Дзятл. •Калі чырвоны захад сонца, то будзе цёплы дзень. Нягневічы Навагр. •Сонца заходзіць і чырвонае неба – будзе вецер. Вялікае Сяло Свісл. •Сонца заходзіць у хмару – на дождж. Кямелішкі Астр. •Сонца сядае ў сцяну [хмару] – заўтра будзе дождж. Вялікае Сяло Свісл. •Чырвонае сонца на захадзе – да ранішняга марозу. Парэчча Гродз. •Як летам на сонцы не напячэшся, то зімою патрасешся. Дзераўная Сл. •Як сонца заходзіць вялікае і чырвонае, то заўтра будзе мароз. Букшчава Маст.

**Спякота.** Калі летам ад спякоты цяжка дыхаць, то павінен быць дождж. Малая Воля Дзятл.

**Стол.** •Выяжджаючы ў дарогу, трэба патрымацца за край стала. Харціца Маст. •Не сядай за вугал стала – не выйдзеш замуж. Зэльва Зэльв. •Як будзеш пальцамі вадзіць па голым стале, то будзе лысы твой мужык. Альхоўка Астр.

**Стрэчанне.** На Стрэчанне цыганка кажух прадае. Бенін Навагр.

**Сухмень.** Будзе ў маі суха – падцягвай бруха. Нізаўцы Навагр.

**Туман.** •Калі раніцай доўга туман, то чакай пагоды. Кямелішкі Астр. •Калі туман звечара падымаецца ад зямлі, чакай заўтра спёкі. Карпуцяны Воран. Сцяпанішкі Маст.

**Хвіга.** Калі абгаворваюць – хвігу трэба трымаць у кішэні. Харціца Маст.

**Хмара.** •Калі на захадзе хмары і на ўсходзе, то назаўтра будзе дождж. Яцыны Астр. •Як садзяць бульбу, глядзяць на неба. Калі там вялікія белыя хмары, то будзе добры ўраджай. Кульбакі Лід.; Дакудава Лід.

**Цяжарная.** Праз вяроўкі, праз правады цяжарнай жанчыне нельга лазіць, таму што дзіця будзе закручана ў пупавіне і можа задушыцца. Уселюб Навагр.

**Чаромха.** Калі чаромха расцвітае, то быць марозу. Ашмяны Ашм.

**Чысты чацвер.** У чысты чацвер да зыходу сонца трэба з рэчкі водою памыцца, каб балячкі не пырыставалі. Дзераўная Сл.

**Шчокі.** Гарацьшчочкі – гавораць дружочкі, гарацьвушкі – абгаворваюць падружкі. Зэльва Зэльв.

**Шыццё.** Няможна на сабе, не здымаючы, зашываць адзенне, бо зашыеш памяць, кепская будзе памяць. Бабіна Гродз.

**Юр'я.** •Калі на Юр'я вялікая раса, то будзе жыта ядронае. Дзераўная Сл. •На Юр'я два дурня: адзін галодны, другі – халодны. Яцыны Астр.

**Яўрэйка.** Калі з яўрэйкай пераспаць, то сала вадзіцца будзе. Гродна.

**А.М. Петрушкевіч (Гродна)**

## Са шчонаўскіх гаворак

*У вёсцы Шчонава Карэліцкага раёна, як і ў кожнай вёсцы, знойдзецца ў мове шмат адметнага. Асабліва, калі глядзець на гэта зацікаўленымі, улюбёнымі вачамі. Так я і гляджу на мінулае сваёй вёскі, бо будучага ў яе няма. Шчонава памірае.*

*Картопля*

Ніколі ў нас не казалі ***бульба. Картопляю*** ў нас бульба была. Ласкава – ***картопелька,*** бо ж карміліца першая. І стравы з ***картоплі*** таксама па-markрознаму, па-свойму называлі.

Нячасты сняданак – ***ком.*** Гэта бульбяная каша, патоўчаная ***качалкам*** вараная бульба, засмажаная скваркамі з цыбулькай. З кому рабілі ***камякі*** – вялікаватыя круглякі, якія ляпілі рукамі. Кожны сабе. Чамусьці так есці ком было смачней. Запівалі малаком.

А для малога дзіцяці маці ляпіла маленькі ***камячок.*** Давала ў ручку і казала: «Еш, мой маленькі, расці вялікі».

Вараная бульба без лупінаў называлася ***салёнікі.*** У адрозненне ад варанай з лупінамі. Як цяпер чую ад нашае няні цёці Ганны Юлькавай: «У мяне сёння на вячэру салёнікі з агурком».

*Карбунец і гарончка*

Сваркі шчонаўскіх кабетаў, што здараліся з розных нагодаў, у часы майго дзяцінства часам нагадвалі спектаклі, у якіх да двух галоўных герояў (гераіняў) далучаліся іншыя дзейныя асобы. Сварыліся гучна, на ўсю вёску, згадваючы грахі не толькі адна аднае, але і сваякоў.

Важным момантам у тых сварках былі праклёны. Сярод іншых найбольш уражвалі мяне два вобразы, якія ўпляталіся ў

маналогі: «А каб цябе карбунец пабраў!», а ў адказ: «А каб цябе гарончка схапіла!» Што гэта за Карбунец і Гарончка, ніяк не магла зразумець. Адно была пэўна: гэта імёны нейкіх страшных пачвараў, якія хапаюць і нішчаць людзей. Гарончка ўяўлялася асобай жаночага роду, тоўстаю, з вялізнымі кіпцямі, Карбунец адпаведна – мужчынскага, высачэзны, худы, касцісты. Далей маё дзіцячае ўяўленне малявала карціну: аднекуль (хіба з самога неба) звальваецца на Шчонава Карбунец, хапае бабу Веру Трахімаву, якая часта была гераіняю тых сварак, а следам нясецца Гарончка, у чые лапы трапляе каторая з нявестак ці нават Верына дачка…

Часам гэтыя словы выкарыстоўваліся і з іншае нагоды. Каб выказаць неразуменне чагосьці і крыж на тым паставіць, шчонаўка магла адмахнуцца: «А карбунец яго ведае!»

Этымалогія гэтых словаў цалкам зразумелая: карбункул і гарачка, з'іначаныя на польскі манер.

Ад цёткі Волькі Пецевай даведалася, як яна не так і даўно мірыла дзвюх шчонаўскіх кабетаў, заўсёдных антыподак: «Нямнога ўсем нам засталося. Памром, пахаваюць, усех у рад пакладуць. То і там маўчаць будзем?»

Ужо там яна. Пэўна, і там мірыць…

*Зоська – свінчына сястрычка*

Так гаварылі на ўпэцканую, брудную малую шчонаўку. Загуляецца якая на сваёй «кухні», аладкі, пірагі пячэ з мяккага «цеста», з глею ці пяску. І сукеначку запэцкае, не тое што ручкі. А сама ж яшчэ басаногая. То і ножкі брудныя. З'явіцца такая гаспадынька перад мамаю і пачуе: «Ах ты Зоська – свінчына сястрычка!»

Часам мама папярэджвае сваю дачушку, калі тая пагуляць просіцца: «Ідзі, толькі не ўпэцкайся, а то будзеш як Зоська – свінчына сястрычка».

Вельмі загадкаваю была для мяне тая Зоська. Імені такога ні ў адной дзяўчынкі ў Шчонаве не было. Таму і спытала ў мамы аднойчы: «А хто яна, тая Зоська? І як яна можа быць сястрычкаю свінцы?» І хіба ж не цуд: якраз у гэтую хвіліну праходзіла каля нашае хаты нейкая незнаёмая дзяўчынка (што ўжо было незвычайна), ды такая брудная! І ножкі босыя, аж чорныя, і сукенка брудная-брудная, і валасы не ўчасаныя. Паказвае мне мама: «Глядзі, гэта і ёсць тая Зоська».

Запомнілася мне гэта назаўсёды.

Неяк на навуковай канферэнцыі ў нашай вну калега-мовазнаўца М.А. Даніловіч, які стала займаецца вывучэннем найменняў людзей, выступаў з дакладам пра найменні дзяцей на Гарадзеншчыне. Назваў ён і тое маё, шчонаўскае, даўняе: «Зоська – свінчына сястрычка». Быццам сустрэла ізноў тую брудненькую незнаёмку, ізноў пачула маміна ўшчуванне: «Глядзі ж, не ўпэцкайся!» Перанеслася ў сваё роднае Шчонава.

Калі ж спытала пасля, адкуль у яго тая Зоська, пакапаўся ў сваіх талмудах і ведаеце што сказаў: «Вёска Шчонава, Карэліцкі раён»…

*Да Бога душэю*

Як давесці, што ні ў чым не вінаватая? Як выказаць, што і блізка там не была, што ніколі так не казала? Так і сказаць: не была, не казала, не вінаватая я? Хто ж паверыць? І тады на дапамогу клікалі Бога: «Я ж – да Бога душэю!» Гаварылася менавіта так: душэю.

Асабліва часта гэтую фразу чула ад Веры Лідзінай, кабеты дабрадушнае. Да Бога душэю азначала вышэйшую ступень невінаватасці. Як можна было не паверыць?

*Газоўка і кашміроўка*

Не, не лямпа. Хустка. Тоненькая, празрыстая. Газавая. Усе дзяўчаты мелі такія ў Шчонаве. Сохла за хвіліну. Памятаецца: сабраліся з Таісай Мішышынай некуды ісці. Завязвае яна газоўку. Яе мама цётка Тамара заўважыла, што там нейкая плямка.

– Няможна так ісці. Трэба памыць!

– Калі ж яна высахне?

– Як бачыш сухая будзе.

Хуценька пацерла ў руках у місе з вадою, на сонцы нагрэтай, вывесіла на вяроўку. І тут жа зняла. Сухая! Яшчэ і дадала:

– Шануй адзенне дома, а яно цябе – у людзях.

Кашміроўка – таксама хустка. Шарсцяная, з кутасамі. У каляровыя кветкі. Поле магло быць чорнае ці белае. Радзей чырвонае ці зялёнае. Насіліся толькі ў святы.

Без хусткі шчонаўка на вуліцу не паказвалася.

*Не дуры галавы…*

Сёння, каб адмахнуцца ад кагосьці, тутэйшыя часцей пасылаюць далёка, на няшмат літараў, выкарыстоўваючы ўкрапленні з рускае мовы. Ніколі яны нашымі, беларускімі, не былі.

Раней такія адмахванні да тых, хто надта назаляе, былі разнастайнымі, не пазбаўленымі досціпу. Асабліва файна дзейнічала хлёсткае, з моцным прыціскам на апошнім слове: «Не дуры мне галавы і с-кі!»

Быццам цяпер чую, як цётка Фаня Сцяпанава, зазлаваўшы, на каго-небудзь так прыкрыкне.

Грубавата, але эфектыўна. Адразу той назола замаўкаў.

Наогул, шчонаўцы ўмелі адвадзіць таго, хто надта ў вочы лез. Устаўляць у размову іншых свае пяць капеек – звычка не надта добрая. «Да цябе не п’юць, ты й не здароўкайся!» – чуў на свой адрас непажаданы суразмоўца.

*Гаіста*

Ганна Паўлючыха была кабетаю моцнаю, жылістаю, працавітаю. Удава па загубленым праз палітыку ў трыццатыя гады Паўлюку Гілю. Ён быў «граматным». Звязаўся з савецкім падполлем, за шчаслівае жыццё і вызваленне Заходняй Беларусі змагаўся. Неаднойчы катаваны ў пастарунках, неаднойчы сядзеў у турмах. Расказваў, як здзекаваліся. Мне малой (а ўжо гэта былі аповеды ад ягоных слухачоў) ніяк не быў зразумелы адзін з відаў таго катавання: прывязваюць чалавека да стула, каб не схіліўся, а на галаву вада зверху, з вышыні па кроплі капае. І так да страты прытомнасці.

Змардаваны, хворы вяртаўся Паўлюк з турмы. А пасля ізноў за палітыку браўся. Але не быў жалезным камуністам. Вырашыў аднойчы: досыць. Не за сябе, казаў, вырашыў, а за дзяцей. Хто маіх дзяцей гадаваць будзе?

Але «сябры»-падпольшчыкі гэтай «здрады» не даравалі. Перастрэлі ў лесе і так збілі, што ў хуткім часе памёр Паўлюк. «Печане адбілі», – такім было заключэнне шчонаўскіх «экспертаў».

Памёр, па сведчанні сына Пятра Паўлавіча, у Картуз-Бярозе. Прыйшла жонка наведаць яго, аёй кажуць: «Памёр». Засталася Паўлючыха з трыма хлопцамі. Заўсёдныя нястачы, відаць, і зрабілі яе вельмі ашчаднай. Асабліва здзіўляў мяне доказ гэтага: запалкі яна на чатыры часткі расколвала. Не на дзве, што было агульнапрынятым у бедных шчанаўцоў, а на ўсе чатыры. Гэта ўжо занадта! Во сквапная! А мяне дзівіць іншае: якія ж гэта запалкі тады былі! Сёння пры ўсёй ахвоце, якая горш за няволю, ніякі за-

палак нават на дзве часткі не расколеш. А калі раптам раскалоў бы які народны ўмелец, то запаліў бы наўрад ці...

І нядобразычлівай (мякка кажучы), нягоднаю Паўлючыха таксама была. Характар мела суровы, была недаступнаю да іншых. За вочы яе называлі Гаістаю. Мая мама, шчонаўская настаўніца, ніяк не магла дайсці да этымалогіі гэтае мянушкі. І што ў ёй такое крыўднае? Тлумачылі: бо злая, гадкая, таму і Гаістая. Не, не прымала мама такую версію. Дапамагла гісторыя, крыніца з'яўлення гэтага «неалагізму». Даведалася, што так яе «граматны» Паўлюк называў. «Эгаістка, так ён казаў?» – здагадаўшыся, перапытала мама сваю свякроўку, Паўлючышыну залвіцу. «Ну і я ж так кажу: Гаістая».

Так шчонаўцы на свой лад падкарэктавалі тое «граматнае» слова, якое ўсё жыццё суправаджала Ганну Паўлючышыху.

**А.В. Руцкая (Гродна)**

## Зоська Верас: вандроўка ў лясную хатку

Даследчыкі, даючы характарыстыку пэўнаму літаратурнаму перыяду, часта ўжываюць параўнанне яго з пірамідай. Вяршыню складаюць тыя, хто быў у першых шэрагах, чыя спадчына значная, вагомая, а імёны найбольш вядомыя. У аснове згадваюцца тыя, хто рупліва і нястомна шчыраваў на ўзвядзенні гэтай піраміды, уздымаючы яе вяршыню. Да такіх ахвярных працаўніц на нацыянальнай, культурнай і літаратурнай ніве славутага адраджэнскага перыяду пачатку ХХ стагоддзя адносіцца і Зоська Верас. Каб існавала нейкая адзінка вымярэння ўкладу ў здзяйсненне вялікіх, гістарычна значных спраў, то культурна-асветніцкая праца Людвікі Антонаўны Сівіцкай мела б адну з самых высокіх адзнак. Прычым шчыравала яна ў першую чаргу не для сябе. Шмат пісала для іншых і пра іншых, была рэдактарам часопісаў «Заранка», «Пралескі», «Беларуская борць», выдала «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік», даследванне «Гісторыя ўжывання зёлак у лячэнні», спрычынілася да выхаду ў свет многіх кніг, а яе кніжка вершаў і апавяданняў для дзяцей «Каласкі» выйшла толькі ў 1985 годзе, калі пісьменніцы споўнілася ўжо 87 гадоў. Аднак менавіта дзякуючы тым славутым постацям, волатам беларускага мастацкага слова, між якімі

Зоська Верас была такой мала прыкметнай, імя яе, а пэўны час нават здымкі змяшчаліся на старонках падручнікаў. Гэта давала магчымасць расказваць пра патрыятычна-грамадскую чыннасць і літаратурную творчасць пісьменніцы-асветніцы. Праўда, сёння не магчыма не падзівіцца, як адмыслова ў тых яшчэ савецкіх падручніках усё падганялася пад патрэбную ідэалагічную ўстаноўку. У іх пісалася, што Зоська Верас усёй душой і сэрцам была адданая ажыццяўленню запаветных мар народа. І гэта бясспрэчна. Вось толькі змест тых мар вытлумачваўся ў «патрэбным» рэчышчы. Да таго ж імя пісьменніцы так грунтоўна абстаўлялася дзеясловамі толькі прошлага часу (жыла, вучылася, працавала, сустракалася, пісала), што, напэўна, толькі нешматлікія дасведчаныя ведалі, што яна на той час яшчэ жыла каля Вільні, у Панарскім лесе, у Лясной хатцы, жыла і працягвла пісаць. Прыгадваецца, як у канцы верасня мы (другі курс філфака БДУ) вярнуліся з бульбы і ўбачылі прынесеную кімсьці са старшакурснікаў газету «Літаратура і мастацтва» за 29 верасня 1967 года, дзе быў змешчаны ўспамін Людвікі Антонаўны «Пяць месяцаў у Мінску: З жыцця Максіма Багдановіча», і адразу некалькі галасоў адгукнуліся са здзіўленнем: «А хіба яна яшчэ жыве!?». Такое ж пытанне прагучала і ў 1987 годзе, калі на традыцыйнай жнівеньскай нарадзе слонімскія настаўнікі беларускай мовы і літаратуры абмяркоўвалі новыя цікавыя публікацыі і сярод іх матэрыялы да 95-годдзя Зоські Верас. Тады і вырашана было з’ездзіць у госці да Людвікі Антонаўны. Аўтарцы гэтых радкоў, як кіраўнічцы метадычнага аб’яднання, было даручана дамовіцца аб сустрэчы.

Я напісала ліст у Вільню (на адрас па вуліцы Архітэкту) і хутка атрымала адказ. Людвіка Антонаўна напісала, што будзе рада прыняць нас у Лясной хатцы, прасіла загадзя паведаміць аб даце візіту, каб нас змог сустрэць яе зяць, бо самі дарогі можам і не знайсці.

Ехаць мы вырашылі 24 верасня, разважыўшы, што на дзень народзін у юбіляркі і без нас будзе людна. Недзе каля 10 верасня я зноў атрымала ліст. У канверце былі два асобныя лісткі. У адным Людвіка Антонаўна прасіла прывезці ёй хоць некалькі школьных падручнікаў, асабліва тых, па якіх вывучаецца фальклор і творчасць Максіма Багдановіча. У другім лістку была ўкладзена паштоўка з выявай плошчы Гедыміна, на якой крыжыкам пазна-

чалася месца, дзе нас будзе сустракаць Лявон Антонавіч Луцкевіч, ім жа быў зроблены допіс, каб мы захапілі лісты для малявання і фламастары, бо Людвіка Антонаўна зусім нічага не чуе, і свае пытанні да яе ці тое, што захочам сказаць, трэба будзе пісаць.

Праз тры дні мне надарылася магчымасць перадаць у Вільню падручнік, у якім для паўрочнага вывучэння былі змешчаны раздзелы па вывучэнні вуснай народнай творчасці, успаміны Змітрака Бядулі пра Максіма Багдановіча, верш «Страцім-лебедзь» і іншыя вершы паэта.

Раніца 24 верасня выдалася цёплая і сонечная, нібы сама прырода спрыяла нашай вандроўцы. У салоне аўтобуса абмяркоўвалі, пра што будзем распытваць. Разглядалі падрыхтаваны падарунак. Мы заказалі на фабрыцы мастацкіх вырабаў вялікі абрус і сурвэткі, папрасілі вышыць галінкі верасу і дарункавы надпіс. Наш заказ выканалі, але вышывальшчыцы, як яна апраўдвалася, аддаючы абрус, падалося, што атрамалася залішне сціпла і невыразна, і яна паміж верасу вышыла васількі. Калі ўсе гэта пабачылі, усталявалася дзіўная цішыня, а настаўнік Іван Ракевіч сказаў: «Вось і тут Максім з ёю».

У Вільні нас сустрэў Лявон Луцкевіч – сын выдаўца «Нашай нівы» Антона Луцкевіча, муж дачкі Зоські Верас. Ён наладзіў нам цудоўную экскурсію па Вільні, паказаў, дзе знаходзіліся рэдакцыі «Нашай нівы», музей, які збіраў яго бацька, дзе Багдановіч убачыў слуцкія паясы, і шмат іншых гістарычных мясцін. Пасля мы даволі доўга ехалі па пакручастай, вузкаватай для нашага вялікага аўтобуса дарожцы праз Панарскі лес. Панавала маўчанне, адчувалася, як усе хвалююцца… І не дзіва – нас чакала сустрэча са сведкай цэлага стагоддзя, напоўненага столькімі падзеямі. Аўтобус выкаціўся на паляну. Мы ўбачылі Лясную хатку – даволі вялікі глінабітны дом, з высокімі вокнамі, і яшчэ з балкончыкам пад страхой, нешта накшталт мезаніна. Вакол раскашавала зеляніна, яшчэ толькі кранутая фарбамі восені. Лявон Антонавіч запрасіў нас заходзіць, правёў у вітальню. Увагу ўсіх адразу прыцягнуў раскошны букет з восеньскіх кветак у цёмным збаночку на стале пасярод пакоя. У тую ж хвіліну з расчыненых у бакавы пакой дзвярэй ступіла да нас яна – Зоська Верас, маленькая, далікатная. Сапраўды – Шара Пташка (адзін з псеўданімаў). Прыгожая ажур-

ная хустка, якая атуляла яе плечы, звісала ражкамі па руках і нагадвала прыўзнятыя крылцы.

Людвіка Антонаўна запрасіла нас у свой пакой. Ён быў невялікі, але вельмі ўтульны, светлы, сціпла абстаўлены. Каля аднаго акна стаяла канапа, дзе селі мы – некалькі настаўніц і гаспадыня, каля другога стаяў стол, на якім ляжаў дасланы мною падручнік, лісткі з запісамі, некалькі папак, стосік канвертаў. Як высветлілася пазней, усё гэта было падрыхтавана да нашай сустрэчы. Каля дзвюх другіх сцен месціліся шафкі-паліцы з кнігамі, сшыткамі і папкамі. Уздоўж іх і размясцілася мае калегі. Людвіка Антонаўна пажартавала, што гасцей у гэтым пакойчыку перабыло шмат, але столькі адразу мусіць не было. Расказала, хто быў апошнім часам, паскардзілася, што змяншаюцца яе запасы старых выданняў, бо просяць для працы, для музеяў. Нехта з маладых настаўнікаў запытаў (напісаў), што яна можа расказаць пра Янку Купалу. « Я не была з ім знаёмая,» – адказала яна. Пасля расказала, што бачыла яго ў 1917 годзе на Усебеларускім з’ездзе, што ён трымаўся адзін, прыпнуўшыся да падваконня ў канцы залы, што таварышкі клікалі яе падысці да яго, але яна была сакратаром сходу, рабіла нейкія занатоўкі, а калі вызвалілася, то Купалы ўжо не было. «Відаць, каго хацеў, таго пабачыў», – дадала ў канцы. Нехта адгукнуўся: «Мядзёлку». Людвіка Антонаўна не пачула, проста дадала, што пра Купалу расказвалі яе віленскія знаёмыя, што ён быў не прыстасаваны да жыцця. Каб выходзіла газета, трэба было рупіцца: шукаць фундатараў, падпісчыкаў, адрываючы месца ў літаратурных матэрыялаў, змяшчаць рэкламы (мы, настаўнікі, пра рэкламу тады яшчэ і не чулі -- здзівіліся). З Купалы памочнік у гэтых справах быў слабы, ім самім трэба было апекавацца. А сабраць тыраж было вельмі цяжка, бо кіраўніцтва Віленскай вучэбнай акругі выдала цыркуляр, у якім не раіла настаўнікам чытаць і выпісваць « Нашу ніву», а гэта былі асноўныя падпісчыкі. Яна расказала, як сама шчыравала, каб мець тыражы для сваіх часопісаў. Паказала тоўстую папку з надпісам «Беларуская борць». За кожнай паперкай – хада, клопаты, перамовы, скрадзены час ад сваіх задумак і твораў. І найчасцей гучала не «я», а «мы», а яшчэ слова «дамагліся» – вечны спадарожнік руплівцаў у ахвярных намаганнях і справах на карысць сваёй Бацькаўшчыне.

Усе мы былі ўражаны яснасцю яе розуму, незамутнёнасцю памяці. Адкрытасць і ўнутраная свабода надавалі яе ўспамінам нейкую адноўленую ў часе рэальнасць.

Наша кароценькае замяшанне Людвіка Антонаўна тут жа скарыстала, яна ўзяла са стала лісток і падала нам. Яе востранька-вензельным почыркам там было напісана (наколькі помніцца), што пад уплывам Купалы пачатковая рамантачная трактоўка пейзажу ў Багдановіча змянілася, што адыходзяць міфалагічныя вобразы і т.п. Людвіка Антонаўна патлумачыла, што прачытала гэта ў кніжцы, прывезенай кімсьці з мінчукоў, і настойліва зазначыла нам, што так нельга гаварыць, бо гэта не ёсць праўдай, што ў Максіма Багдановіча было сваё непаўторнае адчуванне гармоніі прыроды. Яна ўсхвалявана пачала расказваць, як яны ўтрох (яшчэ Аркадзь Смоліч) планавалі выдаць чытанку-хрэстаматыю, што дзялілася б на чатыры часткі па порах года, як захоплена разважаў Максім, якія вершы варта падабраць.

Паразважалі і пра наш падручнік. Мы зноў былі ўражаны наколькі трапна былі вызначаны яго слабыя бакі. Сярод пытанняў і заданняў да тэкстаў яна беспамылкова адзначыла бескарысныя і нецікавыя дзецям, пакрытыкавала і падбор фальклорных твораў, якраз тых штучных, прыдуманых і падагнаных пад ідэалагічныя ўстаноўкі, што пазней і былі павыкіданы. У яе быў прыроджаны талент педагога. Цікава было пачуць і пра недакладнасці. Людвіка Антонаўна пашкадавала, што зусім не згадваецца А. Смоліч, а ён быў найбольшым прыяцелем Максіму Багдановічу. Сам працаваў у Мінскім земстве і дапамог уладкаваць туды на працу і Максіма, клапаціўся пра яго.

Удакладніла яна і наконт кватаравання паэта. Паказала зробленыя ёю малюнкі і планы. Мы пабачылі акуратна начэрчаны план дома Рэдзькі на Мала-Георгіеўскай вуліцы, дзе здымалі два пакоі Змітрок Бядуля і яго сёстры, а трэці пакой – з асобным уваходам – быў аддадзены Багдановічу. Другі план адлюстроўваў «Беларускую хатку», якая была на Захараўскай вуліцы. Людвіка Антонаўна паказала на плане, дзе была сталоўка, дзе жыла яна з маці, паказала невялікі пакойчык паміж тымі двума і патлумачыла, што менавіта ў ім паэт доўга заседжваўся вечарамі, калі ўсе разыходзіліся, што радкі «Страцім-лебедзя» нараджаліся вераемней усяго тут. Нібы перажываючы зноў тыя хвіліны, яна ўзгадала,

як заходзіла і, бачачы, што паэт занатоўвае нешта ўжо ў прыцемку, прапаноўвала яму прынесці лямпу, але ён адмаўляўся – не любіў лішніх клопатаў аб сабе.

Помніцца, як настаўнікі, паразглядаўшы малюнкі з планамі, вярнулі лісткі гаспадыні і тут Сяргей Чыгрын ашаламіў усіх. На яго лістку выразна чыталася пытанне: «А ці цалаваліся вы з Максімам?». Людвіка Антонаўна паглядзела на аўтара пытання і ціха прамовіла, што Максім заўсёды памятаў аб сваёй хваробе: пры сустрэчах проста ветліва кланяўся, сядзець у гурце стараўся наводдаль, як і стаяць пры размове, калі тратуарчык быў вузкі, то сыходзіў на дарогу, каб не ісці блізка поруч. Згадала ўжо добра вядомы сёння эпізад пра сумесную паездку ў Ратамку, у дзіцячы прытулак, калі Багдановіч цэлую ноч праседзеў у халодным класе, бо сагрэты жалезнай печкай пакойчык настаўніц, дзе сабраліся ўсе дзяўчаты, быў невялікі і ён не захацеў рызыкаваць іх здароўем. З самотай прыгадала Людвіка Антонаўна і апошнія дні паэта ў Мінску, калі ён стаў пачувацца ўсё горш, але стараўся трымацца бадзёра, каб не засмучаць сяброў.

Мы спынілі роспыты, бо бачылі, што вернутыя ва ўспамінах перажыванні, становяцца аднаўленым болем. Пераключыліся на размову пра яе «Каласкі». Некаторыя захапілі свае асобнікі кніжачкі і рады былі атрымаць аўтографы. Яшчэ пагаварылі пра яе ліставанне, разглядалі пісьмы вядомых і малавядомых нам на той час адрасатаў, падзівіліся ўзорнаму парадку – лісты тых, з кім яна вяла перапіску даўно і стала, былі складзены ў асобныя стосікі, перавязаны стужачкамі, месціліся ў шуфлядках. Лістоў было многа, і на дзень нашага візіту, як паведаміла сама гаспадыня, яна ўжо адказала на некалькі.

Сяргей Чыгрын прапанаваў сфатаграфавацца, але святла ў пакоі для фотаапаратаў той пары было мала і ўсе падаліся на вуліцу. Зрабілі некалькі здымкаў на лавачцы каля хаты. Паглядзелі шыпшыну, прывезеную з сядзібы Ядвігіна Ш., лекавы гародчык, басейны, падзівіліся таму ладу, які панаваў ва ўсім. Прыпыніў нашу вандроўку вадзіцель, нагадаўшы, што пара ад’язджаць.

Сядаючы ў аўтобус мы азіраліся, стараючыся захаваць у памяці гэты дзівосны куток, яго мілую гаспадыню, Лясную хатку, якая свяцілася ціхім, ясным быццём. Да самай Вільні маўчалі. Сустрэча, размова, убачанае і пачутае доўга не адпускала, прыходзіла

асэнсаванне такога плённага, такога значнага жыцця, напоўненага духоўнасцю, ахвярнай працай і годнай стойкасцю. Невыпадкова пакінула нам Зоська Верас такі глыбокі і мудры запавет у апошніх радках, апошняга ў яе «Каласках» абразка «Трэба хацець»:

«… не вер, што сон, збураны жыццёвым сіверам, не вяртаецца, што казка кветчаная, гарачая казка, як паўднёвае сонца, не ўстане больш перад табой. Не вер! Хацець толькі жыць! Хацець – гэта зламаць наймацнейшы боль! Сто разоў паміраць і сто разоў ажыць можна! Шчаслівым быць! З зорак карону мець. Трэба толькі хацець. Трэба хацець!»



**Г. С. Самойла (Гродна)**

## Бібліятэчка майго дзядулі Самойлы Осіпа Сямёнавіча

Мой род па бацьку, Самойлы, здавён жыў у вёсцы Бандары цяперашняга Скідзельскага сельсавета. На тутэйшых моліцах (могілках) ляжаць у рад мае продкі – ад бацькі і маці да прапрадзеда і прапрабабулі. У Самойлаў была традыцыя захоўваць у сям'і аднойчы ўжо выкарыстаныя імёны. Пра мужчынскія я гэта ведаю дакладна, таму што шэраг магіл маіх пахаваных продкаў выглядае так: Самойла Сямён Осіпавіч (бацька), Самойла Осіп Сямёнавіч (дзед), Самойла Сямён Осіпавіч (прадзед, для яго засталося пустое месца каля прабабулі, таму што памёр ён у бежанстве ў Расіі падчас Першай сусветнай вайны), Самойла Осіп Сямёнавіч (прапрадзед).

Магчыма, перадаваліся традыцыйныя імёны старэйшым сынам, таму што мой бацька быў у сям'і старэйшым і атрымаў імя Сямён. І магчыма, што менавіта старэйшыя сыны з сем'ямі заставаліся жыць у бацькоўскіх хатах, таму і стварылася такое пахаванне іх у адным месцы. Старых магіл з каменнымі помнікамі і выбітымі на іх надпісамі на нашых могілках няшмат, у асноўным ляжаць проста камяні. Таму я магу меркаваць, што мае продкі былі нябеднымі і ў сем'ях іх быў лад. Мой прапрадзед напісаў на магіле жонкі Юзэфы, якая памерла першай: «Ад любячага мужа».

Я ведаю, што ў сям'і Самойлаў усе былі пісьменнымі і жанчыны, і мужчыны, і вельмі шанавалі кнігу. За царом брат майго дзеда Осіпа, Самойла Іван Сямёнавіч, атрымаў адукацыю фармацэўта ў Пецярбурзе. Вучыцца тады было дарага, і ў навуку ішоў хтосьці адзін з сыноў, найбольш здольны, напэўна. Але і астатнія Самойлы былі разумнымі. Адметна, што яны мелі вялікую цікавасць да матэматыкі. Бацька расказваў, што вольны час пры панскай Польшчы сям'я бавіла за рашэннем арыфметычных задачак і прыкладаў са зборніка Малініна і Бурэніна, які ў іх быў. Зусім не выпадкова таму брат майго бацькі, Самойла Леанід Осіпавіч, стаў пры савецкай уладзе выдатным фізікам, выкладчыкам Гродзенскага педагагічнага інстытута, а пазней універсітэта. Выкладаў фізіку ў той жа адукацыйнай установе г. Гродна таксама і мой стрыечны брат Стальбоўскі Іван Іванавіч, сын бацькі-

кавай сястры Галіны. Дарэчы, імя Галіна мне далі па жаданню бацькі, і менавіта таму, што такое было ў яго сястры. Вялікая колькасць маіх дзядзькаў і цётак, стрыечных братоў-сясцёр паспяхова вывучалі ў ВНУ дакладныя навукі, некаторыя сталі настаўнікамі фізікі і матэматыкі, у тым ліку і мой родны брат Валянцін.

На жаль, знакаміты падручнік па арыфметыцы Малініна і Бурэніна не захаваўся ў даволі значнай бібліятэчцы, якая засталася ў нашай бандарскай хаце ад дзеда Осіпа. Але бібліятэчка сведчыць, што не толькі матэматыкай цікавіўся мой дзед і ягоная сям'я, а яшчэ і мастацкай літаратурай, і кнігамі па вядзенні гаспадаркі. Што адметна, дзядуля Осіп, жывучы пры расейскім цару, а пасля пры польскай уладзе, якія імкнуліся знішчыць у беларусах памяць пра саміх сябе, змог усё ж такі ўсвядоміць сябе беларусам, вельмі любіў беларускую мову і падчас панскай Польшчы купляў кнігі тагачасных беларускіх аўтараў, выпісваў па пошце беларускі часопіс «Калосьсе». Гэтая любоў да сваіх сапраўдных каранёў, да роднай мовы перадалася ад дзядулі майму бацьку, які стаў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, а ад бацькі – мне і майму брату Валянціну, які працаваў настаўнікам менавіта ў беларускіх школах і выкладаў матэматыку па-беларуску.

Кнігі з дзядулевай бібліятэчкі я падзяліла на чатыры часткі:

- Мастацкая літаратура,
- Перыядычнае выданне – часопіс «Калосьсе»,
- Кнігі па гаспадаранні.
- Падручнікі.

Далей пойдзе агляд кніг, надрукаваных па-беларуску лацінкай. Фрагменты тэкстаў з гэтых кніг перадаюцца сучаснай беларускай графікай.

1. *Ст. Грынкевіч. «Царква. Помста. Вязніца». Вільня, 1928 г. Выдавецтва «Беларускае крыніцы».*

На адвароце: Беларуская Друкарня ім. Скарыны, Вільня, Людвісарская 1.

**Станіслаў Сымонавіч Грынкевіч (1902 – 1945, НКУС)** – беларускі грамадскі, рэлігійны, культурны дзеяч, лекар-псіханеўролаг, публіцыст, перакладчык, драматург, празаік, тэатразнаўца.

Нарадзіўся на Беласточчыне. Яго дзядзька, Францішак Грынкевіч, быў ксяндзом у Гародні і арганізаваў Гродзенскі гурток беларускай моладзі ў 1909–1914 гг., які ладзіў беларускія аматарскія спектаклі. Станіслаў жыў у яго, калі вучыўся ў Гарадзенскай гімназіі, тут ён і далучыўся да беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. У 1931–1936 гг. ён быў віцэ-старшынёй Беларускай хрісціянскай дэмакратыі. Шмат друкаваўся у тагачасных перыядычных выданнях: «Беларуская крыніца», «Хрысціянская думка», «Калоссе», «Шлях моладзі» і іншых. Аб тым, якія шырокія тэмы і праблемы жыццёвыя яго цікавілі, сведчаць загалоўкі яго працаў: «З зацемак аб характары беларусаў», «Аб праве на Бацькаўшчыну», «Культура і задачы нацыянальнай працы», «Узгадаванне характару», «Народ», «Асвета»… Апошняя была канфіскавана польскімі ўладамі, а аўтар арыштаваны, таму што ў ёй ён пісаў пра пашырэнне беларускіх школ, а на той час вялася палітыка іх, наадварот, знішчэння.

Як тэатразнаўца, Ст. Грынкевіч выдаў кнігу «Аб тэатры» – своеасаблівы даведнік для аматарскіх тэатраў, дзе ён падагульніў погляды на тэатр «Нашай нівы», Янкі Купалы, Ігната Буйніцкага, Фларыяна Ждановіча, а таксама прааналізаваў еўрапейскі тэатральны вопыт.

Як літаратар ён выявіў сябе ў апавяданні «Арлянё», у п’есе «Жанімства па радыё» (была шырока вядомай у аматарскіх тэатральных гуртках) і аповесці «Царква. Помста. Вязніца», якая патрапіла ў бібліятэчку майго дзеда Осіпа.

Першая частка аповесці, «Царква», пачынаецца з апісання разбуранай царквы: «…стаіць яна цяпер чорная, цёмная, палохае старых і малых…» – і разважанняў самага паважанага ў мястэчку жыхара дзедкі Міхалкі аб тым, што некалі людзі рознай веры «… жылі спагадна адзін другім, ведалі, што Бог адзін Бацькаю ўсім, а чаму адныя ходзяць у касьцёл, а тыя ў царкву – ну, дык відаць таму, што так ахрысцілі…» Мог без перашкоды каталік прыйсці ў царкву і наадварот. Але потым распачалі расейскія ўлады ў вёсцы барацьбу з уніятамі. Дзед Міхалка расказвае моладзі аб гэтым так: «Потым былі ў нас казакі, рэзалі нам каровы і цялушкі, ганялі ў прагоны… а потым рэзалі бізунамі, пугамі жалезнымі скуру… Памёр ад пугі мой татуль, памёр Панас, Вінцук Лявончыкаў ды шмат яшчэ хто пашоў у Сібір, пагналі іх…

Айца Крыўлянскага забралі, прыслалі нам нейкага новага бацюшку і перавярнулі ўсіх на праваслаўных… Іншыя пашлі ксяндзы і папы. Ня ходзяць адзін да аднаго, крычаць на сваіх: «не хадзі ў касьцёл!», а другі: «не хадзі ў царкву, бо там Бога няма»… і людзі пачалі калаціцца між сабою, вера гібець…»

Усё ж паціху прывыклі людзі да праваслаўнай царквы і нават паставілі саматугам новую ўзамен старой. Падчас Першай сусветнай вайны хавалі яе начынне, каб германец не знішчыў. А калі вайна скончылася, калі павярталіся ўсе людцы з бежанства, запрасілі яны ў сваю царкву бацюшку з суседняга прыходу, бо свой да іх не вярнуўся. Служба адбылася па-сапраўднаму святочная, і меркавалася так, што будзе бацюшка прыязджаць кожную нядзелю ў мястэчка. Але ж замест бацюшкі прыехалі мазуры з сякерамі і напаўразбурылі царкву, не зважаючы на крыкі і слёзы вернікаў. Аказваецца, з такою просьбаю да польскіх цяпер ужо ўладаў звярнуліся мясцовы ксёндз, настаўнік польскай школы ды іншая мясцовая польская адміністрацыя дзеля таго, каб усе людзі хадзілі ў касцёл. Праваслаўныя аднак жа не пайшлі нікуды, адно глядзелі з жахам на сваю цёмную царкву ды ўсё часцей наведвалі карчму. Перахваляваўся, перамогся ў барацьбе за царкву дзедка Міхалка і памёр каля яе, разбуранай. Пахавалі яго самі людзі: папа не было адкуль узяць, а ксяндза ён не прызнаваў за свайго.

Другая частка, «Помста», адкрываецца больш поўным знаёмствам з галоўным героем аповесці Фэлькам, любімым унукам дзедкі Міхалкі. Яшчэ з немаўляці быў ён спакойным на дзіва, з разумнымі, «зусім дзедкавымі» вочкамі. Нечым нагадвае ён коласаўскага Сымонку: чуллівы, схільны да адзіноты, вядзе гутаркі з жывёламі і дрэвамі, іграе на гармоніку, спявае так, што «і ў арганістага з касьцёла, дарма, што ён вучыўся аж у Вільні, горш выходзіць».

Ад перажытага Фэлька злёг у сваёй каморцы надоўга, нават на хаўтурах па дзеду не быў, «зьнямог ад заблытанасьці думак». А ўстаў ад хваробы ён зусім не такім, якім быў: «Душа ў яго зашчамілася ад болі, ад здзеку, схавалася ў цьвёрдую скарлупіну няверы ў людзей, ненавісьці да іх, у ёй поўна імкненьня да помсты, ён хацеў бы, каб і ворагі спазналі, што было ў яго ў грудзях!» Чуў Фэлька ад людзей, «што паводле законаў касцельных, калі ўкрадуць з цымборыі Еўхарыстыю, дык касьцёл той зачы-

няць», а ксяндза «пасадзяць на адседкі». І заахвоціў ён двух сваіх сяброў прабрацца ў касцёл і скрасці тую Еўхарыстыю. Сябры згадзіліся, бо справа тут была не асабістая, а грамадская. Расхінулі яны краты на маленькім вакенцы невысока над зямлёю, і Фэлька ўлез у касцёл, узятае перадаў Сцёпку, які тут жа пабег хаваць яго. А Юльян, слабейшы за Сцёпку фізічна, не змог дапамагчы Фэльку вылезці. Помста ўсё ж адбылася.

У трэцяй частцы, «Вязніцы», паведамляецца, што Фэлька ўсё ж выйшаў незаўважаным з касцёла, калі ранкам адчыніў яго дзверы сторож і адначасна закрыстыян.

Але яго ўсё роўна арыштавалі, бо знайшліся сведкі, што бачылі яго ранкам недалёка ад касцёла, ды і рэпутацыя ў яго была «большэвіцкая». Завезлі яго па чыгунцы, відаць, у Варшаву, у вязніцу. Ужо ў дарозе апынуўся ён сярод арыштаваных за беларускасць (за беларускія кніжкі, паперы ад беларускага камітэта, а аднаго шляхціца – за беларускую гаворку) і пачаў разумець, што ён з імі – свой.

У хуткім часе сукамернік Бабыль раз’ясніў яму, якое балючае пытанне веравызнаўчае на Беларусі ў сувязі з падзелам вернікаў на ўсходніх і заходніх і што на гэты падзел ёсць два пагляды. Адны бачаць у ім крыніцу заняпаду Беларусі: «Каб ня было падзелу на заходні касьцёл і ўсходнюю царкву, ня было-б вуніі, ня было-б разьмяжаваньня народу на сялян-мужыкоў з іншаю «мужыцкаю» вераю – вуніяй і вышэйшыя станы, якія падзяліліся паміж Усходам і Заходам». Другія мяркуюць: «Будзе накшая пара, калі хамут, што напаў цяпер на людзей, прападзе, калі пакінуць яны грызьню паміж сабою, калі зьвернуцца да таямніцаў душаў сваіх і адтуль выкапаюць усемагутныя зерняткі каханьня адныя другіх… У першы чарод і выступяць тутака Беларусы … і голасна скажуць прад сьветам усім: «Даволі вам ужо, пакіньце зьвяглівае змаганьне, грызьню! Пагляньце на нас, мы – доказ жывы блуднага шляху, праўды на яком няма ані званьня». Усе народы спазнаюць, што праўду казацімуць ім Беларусы, а спазнаўшы гэта – убачаць тое мора сьлёзаў, крыві, якое выліў наш народ, дасьледуючы на сабе праявы злыбедаў, беспатольля – не собскага, свайго, а агульна чалавецкага, супольнага ўсім людзям… ды захочуць аддзякаваць нам – мучанікам. І станем мы з апошніх ужо на гэтым сьвеце першымі».

Другая думка, напэўна, супадае з думкай аўтара, таму яна так горача выказана ім. Але ж яна ў пэўнай меры паказвае ўласцівы яму, відаць, рамантызм.

Аповесць «Царква. Помста. Вязніца» – глыбока псіхалагічны твор, аўтар даследуе кожны маленечкі павароцік пачуццяў у душы Фэлькі, падрабязна перадае плынь ягоных думак-сумненняў і думак-рашэнняў.

Таксама гэты твор глыбока філасофскі, бо ён напоўнены разважаннямі аб жыцці агульначалавечым. Вось, напрыклад, толькі адно з іх, шматлікіх: «Дзея чалавека ўсё-роўна, што зярнятка збожжа. Кінуў адно, нарасьце з яго дзесяць-дванаццаць і больш. Пасеяў хто дабро – яго і жаць і карыстацца ім будзе. Хто пакідае за сабою благоцьце – распаўсюджвае ненавісьць, цемру і тое безпатольле, якога і так зашмат. І нічога, што сяйбіт благоцьця зразу ня бачыць: яно душыць, жыўцом есьць другіх, прыйдзе пара і на самога вінаватчыка. Прыйдзе ня толькі калісь – далёка, па сьмерці, не, – выплады свайго дзеяньня ён заўсёды ўбачыць. Хай гэта будзе праз многа гадоў, хай ад чужых, невядомых яму людзей… Натура благога такая ўжо, што яно адгукнецца».

Твор мае магутнае грамадзянскае гучанне, у ім узняты пытанні русіфікацыі і паланізацыі Беларусі праз рэлігію і школу, паказана варожасць паміж царквой і касцёлам, разгубленасць «тутэйшых» людзей, якія церпяць усе злыбеды – падаткі, здзек адміністрацыі. Адчуваецца вялікая любоў аўтара да свайго краю і вера ў яго лепшую будучыню, у яго людзей, бо ёсць у іх цярпення мяжа – «вось жа паўсталі за сваю святыню-царкву, за адзіны прыпынак іх душы…»

Уся аповесць прасякнута непарушнай верай аўтара ў Бога, які проста не мог, на яго думку, прымусіць Беларусаў і Беларусь пакутаваць бессэнсоўна: праз свае размежаванні – палітычныя, рэлігійныя, партыйныя – народ Беларусі навучыцца яднанню, нягледзячы ні на што, бо зразумее, што ўсе людзі з іх такімі рознымі паглядамі – сыны аднаго і таго ж народа.

Вельмі набожны і яго галоўны герой Фэлька. Застаўшыся закрытым у касцёле, ён шукае ў Бога падтрымкі: «Ці вінаваты я? Божа, адкажы Ты мне, хай пачую я гутарку Тваю, бо інакш ня стрывае душа мая тае болі, што круціць ею цяпер!.. Я ведаю, што Ты аднолькова ў кожнай святыні прысутны, а я – пыл няшчасны

– падняў руку на цябе…» «Дай Ты мне, Божа, маліцца… дай мне гэтулькі дужасьці, упорыстасьці, каб змог я, хоць крышку памагчы народу свайму вочы расплюшчыць, спазнаць сябе самых», - моліцца Фэлька ў канцы кнігі.

Станіслаў Грынкевіч – майстар жывога дыялогу, кожны ягоны персанаж гаворыць па-свойму адметна. У дыялогах аповесці – цэлая гама пачуццяў герояў, раскрыты іх характары, побыт, звычкі. Нездарма аўтар праявіў сябе і як драматург. Мова самога аўтара вельмі эмацыянальная, багатая метафарамі, эпітэтамі, параўнаннямі, таму, чытаючы, увесь сюжэт бачыш у карцінах унутраным зрокам.

*2. Др. Ядвіга і Ст. Грынкевічы. «Алкаголізм». Выданьне «Хрысціянскай думкі», Вільня – 1938 г.*

На адваротнай старонцы вокладкі: Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1–2.

Станіслаў Грынкевіч вучыўся ў Віленскім медыцынскім універсітэце, а пасля па сямейных абставінах перавёўся ў Познанскі ўніверсітэт на факультэт псіханеўралогіі і гігіены. Працаваў лекарам у клініках у Познані, на Беласточчыне, у Вільні. Ездзіў з лекцыямі па заходнебеларускіх вёсках і мястэчках. Ён быў жанаты з полькай Ядвігай, лекаркай-стаматолагам. Разам яны пісалі і выдавалі кнігі на медыцынскія тэмы, сярод якіх найбольш вядомыя: «Рады хворым і здаровым» (1935 г.), «Алкагалізм» (1938 г.), «Умовы і загады, неабходныя для здароўя» (1939 г.).

Адна з гэтых кніжачак, як бачым, патрапіла ў бібліятэчку майго дзядулі Осіпа. Яна пачынаецца так: «Гарэлка – вораг народу. Сказ разумны, шмат у ім праўды. Даказаць шкоднасьць гарэлкі адначасна лёгка і цяжка. Лішне шмат прычынаў ёсьць, дзеля якіх людзі бяруцца за водку, каб адным словам пераканаць тых, што заглядаюць у чарку». Далей аўтары гавораць, што ў людзей ёсць такая думка, нібы алкаголь, ап’яняючы, дае сілу слабым. А на самай справе ён сілы адбірае ў чалавека. Падрабязна расказваюць яны, як шкодзіць алкаголь страўніку, печані, лёгкім, сэрцу, мозгу, «крываходным жылам – артэрыям», робячы чалавека заўчасна старым і хворым. Кажуць таксама, што даводзіць ён да галаты, да судоў і вязніцы. Дзеці п’яніц маюць малую здольнасць да навукі, «часта ў іх наглядаецца падучая хвароба, ідыётызм (дзеці дур-

ныя, бяз розуму)». З гэтага вынікае, што «п'яніца шкодзіць не толькі самому сабе, але і грамадству». Таму аўтары заклікаюць ні ў якіх бедах ніякім чынам не шукаць паратунку ў гарэлцы, а спраўляцца з імі цвяроза.

Далей у брашуры даюцца парады, як змагацца з п'янствам. Тут вялікую ролю аўтары адводзяць жанчыне. Яна найперш гадуе дзяцей, і таму менавіта ёй трэба «ніколі не дапускаць, каб самыя бацькі давалі «прабаваць» піва ці водку малым дзецям», бо гэта «тое ж самае, што падпальваць сваю хату…» Таксама няхай жанчыны «пакажуць сябе салідарна і не дазволяць прынамсі адчыняць у сябе на вёсцы ці ў мястэчку карчму ці хай зробяць тое, каб зачыніць ужо існуючыя».

Раяць аўтары таксама жанчынам не быць сварлівымі, каб іх мужы не збягалі ад іх у карчму «напівацца з гора». А дзеля таго, каб быць задаволенымі сваімі мужамі і не сварыцца з імі, радзяць выбіраць іх вельмі адказна, каб пасля ні перад кім не было сорамна. «Асабліва ў нашых беларускіх умовах ня трэба забывацца, што толькі тады мы ўмецімем зрэалізаваць нашыя ідэалы грамадскія і нацыянальныя, калі мецімем у змагарскай нашай арміі людзей цьвёрдых, цьвярозых, моцных. Гарэлка забівае ў нас сілу, абнядужнывае на целе і на душы», – так заканчваецца гэты медыцынскі досвед.

3. P. Z. *«Зярняткі з роднае юнацкае нівы», Вільня, 1929 г. Выдавецтва «Хрысціянскай Думкі».* На адвароце: *(успамін з працы і жыцця «Саюзу Каталіцкае Моладзі ў Б.»)*

На вокладцы ззаду: Беларуская Друкарня Ім. Скарыны, Вільня, Людвікарская 1.

P. Z. расшыфроўваецца як Пётр Задума. **Гэта псеўданім Пятра Татарыновіча (1896–1978)** – беларускага ксяндза, грамадскага і культурнага дзеяча, публіцыста, паэта, выдаўца. Яшчэ субдыяканам, у касцёле ў Мядзведзічах (Ляхавіцкі раён) ён прамаўляў казанні па-беларуску. Парафіяне цешыліся і плакалі. У 1922 г. ён быў прызначаны прэфектам пачатковых і сярэдніх школ у Баранавічах і заснаваў там Саюз каталіцкай моладзі. У 1926 г. Пётр Татарыновіч быў высланы з Беларусі ў Мазуры ў Польшчу за прапаганду беларушчыны. У 1927 г. ён вярнуўся, але

ўжо на Палессе, дзе таксама запомніўся выдатнымі беларускімі прамовамі.

Брашура «Зярняткі з роднае юнацкае нівы» паведамляе, што «Саюз Каталіцкае Моладзі ў Б. ў 1926 годзе дасягаў ужо, можна сказаць, найвышэйшае ступені свайго росквіту». «Пратакол апошняга, развітальнага збору, 20.VI. хай будзе гэтаму доказам», – піша Пётр Задума (Татарыновіч) і падрабязна перадае далей падзеі таго збору. Там гучала песня на словы Я. Купалы: «Жыў на сьвеце Лявон», дэкламаваліся вершы-песні П. Задумы:

Да лепшае долі праз душ адраджэнне
Мы пойдзем усёй грамадою!
Да вольнага ў сьвеце народаў збратання
Мы ўстанем прад ранняй зарою!
Дык чэсьць тым, што нас разбудзілі!
Навукай, і верай, і цнотай,
Што ўзносяць, бы сокалы, ў высь нашы крыллі,
Ды ў бой павядуць нас з благотай!
Сьвятая ідэя ня ляжа ў магілу,
Пакуль ў нас ня згасьне юнацтва!
Бо з нашых парываў разбудзіць Бог сілу
І зло пераможам мы братцы!
Дык чэсьць тым, што нас разбудзілі!
Навукай, і верай, і цнотай,
Што ўзносяць, бы сокалы, ў высь нашы крыллі,
Ды ў бой павядуць нас з благотай!

Былі тэатралізаваныя сцэны, узнімаўся сімвалічны сцяг «Бог і Бацькаўшчына». Мэта ўсіх гэтых дзеяў была наступная: «праз супольныя набажэнствы, рэкалекцыі, чытанні кніжак, гутаркі, адчыты, экскурсіі, песні і забавы мы стараліся паглыбіць любоў і прывязанасьць да Бога і да так зразумелай Бацькаўшчыны».

*4. Францішак Багушэвіч (Мацей Бурачок – Сымон Рэўка з пад Барысава). «Дудка Беларуская і Смык Беларускі*

*З крытычным нарысам Ад. Станкевіча аб жыцьці і творчасьці Фр. Багушэвіча, у трыццатыя ўгодкі Ягонай сьмерці». Выданьне Беларускага інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Вільня – 1930*

На адвароце: Беларуская друкарня ім. Фр. Скарыны, Завальная 6.

Францішак Багушэвіч (1840–1900) – беларускі грамадскі дзеяч, паэт, празаік, публіцыст і перакладчык. Адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, яе класік. Першы зборнік вершаў паэта «Дудка беларуская» выйшаў у Кракаве ў 1891 годзе пад псеўданімам Мацей Бурачок. Зборнік вершаў «Смык беларускі» быў надрукаваны пад псеўданімам *Сымон Рэйка з-пад Барысава* ў Познані ў 1894 годзе. Францішак Багушэвіч таксама аўтар першых празаічных твораў на беларускай мове. Ён востра ўздымаў сацыяльныя пытанні, імкнуўся асэнсаваць лёс беларускага народа.

У прадмове да зборніка «Дудка беларуская» паэт сказаў свае знакамітыя словы пра родную мову, якія я са скарачэннямі працытую: «Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная... але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек…

Ці ж ужо нам канечне толькі ў чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а нават і трэба знаць суседскія мовы, але найперш трэба знаць сваю. Перадумаўшы ўсё гэта, я, браты, адважыўся напісаць для вас сякія-такія вершыкі. Хто іх спадабае, таму дзякуй, а хто падумае лепш і больш напісаць, таму чэсьць вечная і ад жывых людзей і ад бацькавых касьцей…

Спрадвеку, як наша зямелька з Літвой злучылася, так і з Польшчай з’ядналася дабравольна, дык усе яе Беларуссю звалі, і не дарма ж гэта! Ні Вялікая, ні Малая, ні Чырвоная, ні Чорная яна была, а Белая, чыстая; нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася...

Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, – так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, – а потым зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі. Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзёжы, хто якую носіць; вот жа гаворка, мова і ёсьць адзёжа душы.

Літва пяцьсот дваццаць гадоў таму назад ужо была ад Балтыйскага мора ўздоўжкі аж да Чорнага… а ў сярэдзіне Літвы, як тое зерне ў гарэсе, была наша зямліца – Беларусь. Можа, хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь?

Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мозыра, ад Віцябска замалым не да Чарнігава, гдзе Горадня, Менск, Магілёў, Віцябск, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак…

Кракаў – 1892 г. Мацей Бурачок».

У зборніку «Смык беларускі» хтосьці з маіх продкаў падкрэсліў алоўкам радкі верша «Ахвяра», і нездарма. У крытычным нарысе да кнігі «Дудка беларуская і смык беларускі» Адам Станкевіч сказаў аб гэтым вершы так: «А зьмест ягонага вершу «Ахвяра», які ёсьць бадай агульнай сынтэзай думак усей творчасьці Багушэвіча, пакінуты нам як тестамэнт бацькі дзецям, павінен быць адбіты на сэрцах беларускага народу»:

Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў:
Не жадаў бы чужога,
Сваё дзела як трэба рабіў.
Каб прад меншым я носу ня драў,
А прад большым ня корчыў спіну,
Каб грэх свой прад сабой я пазнаў,
У другіх каб ня відзеў віну;
Чужых жон каб ня вёў да граху,
А сваю, каб як трэба любіў,
Каб мне дзеці былі у слуху,
Каб я бацькам для іх век дажыў.
Каб людзей прызнаваў за братоў,
А багацтва сваё меў за іх,
Каб за край быў умерці гатоў,
Каб не прагнуў айчыны чужых.
Каб я Бога свайго не акпіў,
Каб не здрадзіў за грошы свой люд,
Каб свайго я дабра не прапіў,
І ні зашта не меў чужы труд.
Каб падвойчы мне грошы не браць,
За праданы кусочак раллі,
Каб сваю мне зямельку араць
І умерці на ёй хоць калі…

Кніга, выдадзеная ў Вільні да трыццатых угодкаў смерці паэта, як бачым, аб'яднала абодва зборнікі вершаў Францішка Багушэвіча пад адной вокладкай. А пачынаецца яна з крытычнага нарыса аб жыцці і творчасці паэта, напісанага Адамам Станкевічам.

**Адам Станкевіч (1892 – 1949, НКУС)** – беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, публіцыст, літаратуразнаўца, гісторык, выдавец, каталіцкі святар, які праводзіў набажэнствы па-беларуску.

Яго крытычны нарыс пачынаецца такімі словамі: «Сёлета мінула трыццаць гадоў ад сьмерці Вялікага Беларуса, Бацькі беларускага сучаснага адраджэння, песьняра Фр. Багушэвіча». Далей ідуць раздзелы:

***I.*** *Жыцьцё Фр. Багушэвіча, характар і памяць аб ім у народзе.*

У ім аўтар нарыса сумна паведамляе: «На вялікі жаль, аб жыцьці Фр. Багушэвіча дайшло да нас ня многа вестак. Галоўнейшую крыніцу вестак аб Багушэвічу, – архіў, яго сын, як сведчыць Юры Алелькавіч у часопісе «Беларусь», выдаць Беларусам у сваім часе адмовіўся. Паступіў так малады Багушэвіч дзеля польскага нацыяналізму, дзеля сваёй варожасці да тых думак, якія лятуціў ягоны бацька аб беларускім народзе».

***II.*** *Час, у якім жыў Фр. Багушэвіч*

Аб часе Адам Станкевіч кажа: «Гэта быў час, калі магутная расейская імперыя пяяла народу нашаму хаўтурныя песьні. Пясьняр наш рос, гадаваўся і тварыў за часам Мікалая I (п. 1855), Аляксандра II (п. 1881) І Аляксандра III (п. 1894). Быў гэта час, калі царскі ўрад узяўся нішчыць усё тое беларускае, што яшчэ было астаўшыся пасьля польскага над Беларусяй панаваньня».

***III.*** *Зародкі беларускай літаратуры і беларускай грамадскай думкі да Фр. Багушэвіча*

Тут Ад. Станкевіч заўважае, што і прад Фр. Багушэвічам «… ужо была беларуская літаратура, але думкай сваёй яна не дасягала істотных патрэб, сапраўдных ідэалаў беларускага народу. Адны аўтары гэных літаратурных твораў (Энеіда, Тарас на Парнасе) Беларуса выстаўлялі толькі на сьмех і жарты, другія (Я. Баршчэўскі, А. Рыпінскі, Я. Чачот, Р. Шпілеўскі) разглядалі Беларуса і яго жыцьцё, як прадмет навуковых досьледаў і выражалі шчырую спагадлівасьць у ягонай цяжкой долі, іншыя-ж узноў (В. Д.-Марцінкевіч), ад душы спагадаючы народу, дараджалі яму гадзіцца з злой доляй–мачыхай». Далей Ад. Станкевіч цытуе У. Ігнатоўскага, які піша аб тым, што «селянін на Беларусі жыве ў цяжкіх умовах», таму што «яго душыць малазямельле і безьзямельле» і «ён вядзе цяжкую барацьбу за сваё існаваньне ў… цемнаце і несьвядомасьці». У адрозненне ад народніка ў стылі Марцінкевіча, які «быў перакананы, што прычына цяжко-

га стану селяніна крыецца ў надужыцьцях благіх паноў» народнік 80-х і 90-х гадоў разумее, што прычына ў іншым: селянін «выносіць на сваім карку сучасны лад жыцьця, пабудаваны на экономічнай эксплоатацыі і на палітычным прыгняценьні працоўных мас. Што датычыць да Беларусі, то на яе абшары экономічны і палітычны ўціск моцна зьвязаны з нацыянальным прыцясьненьнем».

«Фр. Багушэвіч першы раскрыў прад народам усю нагую трагічнасць яго палажэньня, паказаў ідэалы народнага адраджэньня і высока заткнуў вехі на шляху да іх», – гаворыць Ад. Станкевіч і таму ён называе Фр. Багушэвіча «тыповым прадстаўніком беларускага народніцтва а разам з тым і беларускага руху гэнага часу…»

***IV.** Багушэвіч, як беларускі народнік-патрыёт*

У дудцы-ліры Багушэвіча найперш мы «чуем тоны народныя, як аснаўныя для ўсестароньняга адраджэньня народу, тоны, поўныя гарачай любові да роднай краіны», - гаворыць Ад. Станкевіч.

А далей ён даводзіць, што ў шэрагу твораў «Фр. Багушэвіч адкрывае заслону на беларускае нацыянальнае жыцьцё на грунце шырэйшым, на грунце гістарычна-палітычным. Беларускі сярмяжны народ, здраджаны сваімі асьвечанымі клясамі – баярствам, духавенствам і мяшчанствам яшчэ за часаў польскага над Беларусяй панаваньня, загубіў свой нацыянальны воблік і ведаў аб сабе толькі тое, што ён тутэйшы, ніякі там прыбыш, адвечны жыхар свайго краю.

Калі ж на Беларусь прышло панаваньне Расеі, палажэньне Беларуса ў яго нацыянальным жыцьці пачало зьмяняцца яшчэ больш на горшае. Заціраньне беларускага імені пачало яшчэ больш углыбляцца.

Першыя шагі расейскае палітыкі да Беларусаў пашлі ў кірунку залічэньня Беларусаў, дзеля аднароднасьці веры, праваслаўных да Расейцаў, а каталікоў да Палякаў. Гэткая расейская палітыка, ужо і так апалячаных каталікоў Беларусаў, далей папіхала ў польскія абоймы, а праваслаўных – у расейскія».

Ад. Станкевіч цытуе верш Багушэвіча, у якім расказваецца, як казакі-місіянеры перарабілі каталіка-беларуса Мацея ў каталіка-паляка.

– Ды хто ты?, ды хто ты? – ці рускі, ці не…
Ды ты – ён кажа мне – веры якой?
Ці ты праваслаўны, ці ты паляк?

Мацей прабуе растлумачыць місіянеру, што ён тутэйшы чалавек, але за гэта казак лупцуе яго нагайкай, дык Мацей і кажа:

«Я кажу гэтак: калі-ж ужо так,
Што васпан бьесься бяз дай прычыны,
То мусіць і праўда, што я паляк
І буду паляк я ад гэтай гадзіны».

Свой горкі расповяд Мацей завяршае словамі:

«Вось так то хрысьцілі мяне казакі
З тутэйшага, ды ў палякі!»

**V.** *Фр. Багушэвіч і соцыяльныя ідэалы.*

Тут Ад. Станкевіч кажа, што песні Багушэвіча маюць не толькі народна-патрыятычныя матывы, але і грамадска-сацыяльныя, яны «лучацца разам і адзін другога дапаўняюць». Гэта і павінна так быць, на думку аўтара нарыса, бо «праца дзеля поўнага адраджэньня народу ў кірунку выключна соцыяльным, хоць і дасьць часта яму карысьці матэрыяльныя, дык у вапошнім выніку наступіць сьмерць нацыянальная гэтага народу і, што за гэтым ідзе, зноў паняволеньне соцыяльнае. З другога-ж узноў боку праца для гэтага адраджэньня народу выключна ў кірунку толькі нацыянальным, не разьбіваючы соцыяльнай няволі… да гэнай мэты – поўнага адраджэньня народу также давясьці ня можа».

З твораў Фр. Багушэвіча вынікае, што «нягледзячы… на беспрасьветную цемнату, якая спавіла душу Беларуса, душа гэта крые ў сабе шмат сьведамасьці аб сваім палажэньні, шмат глыбокай прыроднай мудрасьці». А значыць, лепшая частка душы народнай не забітая яго «злыбедамі». Аўтар прыводзіць цікавую цытату з К. Сваяка аб характары беларуса: «Складаная гісторыя Беларусі, хоць мала хто аб ёй пісаў і мала хто пісаў аб ёй справядліва. Складаная яна, калі вырабіла такі характар чалавека, якога тып даець нам Багушэвіч у сваіх вершах. Такі ціхі настрой на вока, а колькі схаванай моцы і сілы; такі журлівы, аж да безнадзейнасьці, а колькі сьветлых думак і мудрасьці! Будзьце ласкавы, зьбярыце з паэзіі Багушэвіча ўсе прыказкі і выражэньні простай народнай мудрасьці, а ня трэба будзе і Саламона. Можна сказаць без зьвялічэньня, што Беларус, ня маючы асьветы і кніжкі, меў яе аднак з самога жыцьця…»

Ад. Станкевіч заўважае, што аўтар «Дудкі» і «Смыка» амаль не заклікае народ беларускі да змагання. Але затое ён шмат раз’ясняе

народу аб ягоным несправядлівым жыцці. На думку Ад. Станкевіча, гэта і правільна, бо «клікаць падняволены, бясьсільны народ да вызваленьня з няволі, не паказаўшы яму прадусім ідэалаў ягоных, не ўсьведаміўшы яго, як сьлед, нацыянальна і сацыяльна – рэч нерэальная». І ўсё ж ёсць у Багушэвіча вершы, з якіх ясна вынікае, што вольнасць народ павінен здабываць «цаной жыцьця свайго, калі іншага няма выхаду». Так, герой верша «Кепска будзе» – Аліндарка, – трапіўшы ў астрог, разважае аб тым, што нават жывёла не хоча жыць у клетцы, а хутчэй сама сябе згубіць. «Словам, калі хто хоча знайсьці ў Багушэвіча выхад з няволі для беларускага народу шляхам барацьбы, шляхам рэвалюцыі – знайдзе і гэткі», – гаворыць Ад. Станкевіч напрыканцы гэтага раздзела свайго крытычнага нарыса.

***VI.** Фр. Багушэвіч і рэлігійна-этычныя ідэалы*

Ад. Станкевіч адзначае ў гэтым раздзеле, што «слушнай падставай для народнага адраджэньня, апрача нацыянальнага самапачуцьця і социяльнай справядлівасьці, ёсць такжа жыцьцё ў народзе рэлігійнае». Называючы Фр. Багушэвіча Бацькам духовым беларускага народу, ён піша: «Дык не дзіва, што ў тонах яго творчасьці чуем такжа і тоны рэлігійныя і этычныя». Яны цесна злучаны ў песняра з матывамі грамадскімі і нацыянальна-патрыятычнымі, а таму з'яўляюцца «элементамі ўсёабымаючымі, з'яўляюцца тым, чым яны ёсьць сапраўды». Далей аўтар прадкрэслівае, што не выпадкова беларускую мову Багушэвіч назваў «Богам дадзенай беларускаму народу», а згодна са сваім светапоглядам. «Рэлігія для Багушэвіча ня ёсьць адарваным, нечым толькі чыста асабістым але ёсьць прадусім падставай, злучвом і завяршэньнем як жыцьця нацыянальнага, так і агулам грамадскага. У аснове кожнай нацыянальнасьці Фр. Багушэвіч бача Бога».

Пясняр асуджае «ўжываньне рэлігіі дзеля мэтаў прыземных, палітычных», з яго твораў вынікае, што такая рэлігійная палітыка «вядзе да скутку адваротнага, да скутку яўна супярэчнага, як з самой рэлігіяй, так і з звычайнай прыроднай справядлівасьцяй». Асабліва яскрава свае думкі аб чысціні рэлігіі і этыкі ён выказвае ў вершы «Свая Зямля», у якім выступае супраць гвалтоўнага перахрышчвання людзей дзеля палітыкі. Герой гэтага верша, каталік, якога царскія ўлады хочуць перахрысціць у праваслаўнага, заяўляе ім:

Бо Бог у мяне ў сэрцы тыкеле,
А вашаму Богу, дык трэба паперы.

Ад. Станкевіч цытуе яшчэ верш «Праўда», у якім Фр. Багушэвіч моліцца да Бога і той малітвай паказвае свае адносіны да рэлігіі і веры:

Пасылаў ты Сына, – Яго не пазналі;
Мучылі за Праўду, сілай паканалі;
Пашлі-ж цяпер Духа, ды пашлі бяз цела,
Каб уся зямелька адну Праўду мела!

Заканчваецца гэты раздзел нарыса цытатай К. Сваяка: «Народ бяз веры – гэта выдумка, а гісторыя вуча, што народы гінуць разам з іх багамі. Забіце ў душы народу Бога – перастане такі народ існаваць… Кажуць, што чалавек ёсьць з натуры рэлігійны; мо' і праўда, але Беларус веры навучыўся з жыцьця: калі-б ня вера ў Бога і Ягоны Агляд, трэба яму было-б даўно ўжо зрабіць самагубства. Ён жыве верай у трыумф справядлівасьці, а трыумф справядлівасьці бязбожнай – сьмеху варт…»

***VII.*** *Багушэвіч, як паэт*

Тут Ад. Станкевіч заўважае, што Багушэвіч «так праняты горам народу, што струн ліры яго не кранулі ані краса прыроды, ані чары жаночага каханьня…» «Праўда, прыроды ў некаторых сваіх вершах Багушэвіч крыху датыкае, але зараз-жа матывы красы яе пераплятае матывамі соцыяльнымі… Жанчыну Багушэвіч малюе з пункту грамадзка-этычнага».

«Мова Багушэвічавых твораў – гэта беларуская народная мова Ашмяншчыны. Належа яна да таго асяродка мовы беларускага народу, які ўвайшоў у аснову беларускай мовы літаратурнай. Мова Багушэвіча даволі чыстая. Праўда, спатыкаем там крыху полонізмаў, а яшчэ менш русізмаў, але гэта як-бы сведама, дзеля ёмкасьці, калі апісвае пясьняр польскіх паноў, ці маскоўскіх урадоўцаў».

«Што датыча формы, дык найперш удаецца Багушэвічу … форма на лад народнай песьні, так што і творы свае ён прызначае на гэту мэту..»

«Далей, творы Багушэвіча адзначаюцца часта дзіўнай вобразнасьцю і сымболікай… Спатыкаем там такжа вялікае ўменьне песьняра некулькімі кароткімі, але вельмі дарэчнымі выразамі адмаляваць абраз, які назаўсёды застаецца ў памяці:

Усё піша, піша, піша
І нагой усё калыша.

Характэрна таксама для Багушэвіча «ёсьць любасць гаварыць не ад сябе, але ад некага іншага, ад народу. Сваю асобу пясьняр хавае старанна…»

Ад. Станкевіч адзначае, што любай формай для Багушэвіча з'яўляецца сатыра, з дапамогай якой ён высмейвае ворагаў народа і ўласныя яго дрэнныя якасці. Карыстаецца ён таксама шырока жартам, байкай, народнымі пагаворкамі, параўнаннямі.

Крытык выявіў і заганы ў творчасці Багушэвіча, праўда, адзначыў, што іх няшмат: «Прадусім у вершах сваіх Багушэвіч у многіх славах ставіць польскія або расейскія націскі. Галоўнай аднак заганай яго твораў ёсьць тое, што ён незаўсёды дбае аб роўнай меры». «Надта магчыма, што віна ў гэтым не аўтара… а ягоных выдаўцоў-палякаў», – мяркуе аўтар нарысу напрыканцы.

**VIII.** *Значэньне Багушэвіча*

«Ён – першы ўсенародны беларускі правадыр і першы беларускі пясьняр-рэволюцыянер. Ён – першы нацыянальны беларускі поэт… і цікаўна, што народ скарэй за інтэлігентных крытыкаў пачуў яго веліч».

Ад. Станкевіч зрабіў вывад, што літаратурнай славе Багушэвіча значна пашкодзілі чытальнікі паходжаннем са шляхты, каторыя ў яго злосным тоне знаходзілі толькі жарты. А таксама пашкодзіла адарванасць Багушэвіча ад маскоўскай і польскай інтэлігенцыі, «каторая ацаніла б яго творчасць і аб славе яго пераказала б… «

«Ды і няскора змест твораў яго вычарпаецца. Станецца гэта толькі тады, калі народ беларускі дасягне… усестароньнюю сваю нацыянальную самабытнасьць. Так глыбокія, так плодныя думкі Патрыярха беларускага адраджэньня Фр. Багушэвіча!»

*5. Ад. Станкевіч. «Кастусь Каліноўскі «Мужыцкая праўда» і ідэя Незалежнасьці Беларусі» (Рэферат, прачытаны на ўрачыстай акадэміі 25.III.1933 г., з прычыны 15-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі і 70-ых угодкаў беларускай прэсы.) Вільня 1933 г. Выданьне Беларускага Нацыянальнага Камітэту.*

На адвароце: Бел. Друк. Ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6

**Кастусь Каліноўскі** (*1838–1864*) – нацыянальны герой Беларусі, адзін з кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863–1864 гг., рэвалюцыянер-дэмакрат, публіцыст, паэт. Цяпер лічыцца адным з найбольш вядомых прадстаўнікоў беларускай нацыі ў свеце.

Эпіграфам да рэферата стаў верш з пісьмаў К. Каліноўскага да беларускага народа «З-пад шыбеніцы». Кожны нумар «Мужыцкай праўды» Кастусь падпісваў псеўданімам «Яська-гаспадар з-пад Вільні», таму ў вершы ён згадвае сябе як Яську:

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе,
І часам спамяні пра Яську твайго,
Што згінуў за праўду для дабра твайго!

А калі слова пяройдзе ў дзела,
Тады за праўду станавіся смела,
Бо адно праўдай, у грамадстве згодна,
Дажджэш, Народзе, старасьці свабодна…

А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,
То я з таго сьвету табе адзавуся.

Складаецца рэферат з дзесяці частак.

***I.*** *Ідэовая лучнасьць між актам 25.III.18 г. і працай К. Каліноўскага 1862–1864 г.*

Тут гаворыцца пра тое, што ў 1933 г. супала святкаванне 15 -х угодкаў абвешчання незалежнасці БНР і 70-х угодкаў першай беларускай газеты «Мужыцкая праўда», рэдактарам і выдаўцом якой быў Кастусь Каліноўскі. Адам Станкевіч піша: «Зярно, якое на беларускай грамадска-палітычнай ніве пасеяў Каліноўскі, акт 25.III.18 зжаў, карыстаючыся пладом гэтага зярняці для сяўбы далейшай».

***II.*** *Месца К. Каліноўскага ў навуцы*

Аўтар гаворыць аб тым, што беларускі народ у часы К. Каліноўскага быў вызначаны расейцамі як рускі народ, а палякамі як польскі люд. Таму ў гісторыі расейскай Каліноўскі прадстаўлены звычайна як «самолюбівый безумный мятежнік», а ў гісторыі польскай – як «польскі богатэр народовы». Значыць, трэба вельмі ўважліва вывучаць дакументы, якія тычацца асобы Каліноўскага, а таксама ўспаміны пра яго і даць ім «належнае асьвятленьне». Гэта павінны зрабіць гісторыкі беларускія і літоўскія, «бо Каліноўскі землі гэтых народаў разважаў як адно цэлае». Першым паказаў «нам праўдзівы твар Каліноўскага літоўскі прафесар А. Янулайціс». Паз-

ней зрабіў гэта і беларускі вучоны прафесар Ігнатоўскі. Але працу над дакументамі трэба, на думку Ад. Станкевіча, працягваць.

***III.*** *Час, калі жыў Каліноўскі*

Гэта быў час, калі Беларусь абуджалася пасля даўгавечнай спячкі ў няволі. У Еўропе панаваў тады рамантызм у літаратуры і ў навуцы, які даходзіў і да Беларусі. «Дасканалым праваднікам гэных ідэалаў у нас быў да свайго закрыцьця (1832) Віленскі ўнівэрсітэт». З яго муроў выйшлі Я. Баршчэўскі, Ал. Рыпінскі, Я. Чачот, Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

Ад. Станкевіч лічыць, што «панаваў тады ў Еўропе і романтызм палітычны», ён вызначыў яго як «час народавольства і народаслаўя». У Расіі прыхільнікамі гэтых ідэалаў былі Герцэн, Бакунін, Агароў, якія вымушаны былі скрывацца ад царскай паліцыі за мяжой. «У гадох 1858–1861 Герцэн выдае ў Лёндыне свой слаўны «Колокол»… Часопісь гэта на сваіх старонках шырока і адкрыта разьвівае ідэю вызваленьня народаў, што знаходзіліся пад Расеяй і збудаваньня ім вольнага жыцьця». «Думкі палякаў аб паўстаньні іх проціў Расеі і Бакунін, і Герцэн падтрымлівалі ўсей душой. Яны верылі, што з паўстаньнем шляхты, паўстане так-жа і народ польскі, а з ім разам паўстануць так-жа і народы беларускі, літоўскі і ўкраінскі і што такім чынам… збудуцца іх народавольскія… ідэалы». У другой палове 19 стагодзьдзя ідэя нацыянальнага адраджэння забруіла і на Беларусі. «Быў гэта сапраўды беларускі палітычны романтызм, на чале якога стаў тварэц ягоны на Беларусі, наш слаўны Кастусь Каліноўскі…»

***IV.*** *Аб жыцьці К. Каліноўскага*

Адам Станкевіч паведамляе, што К. Каліноўскі нарадзіўся ў 1838 г. у Мастаўлянах Ваўкавыскага павета і паходзіць з дробнай беларускай каталіцкай шляхты, «пэўнеж, ужо спольшчанай». Вучыўся ў Свіслачы, дзе скончыў пяць класаў прагімназіі, пасля рыхтаваўся прыватна да паступлення ў Маскоўскі ўнівэрсітэт, у які паступіў ў 1855 г. Але ў хуткім часе яго брат Віктар прыехаў у Пецярбург, і Кастусь пераехаў туды ж, паступіўшы «на права, якое скончыў з стопнем кандыдата ў 1860 г.» Удзельнічаў у моладзевых гуртках падчас вучэння і быў пад моцным уплывам герцэнскага «Колокола». Працу К. Каліноўскі не знайшоў, бо быў на падазрэнні ў паліцыі.

«Летам 1862 г. ужо меў ён наладжаную ў Беластоку патаемную друкарню і ўжо выдаваў беларускую часопіс «Мужыцкую Праўду». Каліноўскі меў сваю арганізацыю, якая спачатку называлася «Рух»,

а пасля «звалася агулам арганізацыяй «чырвоных, ці дэмакратаў», каб адрозьніць яе ад паўстанцкай арганізацыі буйна шляхоцкай «белых», на чале якой стаялі буйныя землеўласьнікі». У апошніх была перавага ў зброі, фінансах і колькасці людзей, таму менавіта яны сталі на чале паўстання, калі яно выбухнула. Кастусь Каліноўскі ўсё ж далучыўся да паўстання белых, бо рашыў скарыстаць яго ў сваіх мэтах. «Каліноўскі свята верыў, што ўсёж-дык і ўдасца яму падняць народ на ногі падчас агульнай завярухі і што народ гэты, разбуджаны да волі, будзе за яе змагацца аж да пераможнага канца як з сілай маскоўскай, так і з сілай польскіх магнатаў», – піша Ад. Станкевіч. Пад прозвішчам Чарноцкага Каліноўскі быў камісарам Гарадзеншчыны, «дзе паўстанскую работу арганізаваў дасканала».

У траўні 1863 г. у Вільню прыбыў у якасці генерал-губрнатара вядомы Мураўёў. Усюды замільгалі шыбеніцы. У пачатку ліпеня Кастусь «прыбывае ў Вільню, дзе… ўсю цяжасць паўстаньня бярэ на сябе… і вядзе яго да канца». Каліноўскага выдаў яго супрацоўнік Парафіяновіч, «злоўлены і абнадзеены абяцанкай уратаваць яго жыццё». 29.I.64 Каліноўскі быў узяты і пасаджаны ў дамініканскія муры ў Вільні. Спачатку яго прыгаварылі да расстрэлу, але Мураўёў запатрабаваў «казьніць праз павешаньне». Прысуд быў споўнены 10 сакавіка. Падчас пакарання чыталі прысуд, у якім назвалі Каліноўскага шляхціцам, а «ён крыкнуў: «Няпраўда, у нас няма шляхты, у нас усе роўныя».

*V. «Мужыцкая Праўда»*

“У бягучай беларускай літэратуры, а такжа і ў небеларускай, дагэтуль звычайна панавала пракананьне, што Каліноўскі пачаў выдаваць сваю “Мужыцкую Праўду” ў 1863 г., калі выбухла паўстаньне. Тымчасам трэба ведаць, што “Мужыцкая Праўда” выходзіла ўжо ў 1862 г.”, – піша Ад. Станкевіч. Першыя нумары газеты з’явіліся ў Берасцейскім павеце, аб чым Гарадзенскі губернатар данёс 10 жніўня 1862 года міністру ўнутраных спраў. Пачалося расследаванне, хто выдае газету.

Усіх нумароў было 7. У 1933 г. найбольш па адным экзэмпляры іх захоўвалася ў Мінскай дзяржаўнай бібліятэцы, у Варшаве, у Вільні ў бібліятэцы Урублеўскіх, у Віленскім дзяржаўным архіве. Друкавалася газета лацінкай, “даволі чыстай беларускай мовай, з горадзенскімі асаблівасьцямі, на двух бачынах аднаго лістка разьмерам васьмёркі”.

Каліноўскі заклікаў сялян не плаціць падаткі ні польскім панам, ні расейскаму ўраду, не хадзіць на паншчыну, не даваць рэкрутаў расейцам. Беларускі народ ён «уважаў за народ самастойны, асобны ад Палякаў…»

Адметны шосты нумар «Мужыцкай Праўды», які цалкам прысвечаны рэлігійным справам. Каліноўскі клікаў праваслаўных беларусаў да аднаўлення уніі. Адам Станкевіч патлумачыў гэта як «падсьведамае імкненьне беларускай яго душы да шуканьня сынтэзу, да шуканьня моцнага і найбольш адпаведнага грунту дзеля закапаньня рэлігійнага рову, які разьдзёр беларускі народ на дзьве варожыя часткі».

« Мужыцкая Праўда» – гэта першая газета беларусаў на іх роднай мове, «маці сучаснай беларускай прэсы. Гэта яна працерабіла і паказала дарогу сьпярша «Гоману» (1884), у якім праводзілася ідэя будаваньня Беларусі ў федэрацыі з Расеяй, «Свабодзе» (1903), а пасьля «Нашай Долі» (1906), «Нашай Ніве», «Беларусі», якія самастойнай палітычнай беларускай ідэі яшчэ не мелі, і ўрэшце «Вольнай Беларусі», «Беларускай Крыніцы» і ўсім тым часопісам, якія выходзілі пасьля «Мужыцкай Праўды» і якія выходзяць сяньня».

***VI.** Пісьмы «з пад шыбеніцы»*

У «Мужыцкай праўдзе» Каліноўскі асцерагаўся называць беларусаў беларусамі, а зваў «мужыкамі, братамі мужыкамі». На думку Адама Станкевіча, ён рабіў гэта, каб не ўгнявіць палякаў, з якімі быў з’яднаны паўстаннем. Таксама слова «беларусы» ўспрымаецца як блізкае да расейцаў. У пісьмах «з пад шыбеніцы» ён піша «мужыкі беларусы», ужо нічога і нікога не беручы пад увагу. Пісьмы сведчаць, што Каліноўскі, заўважае Ад. Станкевіч, «больш мае надзеі для беларускага народу на Польшчу, як на Расею». Ён працягваў верыць у новае польскае паўстанне і звязваў з ім здзяйсненне беларускіх нацыянальных ідэалаў. «Народзе, – піша Каліноўскі, – як толькі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б’юцца за праўду і свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду, но ухапіўшы за што зможэш – за касу, сякеру і цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную». «Вось дзе романтык чыстай вады!» – гаворыць аб ім Ад. Станкевіч, завяршаючы дадзены раздзел.

***VII.** К. Каліноўскі – Беларус*

«Кастусь Каліноўскі, як гэта відаць з яго друкаў, быў бязумоўна, згодна з духам свайго часу, сьведамым беларусам і вёў бараць-

бу за самастойнасьць беларускага народу, але ў рамках польскай федэрацыі, якую ён разумеў, як вольны саюз вольных народаў», – сцвярджае Адам Станкевіч.

Паколькі ён быў па паходжанні шляхціцам, то яго часам залічваюць да польскай нацыянальнасці. Але вядома, што шляхецтва атрымлівалі ў даўнейшай Польшчы за розныя заслугі «нятолькі паасобныя беларусы, але также нават цэлыя беларускія вёскі».

У следчай справе Каліноўскага ёсць дакумент, які ён напісаў уласнаручна, дзе ён перасцерагае расейскі ўрад ад далучэння беларускага краю да Расеі, таму што край беларускі лучаць з Польшчай многія і моцныя вузлы, і «каб узноў ня выклікаць няшчасьцяў, якім былі паўстаньні, вузлы гэныя трэба разьвязваць працуючы над гэтым доўга, умела і сыстэматычна». Аўтар рэферату робіць вывад, што так не сказаў бы чалавек, які адчуваў бы сябе палякам. У гэтых словах падкрэслена асобнасць беларускага краю ад Польшчы.

***VIII.** К. Каліноўскі – змагар за палітычную самастойнасьць Беларусі і Літвы*

Ад. Станкевіч даказвае гэта, спасылаючыся на характарыстыкі Каліноўскага з боку розных аўтараў, як сучасных Каліноўскаму, так і пазнейшых. «Літоўскім сепаратыстам заве Каліноўскага Гейштор, гэта знача такім, які імкнуўся да стварэньня з Беларусі і Літвы самастойнай, асобнай дзяржавы. Пры гэтым мы не павінны забыцца, што слова літоўскі аднолькава азначае і беларускі, бо Беларусь у той яшчэ час (ды-й цяпер многія гэта яшчэ робяць) называлі звычайна гістарычна-палітычным назовам: Літва, праз увагу на тое, што Беларусь уваходзіла ў склад дзяржавы: Вялікага Княства Літоўскага».

В. Ратч, блізкі Мураўёву чалавек, які напісаў па загаду ягонаму гісторыю паўстання, сказаў так: «Дзеячы Варшавы і северозападнага краю за ўладу ў сэнсе ўзаемных адносінаў і ў сэнсе залежнасьці будучых славянскіх федэратыўных часьцін… кралі адзін у другога цэлыя тэрыторыі». А гэта значыць, – робіць вывад Ад. Станкевіч, – што Каліноўскі змагаўся за свае землі. Далей Ратч піша: «Каліноўскі настроем Герцэнаўскай школы, на чале самалюбных асобаў з чырвоных літвіноў, стойка праводзіў ідэю самастойнасьці Літвы», «Варшаўскі цэнтральны к-т трэбаваў няўхільна залежнасьці ад сябе Літвы, але Каліноўскі трэбаваў права літвінам распараджацца самым собою. Нават калі і паўстаньне выбухла, спор гэты між Варшавай і Вільняй ня спыніўся».

***IX.*** *К. Каліноўскі і далейшы лёс ідэі незалежнасьці Беларусі*

Аўтар называе Каліноўскага першым барацьбітом за вольнасць сацыяльную і самастойнасць народна-палітычную беларускага народа. «Справа палітычнай і грамадскай самастойнасьці нашага Краю і справа самастойнасьці культурнай народаў гэтага краю, а ў іх ліку і беларусаў, замёрла разам з Вялікім Львом Сапегай, якога сёлета 300-лецьце сьмерці прыпадае». Але замёрла часова, бо гэту справу ўваскрасіў Кастусь Каліноўскі, за яе і памёр як ахвяра сваёй любові да беларускага народу і свайго палітычнага рамантызму. Ідэю Каліноўскага павёў далей Францішак Багушэвіч, але «навучаны і натхнёны яго прыкладам, павёў яе іншай дарогай, дарогай буджэньня ў народзе сьведамасьці нацыянальнай і соцыяльнай». У выніку Першай сусьветнай вайны і рэвалюцыі ў Расіі яе зняволеныя народы змаглі стварыць свае ўласныя хаты. «Да гэтай будовы браліся і беларусы. Волю сваю жыць жыцьцём вольным і самастойным выявілі яны грамагласна на сьвет увесь 25.III.18 г. У гэтым акце «аказаўся нам ізноў Каліноўскі… яго ідэалы ўваскрэслі ў шырэйшых ужо рамках» і з большай сілай.

***X.*** *Апошнія ўвагі і бібліяграфія*

Аўтар кажа, што праштудзіраваў усе даступныя яму крыніцы, якія датычыліся асобы Каліноўскага і гісторыі яго паўстання. Зрабіў гэта таму, што яго асабіста цікавіла і чаравала гэтая тэма. А таксама ён атрымаў заданне ад беларускай грамадскасці Вільні падрыхтаваць для чытання рэферат да святкавання 15-годдзя абвяшчэння незалежнасці Беларусі і 70-годдзя беларускай прэсы, што ён добрасумленна і зрабіў.

*5. В. А. (Вінцук Адважны), «Беларускія цымбалы». З крытычным нарысам Ад. Станкевіча аб жыцьці і творстве В.А. Вільня, 1933. Выдавецтва Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.*

На адваротным баку тытульнага ліста: Бел. Друк. Ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6–10.

**Вінцук Адважны (Германовіч Язэп Станіслававіч, 1890–1978)** – беларускі пісьменнік, каталіцкі святар усходняга абраду, паэт, публіцыст. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў Гальшанах.

Аб яго жыцці і творчасці раскажу паводле нарыса Адама Станкевіча да кнігі вершаў Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага).

Аб жыцці аўтар даследавання паведамляе ў першым раздзеле артыкула.

Вінцук Адважны нарадзіўся ў беднай сям'і, глыбока рэлігійнай і шчыра адданай каталіцкаму касцёлу. «На самай зары дзяцінства памёр яго бацька. Увесь цяжар узгадаваньня і ўтрыманьня лёг на матку і старшую сястру, якія зарабляючы з працы рук сваіх, атулілі старанна апекай будучага духоўніка і паэта і далі яму ў меру сіл сваіх адпаведныя навукі». Вінцук Адважны вучыўся спачатку ў «народнай расейскай школе», пасля ў школе ў Ашмянах. Далей «для яго быў адзін шлях і адзін ідэал – духоўная семінарыя і стан каталіцкага духоўніка, якім ён і стаўся ў 1913 г.», скончыўшы Віленскую духоўную семінарыю. Да такога выбару, на думку Ад. Станкевіча, прывялі яго асабістая набожнасць з дзяцінства, а таксама «тагочасныя варункі соцыяльна-палітычныя». «Маладой душы В. А. тагочаснае жыцьцё прадстаўлялася нейкім вялікім морам несправядлівасьці, сярод якога віднеўся збаўленны вастравок – Касцёл Каталіцкі, які ўсьцяж будзіў у беларускім народзе веру і надзею на лепшае заўтра». Вінцуку Адважнаму вельмі хацелася, каб гэтае «заўтра» было беларускім, але «царская недалёкая палітыка спляла Каталіцтва ў нашым краю у вадно суцэльнае з польшчынай, а Палякі для свае самаўладнай палітыкі вузёл гэты зацягнулі яшчэ крапчэй». Спасцігшы гэтакі расклад сілаў у грамадстве, Вінцук Адважны пачаў марыць, «адкінуўшы з Каталіцтва палітычныя плевы, пасьвяціцца цалком чыста духовай працы сярод беларускага народу».

Да «беларускай народнай сьведамасьці» будучы паэт-святар прыйшоў яшчэ ў Ашмянскім народным вучылішчы. «Далі яе «Дудка» і «Смык» Багушэвіча, якіх яму дастарчылі ягоныя аднапаветнікі, беларускія адраджэнцы: Кс. Ад. Лісоўскі і паэт Кс. А. Астрамовіч (Андрэй Зязюля). Гэтыя-ж адраджэнцы ў кірунку сьведамасьці беларускай В.А. працавалі ня мала і жывым сваім словам».

У касцёле В. А. гаварыў з народам і да народа па-беларуску. «Вольны-ж час ад пастырскіх сваіх абавязкаў В.А. выключна пасьвячаў беларускай народнай справе: закладаў беларускія школы, пашыраў сярод сялянства беларускія кніжкі і газэты, усьведамляў народ на розных зборках, а такжа пакрысе займаўся беларускім пісьменствам». У 1921 г. стаў сябрам ТБШ.

Ад. Станкевіч расказвае, як прыйшоў Вінцук Адважны ў літаратуру. «У гадох 1919–20 В. А. пішучага гэты нарыс, тады рэдактара «Крыніцы», пачаў закідаць лістамі, поўнымі крытычных уваг аб заганах «Крыніцы» і аб тым, як яна павінна рэдагавацца. Увагі гэтыя

сапраўды былі слушныя, але не пад сілу рэдактару з так нямногімі тады супрацоўнікамі. Вось-жа В.А. ад рэдактара «Крыніцы» адказ пачаў атрымліваць лісты, у якіх звычайна гаварылася, што крытыка добрая рэч, але было-б яшчэ лепш, каб В. А. пафатыгаваўся ды сам пачаў пісаць».

Вінцук Адважны паслухаўся і ўзяўся за пяро.

Другі раздел нарыса Ад. Станкевіча прысвечаны аналізу творчасці Вінцука Адважнага.

Аўтар паведамляе, што пачынаў В. А. з прозы. Напісаў апавяданні «Як Казюк сабраўся да споведзі» (1928 г.), «Казюковае жанімства» (1929 г.). Гэтыя празаічныя творы маюць крыху павучальную тэндэнцыю – вучаць «Беларуса, як ён мае жыць на сьвеце паводле Хрыстовай навукі, каб быць здаровым на душы і на целе». Першы твор расказвае гісторыю споведзі Казюка і знаёміць чытача з глыбокай сутнасцю і значэннем споведзі. Другі твор раскрывае сутнасць і значэнне каталіцкага шлюбу. Ад. Станкевіч лічыць, што апавяданні гэтыя напісаны «жыва, ясна, дасьціпна, жывой і чыстай мовай, з яўным літэрацкім талентам, з даволі ўдалымі малюнкамі псыхолёгічнымі». Крытык адзначае таксама, што «мэты сваей аўтар дапяў сапраўды: кніжыцы яго ў народзе абудзілі зацікаўленьне і шчырую прыхільнасьць. Чытае іх наш народ з ахвотай і з карысьцяй».

Ад. Станкевіч заўважае, што майстэрства В. А. з кожным творам павялічваецца. Ён піша, што ў другім творы «куды больш як у першым – праўдзівых красак літэратурных. Спатыкаем там і цалком удатнае апісаньне беларускае прыроды, беларускага жыцьця і псыхолёгічныя малюнкі беларускіх натураў. Ёсьць у кніжцы некаторыя разьдзелы, якія з літэратурнага боку сапраўды выглядаюць на самастойныя, прыгожыя новелкі».

Першым вершаваным творам В. А. стаў «Як Ганулля зьбіралася ў Аргентыну» (1930). У аснову яго пакладзена «сьмяхотлівая гісторыя». «Сьмяхотлівасьць уся ў тым, што на перашкодзе выезду Ганулі ў Аргентыну стала няправільная запіс мэтрыкі яе сына Паўлюка, які запісаны Паўлінаю»:

Ўсё запісана сумленна,
Толькі імя ёсьць адменна,
Бо у кнізе замест сына
Пішацца дачка – Паўліна…

З гэтай нагоды Ганулля ў Аргентыну так і не выехала, не змогшы дабіцца, каб чыноўнікі выправілі метрыку сына. Так «сьмяхотнасьць» сітуацыі абярнулая яе трагічнасцю.

Далей аўтар нарыса разбірае апавяданне «Адам і Анелька» (1931 г.). Разглядае станоўчых і адмоўных герояў твора і кажа аб іх: «Як гэтыя галоўныя асобы, так і ўсе іншыя пабочныя, можна сказаць – жыўцом узяты з добра ведамага аўтару мястэчка Гальшан». Крытык спыняецца асобна на вобразе ксяндза, «які арыгінальна змагаецца з усякімі благімі паступкамі сваіх парафіян, запісваючы іх у «чорную кніжку» і чытаючы іх па прозьвішчы публічна прад народам у касьцеле». Ад. Станкевіч не ўхваляе такую практыку, таму што «ў гэную кніжку пападаюць часта такжа цалком людзі нявінныя, як гэта было із Анелькай, якія з гэтай прычыны церпяць нямала». У гэтым апавяданні В. А. упершыню вывеў вобразы «сьведамых» беларусаў: маладога ксяндза, арганіста, галоўных герояў – Адама і Анельку.

Наступны разгледжаны твор В. А. – «Канёк-Гарбунок» (1932 г.), пераклад з рускай мовы казкі Яршова. Аб ім Ад. Станкевіч паведамляе, што «гэта ня ёсьць сьціслы пераказ, а вольнае апрацаваньне паводле арыгіналу» і што «кніжыца гэта мае вялікае значэньне практычнае, прадусім для беларускіх дзетак, якія чытаюць яе нарасхват».

У тым жа 1932 г. В. А. напісаў твор «Унія на Палесьсі». Гэты твор, складзены з «сямёх даўгаватых вершаў, пасьвячаных… уніяцкаму сьвяшчэньніку, Беларусу, а. Ул. Аношку, з нагоды пяцілецьця Альпенскага прыходу». Змест гэтых вершаў не толькі рэлігійны, але і патрыятычна-беларускі, «што асабліва відацца ў вершы «Вялікая Ектэнія»:

… Накармі Родны Край, прыадзень, ласкі дай,  
Дай памыснасьць у полі, у хаце!  
У бядзе памажы, ад грэху сьцеражы,  
Дай духовае шчасьце, багацьце»…

Таксама В. А. зрабіў спробу напісаць драму, гэта была «Батлейка» (1932 г.). Першая беларуская «Батлейка», як сведчыць Ад. Станкевіч, была выдадзена ў 1915 г., а гэтая была другая.

Зрабіўшы такі агляд папярэдніх твораў Вінцука Адважнага, Адам Станкевіч пераходзіць да аналізу «Беларускіх цымбалаў». Назваўшы сваю кнігу менавіта так, Вінцук Адважны далучыўся

тым самым да папярэдніх паэтаў-музыкаў – Багушэвіча («Дудка», «Смык»), Цёткі («Скрыпка»).

Ад. Станкевіч адзначае, што Вінцук Адважны працягвае і развівае ў сваёй творчасці традыцыі свайго Настаўніка Францішка Багушэвіча: «…як і Багушэвіч – гэта прадусім пясьняр народнік-грамадзянін», «…як той, так і гэты пераважна карыстаецца сатырай, высьмейваючы тое, ад чаго жадае адвесьці народ свой», крыху больш, чым Багушэвічу, Адважнаму ўласцівы «глыбока рэлігійны настрой», а вось «лірызм уласных духовых перажываньняў, а такжа апісаньні беларускай прыроды», як і ў Багушэвіча, у Адважнага «цалком заглушае… тон народна-грамадзянскі».

У вершах В. А. прысутнічаюць, на думку Ад. Станкевіча, спакой, жыццёвая мудрасьць і глыбіня. Некаторыя тэмы аўтар бярэ ў Фр. Багушэвіча, разгортваючы іх у адпаведнасці са сваімі назіраннямі над жыццём. Аб гэтай рысе творчасці Адважнага Ад. Станкевіч сказаў так: «Але гэтае падабенства паэзіі В. А. да Багушэвіча ні ў чым не зьмяншае яго самастойнасьці ды наадварот – сьведча аб арыгінальнасьці яго таленту, які чужыя матывы пяе нанова, разьвівае іх і паглыбляе, а такжа твора з іх цалкам новыя вартасьці».

Такі, напрыклад, верш «Панскае ігрышча»:

Каб ты ведаў, мой ты браце,
Што учора відзеў я –
У вялікай панскай хаце
На ігрышчы, ай-я-я!
Так вясёла, як у раі,
Куды лепей, як у нас!
Адзін пан на дудцы грае,
Другі б’ець у фартапляс…
А музыка, брат мой, тая,
Што завецца фартапляс –
Тры нагі, сама крывая,
Як індык, дык вот якраз!
Малявана, ляксавана,
Як халява зіхаціць:
Відаць, дарага купляна –
Нам з табой, брат, не купіць…
А паноў – дык вот, брат, куча,
Як народу у карчме!

Ўсе бурчаць, як грозна туча,
Як-бы кулі на вайне…
Вот у залу пацягнулі,
А вяліка, як гумно!
Там вясельле, крыкі, гулі –
Аж музыкі нячутно.
Панічы нішто прыбраны,
Але белы як сьцяна;
Іншы жоўты, ці заспаны.
Была й лысіна адна.
Абгаліўшысь чыста – гладка,
Морда бела, аж блішчыць,
Пад насом астаўшысь латка –
Валасоў кусок стырчыць.
Акуляры-ж вот праціўны:
Круглы, чорны – проста жах!
І прышчэпкі нейкі дзіўны –
Як аглоблі на вушах…

А паненкі? Чорт іх знае!
Сам ня знаю, як сказаць:
Ўсюды цела выглядае –
Ўсё наскрозь у іх відаць.
Іншы доўгія, як палкі –
Вісяць кудлы на вушах,
І худыя, як запалкі –
З папяросамі ў зубах.
Паны, пані і паняты…
Нілічыў я дваццаць пар –
Скачуць дзеці, як цяляты,
Калі гоняць на папар…

Гэты верш пазначаны птушачкай у нашай кнізе, а гэта значыць, што мае продкі часта яго чыталі. Напэўна, ім імпанаваў гумар гэтага верша ў дачыненні да паноў.

Пазначаны ў кнізе таксама верш «Сірата»; гэты ўжо, відаць, як вельмі шчымлівы і жаласна-праўдзівы. Ад. Станкевіч бачыць у ім апісанне аўтарам уласнай сірочай долі:

Браты, хто быў з вас сіратой?
Хто быў так прыгнечан, забыты,
Як я, у куточак забіты?
Хто жыў з бядой-маткай ліхой?
Хто быў так бяз мамы і таты?
А хатай – чужы быў куточак,
Адзежай – чужы ласкуточак –
Скажыце мне, людзі багаты?
Ах, мама! Ах, мамачка міла!
Ты лепша была, прыгажэйша,
Ад матак усіх даражэйша:
Ўзяла цябе страшна магіла.
А быў я слабенька дзіцятка –
Такі яшчэ хлопчык маленькі
І вось адыйшлі даражэнькі,
Абое – і мамка і татка.
І зара прыйшлі нейкі людзі,
Забралі і тату і маму,
Паклалі ў глыбокую яму,
Зямлю ім звалілі на грудзі.
І нешта ка мне гаварылі,
Крычалі і крэпка пяялі,
І плакаць мне там не давалі
І лепшу мне долю сулілі.
Вось я сіратою астаўся:
Адзін, як той колас у полі,
Адзін – для гаротнае долі,
Адзін – сам з бядою спазнаўся.
Як дзеці сьмяюцца, я плачу;
Мне сумна, як дзеці гуляюць:
Мяне, жабрака, праганяюць –
Я долі шчасьлівай ня бачу.
Мяне сваякі прытулілі:
Падкінулі хлеба кусочак
І нейкі стары ласкуточак,
А вочы аднак-жа крывілі…

*6. Вінцук Адважны. «Хлапец», повесць. Вільня 1935 год. Выдавецтва «Беларускае крыніцы».*

На адвароце тытульнай старонкі: *Беларуская Друкарня ім. Францыска Скарыны ў Вільні*

Польскія ўлады былі незадаволеныя беларускасцю Вінцука Адважнага, і з-за іх пераследавання ён з’ехаў у 1932 г. у Харбін (Маньчжурыя), дзе быў дырэктарам гімназіі. У Харбіне ён напісаў аповесць «Хлапец», якая пазней была надрукавана ў Вільні. Аповесць складаецца з дзвюх частак, у кожнай з якіх па дванаццаць раздзелаў і заканчэння. Кніга гэтая ў многім аўтабіяграфічная, як лічаць крытыкі: галоўны герой носіць імя Вінцусь, ён таксама, як і аўтар кнігі, рана страціў бацьку; месца дзеяння, мястэчка Завалака, вельмі нагадвае Гальшаны. У кнізе ёсць вобраз ксяндза Галузы, які вучыць людзей усведамляць сябе беларусамі. Ён меў у дзяцінстве асабістую сустрэчу з Фр. Багушэвічам і на ўсё жыццё застаўся пад яе ўздзеяннем. Гэта нагадвае ўплыў на самога Вінцука Адважнага ксяндзоў Лісоўскага і Астрамовіча, якія

далі яму, школьніку, кнігу «Дудка беларуская» і гутарылі з ім аб беларускасці.

Аповесць «Хлапец» заклікае беларусаў пазнаць саміх сябе, не саромецца свайго імя, любіць сваю Бацькаўшчыну і адраджаць яе ўсімі сіламі. Раздвоенасць беларусаў на католікаў, як быццам бы звязаных з польскасцю, і праваслаўных, як быццам бы рускіх, аўтар лічыць вялікім болем беларускай зямлі і хацеў бы злучыць гэтыя дзве часткі ў адно вялікае сэрца беларуса.

Кніга напісана цудоўнай, багатай, эмацыянальнай беларускай мовай, яе персанажы ўсе вельмі адметныя і запамінальныя, дыялогі ў ёй жывыя. Калі я пачала чытаць гэтую кнігу, мне не хацелася спыняцца, карцела прачытаць адразу ўсю. А значыць, яна мае сваю мастацкую прастору, у якую магнетычна зацягвае чытача. Для мяне гэта – сведчанне высокай мастацкасці твора.

**С.М. Тарасава (Гродна)**

## Экзістэнцыйныя праблемы ў творчасці В. Быкава: аповесць «Пайсці і не вярнуцца»

Даўно не выклікае пярэчання думка, выказаная даследчыкам творчасці В.Быкава Вольгай Кавальчук, якая зазначыла: «*Шмат напісана і сказана пра экзістэнцыялізм у творчасці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава*» [4,с. 121], пры гэтым спаслаўшыся на сапраўды немалы спіс артыкулаў па названай праблеме (В.Локун «Літаратура і свабода выбару: Экзістэнцыяльныя кірункі твораў В. Быкава» (Полымя, 1998, № 5), Е. Лявонава «Творчасць Васіля Быкава і Жана Поля Сартра праз прызму традыцыі Дастаеўскага: філасофска-эстэтычныя перасячэнні» (Роднае слова, 2000, № 1), И. Каропа «Экзистенциальные мотивы в творчестве В. Быкова» (Известия ГГУ им. Ф. Скорины, 2008, № 6,Ч. 1) і інш.

Як паказвае змест артыкулаў, даследчыкаў больш прыцягвала творчасць В.Быкава 80-90-х гадоў. Таму натуральна, што пры згадванні яго кнігі «Сцяна» (выдадзена ў 1997 годзе), сцвярджаецца:*«... мы маем справу са значна большай ступенню інтэграцыі філасофіі ў мастацкі тэкст, чым гэта было раней, прычым філасофіі якраз экзістэнцыялісцкага кшталту*»[7, с.26].

У той жа час можна дастаткова ўпэўнена сцвярджаць, што і раннія творы пісьменніка ўтрымліваюць адзнакі, якія ўказваюць

на праявы экзістэнцыйных ідэй і матываў. Гэта доказвае артыкул В.Кавальчук «Экзістэнцыялізм ці рэалізм: аналіз філасофскай праблематыкі першай аповесці Васіля Быкава «Жураўліны крык», дзе пераканаўча даводзіцца наступная думка: «*Несумненна, экзістэнцыйныя матывы прысутнічаюць у гэтым творы, прычым праяўляюцца яскрава і паслядоўна. Разглядаюцца не толькі асноўныя пытанні экзістэнцыялізму (крытэрый адрознення сапраўднага і несапраўднага быцця чалавека; даследаванне магчымасцей, межаў і спосабаў дасягнення сапраўднага існавання), але і знаходзіцца вырашэнне гэтых пытанняў, увасобленае ў асноўнай экзістэнцыйнай праблеме — праблеме свабоды і выбару*» [4, с.128].

Усё сказанае дазваляе сцвярджаць, што ўсю творчасць В.Быкава можна разглядаць у аспекце яе блізкасці да экзістэнцыйнай трактоўкі чалавечага быцця.

На нашу думку, дастаткова дакладна і выразна экзістэнцыйныя матывы праявіліся ў так званым «партызанскім» цыкле аповесцей В.Быкава. Сам пісьменнік прызнаваў, што *«спрадвечная праблема «выбару» ў партызанскай вайне і на акупіраванай тэрыторыі стаяла больш востра і вырашалася больш разнастайна, матываванасць чалавечых учынкаў была болей ускладнена, лёсы людзей больш багатыя і часта больш трагічныя, чым у кожным з самых розных армейскіх арганізмаў*» [1, с.115].

Аповесці «Круглянскі мост», «Сотнікаў», «Абеліск», «Воўчая зграя» і «Пайсці і не вярнуцца» вылучае яшчэ адна відавочная якасць: героі твораў у большай ступені разважаюць, аналізуюць, шукаюць адказу на балюча-складаныя пытанні. Пры гэтым знешні свет набывае рысы дыскрэтнасці. Перад героямі праходзяць, змяняюцца асобныя эпізоды, сустрэчы, дэталі рэчаіснасці, якія захоўваюць сваю некаторую аўтаномнасць і аб’ядноўваюцца толькі ў свядомасці саміх герояў. Таму часта аўтар паказвае іх у руху, у «дарозе», у пошуку.

Аповесць «Пайсці і не вярнуцца» датуецца 1978 годам. Гэта апошняя «гродзенская» аповесць В.Быкава. Яна нібыта завяршае своеасаблівы і жыццёвы, і творчы этап пісьменніка. У сваёй кнізе «Доўгая дарога дадому» аўтар згадае пра гэта наступным чынам: «*У Менск я прывёз новую аповесць – тое апошняе, што напісалася ў труднай і блаславёнай Горадні. «Пайсьці і не вярнуцца» вырасла*

*з апавяданьня на тэму складанасьці спрадвечнай зьявы – каханьня. Асабліва ў пераломны ці канфліктны пэрыяд жыцьця, калі ад каханьня да нянавісьці сапраўды адзін крок*»[1, с. 395].

На Беларусі з рэцэнзіямі і ацэнкамі на гэты твор выступілі А.Рагуля, Я.Лецка, А.Андрэеў і інш. Дз.Бугаёвым у манаграфіі «В.Быкаў: нарыс жыцця і творчасці» адзначана, што *«пісьменнік зноў праз дэталёвы псіхалагічны аналіз і надзвычай вострую барацьбу супрацьлеглых па сваёй маральна-этычнай арыентаванасці характараў даследуе, чаму адзін у самых неспрыяльных умовах застаецца чалавекам, а другі ў тых жа абставінах цярпіць поўны крах, скочваецца ў бяздонне бесчалавечнасці*»[1, с. 178]. Акрэслены крытыкам элементы навізны і ў змесце твора, і у абмалёўцы вобразаў.

У рускім друку было менш аднадушнасці. У новай аповесці В.Быкава адным бачылася «Повторение пройденного» (В.Левченко, «ЛГ», 1978, 2 жніўня), іншым сцвярджалася «…Нет, восхождение!» (В. Оскоцкий, «ЛГ», 1978, 2 жніўня), які падкрэсліў: «*Потому и «проблема выбора», постоянная и неизменная в творческом мире В.Быкова, как бы часто и неотвратимо ни вставала она перед его героями, как бы остро и до конца ни проявляла их человеческую сущность, всегда полна своего особого смысла, духовного и нравственного содержания».* [8, с. 146–147].

Аповесць «Пайсці і не вярнуцца» адназначна з’яўляецца творам, дзе выявіліся і сталыя рысы быкаўскай творчасці і былі абазначаны свае ўнікальна-мастацкія адзнакі. На некаторыя з іх указвалася крытыкай, напрыклад, тое, што ў аповесці маральна-этычны канфлікт ускладняецца любоўнай калізіяй. Паміж героямі-антыподамі спачатку вымалёўваюцца вельмі блізкія адносіны. Зрэшты, В.Быкаў не так часта, асабліва ў творах ваеннай тэматыкі, выкарыстоўвае інтымны элемент. Больш таго, яго героі, якіх звязвала пачуццё кахання, тут становяцца непрымірымымі ворагамі.

Яшчэ адна акалічнасць: адмоўны герой Антон Галубін рэальна здраднікам стаць не паспявае. Ён паказваецца ў працэсе рэалізацыі здрады, мітусіцца, перадумвае і канчаткова ўжо гатовы да яе здзяйснення, але пісьменнік пакідае фінал твора адкрытым. Гэта таксама не малаважна, як і немалаважная недагаворанасць пра магчымае выратаванне яго колішняй каханай Зосі Нарэйкі, якую той па-здрадніцку раніць стрэлам.

І яшчэ, героі знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці да смерці, на іх вачах гінуць іншыя, але ад іх смерць нібыта адступае. Заблытанасць сітуацыі, адносін, адсутнасць малейшай надзеі на прасвятленне…і няма адчування гібельнасці, якая б прынесла палёгку хоць аднаму герою.

Усё гэта дазваляе прадбачыць і новы ўзровень філасофскага асэнсавання праблем быцця чалавека.

Спектр асноўных праблем, якія найбольш цікавяць экзістэнцыялістаў, дастаткова шырокі. У гэты лік уваходзяць і сцвярджэнне ўнікальнасці чалавечай асобы, глыбіні яго пачуццяў, перажыванняў, трывог, надзей, жыцця ў цэлым, і праблема адчужэння чалавека (грамадства, дзяржава сталі для чалавека абсалютна чужымі, рэальнасцю, якая цалкам падаўляе чалавека, нівелюе ўласнае «Я»), і праблема ўнутранага выбару і інш. Асноўныя катэгорыі, якімі апелююць экзістэнцыялісты, гэта свабода выбару, абсурд, адзіноцтва, «адчужэнне», бунт, існаванне, «самасць».

У творчасці В.Быкава, як указваюць даследчыкі, знайшлі ўвасабленне многія з вызначаных праблем і катэгорый. У той жа час у розныя перыяды творчасці пісьменніка прадстаўляюцца свае асобыя экзістэнцыйныя пункты.

Аповесць «Пайсці і не вярнуцца» дае магчымасць выявіць свой комплекс экзістэнцыйных матываў, якія дапамагаюць глыбей зразумець сутнасць аўтарскага светабачання і светаўспрымання.

Натуральна, у аповесці асноўная ўвага акцэнтуецца на вызначальным экзістэнцыйным пытанні – праблеме выбару. І на выбары не другарадным, простым (выканаць заданне ці не), а на экзістэнцыйным выбары, якім, паводле Ж.-П.Сартра, «чалавек вызначае свой лёс на многія гады наперад, пераходзіць з аднаго быцця ў другое». Чалавек свабодны ў сваім праве выбару, нават калі сам лічыць, што выбару няма.

Двое герояў аповесці «Пайсці і не вярнуцца» не толькі знаходзяцца ў стане выбару, яны рэальна ўсведамляюць гэта. Пры тым адзін з іх, той, што прыняў рашэнне аб здрадзе, Антон Галубін, менавіта гэтым апраўдвае свой учынак: «*Але ж выбару ў нас няма*». Маладая нявопытная дзяўчына Зося ўпарта пераканана: *«Ты кажаш, што няма выбару. Выбар ёсць: або мы, або яны. Вось у чым наш выбар»*[2, с. 336]. Па сутнасці героямі ад пачатку ўжо зроблены свой выбар. Іх далейшыя перыпетыі адносін, лёсу – гэта

не што іншае, як пацвярджэнне абранай пазіцыі і выпрабаванне іх устойлівасці перад складаным збегам абставін.

Не ў меншай меры выяўляецца ў аповесці і праблема існавання чалавека, у больш дакладна абазначаных К’еркегорам паняццях *сапраўднае* і *несапраўднае* існаванне.

Выяўляючы характары сваіх герояў Антона Галубіна і Зосі Нарэйкі, В. Быкаў нібы мімаходзь згадвае дэталі іх мінулага даваеннага жыцця. Галубін у мінулым быў падатковым агентам у райфа «*работай сваёй увогуле быў задаволены..., але ён адчуваў, што прыспеў да яе характарам, не размякаў як іншыя...*»[2, с.132]. У вайну яму прапанавалі ўступіць у партызанскі атрад і ён больш ці менш адважна праваяваў там некалькі месяцаў. У галоўнай гераіні аповесці Зосі Нарэйкі таксама свая кароткая для яе ўзросту біяграфія: «*Яна была маленькі чалавек на гэтай зямлі – да вайны яшчэ толькі вучылася ў Навагрудку, некалькі месяцаў працавала піянерважатай у глухой сельскай школцы....Але яна верыла ў лепшую будучыню, а яшчэ болей – ва ўсвоены ёю ідэал дабра і справядлівасці, які так нахабна растапталі фашысты*» [2, с. 289].Па сутнасці, за дэталямі канкрэтнага жыцця і лёсу герояў пісьменнікам выяўляецца такі тып чалавечага існавання, які быў абазначаны як стандартызаваны, пазбаўлены самастойнасці, падпарадкаваны ўладарнай і жорсткай сіле абставін, спачатку абставін даваенных, пасля абставін вайны.

Паводле экзістэнцыйнай канцэпцыі Карла Ясперса, аднаго з заснавальнікаў гэтага філасофскага напрамку, існаванне – гэта чалавек у паўсядзённым жыцці, якое ўяўляе сабой быццё, праяўленае ў «сітуацыях». Для гэтага філосафам вылучана паняцце «памежнай сітуацыі», моманту, у якім найбольш дакладна выяўляецца сапраўдная чалавечая сутнасць, раскрываюцца яго сапраўдныя якасці. Толькі трапіўшы ў памежную сітуацыю чалавек раскрываецца ў сваёй сапраўднай сутнасці, нават сам не падазраючы аб тым, хто ён на самай справе.

Вайна стала «памежнай сітуацыяй» і ў лёсе герояў аповесці В.Быкава. Антон Галубін пасля складанага і зменлівага ад ўдачы да няўдачы перыяду партызанства выразна адчуў няўмольную і не падпарадкавальную сілу абставін, таму: *«Ён ні на што не спадзяваўся, бо ведаў, што не сёння, дык заўтра гарачая куля распластае яго на снежнай траве і справе канец*» [2,с. 303].

Выпрабаванне «памежнай сітуацыяй» гэты герой не праходзіць, яго сапраўдная сутнасць, так рупна прыхаваная ад староннік вачэй, асабліва жахліва выяўляецца ў наступным роздуме: «*Падагрэты яшчэ не астылаю злосцю на Зоську, ён не адчуваў вялікіх згрызот сумлення – падумаеш, забіў дзеўку! На свеце, дзе ішла вайна і кожны дзень забівалі тысячы, дзе кожную хвіліну маглі забіць яго самога, гэта маленькае забойства зусім не здавалася яму злачынствам – забіў, бо інакш не мог. Загінула праз дурны свой характар, які ў такіх вось абставінах рана ці позна прывёў бы яе да магілы*» [2,с. 401]. Адчуўшы супраціў яго волі, яго пазіцыі, Антон не даруе Зосьцы яе ўпартага процістаяння, больш таго, яна становіцца для яго ворагам, якога можна проста без ваганняў і пакут сумлення знішчыць. Адметным у паказе гэтага героя становіцца тое, што ён ужо ад пачатку дзеяння твора падаецца як чалавек з вызначаным рашэннем. Але ўсё наступнае дзеянне нібыта правярае яго, выпрабоўвае, дапускае яшчэ раз нанова яго перадумаць. Тым не менш, дапусціўшы нават умоўную здраду, чалавек адсякае сабе магчымасць вяртання ў ранейшы стан.

У той жа час чалавек, па Карлу Ясперсу, заўсёды можа больш, чым тое, што чакалася ад яго. Чалавек незавершаны, і заўсёды адкрыты для будучыні.

Менавіта ў такім ракурсе выяўляецца В.Быкавым яго юная гераіня аповесці дзевятнаццацігодняя Зося Нарэйка: «*Мяркуючы па яе знешнасці, ніколі не падумаеш, што характар яе такой каменнай цвёрдасці, - на выгляд такая лагодная, без грубага слова, заўжды з гатоўнасцю падтрымаць добры жарт. А тут…Скула зрабілася, а не дзеўка. Такія яму яшчэ не трапляліся*» [2,с. 392]. Добрая, даверлівая па натуры, Зоська як раз і стала для Галубіна той нечаканай перашкодай для яго планаў на будучыню. Менавіта «памежная сітуацыя» не толькі выявіла ў значнай ступені маральную сутнасць дзяўчыны, але і раскрыла яе па-свойму цвёрды і ўпарты характар.

Увесь свой жыццёвы парыў яна рэалізуе на тое, каб не дапусціць спраўджання ганебных планаў Галубіна. У вобразе Зоські, такім чынам, у належнай ступені бачацца рысы «чалавека, які бунтуе». Паводле сцвярджэння французскага пісьменніка і філосафа Альбера Камю, «парыў да бунту караніцца адначасова і ў рашучым пратэсце супраць любога ўмяшання, якое ўспрымаецца

як недапушчальнае, і ў цьмянай перакананасці бунтара ў сваёй праваце, а дакладней, у яго ўпэўненасці, што ён «мае права рабіць і тое, і тое».

Адчуўшы чужароднасць душы Галубіна і пераканаўшыся ў нізасці яго асобы, Зоська змагла мабілізаваць у сабе тое каштоўнаснае ядро, на якім трымалася яе асоба, менавіта гэты звышдухоўны парыў і дазваляе ёй у меру яе сіл процістаяць небяспецы. Як ніхто іншы, Зоська зразумела абсурднасць сітуацыі, а па сцвярджэнні А.Камю, «людзі, якія ўсвядомілі абсурд, - гэта людзі, што ясна думаюць, усведамляюць свае магчымасці і ні на што не ўскладаюць надзей».

«*Зоська нясцерпна пакутавала ад болю, душэўныя пакуты аднак, дапякалі не менш. У яе не было ніякай упэўненасці, ці дапаўзе яна да ваколіцы, ці дачакаецца нарэшце людзей. Але ёй вельмі патрэбны цяпер былі людзі, толькі яны маглі памагчы ёй. Было б жахліва ў адносінах да сябе, маці, таварышаў, якія паслалі яе з лесу, пайсці і не вярнуцца…*» [2, с. 399]

Нягледзячы на абсалютную процілегласць пазіцый, героі аповесці перажываюць гранічнае пачуццё безнадзейнасці і пакінутасці ад усведамлення безвыніковасці пошуку выхаду з абсурднай сітуацыі. Гэта адчуванне падтрымліваецца ў творы шляхам стварэння своеасаблівай замкнёнай прасторы, у якой аказваюцца Галубін і Зося. Знакамі немагчымасці здабыць свабоду выступаюць асобныя прыродныя дэталі, якія суадносяцца з апісаным пісьменнікам прыродным ландшафтам: незнаёмае замерзлае балота, шырокі развалісты роў, але найчасцей на шляху герояў узнікае лес, густы і непралазны. Асаблівае значэнне ён набывае ў фінальных сцэнах аповесці, дзе Галубін упарта, але марна спрабуе вызначыцца з сваім будучым шляхам: «*Невысокія густыя хвойкі шчыльна сціскалі свой рад, і ён з немалым намаганнем пралез паміж імі, стросшы на сябе белаватае ўначы воблака снегу. Нізка гнучыся, амаль навобмацак ён пачаў прабірацца ў глыб хвойніку. Ён думаў, што далей ад узлеску хвойнік стане радзейшы, але ўвесь гэты хвойнік аказаўся суцэльнай гушчэчай, прабрацца праз якую нават удзень было неверагодна цяжка, не кажучы ўжо пра ноч.*

*Доўга прадзіраючыся праз зараснікі, ён балюча разадраў руку, прадраў кажушок на плячы і стаў думаць ужо не пра тое,*

*каб вытрымаць напрамак да Нёмана, а каб хоць вылезці з гэтай гушчэчы. Але, крута павярнуўшы ўбок, ён убіўся ў яшчэ горшы хвойны сушняк, які застаўся, напэўна, пасля аднаго з летніх пажараў, дзе і зусім немагчыма было ні прайсці, ні пралезці праз калючае і цвярдое, як сталёвы дрот, сучча. Зразумеўшы, што гэтае месца лепш абысці бокам, Антон павярнуў назад, пасля зноў пачаў браць улева. Але куды б ён ні падаўся, усюды яго пільнаваў гушчар з калючага галля і сучча, якія зласліва чапляліся за кажушок, абдзіралі твар, рукі, кожны раз здзіралі з галавы шапку»* [2, с. 401].

Як ні ў якім іншым творы прыродныя дэталі - завея, мяцеліца – не толькі адзнакі рэальнай пары і часу, але і знакі, якія перадаюць адчуванні і стан герояў, увасабляюць варожую чалавеку стыхію, непрадказальную і не падпарадкавальную. У зласным выяўленні завеі, снежнай непагоды бачыцца і аўтарскае ўспрыманне прыроднай стыхіі як сімвалу сацыяльных катаклізмаў, ваенных абставін.

Аўтарскаму выяўленню замкнёнага свету, у якім блукаюць яго героі, садзейнічае і колеравая гама, што ўключае фактычна два колеры: чорны і белы. Іх прысутнасць дапамагае перадаць думку аўтара аб кантрастнасці і канфліктнасці быцця, аб неўладкаванасці свету і яго дысгармоніі. Часам узнікае ў творы шэры колер, што не ў меншай меры падкрэслівае аднастайнасць, безвыходнасць быцця, адцяняючы і паглыбляючы гнятлівае пачуццё нябачнай яшчэ небяспекі: «*Але ў шэрых снегавых прыцемках скрозь было ціха і бязлюдна, толькі бязладныя парывы ветру няспынна церушылі на балота снегам і тым парушалі санлівую ціш ночы*» [2, с. 267].

У быкаўскай творчасці 60-70-х гадоў яшчэ дамінуе жыццёвы рэалістычны фон, на якім разгортваецца асноўнае дзеянне. Героі яго твораў прадстаўлены як выразна акрэсленыя чалавечыя індывідуальнасці, з характэрнымі псіхалагічнымі праявамі. Аднак гэта не перашкаджае пісьменніку выяўляць філасофскія праблемы, ствараць філасофскі канфлікт.

У аповесці «Пайсці і не вярнуцца» бачыцца нязменная ўвага пісьменніка да індывідуальнага быцця чалавека, яго імкненне спасцігнуць ісціну. Усе выказаныя вышэй назіранні над зместам і вобразным ладам аповесці В.Быкава указваюць на прысутнасць у творы вызначальных экзістэнцыйных пытанняў: свабо-

ды, адказнасці і выбару, праяўлення чалавечых магчымасцей у памежнай сітуацыі, адчужэння чалавека, яго адзіноцтва ў вялікім свеце абсурду.

Выяўленне названых філасофскіх праблем у творах В.Быкава дапамагае асэнсаваць аснову быцця чалавека, сцвердзіць яго права на рэалізацыю сябе як асобы свабоднай, вольнай, адказнай, самастваральнай, унікальнай.

## *Спіс літаратуры*

1. Бугаёў, Дз.Я. Васіль Быкаў: нарыс жыцця і творчасці: [для сярэд. і ст. шк. узросту] /Дзмітрый Бугаёў. – Мінск: Нар. асвета, 1987.– 207 с.

2. Быкаў, В. Збор твораў у 6 т. / В.Быкаў. – Мінск,1993. – Т.3.Аповесці. – 415с.

3. Быкаў, В. Доўгая дарога дадому. Кніга ўспамінаў/ В. Быкаў.– Мінск, 2002.– 544с.

4. Кавальчук, В. Экзістэнцыялізм ці рэалізм: аналіз філасофскай праблематыкі першай аповесці Васіля Быкава «Жураўліны крык»/ В.Кавальчук // Полымя. – 2013. – № 1. – С. 121–129.

5. Каропа, И. Экзистенциальные мотивы в творчестве В. Быкова / И. Каропа // Известия ГГУ им. Ф. Скорины.– 2008.– № 6 (Ч. 1).– С. 97–102.

6. Локун, В. Літаратура і свабода выбару: экзістэнцыяльныя кірункі твораў В. Быкава / В. Локун // Полымя. – 1998.– № 5.– С. 238–254.

7. Лявонава, Е. Творчасць Васіля Быкава і Жана Поля Сартра праз прызму традыцыі Дастаеўскага: філасофска–эстэтычныя перасячэнні /Е. Лявонава // Роднае слова. – 2000.–№ 1.– С. 26–29.

8. Шапран, С. Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах/ С. Шапран. – Мінск – Гародня, 2009. – 774с.

